# «Дзевяноста першы», «Дзевяноста чацьверты», «Дзевяноста пяты» – водгукі і ацэнкі

## «Дзевяноста першы»

«Дзевяноста першы» – гэта ўзор жарснай публіцыстыкі, прадоннага аналізу падзеяў, прарочых высноваў. Сяргей Навумчык – правая рука Зянона – пісаў профілі дзевяноста першага году, у якім вырашаўся лёс незалежнай дзяржавы Беларусь.  Знайшоўся неспакойны Беларус і распавёў пра падзеі, як ён бачыў іх, як непасрэдна ўспрымаў.

І захмар'е, і дол,
і халодны позірк,
і душэўная трывога.
Ацэнку дасьць час.
За ім — слова!

*Рыгор Барадулін, народны паэт Беларусі*

Навумчык – выдатны аўтар. У яго добры стыль, ён умее трымаць увагу і напружаньне. Гэта звышчытэльны тэкст. 500-старонкавы фаліянт прачытваецца на адным дыханьні.

*«Наша Ніва»*

Час ідзе, нешта забываецца, а потым зьяўляюцца тыя мэмуарысты, якія помняць добрае, зьвязанае зь імі самімі, і забываюць тое, што, можа, ня надта добрае было зь імі, або гэтае ня надта добрае хочуць перакласьці на чужую адказнасьць, на чужыя плечы. Ва ўсякім разе, у тых кнігах, якія я прачытаў пра той час, у мяне такое адчуваньне было. Таму тое, што Сяргей дае дакумэнты, дае атмасфэру таго часу, — мне здаецца, гэта вельмі важна.

*Генадзь Бураўкін, паэт, першы прадстаўнік*
*незалежнай Беларусі ў ААН*

Захапляюся – часам са сьлязой у вачах – дэталямі, якія проста ўцягваюць чытача ў апісаныя падзеі. Кніга «Дзевяноста першы» – каштоўны архіў, які чытаецца як раман.

*Івонка Сурвіла, старшыня Рады БНР*

Гэты важкі том – найлепшы адказ як тым, хто лічыць, нібыта незалежнасьць звалілася на беларусаў зь неба, так і тым, хто мяркуе, быццам нацыянальна-дэмакратычныя сілы на чале з БНФ у нашай найноўшай гісторыі пацярпелі паразу. Насамрэч яны ў неверагодна складаных умовах дасягнулі галоўнай мэты – краіна атрымала Незалежнасьць.

*Уладзімер Арлоў, пісьменьнік*

Гісторыю, як вядома, пішуць пераможцы. Са спазьненьнем на 20 гадоў мы дачакаліся і сваёй гісторыі пра пераможны 1991 год.

*Дзьмітрый Гурневіч, журналіст*

## «Дзевяноста чацьверты»

Сяргей Навумчык напісаў вельмі цікавую кнігу, якая, дзякуючы стылю і пачуцьцю гумару аўтара, чытаецца на адным дыханьні. Але галоўнае, што там ня схлушаны аніводны факт. Часта бывае прыкра, калі чытаеш хлусьню пра тое, чаму сам быў сьведкам. У кнігах Навумчыка такога няма.

*Сяргей Дубавец, пісьменьнік*

Гэта хроніка палітычнага жыцьця, якое было ў Беларусі.

*Сяргей Антончык, лідэр рабочага руху пачатку 1990-ых*

Сяргей Навумчык досыць аб’ектыўна ацэньвае расклад палітычных сіл у нашай краіне напярэдадні і падчас прэзыдэнцкіх выбараў 1994 году. Ён прыходзіць да высновы, зь якой цяжка не пагадзіцца: на тых выбарах і Кебіч, і Аляксандар Лукашэнка рэпрэзэнтавалі блізкія між сабою палітычныя пазыцыі, у аснове якіх ляжала імкненьне да пераўтварэньня Беларусі ў калёнію ўсходняга суседа ўзамен на моцна жаданую імі найвышэйшую ўладу на гэтай тэрыторыі.

*Лявон Баршчэўскі, дэпутат Вярхоўнага Савету XII скліканьня*

Такая кніжка – выдатная зьява.

*Радзім Гарэцкі, акадэмік*

## «Дзевяноста пяты»

Значная  частка тэксту прысьвечана красавіцкай галадоўцы ў памяшканьні парлямэнту, рэфэрэндуму і выбарам 1995 году. Паводле сваёй трагічнай значнасьці ў найноўшай гісторыі Беларусі гэтыя падзеі, бадай, пераважаць гісторыю злачыннага зьнікненьня вядомых беларускіх грамадзян. Такія злачынствы ня маюць маральнага тэрміну даўнасьці.

*Пётра Садоўскі, першы амбасадар Беларусі ў Нямеччыне*

Кніга выдатна адпавядае жанру «нон-фікшн». У кнігах гэтага жанру выкарыстоўваюцца мастацкія прыёмы раскрыцьця вобразаў і такая спэцыфічная кампазыцыйная арганізацыя твораў – сцэна за сцэнай. У выпадку зь Сяргеем Навумчыкам гэта ня толькі сцэна за сцэнай, але і год за годам. І можна сказаць, што гэта ў пэўным сэнсе ўзорны нацыянальны «нон-фікшн».

*Ганна Кісьліцына, літаратурны крытык*

Лёгкі стыль аўтарскага выкладаньня робіць, здавалася б, сур'ёзную гістарычную літаратуру «надрыўнай», кшталту майстроў дэтэктыўнага альбо фантастычнага жанру.

*Сяргей Пульша, аглядальнік газэты «Новы час»*

Аўтар не нэўтральны, ён нефармал, бэнээфавец, апазыцыянэр, дэмакрат, пацярпелы, герой, удзельнік, зацікаўленая асоба... Усё так. Толькі гэта ня мінус, а фарматная дадзенасьць. Яе галоўная рыса – не абмежавальнасьць, а сумленнасьць сьведкі, эмоцыя часу, а не ягоны асадак, не наратыў прафэсара, а праўдзівасьць летапісца.

*Аляксандар Лукашук, дырэктар Радыё Свабода*

Гэта каштоўнае, дакладнае дасьледаваньне па найноўшай гісторыі змаганьня за незалежную Беларусь пагрунтована на дакумантах, на летапісе друку, на ўспамінах і архіўных матар'ялах і на вопыце ўласнага ўдзелу ў палітычным працэсе той пары. Асаблівай каштоўнасьцю кнігі зьяўляецца тое, што яна адлюстроўвае дух таго часу, сваістае адчуваньне падзей, часам апісаных скрупулёзна да найменшых дэталяў.

*Зянон Пазьняк, старшыня Апазыцыі БНФ*
*у Вярхоўным Савеце XII скліканьня*

Узяла ў рукі на хвіліну пагартаць і не змагла адарвацца, хоць вельмі балюча чытаць усе падрабязнасьці таго, што мы, учарашнія дзеці, бачылі збоку, а аўтар – знутры. Як быццам ізноў разанула па сэрцы. Як тады, калі мы даведаліся пра вынікі рэфэрэндуму (у мяне дагэтуль зьвініць у вушах крык маёй тагачаснай сяброўкі, вельмі-вельмі ціхай дзяўчынкі Наташы – «Ня можа быць!» на ўсю кавярню). Як тады, калі глядзелі, як здымаюць «Пагоню» з будынка на плошчы Незалежнасьці, і плакалі. Спадзяюся, што некалі ўрыўкі з кнігі ўвойдуць у падручнікі, па якіх будуць вучыцца калі ня нашы дзеці, то ўнукі – дакладна.

*Мілана Міхалевіч, настаўніца*

**Сяргей Навумчык. Дзевяноста другі.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2017. 388 с.: іл.

Бібліятэкар Свабоды
*Аляксандар Лукашук*

Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Сяргей Шупа*

У 1992-м, першым поўным годзе незалежнасьці, Беларусь мусіла выбіраць паміж невядомай дэмакратычнай будучыняй і знаёмай савецкай стабільнасьцю. Драматычная гісторыя барацьбы за рэфэрэндум аб новых выбарах, калі камуністычная намэнклятура перакрэсьліла 446 тысячаў подпісаў грамадзянаў.

У кнізе скарыстаныя фатаздымкі Ўладзімера Сапагова, Ігара Кірына, Франака Вячоркі, газэты «Свабода». Таксама скарыстаныя матэрыялы сайту «Вытокі» і архіву аўтара.


FOL

ISBN 978-0-929849-85-0

# Зьмест

На крылах. *Аляксандар Лукашук* ........................................7
Пункт незвароту ........................................8
Новая краіна — новая ўлада ........................................12

**Студзень**

Мэта — рэфэрэндум ........................................28
З войскам, але без прысягі ........................................37
Самы кароткі разьдзел ........................................51
Лукашэнка: «Разумныя людзі ўжо падумваюць аб дыктатуры» ........................................52

**Люты**

Выбары — толькі паводле новага дэмакратычнага закону ........................................78
Інстынкт самазахаваньня намэнклятуры ўражвае ...95

**Сакавік**

Факсыміле як палітычная праблема ........................................104
Дзень, калі Кебіч падтрымаў Пазьняка. Але маўкліва ........................................112
Парада Вярхоўнаму Савету: мысьці ў гісторыю .....124
Магічная лічба «25» ........................................134

**Красавік**

Эгіпецкая праца беларускіх чыноўнікаў ........................................140
Канцэпцыя Апазыцыі БНФ: і мікра-, і макраэканоміка ........................................145
Урок для Ярмошынай ........................................155

**Травень**

«Пад ціскам БНФ прынялі незалежнасьць, і вось мы ля разьбітага карыта» ........................................190

**Чэрвень**
Шушкевіч: «Вярхоўны Савет нічога не баіцца» ......204

**Ліпень**
Адраджэньне: героі і праціўнікі ...............................228

**Жнівень**
Эфі для апазыцыі .......................................................254

**Верасень**
«…Прысягаю на вернасьць
Рэспубліцы Беларусь» ................................................276

**Кастрычнік**
«Вас падтрымае беларускі народ» .............................288
«Рашэньне на дзесяцігодзьдзі» .................................291
«Застаемся легітымнай часткай парлямэнту» .........339

**Лістапад**
Першая палітычная адстаўка
ў незалежнай Беларусі ...............................................346

**Сьнежань**
Час зьмяніўся ............................................................358

Паказьнік асобаў .......................................................362
Пра аўтара .................................................................370
Summary .......................................................................

## На крылах

Людзі будучыні жывуць так, быццам мінулага ўжо ніколі ня будзе.

Людзі мінуласьці жывуць так, быццам яна ніколі ня скончыцца.

Памыляюцца і тыя, і тыя, але нават калі ў зачараваным танцы гісторыі яны мяняюцца месцамі і ролямі, першым — мая сьляза, мая роспач, мой гнеў, а другім – агіда, абрыда, астуда.

Параза не заўсёды памылка, а перамога не абавязкова ісьціна.

У 1992-м надзея была. І таму ёсьць.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

## Пункт незвароту

Калі пытаюцца, на якім этапе найноўшай гісторыі Беларусі дэмакратыя страціла апошні шанец, а ўмацаваньне аўтарытарызму зрабілася непазьбежным, перад адказам заўсёды падкрэсьліваю ягоную ўмоўнасьць. Бо шанец — хай і самы невялікі — заўсёды застаецца, але чым далей, тым большага ён вымагае. Іншая справа, што ў грамадзтва можа не хапіць сілы, а ў эліты — палітычнай волі.

Пры Лукашэнку такой падзеяй можна лічыць начное падпісаньне ў лістападзе 1996 году пагадненьня пры ўдзеле «крамлёўскага дэсанту», калі была страчаная магчымасьць імпічмэнту. Але наіўна было б чакаць іншых паводзінаў ад былога сакратара ЦК КПБ Ціхіні і сьпікера парлямэнту Шарэцкага, які быў вядомы заявай, што падпісаньне «саюзнай дамовы» — самы шчасьлівы дзень у ягоным жыцьці. Потым яны апраўдваліся, што Лукашэнка іх падмануў — але ці ў навіну ўжо тады быў падман ад Лукашэнкі?

А ці можна было не дапусьціць Лукашэнку да ўлады? І калі быў выпушчаны джын з

бутэлькі? На выбарах летам 1994-га? Альбо вясной 1994-га, калі ў Канстытуцыю было ўведзена прэзыдэнцтва? Ці раней, у сьнежні 1993-га, калі Лукашэнка прачытаў па прамой тэлерадыётрансьляцыі сумнавядомы «антыкарупцыйны» даклад? Ці яшчэ раней, у чэрвені 1993-га, калі Лукашэнку прызначылі старшынём антыкарупцыйнай камісіі?

Але і прызначэньне Лукашэнкі, і ўвядзеньне прэзыдэнцтва «пад дыктатара» былі б немагчымыя, калі б Вярхоўны Савет быў дэмакратычны паводле свайго складу. Абраць такі Вярхоўны Савет шанец быў. Але ён быў страчаны 29 кастрычніка 1992 году, калі большасьць дэпутатаў ВС праігнаравала волю 442 тысяч грамадзян, якія выказаліся за рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах паводле новага выбарчага закону.

Лідэр Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце XII скліканьня Зянон Пазьняк, да якога я зьвярнуўся з просьбай падзяліцца развагамі ў часе працы над гэтай кнігай, называе яшчэ ранейшую дату: «Па маёй ацэнцы, будучыня дэмакратычнай Беларусі пайшла пад адхон у красавіку 1992-га, калі Шушкевіч выступіў разам з камуністамі і адмовіўся прызначыць дату рэфэрэндуму. Потым Шушкевіч паўгода не склікаў сэсію Вярхоўнага Савету, каб даць магчымасьць падрыхтавацца і скансалідавацца антыбеларускай рэакцыі… Вялікі шанец Беларусі быў кінуты пад ногі… Гісторыя

Беларусі пераламалася якраз тады, у красавіку 1992-га, калі была страчаная рэальная магчымасьць краіны прыдбаць нацыянальную будучыню і зьмяніць свой лёс. У кастрычніку таго году адбыўся фінал здрады і самагубства».

Як бы там ні было, але менавіта праз 1992-гі прайшла тая рыса, пасьля якой, як цяпер разумею, ўратаваць Беларусь ад аўтарытарызму мог толькі цуд.

Але ў палітыцы, зрэшты, як увогуле ў жыцьці, цуды здараюцца рэдка.

Гэтая кніга распавядае пра асноўныя падзеі 1992-га і ня толькі зьвязаныя з рэфэрэндумам. Большай часткай пра тыя падзеі, удзельнікам або сьведкам якіх давялося быць аўтару.

Але памяць чалавечая недасканалая, і я выказваю шчырую ўдзячнасьць усім тым, хто дапамог мне ў працы. У 2000 годзе разам з Аляксандрам Старыкевічам мы зрабілі на «Радыё Свабода» цыкл перадачаў «Урокі найноўшай гісторыі», і матэрыял, сабраны Аляксандрам, прыдаўся для гэтай кнігі. Я таксама ўдзячны яму за ўрокі сапраўднага сяброўства, якое доўжыцца ў нас шмат гадоў. Мой колішні аднакурсьнік па факультэце журналістыкі, а цяпер старшыня Саюзу беларускіх пісьменьнікаў Барыс Пятровіч у пачатку 1990-ых вёў у тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» хроніку падзеяў — і сёньня можна пераканацца, што Барыс выбіраў самае

галоўнае і стварыў сапраўдны летапіс апошняй хвалі Адраджэньня. Колішні супрацоўнік мюнхэнскай рэдакцыі «Радыё Свабода» Паўло Урбан сабраў невялікі, але зьмястоўны архіў беларускай пэрыёдыкі пачатку 1990-ых — ужо пасьля ягонага адыходу ў лепшы сьвет сваякі перадалі мне гэтую калекцыю. Я ўдзячны гісторыкам пісьменьнікам Уладзімеру Арлову і Сяргею Абламейку, аднаму з найлепшых настаўнікаў гісторыі Беларусі Сяргею Сяргееву за нашыя гутаркі, у якіх, сярод іншага, яны пераканалі мяне, што гісторыя ня мае ўмоўнага ладу, і пытаньне «А што было б, калі?» — цудоўнае для жанру фантастыкі, але не для дакумэнталістыкі. Канешне, я ўдзячны маім калегам з «Радыё Свабода» — як у Менску, гэтак і ў Празе, якія ветліва ўстрымаліся ад справядлівых папрокаў на мой адрас, калі ім даводзілася ўзяць на сабе нейкі кавалак рэдакцыйнай працы ў часе маёй працы над гэтай кнігай. Добрая палова фатаздымкаў у кнізе – вынік дапамогі кіраўніцы Цэнтру дасьледаваньняў грамадзянскай супольнасьці Беларусі, супрацоўніцы сайту «Вытокі» Паліны Сьцепаненкі. І, канешне, вельмі ўдзячны тым, хто дапамагаў зрабіць мой тэкст кнігай і чые імёны пазначаныя у выходных дадзеных — Генадзю Мацуру, Аляксандру Лукашуку і Сяргею Шупу.

# НОВАЯ КРАІНА — НОВАЯ ЎЛАДА

Для лепшага разуменьня падзеяў 1992 году варта зрабіць невялікую гістарычную рэтраспэкцыю і вярнуцца ў год папярэдні, у апошнія месяцы 1991-га, бо менавіта тады завязаліся калізіі, вырашыць якія спрабаваў Народны Фронт, апэлюючы да падтрымкі народу.

25 жніўня 1991 году Вярхоўны Савет прыняў патрабаваньне дэпутатаў Апазыцыі БНФ і надаў Дэкларацыі аб сувэрэнітэце статус канстытуцыйнага закону. Беларусь зрабілася незалежнай краінай.

Гэта быў максымум, які мы маглі выціснуць з камуністычных дэпутатаў. Яны былі згодныя пайсьці на тое, што яшчэ ўчора адмаўляліся зрабіць — прагаласаваць за Незалежнасьць — абы толькі захаваць уладу. Аддаваць жа ўладу не зьбіраліся — а ў нас не было магчымасьцяў, каб гэтую ўладу ў іх забраць.

Той, хто пазьней будзе казаць пра нібыта рэальнасьць узяцьця ўлады ў тыя жнівеньскія дні, павінен улічыць, што парлямэнцкім шляхам зрабіць гэта было нерэальна, а «штурм», пра які кажуць некаторыя гарачыя галовы, меў бы толькі адзін вынік. Той, хто вырашыў бы ісьці на штурм

(Чаго? Будынку ЦК? Дзейнасьць КПБ-КПСС была прыпыненая. Дому ўраду? Будынку КДБ?), мог разьлічваць на некалькі тысяч грамадзянаў на плошчы і некалькі сотняў тых, хто запісаўся ў нацыянальную гвардыю. Вось толькі ніводнай стрэльбы, ніводнага пісталета, ніводнага патрона ня мелі гэтыя гвардзейцы. А войска, КДБ і міліцыя былі цалкам узброеныя, і камандуючы вайсковай акругай Кастэнка, старшыня КДБ Ширкоўскі і міністар унутраных справаў Ягораў ясна заявілі дэпутатам, што «не дапусьцяць беспарадкаў». Той, хто сумняваецца ў тым, што спэцвойскі (значную частку якіх — калі ня 100 працэнтаў — у той час складалі выхадцы не зь Беларусі) пачалі б страляць — хай прыгадае Сумгаіт, Баку і Вільню. І ўжо абсалютна бясспрэчна, што ні пра які сувэрэнітэт Беларусі пасьля гэтага казаць бы не давялося — Крэмль атрымаў бы выдатны козыр для ўвядзеньня надзвычайнага становішча цяпер ужо пад патранажам Гарбачова (альбо Ельцына — ня бачу розьніцы).

Мы, дэпутаты БНФ, адразу запатрабавалі новых выбараў у Вярхоўны Савет, што было лягічна: новая краіна — новы парлямэнт і новы ўрад. Але выбары — справа не аднаго дня, а былі крокі, якія нельга было адкладаць і на дзень.

Мы падрыхтавалі блёк законапраектаў, накіраваных на ўмацаваньне дзяржаўнасьці — якія, як выказваўся Пазьняк, «трэба было прымаць учора» — аб уласнай валюце, аб войску, аб уласнасьці ды іншыя, аднак намэнклятура не жадала прымаць іх і «заўтра».

19 верасьня 1991 году на нечарговай сэсіі ВС надаў статус дзяржаўных сымбаляў бел-чырвона-беламу сьцягу і «Пагоні» — і, падобна, на гэтым «адраджэнскі» патэнцыял парлямэнту (у значнай ступені каталізаваны Апазыцыяй БНФ) быў вычарпаны. У кастрычніку быў прыняты Закон аб грамадзянстве, але былі адкінутыя іншыя прапанаваныя намі законапраекты — «Аб прыватнай уласнасьці на зямлю», «Аб падаткаабкладаньні», «Аб абароне і нацыянальнай бясьпецы» ды некаторыя іншыя.

Успамін ад тых дзён — адчуваньне страчанага часу. Гэта быў пераломны пэрыяд, калі адзін дзень вырашаў часам болей, чым у іншыя часы вызначае год або нават дзесяцігодзьдзе, калі трэба было «каваць жалеза» — тым болей што суседнія краіны выкарыстоўвалі магчымасьці, у тым ліку і коштам нацыянальных інтарэсаў Беларусі. Былі тры вызначальныя фактары — адносіны з Расеяй, адносіны з Крамлём і ўнутрыпалітычны, якія выявілі няздольнасьць і Вярхоўнага Савету, і ўраду адаптавацца да новых умоваў.

## Валтузьня вакол «абноўленага саюзу»

25 жніўня 1991 году Беларусь юрыдычна абвясьціла сябе незалежнай краінай.

Гэтага рашэньня зь юрыдычнага пункту гледжаньня было цалкам дастаткова для стварэньня ўласнай валюты, уласнага войска, для самастойнай міжнароднай палітыкі.

Заставаўся Крэмль, а ў ім — Гарбачоў? Добрага Вам здароўя, Міхаіл Сяргеевіч, дзякуй і за перабудову, і за галоснасьць. Вы і самі не жадалі і не чакалі такога выніку (пэўна, жадалі нават супрацьлеглага), але мы цяпер — сувэрэнная дзяржава.

Так паставіліся да сытуацыі Літва, Латвія, Эстонія, кіраўніцтва якіх абрала шлях самастойнага разьвіцьця.

Інакш паводзіла сябе кіраўніцтва Беларусі.

У верасьні 1991 году сабраўся Зьезд народных дэпутатаў СССР — апошні раз. «Кепскую паслугу рэспубліцы зрабіў старшыня Вярхоўнага Савету С. Шушкевіч у часы Зьезду народных дэпутатаў Саюзу. Калі народныя дэпутаты СССР А. Дабравольскі і С. Габрусеў настойвалі, каб у пастанове было запісана, што Зьезд прызнае абʼяўлены сувэрэнітэт і незалежнасьць рэспублік, Шушкевіч згадзіўся са зьмененай за ноч фармулёўкай «с уважением относится» да сувэрэнітэту. Цяпер задача нашых дэпутатаў-прадстаўнікоў у Вярхоўным Савеце Саюзу — дабівацца, каб ён прызнаў наш сувэрэнітэт», — пісаў Анатоль Сідарэвіч у тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» 23 кастрычніка.

Зрэшты, Вярхоўны Савет СССР ужо нічога не вырашаў, але заставаўся прэзыдэнт СССР Гарбачоў, якому пакуль яшчэ падпарадкоўваліся Ўзброеныя сілы і КДБ.

Мы запатрабавалі (выносілі гэта на сэсію ВС у верасьні, кастрычніку і ў лістападзе) стварыць уласнае Міністэрства абароны, але большасьць дэпутатаў адкінула гэтую прапанову (пазьней

стварылі Міністэрства па справах абароны зь няпэўнымі функцыямі).

Старшыня ВС Станіслаў Шушкевіч увязаўся ў ініцыяваны Гарбачовым «новаагароўскі» (паводле назвы падмаскоўнай рэзыдэнцыі) працэс, езьдзіў у Маскву на выпрацоўку аднаго, другога, трэцяга варыянту «абноўленага Саюзу».

Мы казалі: трэба заняцца нашымі справамі, а Станіслаў Станіслававіч езьдзіў у Маскву.

І пры гэтым самі абставіны вымушалі падпісаць двухбаковыя эканамічныя і палітычныя пагадненьні — і ў тыя дні яны былі заключаныя з Украінай, Малдовай, Азэрбайджанам, Кіргізстанам, Латвіяй, была падпісаная Дэклярацыя аб супрацоўніцтве і ўзаемаразуменьні з Польшчай... Вось у гэтым накірунку, настойвалі мы, і трэба ісьці. Але кіраўніцтва Беларусі глядзела на Крэмль.

Праявай гэтай бяздумнай адданасьці было тое, што яшчэ ў лістападзе 1991 году Беларусь пералічвала значную частку выдаткаваных зь бюджэту на ліквідацыю наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС сродкаў… не, ня ў Брагін, Чэрыкаў і ня ў Хойнікі.

А адсылаліся гэтыя сродкі ў Маскву, у інстытут акадэміка Ільіна, які праславіўся канцэпцыяй «няшкоднага пражываньня ў радыеактыўных зонах».

Мне цяжка назваць больш красамоўны прыклад палітычнага халуйства.

## Масква: палітыка непрыхаванага шантажу

Словы Пазьняка пра фармаваньне ў Расеі «маладой агрэсіўнай імпэрыі ў форме дэмакратыі», якія 25 жніўня адыгралі вызначальную ролю пры галасаваньні за Незалежнасьць, спраўдзіліся значна раней, чым можна было чакаць.

Ужо праз некалькі дзён пасьля абвяшчэньня і Беларусьсю і Ўкраінай незалежнасьці Крэмль вуснамі прэсавага сакратара прэзыдэнта Ельцына заявіў, што «РСФСР оставляет за собой право поставить вопрос о пересмотре границ».

Палітычныя заявы падмацоўваліся рэальнымі дзеяньнямі.

Тое, што рабілі Ельцын і Гайдар у дачыненьні да Беларусі ў галіне эканамічных сувязяў, асабіста я магу вызначыць выключна і толькі як эканамічны шантаж.

З аднаго боку, расейцы — калі сыходзіць зь меркаваньняў свабоднага рынку — нібыта мелі поўнае права ўсталёўваць якія заўгодна кошты на нафту і сыравіну. Але з другога — у распрацоўцы тых самых нафтавых радовішчаў бралі ўдзел і беларусы, і тут трэба было ясна і недвухсэнсава заявіць свае правы. У нас быў вельмі моцны козыр у такіх перамовах — транзыт нафты і газу ў Эўропу пралягаў праз Беларусь.

Мы штодня (гэта не перабольшаньне) казалі аб гэтым і на сэсіі ВС, і ў прэсе, і на мітынгах — але безвынікова.

Пасіўнасьць кіраўніцтва абурала ня толькі нас, актывістаў БНФ, але і прадстаўнікоў дэмакратычных партыяў.

У тыя дні член цэнтральнай Рады БСДГ Анатоль Сідарэвіч пісаў у тыднёвіку «Літаратура і Мастацтва»:

«С. Шушкевіч клянецца ў вернасьці Саюзу. Ён быццам ня бачыць, што Саюзу практычна няма, а ёсьць Расея, што М. Гарбачоў стаў закладнікам у Б. Ельцына. Ён быццам ня бачыў і ня ведаў, што Б. Ельцын падбірае пад сябе структуру Міністэрства замежных справаў СССР. Ён быццам ня бачыць і ня ведае, што прыкрываючыся размовай пра адзінае войска і флёт, Ельцын, па сутнасьці, кантралюе Савецкую Армію і ВМФ, што праз год-другі ня будзе Ўзброеных Сіл СССР (яны зьніклі праз тры тыдні — С.Н.)... Правапераемніцай СССР Ельцын абʼявіў Расею. Ён жа заявіў аб прэтэнзіі на алмазны і залаты фонд СССР... Мы можам стаць расейскай калёніяй дзеля нерашучасьці спадара С. Шушкевіча» («Літаратура і мастацтва», 15 лістапада 1991).

## «...стварыць новы ўрад народнага даверу»

Зрэшты, казаць пра разгубленасьць намэнклятуры і ўраду Кебіча можна толькі ў прымяненьні да нацыянальных інтарэсаў. Уласныя інтарэсы яны рэалізавалі імгненна.

Адкінуўшы законапраекты Апазыцыі БНФ аб разьдзяржаўленьні маёмасьці (паводле якіх маёмасьць перайшла б у рукі грамадзянаў), 23

верасьня 1991 году Савет Міністраў прыняў «Часовы парадак разьдзяржаўленьня эканомікі і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасьці Рэспублікі Беларусь» (так сьпяшаліся, што нават стылёва пісьменную назву прыдумаць не пасьпелі). «Гэтая пастанова ёсьць ня што іншае, як спроба былой намэнклятуры расьцягнуць народнае дабро, а працоўных пакінуць ні з чым», — канстатаваў у сваёй заяве Выканкам Цэнтральнай рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады.

Сёньняшнія «алігархічныя» капіталы ў значнай частцы грунтуюцца менавіта на той намэнклятурнай прыватызацыі, якую ў народзе трапна назвалі «дзікай прыхватызацыяй».

У лістападзе дэпутаты Апазыцыі БНФ прынялі заяву, у якой адзначалі: «Ні Савет Міністраў, ні Вярхоўны Савет нягледзячы на прапановы дэпутацкай Апазыцыі БНФ не зрабілі нічога дзеля таго, каб падрыхтаваць выпуск беларускіх грошай, стварыць нацыянальную фінансава-крэдытную сыстэму, зрабіць захады, каб абараніць таварны рынак, запабегчы гіпэрінфляцыі, нястрымнаму росту цэнаў, вывазу прадуктаў і прамысловых вырабаў зь Беларусі. Доўжыліся размовы і ашуканства.

У выніку Беларусь апынулася ў хвасьце палітыкі Расеі і балтыйскіх краінаў, стала залежнай ад разбуральных працэсаў у эканоміцы гэтых рэспублік, ад падвышэньня цэнаў і эканамічнага шантажу, стала аплачваць цаной працы свайго народу балячкі чужога грамадзтва, жывіць маскоўскіх спэкулянтаў, паўднёвыя мафіі,

рынак Польшчы, Латвіі і Літвы. Урад ня змог забясьпечыць насельніцтва нават па талёнах, якія выпусьціў дзеля гарантаванага разьмеркаваньня.

Апазыцыя БНФ лічыць, што неабходна як найхутчэй вызначыць сацыяльную будучыню і статус савецкага войска ў Рэспубліцы, падыходзячы да яго з пазыцыі закону і павагі правоў чалавека. Аднак намэнклятурны Вярхоўны Савет і Савет Міністраў аказаліся няздольнымі своечасова вырашыць пытаньні часовага знаходжаньня Савецкай Арміі на тэрыторыі Беларусі, стварэньня беларускага войска, ваеннага міністэрства і тым самым паставілі Рэспубліку перад абліччам вайскова-сацыяльнага абвалу, грамадзкага канфлікту і страты Незалежнасьці...

Першым чынам павінен будзе пайсьці ў адстаўку існуючы ўрад разам з прэм’ерам В. Кебічам. Трэба стварыць новы ўрад народнага даверу. Народ можа атрымаць магчымасьць прымяніць ціск на Вярхоўны Савет, патрабуючы неадкладнага прыняцьця новага дэмакратычнага закону аб выбарах, які даўно ўжо падрыхтаваны Апазыцыяй БНФ, і прызначэньня нечарговых выбараў у прафэсійны беларускі парлямэнт.

Калі ж ізноў усё застанецца незразуметым і будзе адкінута, тады можна тэрмінова прыступіць да падрыхтоўкі і ўсенароднага рэфэрэндуму па гэтых пытаньнях»

Недзеяздольнасьць Вярхоўнага Савету і ўраду Кебіча была відавочная ня толькі нам у Авальнай залі.



Зянон Пазьняк выступае на сэсіі Вярхоўнага Савету. У прэзыдыюме Мечыслаў Грыб, Станіслаў Шушкевіч і Васіль Шаладонаў.

«...Два дзясяткі апазыцыянэраў-дэмакратаў змагаюцца з так званай былой намэнклятурай. Аказваецца, яна, гэтая намэнклятура, як уладарыла, так і ўладарыць, трымаючы ў сваіх руках фінансавыя сродкі, матэрыяльныя рэсурсы, зьнешнеэканамічныя сувязі, словам, усё тое, што дазваляе дыктаваць свае ўмовы. Да таго ж, яна, гэтая ўлада, надзеленая ўладай вышэйшай, уладай парлямэнцкай! І такіх «власть имущих» у парлямэнце — большасьць. Пакуль гэты адыёзны спрут там кіруе, усе пэрспэктыўныя для рэспублікі прапановы будуць замарожаныя. Памятаеце, як не прайшла прапанова (Апазыцыі БНФ — С.Н.) аб рэфэрэндуме па камуністычнай маёмасьці і па новых выбарах у парлямэнт? Якое супраціўленьне! Я лічу, што выбіць глебу з-пад

ног намэнклятурнікаў можна толькі шляхам перавыбараў сёньняшніх дэпутатаў, тых, каго ў свой час нам падкінула партыйная вярхушка», — сказаў у інтэрвію тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» рабочы з Магілёва Аляксандар Рылькоў («Літаратура і мастацтва», 11 кастрычніка 1991).

А час між тым ішоў, і зь ім імкліва зьнікалі ўнікальныя магчымасьці, якія для нацыі выпадаюць адзін раз на стагодзьдзе — альбо нават і радзей...

## Быкаў: «Усё залежыць ад нацыянальнай і палітычнай сьвядомасьці народу. На што мы здольныя, такая і доля ў нас будзе»

Прыведзеныя вышэй радкі Быкава былі надрукаваныя ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» 1 лістапада 1991 году. Наколькі мне вядома, потым нідзе гэтыя (як і іншыя быкаўскія словы той публікацыі) не передрукоўваліся.

Быкаў выказаў тое, што казалі тады ўсе, хто паверыў у магчымасьць іншага, несавецкага, незалежнага ад Крамля жыцьця: Беларусь недаравальна страчвае час.

«Нягледзячы на абвальны характар пэўных падзей апошняга часу, лічу, што рэфарматарскія працэсы ў нашым грамадзтве працякаюць крайне замаруджана, — сказаў Быкаў. — Беларусь увогуле ў гэтым сэнсе пляцецца ў хвасьце. Для бюракратыі гэта, вядома, выгадна. Абапіраючыся на вопыт іншых, яна мае магчымасьць дзейнічаць больш пэўна. Але паколькі ўсё гэта адбываецца запозьнена, рэспубліка шмат страчвае і рызыкуе

ўвогуле застацца ні з чым асабліва цяпер, калі ідзе дзяльба і маёмасьці, і ўладных паўнамоцтваў былога Саюзу (заўважым — у кастрычніку 1991-га Быкаў кажа пра СССР як пра неіснуючую дзяржаву — С.Н.).

...У пытаньні сувэрэнізацыі наша афіцыйная прапаганда зрабіла адну хуліганскую падтасоўку, калі сувэрэнітэт палітычны падмянілі сувэрэнітэтам эканамічным. Разьлічана гэта на абывацеля, які адразу пачаў бурчэць: што ж нам цяпер, стаяць у АВІРы, каб у Смаленск трапіць? А яшчэ: дзе ж мы возьмем электраэнэргію, вугаль, бэнзін? Карацей, загінем. Хаця ні апазыцыя, ні дэмакратычныя журналісты нідзе і ніколі не казалі пра аўтаркію. Усё гэта эксплёатуецца ў дэмагагічных мэтах.

Ацэньваючы расстаноўку сіл у нашым парлямэнце ва ўмовах, калі ідзе барацьба за вельмі важныя прынцыпы, лічу, што прымірэнчая, згодніцкая, няпэўная пазыцыя — гэта ўрэшце здрада. Так званы цэнтрызм адбірае пэўныя сілы зьлева (у тыя часы прыхільнікаў дэмакратыі называлі «левымі», а іх апанэнтаў — «правымі» — С.Н.), і ва ўмовах намэнклятурнага засільля робіць немагчымым правядзеньне ўласнай палітыкі. Цэнтрыстам нічога не застаецца, як далучацца да большасьці, падсілкоўваць яе. Думаю, што апазыцыя, якая прытрымліваецца значнай левізны, дзейнічае правільна».

Меркаваньне, выказанае Васілём Быкавым на старонках «ЛіМу», важнае для разуменьня таго выбару, перад якім мы апынуліся.

А можа, і сапраўды варта было прыслухацца да тых, хто раіў шукаць выйсьце ў кампрамісах з намэнклятурай (хоць сама намэнклятура кампрамісаў нам не прапаноўвала)? Бо менавіта ў кампрамісе разумелася нацыянальная згода? І тады — ня варта патрабаваць адстаўкі ўраду, новых выбараў? Або ісьці на радыкальныя крокі, гэта значыць — дамагацца зьмены ўлады? Мы ў Апазыцыі БНФ разумелі, што запас кампрамісаў, закладзены ў гэтым складзе парлямэнту, вычарпаны. Разумеў гэта і Быкаў:

«Я ўсё-такі ня згодны з той тактыкай, калі галоўнай мэтай ставіцца так званая нацыянальная згода, гэта значыць, што ў імя недапушчэньня нейкіх палітычных абвастрэньняў у грамадзтве нават апазыцыя ідзе на пэўныя ахвяры. Разумею, наколькі актуальна гэта, скажам, для Грузіі ці Азэрбайджану. А для нас, пры нашай традыцыйнай апатыі? Нашай нацыі не хапае палітычнай сьвядомасьці, палітызацыя нашага жыцьця не дасягнула нават таго нармальнага ўзроўню, які існуе ў самых спакойных палітычных краінах...

Вядома, у нас зьяўляюцца новыя палітычныя партыі, але іх уплыў пакуль што нязначны. Найбольш рэальнай сілай зьяўляецца Народны Фронт, які з апорай на масы яшчэ на многае здольны. Не хапае, мне думаецца, радыкалізму. Увогуле я дапускаю магчымасьць кампрамісаў, але па радыкальных пытаньнях ня можа быць прымірэньня. Тым больш што вопыт сьведчыць — усе гэтыя ідэі не за пісьмовым сталом таго ж Пазьняка нарадзіліся, гэта не бібліятэчнае

стварэньне — марксізм. Сёньня за дэкляраванае некалі Беларускім Народным Фронтам галасуюць партбосы, якія пасылалі амонаўцаў зрываць нацыянальныя сьцягі.

І носьбітам гэтага радыкалізму павінна быць менавіта парлямэнцкая апазыцыя, бо дачакацца ад нашага народу мы зможам, на жаль, ня хутка.

...Шэсьць гадоў правалыніўшыся, мы спазьніліся ва ўсіх сэнсах. У бліжэйшы час намаганьні дэмакратычных сіл найперш павінны быць скіраваныя на роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савету і выбары новага парлямэнту» («Літаратура і мастацтва», 1 лістапада 1991).

Быкаў, як мы бачым, ясна і абгрунтавана выказваўся за радыкалізм — у дачыненьні да палітычнага авангарду грамадзтва і парлямэнцкай Апазыцыі БНФ. Але будучыню ён паставіў у залежнасьць ад нацыянальнай і палітычнай сьвядомасьці народу. Паставіўшы на першае месца “нацыянальнай”. Значна пазьней, ацэньваючы пачатак 1990-ых, ён скажа, што грамадзтва ня здолела скарыстацца шанцам — падкрэсьліўшы пры гэтым, што Апазыцыя БНФ зрабіла ўсё магчымае, але ня ўсё залежала ад дэпутатаў апазыцыі...

А тады, у канцы 1991-га, Быкаў падтрымаў ідэю роспуску Вярхоўнага Савету і новых выбараў.

І, паколькі Вярхоўны Савет не жадаў ні прымаць новы выбарчы закон, ні самараспускацца, нам заставалася адно — апэляваць да народу.

# СТУДЗЕНЬ

**2 студзеня.** На сустрэчы з галоўнакамандуючым узброенымі сіламі СНД маршалам Шапашнікавым Старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч і міністар па справах абароны Пётра Чавус заяўляюць, што Беларусь мае намер мець уласнае войска.

**2 студзеня.** Пачатак эканамічнай рэформы Ягора Гайдара ў Расеі («шокавая тэрапія»).

**3 студзеня.** Прэзыдэнт Украіны Леанід Краўчук падпарадкоўвае Кіеву войскі былога СССР на тэрыторыі Ўкраіны.

**5 студзеня.** Ва Ўкраіне вайскоўцы пачалі прыносіць прысягу на вернасьць Украіне. Некалькі сотняў афіцэраў, якія адмовіліся, накіраваныя ў Расею.

**6 студзеня.** Ва Ўкраіне ўводзяцца «купона-рублі».

**11 студзеня.** БНФ утварае Ініцыятыўную групу па правядзеньні рэфэрэндуму за датэрміновыя выбары.

**11 студзеня.** Замест Міністэрства па справах абароны Вярхоўны Савет стварае Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь.

**14 студзеня.** Беларусь усталявала дыпляматычныя адносіны з Даніяй і Нарвэгіяй. Беларусь прызналі больш за 60 краінаў сьвету.

**15 студзеня.** Вярхоўная Рада Ўкраіны зацьвердзіла гімн «Ще не вмерла Україна».

**15 студзеня.** У Беларусі ўводзяцца «карткі спажыўца» з мэтай абароны ўнутранага рынку.

**16 студзеня.** На сустрэчы кіраўнікоў СНД у Маскве заяўлена, што Беларусь не далучыцца да сямі краінаў, якія жадаюць стварыць агульную абаронную прастору.

**20 студзеня.** Беларусь усталёўвае дыпляматычныя адносіны з Кітаем.

**23 студзен**я. У Вярхоўным Савеце Расеі заяўленыя прэтэнзіі на Крым і Чарнаморскі флёт.

**25 студзеня.** Візыт у Менск міністра замежных справаў Францыі Раляна Дзюма, якога запэўніваюць у тым, што тактычныя ядзерныя ракеты будуць выведзеныя зь Беларусі ў 1992, а стратэгічныя ракеты — да 1997 году.

**26 студзеня.** Навабранцы тэрміновай службы ўпершыню прыносяць прысягу на вернасьць Беларусі.

**26 студзеня**. Прэзыдэнт Расеі Барыс Ельцын заяўляе, што ядзерная зброя не нацэленая на гарады ЗША.

**31 студзеня.** Беларусь прынятая ў склад АБСЭ.

## МЭТА — РЭФЭРЭНДУМ

У Беларусі палітычны 1992 год пачаўся на тры дні раней за каляндарны.

У адзін з апошніх дзён гістарычнага 1991-га, 29 сьнежня, адбылося нечарговае пасяджэньне Сойму БНФ. Я на ім не прысутнічаў — быў у Англіі і пра вынікі даведаўся пазьней з расповедаў і з паведамленьня Сакратарыяту БНФ.

У сваім выступе Зянон Пазьняк нагадаў, што Вярхоўны Савет не ідзе на стварэньне ўласнага войска, паўнавартаснай грашовай адзінкі, замаруджваюцца эканамічныя рэформы. Пазьняк паведаміў, што ў такіх умовах Апазыцыя БНФ ініцыюе рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах.

Намесьнік старшыні Сойму Юры Хадыка выказаўся за тое, каб Народны Фронт мацаваў сувязь са страйкамамі і падрыхтаваў эканамічную праграму. Паводле перакананьня Хадыкі, дэпутаты Апазыцыі БНФ ужо цяпер павінны спыніць супрацоўніцтва зь Вярхоўным Саветам. Такая прапанова, канешне, не магла быць прынятая хаця б таму, што мы ўнесьлі ў парлямэнт шэраг ключавых для дзяржаўнага будаўніцтва законапраектаў, якія (ці хаця б нейкія палажэньні зь іх)

немагчыма было прыняць без удзелу дэпутатаўфронтаўцаў у камісіях і, пазьней, на сэсіі.

Сойм прызначыў каардынатарам Ініцыятыўнай групы Ўладзімера Анцулевіча — 37-гадовага навуковага супрацоўніка Інстытуту фізыкі Акадэміі навук, кандыдата фізыка-матэматычных навук.

На Сойме выказваліся за супрацоўніцтва ў справе рэфэрэндуму зь іншымі дэмакратычнымі партыямі — кіраўнікі некаторых партыяў былі запрошаныя на пасяджэньне. Адзін зь лідэраў сацыял-дэмакратычнай Грамады і першы намесьнік старшыні Менскага гарадзкога савету Анатоль Гурыновіч выступіў з крытыкай ідэі рэфэрэндуму: ён лічыў, што Вярхоўны Савет ні пры якіх умовах не дазволіць ягонае правядзеньне. У адказ на гэта Пазьняк сказаў, што калі такое адбудзецца, Народны Фронт і дэпутацкая апазыцыя атрымаюць маральнае права фармiраваць паралельныя органы ўлады.

Пра тое, што Вярхоўны Савет можа не прызначыць рэфэрэндум, даводзілася чуць і пазьней. Цяпер, калі вядомае далейшае разьвіцьцё падзеяў, такі прагноз выглядае як найменей слушным, калі не прароцкім. Але ў пачатку 1992-га такі варыянт падаваўся нерэальным, пры ўмове, што належная колькасьць подпісаў будзе сабраная ў адпаведнасьці з законам. Больш за тое — такі варыянт уяўляўся фантастычным. Мне ён не прыходзіў у галаву. Як, напрыклад, тады, праз паўгода пасьля краху КПСС, немагчыма было ўявіць, што кіраўніком суседняй Расеі некалі

будзе падпалкоўнік КДБ. Што Расея нападзе на Ўкраіну. Як ніхто не паверыў бы ў тым самым 1992 годзе, калі мы галасавалі за вывад ядзернай зброі, што гарантыі Злучаных Штатаў у адносінах да сувэрэнітэту для будучай прэзыдэнцкай адміністрацыі ЗША будуць эквівалентнымі пастаўцы сухіх пайкоў сьцякаючай крывёю Ўкраіне.

Гэтаму было псыхалягічнае тлумачэньне — распалася камуністычная імпэрыя, людзі жылі надзеяй (ва ўсякім разе, эканамічныя цяжкасьці ня зьнішчылі яе ў прыхільнікаў дэмакратыі). Здавалася, што далей можа быць толькі лепей, што вяртаньне да цемрашальства — і палітычнага, і ідэйнага — немагчымае.

Праект закону аб рэфэрэндуме быў распрацаваны дэпутатамі Апазыцыі БНФ (кіраваў працай Лявон Баршчэўскі), але быў адкінуты парлямэнцкай большасьцю. Прынялі варыянт, падрыхтаваны ў апараце Вярхоўнага Савету. Нам толькі ўдалося ўнесьці некаторыя свае папраўкі.

Закон прадугледжваў, што на рэспубліканскі рэфэрэндум «могуць выносіцца найбольш важныя пытаньні, якія закранаюць інтарэсы Рэспублікі Беларусь». Адначасна артыкул 3-ці Закону адназначна забараняў выносіць на рэфэрэндум «пытаньні, якія парушаюць неад’емныя правы народу Рэспублікі Беларусь на сувэрэнную нацыянальную дзяржаўнасьць, дзяржаўныя гарантыі існаваньня беларускай нацыянальнай культуры і мовы...»

(У дужках заўважу, што у 1995 годзе і пазьней некаторыя папракалі дэпутатаў апазыцыі,

што, маўляў, сабе на шкоду ініцыявалі Закон аб рэфэрэндуме: ім скарыстаўся ў антыбеларускіх мэтах Лукашэнка. Але, па-першае, такі закон быў бы прыняты і без прапановаў апазыцыі — ён стаяў у плянах працы Вярхоўнага Савету. Па-другое, Лукашэнка якраз парушыў закон (і Канстытуцыю таксама): цытаваныя вышэй палажэньні Закону наўпрост забаранялі выносіць на рэфэрэндум пытаньні аб статусе беларускай мовы (было нават адмысловае заключэньне парлямэнцкай камісіі па адукацыі, культуры і захаваньні гістарычнай спадчыны), дый пытаньне пра эканамічную інтэграцыю з Расеяй відавочна супярэчыла «неад'емным правам на сувэрэнную нацыянальную дзяржаўнасьць». Усе аргумэнты супраць антыканстытуцыйнага і антызаконнага рэфэрэндуму былі выкладзеныя дэпутатамі Апазыцыі БНФ на сэсіі Вярхоўнага Савету, больш падрабязна пра гэта я пішу ў кнізе «Дзевяноста пяты»).

Ініцыяваць рэфэрэндум мелі права грамадзяне Беларусі, Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету, Старшыня Вярхоўнага Савету і народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь.

Як жа рэалізоўвалася гэтае права?

Для ініцыяваньня дэпутатамі трэба было жаданьне адной трацiны ад агульнай колькасьці дэпутацкага корпусу. Такая ініцыятыва магла быць выказаная альбо пайменным галасаваньнем на сэсіі (што заняло б некалькі хвілінаў), альбо зборам подпісаў дэпутатаў (у часе сэсіі, тэарэтычна, гэта можна было зрабіць за дзень). У

перапынках, калі большасьць дэпутатаў не была ў Менску — на практыцы спатрэбілася б пара тыдняў. Зразумела, усё гэта — пры ўмове, што дэпутаты былі б згодныя ініцыяваць рэфэрэндум.

Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету ў гэтым, як і ва ўсіх іншых выпадках, прымаў рашэньне большасьцю галасоў ад прысутных на пасяджэньні (у склад Прэзыдыюму ўваходзілі старшыня Вярхоўнага Савету, ягоныя першы намесьнік і намесьнікі і старшыні пастаянных камісіяў Вярхоўнага Савету. У самым пачатку 1992 году колькасьць членаў Прэзыдыюму складала 23 члены (пакуль не было занятае вакантнае месца першага намесьніка старшыні).

Са старшынём парлямэнту таксама ўсё проста: дастаткова было ягонай ініцыятывы — пяць сэкундаў на подпіс.

Прапановы Прэзыдыюму, дэпутатаў і старшыні Вярхоўнага Савету павінны былі прайсьці пэўныя працэдуры — але яны мелі фармальны характар і не ўяўлялі для ініцыятараў цяжкасьцяў.

Для грамадзянаў краіны прадугледжваліся наступныя ўмовы.

Каб ініцыятыва была прынятая, яна мусіла быць падтрыманая ня менш чым 350 тысячамі грамадзянаў, якія мелі права голасу.

Мусіла быць утвораная і належным чынам аформленая Ініцыятыўная група — ня менш за 100 чалавек. Яна абірае старшыню.

Затым Ініцыятыўная група зьвяртаецца ў Цэнтральную камісію па выбарах народных дэпутатаў рэспублікі Беларусь (яна праводзіла і

рэфэрэндумы; у далейшым я буду ў большасьці выпадкаў называць яе Цэнтральная камісія) для рэгістрацыі пытаньня, якое выносіцца на рэфэрэндум.

Само пытаньне, як сказана ў Законе, «павінна быць сфармулявана Ініцыятыўнай групай дакладна і ясна з тым, каб на яго быў магчымы адназначны адказ». Пры гэтым закон дазваляў удакладненьне фармулёўкі пытаньня — са згоды Ініцыятыўнай групы.

Пасьля гэтага свой вэрдыкт адносна фармулёўкі пытаньня выносіла адпаведная пастаянная камісія Вярхоўнага Савету, і тады Цэнтральная камісія выносіла рашэньне пра рэгістрацыю Ініцыятыўнай групы.

Пасьля гэтага Ініцыятыўная група прыступала да збору подпісаў. Заканадаўства вызначала форму падпіснога ліста — ён утрымліваў фармулёўку пытаньня, якое выносілася на рэфэрэндум, прозьвішча, імя і імя па бацьку асобы, якая зьбірала подпісы, нумар ягонага рэгістрацыйнага пасьведчаньня. Грамадзяне, якія ставілі подпіс, павінны былі пазначыць прозьвішча, імя, імя па бацьку, дату нараджэньня, месца жыхарства і рэквізыты пашпарта альбо дакумэнта, які яго замяняў, і дату подпісу.

Кожны падпісны ліст, паводле закону, мусіў быць завераны зборшчыкам подпісаў і старшыні Ініцыятыўнай групы. Пазначалася колькасьць подпісаў на гэтым лісьце. Нарэшце, кожны ліст мусіў быць завераны «пячаткай выканаўчага і распарадчага органу гарадзкога, раённага ў го-

радзе, пасялковага, сельскага Савету народных дэпутатаў».

Подпісы Ініцыятыўная група мела права зьбіраць цягам двух месяцаў з моманту яе рэгістрацыі.

Пасьля Ініцыятыўная група павінна была скласьці Заключны акт і разам з падпіснымі лістамі перадаць яго ў Цэнтральную камісію.

Калі цягам вызначаных двух месяцаў неабходную колькасьць подпісаў сабраць не ўдаецца — збор іх спыняецца, сабраныя подпісы страчваюць юрыдычную сілу. Зрэшты, ініцыятыву адносна таго самага пытаньня на рэфэрэндум можна было паўтарыць — але не раней чым праз год.

У выпадку ўдалага збору подпісаў (гэта значыць — ня менш як 350 тысячаў) — Цэнтральная камісія пачынала іх праверку. На гэта даваўся адзін месяц.

Закон прадугледжваў, што калі Цэнтральная камісія выяўляла ў падпісных лістах недакладнасьці альбо нязначны недахоп подпісаў (да 0,5% — гэта значыць, да 1750 подпісаў), яна мусіла інфармаваць пра гэта Ініцыятыўную групу і даць ёй 15 дзён «для выпраўленьня выяўленых недаглядаў».

У выпадку выяўленьня парушэньня закону («падробка подпісаў грамадзянаў альбо запісаў, якія засьведчваюць праўдзівасьць подпісаў, парушэньня прынцыпу добраахвотнасьці пры зборы подпісаў і г. д.») Цэнтральная камісія мела права адхіліць прапанову аб правядзеньні рэфэрэндуму. Ініцыятыўная група магла абскардзіць гэтае рашэньне цягам месяца ў Вярхоўным Судзе.

Калі Цэнтральная камісія не знаходзіла парушэньня закону і прызнавала сапраўднай належную колькасьць подпісаў — яна перадавала сваё заключэньне разам з заключным актам Ініцыятыўнай групы ў Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету, а ў часе сэсіі — яго Старшыні. Пры гэтым артыкул 13 Закону прадугледжваў, што «пытаньне аб правядзеньні рэфэрэндуму ўключаецца ў парадак дня чарговай сэсіі Вярхоўнага Савету».

Функцыі Вярхоўнага Савету у гэтым выпадку былі ляканічна і дакладна вызначаныя ў Законе артыкулам 14: «Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пасьля атрыманьня афармленай у належным парадку прапановы аб правядзеньні рэфэрэндуму разглядае пытаньне аб прызначэньні даты рэфэрэндуму і мерах па яго забесьпячэньні або аб неабходнасьці прыняцьця закону ці іншага рашэньня, якое прапануецца на рэфэрэндум, безь яго правядзеньня. У выпадку парушэньня гэтага Закону ініцыятарамі рэфэрэндуму Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь мае права адхіліць прапанову аб правядзеньні рэфэрэндуму».

І гэта — усё, што мог зрабіць, паводле Закону, Вярхоўны Савет: альбо прызначыць дату рэфэрэндуму, альбо адхіліць прапанову пра яго правядзеньне. Апошняе — толькі ў тым выпадку, калі быў парушаны Закон (трэба прызнаць, што такі варыянт быў маларэальны, паколькі ў выпадку парушэньня Закону Ініцыятыўнай групай адмоўны вэрдыкт вынесла б яшчэ Цэнтральная камісія і, адпаведна, ня ўнесла б дакумэнты аб рэфэрэндуме ў Вярхоўны Савет).

Быў і трэці варыянт: прыняць рашэньне, якое адпавядала б пытаньню рэфэрэндуму. У нашым канкрэтным выпадку гэта азначала прыняць прапанаваны Апазыцыяй БНФ Закон аб выбарах і прызначыць на восень 1992 новыя парлямэнцкія выбары. Калі сыходзіць з практыкі (законы звычайна праходзілі два чытаньні), на гэта спатрэбілася б ня больш за месяц. Канешне, пры жаданьні большасьці дэпутатаў.

Наступны артыкул закону вызначаў, што павінна быць унесена ў Пастанову Вярхоўнага Савету (дата рэфэрэндуму, фармулёўка пытаньня, парадак фінансаваньня і іншыя арганізацыйныя пытаньні) — і на гэтым функцыі парлямэнту заканчваліся. Закон вызначаў таксама, што станоўчае рашэньне абавязковага рэфэрэндуму ня мае патрэбы ў зацьвярджэньні (гэта значыць — Вярхоўным Саветам або кімсьці яшчэ), яно падпісваецца старшынём Вярхоўнага Савету, зьяўляецца канчатковым і можа быць скасаванае толькі шляхам рэфэрэндуму. У выпадку, калі рашэньне абавязковага рэфэрэндуму супярэчыла рашэньню парлямэнту — дзейнічала рашэньне рэфэрэндуму (а вось рашэньне кансультатыўнага рэфэрэндуму мела рэкамэндацыйны характар).

# З ВОЙСКАМ, АЛЕ БЕЗ ПРЫСЯГІ

Адразу пасьля абвяшчэньня пра намер дамагчыся рэфэрэндуму нашая праца ў Вярхоўным Савеце ўскладнілася. Яна і раней не была простай з улікам таго, што Апазыцыя БНФ складала толькі дзясятую частку дэпутацкага корпусу. Пра неабходнасьць новых выбараў мы казалі з самага пачатку працы Вярхоўнага Савету, пасьля жніўня 1991-га гэта было адным з асноўных палітычных патрабаваньняў Народнага Фронту. Цяпер жа пэрспэктыва пакінуць дэпутацкія крэслы для прадстаўнікоў намэнклятуры рабілася цалкам рэальнай. Гэта, канешне, не магло не адбіцца на іх стаўленьні да нас.

І ў такіх умовах нам даводзілася прасоўваць патрэбныя для ўмацаваньня дзяржаўнасьці законапраекты і пастановы, пераконваць сваіх палітычных апанэнтаў у неабходнасьці неадкладных рашэньняў.

У тыя дні было цяжка вылучыць нейкую адну, самую надзённую праблему — трэба было і ўласныя грошы ўводзіць, і пакеты эканамічных законаў прымаць, і вызначацца з вэктарам міжнароднай палітыкі.

Але самай вострай тэмай было войска.

Увогуле, гэта — асноўны палітычны сюжэт наступнага, 1993 году, калі Беларусь нягледзячы на супраціўленьне Апазыцыі БНФ будзе ўцягнутая ў арбіту інтарэсаў маскоўскага Генштабу праз да-

лучэньне да сыстэмы калектыўнай бясьпекі СНД. Але завязваўся гэты сюжэт менавіта ў 1992-ім.

Войска — першае, пра што даводзіцца клапаціцца палітыкам у новаабвешчанай дзяржаве. Для нас сытуацыя абцяжарвалася наяўнасьцю ядзернай зброі.

Ядзерныя боегалоўкі — першае, што цікавіла Захад (найперш Злучаныя Штаты) у Беларусі. Так, у траўні аглядальнік «Літаратуры і мастацтва» пісаў: «ЗША прапанавалі ўрадам Беларусі, Казахстану і Ўкраіны падпісаць пратакол аб нераспаўсюджваньні ядзернай зброі ў якасьці ўмовы… прызнаньня гэтых рэспублік. (Зь якімі ЗША ўжо ўстанавілі дыпляматычныя адносіны ў поўным аб’ёме!).

Вашынгтонская адміністрацыя адкрыта націскае на рэспублікі, на тэрыторыі якіх ёсьць ядзерная зброя, пры гэтым не хаваючы, што Амэрыка прызнае ў якасьці ядзернай дзяржавы толькі Расею. Акрамя ўсяго іншага, гэта азначае, што Рэспубліка Беларусь, хоць і пацьвердзіла сваю гатоўнасьць да поўнага ядзернага раззбраеньня, пачынае сутыкацца з сур’ёзнымі праблемамі ў адносінах з Захадам, і ў прыватнасьці — павінна яшчэ даказаць сьвету сваё права на самастойную сувэрэнную палітыку» («Літаратура і мастацтва», 8 траўня 1992).

Мы ж бачылі найбольшую небясьпеку ў непрыманьні афіцэрамі і генэралітэтам ідэі беларускай дзяржаўнасьці.




Вось так успрыняў мілітарысцкія амбіцыі Крамля Сяргей Харэўскі. Газэта “Свабода”, студзень 1992 г.

На тэрыторыі Беларусі разьмяшчалася магутная вайсковая групоўка, якая юрыдычна пакуль не падпарадкоўвалася Менску.

У савецкіх вайскоўцаў Чырванасьцяжная Беларуская вайсковая акруга лічылася вельмі добрым месцам службы, бо Беларусь — гэта не Сярэдняя Азія, не далёкі Ўсход і не Сібір. Большасьць афіцэраў, якія служылі ў трох дысьлякаваных у Беларусі арміях, а таксама ў штабе ў Менску, былі не беларусы паводле паходжаньня — на пачатак 1992 году колькасьць беларусаў сярод афіцэраў складала толькі 18%. У БССР дзеці вайскоўцаў афіцыйна былі вызваленыя ад вывучэньня беларускай мовы.

Акрамя таго, многія афіцэры, якія па выхадзе на пэнсію мелі права абраць якое заўгодна месца жыхарства (акрамя Масквы і Ленінграду), абіралі Беларусь (пераважна — Менск). Вайскоўцаў —

пэнсіянэраў на пачатак 1992 году ў Беларусі было 84 тысячы.

Гэта — насельніцтва такога гораду, як Полацак. Плаціць пэнсіі гэтым людзям павінна была беларуская дзяржава.

Нарэшце, у адпаведнасьці з падпісаным яшчэ ў часы СССР паміж Масквой і Бонам пагадненьнем, у Беларусь меліся прыехаць тысячы афіцэраў зь сем'ямі пасьля вываду савецкіх войскаў зь Нямеччыны. Так, Нямеччына выдаткоўвала сродкі на будаўніцтва жыльля, але сацыяльнае забесьпячэньне цалкам клалася на Беларусь. Лішне казаць, што абсалютная большасьць зь іх у будучыні ніколі не падтрымлівала адраджэнскія палітычныя сілы.

Усё гэта стварала і сацыяльную напружанасьць, але ў большай ступені — палітычную, бо войска не было беларускім. Цягам усяго 1992 году афіцэры не прыводзіліся да прысягі на вернасьць беларускаму народу, беларускай дзяржаве.

А пачаўся 1992-гі з таго, што былы міністар абароны СССР маршал Яўген Шапашнікаў, на якога ў канцы сьнежня 1991-га кіраўнікамі краінаў СНД было ўскладзена камандаваньне ўзброенымі сіламі Садружнасьці «да іх рэфармаваньня», даслаў ва ўсе вайсковыя часткі шыфраграмы з заклікам прысягнуць на вернасьць Расейскай Фэдэрацыі.

Пры гэтым Шапашнікаў зусім не ўяўляў сабой «імпэрскага ястраба» — у жніўні 1991-га ён ня быў на баку ГКЧП і нават прапанаваў тагачаснаму міністру абароны разагнаць пут-

чыстаў, а ў сьнежні 1991-га адразу падтрымаў дэнансацыю Саюзнай дамовы 1922 году. За што ўдзельнікі «Ўсеармейскай нарады» абвінавацілі яго ў здрадзе інтарэсам войска (маючы на ўвазе, канешне, найперш падтрымку распаду СССР).

Пра гэты сход, які адбыўся 17 студзеня у Крамлёўскім Палацы зьездаў, варта сказаць асобна — у тыя дні ён успрымаўся не апошняй падзеяй, ён трансьляваўся па тэлебачаньні (у тым ліку і ў Беларусі), а для нас быў індыкатарам настрояў у войску.

Настрояў, якія для беларускай дзяржаўнасьці (дый для сувэрэнітэту іншых былых савецкіх рэспублік) выявіліся вельмі небясьпечнымі.

Назіраючы па тэлебачаньні за сходам, я адчуў такія самыя эмоцыі, якія перажыў некалькімі днямі раней, сустракаючыся ў Віцебску з афіцэрамі знакамітай дэсантнай дывізіі: вайскоўцы, мякка кажучы, былі не ў захапленьні ад узьнікненьня на мапе сьвету новай незалежнай дзяржавы.

«Зь якім нахабствам удзельнікі сходу патрабавалі выклікаць да сябе кіраўнікоў незалежных дзяржаў, — абураўся ў лісьце ў штотыднёвік «Літаратура і мастацтва» падпалкоўнік запасу з Масквы Ігар Паўлоўскі, — Хто даў ім на гэта права? Дарэчы, мяне зьдзівіла тое, што два прэзыдэнты, Б. Ельцын і Н. Назарбаеў, не паставілі гэтых нахабнікаў на месца. Трэба было гэта зрабіць абавязкова. Паказаць ім, давесьці, што войска існуе для народу, для дзяржавы, а не наадварот» і далей: «Пакуль яшчэ значная частка афіцэраў,

асабліва расейцаў, прытрымліваецца вялікадзяржаўных, шавіністычных, прабальшавіцкіх поглядаў. Яны, на жаль, склалі большасьць паміж удзельнікамі гэтага сходу. Але ва ўзброеных сілах былога СССР ёсьць ня менш за іх сумленных афіцэраў, што сэрцам сваім падтрымліваюць натуральныя дэмакратычныя імкненьні народаў да волі, да нацыянальнай незалежнасьці» («Літаратура і мастацтва», 31 студзеня 1992).

У той дзень быў сфармаваны «Каардынацыйны савет Усеармейскага афіцэрскага сходу», што было ацэнена як прэтэнзія вайскоўцаў на самастойную палітычную ролю. Але ацэнена грамадзтвам — кіраўнікі дзяржаваў свайго стаўленьня да недапушчальных у якой заўгодна дэмакратычнай краіне палітычных амбіцыяў вайскоўцаў публічна ня выказалі.

Такому маўчаньню можа быць толькі адно тлумачэньне: і Ельцын, і Назарбаеў, і іншыя лідэры цудоўна ўсьведамлялі патэнцыйную небясьпеку ўдзелу шматтысячнага афіцэрскага корпусу ў палітычных працэсах і засьцерагаліся правакаваць, абвастраць і без таго агрэсіўныя настроі. Куды больш выгодна было заваяваць ляяльнасьць вышэйшага генэралітэту — што Ельцыну, які пасьля распаду СССР непадзельна распараджаўся прызначэньнямі і генэральскімі зоркамі, удалося зрабіць даволі проста.

Словам, у пазыцыі ігнараваньня афіцэрскіх настрояў Ельцыным можна было ўбачыць здаровы сэнс.

Розьніца была ў тым, што калі для кіраўніка Расеі праблема мела толькі ўнутрыпалітычны характар, дык для іншых былых рэспублік яна стварала пагрозу існаваньню саміх гэтых дзяржаваў.

Абсалютная большасьць афіцэраў на ўсіх узроўнях не ўспрынялі зьнікненьня Савецкага Саюзу. Для тых, хто служыў у Беларусі, сама ідэя беларускай дзяржаўнасьці была незразумелай, і стаўленьне да беларускай незалежнасьці было варожым.

Калі казаць пра генэралітэт, дык ці не адзіным генэралам, які выказваў бясспрэчную ляяльнасьць да беларускай дзяржавы, быў кіраўнік новаўтворанага міністэрства абароны Пётра Чавус. Некалькі месяцаў штат ягонага міністэрства (уключна з сакратаркай) не налічваў і дзесяці чалавек.

Але ўсе арміі і дывізіі Беларускай Чырванасьцяжнай вайсковай акругі з тысячамі танкаў, з «бэтээрамі» і «бээмпэ», з ракетнымі ўстаноўкамі падпарадкоўваліся камандаваньню акругі. А камандуючы, генэрал-палкоўнік Анатоль Кастэнка, прысягу на вернасьць Беларусі не прымаў.

Мы ў дэпутацкай Апазыцыі БНФ і не чакалі іншага, яшчэ ўвосень 1991-га настойваючы на стварэньні паўнавартаснага ўласнага войска. На сэсію Вярхоўнага Савету дэпутаты Апазыцыі БНФ прадставілі адпаведныя законапраекты — але яны не былі прынятыя парлямэнцкай большасьцю. Верасень, кастрычнік, лістапад, сьнежань — Беларусь страчвала час , такі каштоўны для выпрацоўкі самастойнай міжнароднай

палітыкі, стварэньня неабходных атрыбутаў незалежнай дзяржавы, уласных грошай, банкаўскай сыстэмы і, канешне, уласнага войска.

Яшчэ горш, што месяцы чаканьня і спадзяваньня кіраўніцтва на дапамогу Масквы былі страчаныя для тлумачальнай працы ў вайсковых частках. Увогуле, адсутнічала дзяржаўная інфармацыйная палітыка, дзяржаўныя СМІ не тлумачылі людзям перавагі жыцьця ў незалежнай краіне (гэтага ня трэба ў якой Францыі або ў Польшчы — а ў Беларусі было неабходна), але адсутнасьць такой працы ў войску замяшчалася агітацыяй палітработнікаў, усіх да аднаго былых камуністаў, якія ў абсалютнай сваёй большасьці, натуральна, ня мелі ніякіх прыхільнасьцяў ні да ідэі беларускага нацыянальнага Адраджэньня, ні да беларускай дзяржаўнасьці.

Настроі ў афіцэрскім корпусе выразна адчуў Старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч, калі спаткаўся зь вялікай групай вайскоўцаў.

«... першым да мікрафона рвануўся дзядзок у пагонах маёра, — пісаў карэспандэнт «ЛіМу». — Маёр Галаўня, як ён адрэкамэндаваўся, мэталічным пракурорскім голасам сурова запытаў, хто ж гэта Станіславу Шушкевічу дазволіў адабраць у мільёнаў людзей такое ўлюбёнае грамадзянства СССР? Як ён асьмеліўся праігнараваць рэфэрэндум, зьнюхаўшыся са здраднікамі накшталт Краўчука і Ельцына, згвалціць самае сьвятое — Радзіму-маці? Што ён скажа, калі мы выступім на абарону СССР і скароцім тых, хто здрадзіў? І

ці ведае Станіслаў Станіслававіч, што чакала ва ўсе часы здраднікаў на Русі? Самым сумным у наступную хвіліну стала тое, што ці ня чвэрць залі пачала пляскаць у ладкі, выказваючы сваё захапленьне такой «сьмеласьцю» т. Галаўні. Цяжка перадаць тое адчуваньне абразы, гідлівасьці, а ўрэшце і жалю, якое ахапіла нас, прадстаўнікоў прэсы незалежнай Беларусі, і цяжка ўявіць сабе, як толькі стрымаўся Станіслаў Шушкевіч. Але ён стрымаўся. Ён спакойна даслухаў пытаньні іншых выступаючых, запісаў іх прапановы, узважыў іх пазыцыі і ацэнкі. А потым ці ня дзьве гадзіны трымаў сваю пазыцыю, пазыцыю сувэрэннай беларускай дзяржавы. Яшчэ вельмі нядаўна Шушкевіча можна было абвінаваціць у ваганьнях, у хістаньнях і нерашучасьці. Апошнім часам ён дзейнічае інакш. У той дзень было сапраўды прыемна глядзець, як кіраўнік дзяржавы спакойна і доказна, з пачуцьцём гонару за сваю краіну расставіў усе кропкі над «і».

Вось некалькі тэзісаў выступу Шушкевіча, у пераказе прысутнага на сустрэчы карэспандэнта «ЛіМу»:

«Перш за ўсё ён зьвярнуўся да Галаўні. Нагадаў, ... што знаходзіцца той на Беларусі, а не на Русі. І пытаньне трэба ставіць аб здрадніцтве гэтай зямлі. Самае страшнае, сказаў С. Шушкевіч, даць зброю ў рукі несьвядомых людзей, у ненадзейныя рукі. Выступленьне маёра было расцэнена як звычайнае салдафонства, няздольнасьць да элемэнтарнага аналізу падзей і палітычных умоў».

«Вярхоўны Савет рэспублікі вызначыўся — Беларусі быць бязьядзернай і нэўтральнай краінай. Гэта азначае немагчымасьць уступленьня ў любыя вайскова-палітычныя блёкі».

«Армія жыве так, як жыве народ. Цывільныя людзі жывуць ня лепш за вайскоўцаў».

«84 тысячы вайскоўцаў-пэнсіянэраў пражывае на тэрыторыі Беларусі. Толькі на пэнсійнае забесьпячэньне ім патрэбна больш за мільярд рублёў».

«У самым хуткім часе Вярхоўны Савет павінен прыняць тэкст прысягі для тых, хто будзе служыць на Беларусі. Прапанову Шапашнікава — прысягаць Расеі — мы лічым абсалютна не падыходзячай для нас».

«Так, Барыс Мікалаевіч (Ельцын — С.Н.) абяцае вам плаціць. Добра плаціць, маючы друкарскі станок па выпуску грошай. А забясьпечыць іх таварам давядзецца нам. Мы гэта выдатна разумеем. Як выдатна разумеем і тое, што войска Беларусі будзе ствараць выдатнае прыкрыцьцё заходнім межам Расеі. Таму лічым, што забесьпячэньне арміі павінна адбывацца на аснове пагадненьняў з Расеяй: сацыяльныя пытаньні вырашае Беларусь, пытаньні матэрыяльна-тэхнічнага забесьпячэньня — па дагаворанасьці. Трэба шукаць парытэтныя асновы дагавору з Расеяй».

Вельмі паказальныя апошнія радкі рэпартажу: «Людзі ў форме разыходзіліся з залі. Гледзячы ім у сьпіны, падумалася: вось ідуць будучыя афіцэры, падпарадкаваныя Беларусі. А потым успомніў Галаўню і кампанію, гэтых крумкачоў колеру хакі — і стала сумна, трывожна. Супакой-

вала тое, што большасьць афіцэраў усё ж шчыра і добразычліва паставіліся да выступленьня нашага Старшыні. ЧБВА, здаецца, паверыла Беларусі...» («Літаратура і мастацтва», 10 студзеня 1992).

ЧБВА — гэта Чырванасьцяжная Беларуская вайсковая акруга, адна з найбольш моцных груповак у СССР. Амаль пяць месяцаў, якія прайшлі пасьля абвяшчэньня Незалежнасьці ў жніўні 1991-га — у мэнтальным сэнсе ніяк не закранулі дзясяткі тысяч афіцэраў. Можна па-чалавечы паспачуваць Шушкевічу, які патрапіў у непрыязны, калі не сказаць варожы, асяродак — але калі б стварэньне ўласнага войска пачалося яшчэ ў верасьні 1991-га, як прапаноўвалі дэпутаты БНФ, у студзені 1992-га атмасфэра была б іншай.

І ў тыя самыя дні ва Ўкраіне прэзыдэнт Краўчук распарадзіўся прывесьці да прысягі ўсіх афіцэраў і звольніў некалькіх камандуючых акругамі, якія адмовіліся гэта рабіць. Некалькі сотняў афіцэраў, якія не пажадалі скласьці прысягу на вернасьць Украіне і выказалі жаданьне служыць Маскве, зь сем'ямі былі адпраўленыя ў Расею.

Як бы ні было, але на пачатак 1992-га на тэрыторыі Беларусі знаходзілася буйная вайсковая групоўка, у адносінах да якой беларускія патрыёты былі прымушаныя гадаць: «паверыла» яна Беларусі ці «не паверыла»? І што будзе рабіць гэтая шматтысячная групоўка, калі з Масквы прыйдзе сьмяротны для беларускай незалежнасьці загад?



Пасяджэньне Сойму БНФ, прысьвечанае вайсковаму пытаньню. Валянцін Асташынскі, Вінцук Вячорка, Яўген Кулік, Валянцін Голубеў, Мікалай Крыжаноўскі. 1992 г.

У лютым у інтэрвію французскай газэце Le Monde на пытаньне журналіста адносна спрэчкі паміж Кіевам і Масквой наконт Чарнаморскага флёту, Шушкевіч заўважыў, што ў выпадку, калі дойдзе да падзелу, «мы хацелі б, каб пры гэтым улічваўся і наш уклад (у фінансаваньне гэтага флёту)».

Але гэтыя словы, як і заявы Шушкевіча, зробленыя на сустрэчы з афіцэрамі, не былі падмацаваныя справамі. Да самага канца 1992 году афіцэры не прыводзіліся да прысягі, і збольшага вайсковае будаўніцтва адбывалася пад вялізным уплывам Расеі і ў выніку — у яе інтарэсах.

Толькі пад канец сакавіка пад націскам дэпутатаў Апазыцыі БНФ Вярхоўны Савет прыняў



У прэзыдыюме Сойму БНФ — Вера Чуйко, Мікола Статкевіч, Зянон Пазьняк, Юрась Хадыка. 1992 г.

рашэньне аб стварэньні самастойных узброеных сілаў Рэспублікі Беларусь.

У красавіку 1992 году Менск і Масква дамовіліся, што большасьць вайскоўцаў ЧБВА — 130 тысяч — перайшлі пад юрысдыкцыю Беларусі. Стратэгічныя войскі засталіся пад Аб’яднаным камандаваньнем СНД, а фактычна — Масквы.

Яшчэ ў студзені Сойм БНФ прыняў зварот да вайскоўцаў-беларусаў: «Дарагія суайчыньнікі, наступіў цяжкі, але непазьбежны час. Ранейшага СССР — няма. На яго месцы ўзьніклі незалежныя дзяржавы. Адраджаецца да Незалежнасьці, да лепшага жыцьця і наша Бацькаўшчына — Бе-

ларусь. Дабрабыт і парадак у нашым доме ніхто, акрамя нас саміх, не наладзіць, і працавіты беларускі народ здолее адрадзіць заможную і культурную беларускую дзяржаву.

На былую савецкую армію працавала, карміла яе і наша Беларусь. У арміі служыць нямала нашых землякоў. Вось чаму Рэспубліка Беларусь зусім правамерна стварае ўласнае войска і падпарадкоўвае сабе ўсе ўзброеныя сілы на сваёй тэрыторыі, акрамя ядзерных сілаў стратэгічнага прызначэньня....

Дзе б вы ні служылі — мы заклікаем вас прыслухацца да голасу сэрца, памятаць пра тое, што вы маеце Бацькаўшчыну і ёй патрэбныя. Не сьпяшайцеся прымаць прысягу на вернасьць іншым дзяржавам. Ведайце: Беларусь чакае вас!».

На заклік пачалі актыўна адгукацца беларускія афіцэры — але іх вяртаньне тармазілі генэралы ў штабе былой Чырванасьцяжнай Беларускай вайсковай акругі, большасьць зь якіх не нарадзілася ў Беларусі і не адчувалі сябе беларусамі і, канешне, не жадалі страчваць «хлебныя» месцы. Сытуацыя напальвалася — яе апагеем будзе прыняцьце ў верасьні 1992-га прысягі на плошчы перад Домам ураду з удзелам дэпутатаў Апазыцыі БНФ, кіраўніцтва Беларускага Згуртаваньня вайскоўцаў, пад дзяржаўным бел-чырвона-белым сьцягам і ў прысутнасьці Васіля Быкава.

# САМЫ КАРОТКІ РАЗЬДЗЕЛ

Рэфэрэндум пра датэрміновыя выбары мог ініцыяваць Станіслаў Шушкевіч – Закон аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме) даваў старшыні Вярхоўнага Савету такое права і прыраўноўваў подпіс сьпікера да подпісаў 350 тысяч грамадзянаў. Пры гэтым Шушкевіч меў права прапанаваць і ўласную фармулёўку пытаньня (фармулёўку БНФ ён называў "заблытанай"). Гэтым самым, акрамя іншага, былі б зэканомленыя час і сілы, якія пайшлі на збор подпісаў.

Шушкевіч мог зрабіць гэта ўжо ў студзені, калі ягоны рэйтынг, паводле сацыёлягаў, дасягаў 52%, і ягоная пазыцыя на карысьць рэфэрэндуму істотна паўплывала б і на грамадзкую думку, і на дэпутатаў.

У гэтым выпадку наступныя старонкі кнігі былі б напісаныя па-іншаму – як, магчыма, іншымі былі б для Беларусі і наступныя дзесяцігодзьдзі.

# ЛУКАШЭНКА: «РАЗУМНЫЯ ЛЮДЗІ ЎЖО ПАДУМВАЮЦЬ АБ ДЫКТАТУРЫ»

У пачатку 1992 году мне перадалі аўдыёкасэту з запісам выступу 28 студзеня дэпутата Аляксандра Лукашэнкі па шклоўскім раённым радыё. Ён адказваў на пытаньні журналіста, але гэта быў фактычна маналёг, значная частка якога была прачытаная па паперцы.

Кожны, хто піша пра самы пачатак 1990-ых гадоў, асабліва пра Вярхоўны Савет XII скліканьня, сутыкаецца з праблемай: у якой ступені казаць пра Лукашэнку? Надаваць вялікую ўвагу гэтай асобе ці абмежавацца канстатацыяй ягонага ўдзелу ў тым або іншым паседжаньні?

З аднаго боку, маюць рацыю тыя, хто нагадвае, што Лукашэнка не адыгрываў у тагачасным палітычным жыцьці Беларусі вызначальнай ролі — у лепшым выпадку, яе можна было б назваць толькі прыкметнай. І таму, лічаць яны, празьмернае акцэнтаваньне ўвагі на ягонай асобе скажае рэальнасьць.

Але з другога боку — такі аргумэнт быў бы цалкам слушны ў тым выпадку, калі б Лукашэнка і пасьля 1994 году заставаўся дэпутатам парлямэнту, якіх сотні, альбо быў прызначаны міністрам, якіх дзясяткі ці, наадварот, вярнуўся да родных ніў у сваім саўгасе. Але гэтага ня здарылася. Адбылося іншае — Лукашэнка стаў на чале дзяржавы і на момант напісаньня гэтай кнігі кіруе ёй ужо больш як два дзесяцігодзьдзі;

тэрмін, які даўно перавысіў тэрмін уладараньня Брэжнева і набліжаецца да тэрміну Сталіна. Калі ж казаць пра Беларусь, дык нават Машэраў, які з усіх першых сакратароў ЦК кіраваў найбольш (15 гадоў), ужо значна адстае паводле гэтага паказьніку ад Лукашэнкі. Вырасла пакаленьне беларусаў, якое нарадзілася пры Лукашэнку — і ў іх ужо ёсьць свае дзеці.

Таму і дасьледчыкі, і мэмуарысты (а калі-небудзь, магчыма, і празаікі) будуць акцэнтаваць увагу на гэтай асобе, шукаць і знаходзіць тыя або іншыя ўчынкі, заявы, урэшце, пэўныя рысы характару, якія пазьней вызначаць Лукашэнку як прэзыдэнта.

Зрэшты, гэта тычыцца ўсіх першых асобаў, якія адыгралі істотную ролю ў лёсе сваіх народаў, незалежна ад станоўчай ці адмоўнай ацэнкі іх дзейнасьці. Чэрчыль ня быў «першай скрыпкай» у парлямэнце ў пачатку 1900-х, роўна як і Гітлер не вызначаў палітычны пэйзаж Нямеччыны пачатку 1920-х, але аўтарам кніг пра сытуацыю ў Брытаніі на мяжы мінулага і пазамінулага стагодзьдзяў ці пра Ваймарскую рэспубліку не абысьціся без узгадваньня гэтых асобаў.

Радыёвыступ Лукашэнкі перад сваімі выбаршчыкамі ў студзені 1992-га дае добры матэрыял як для аналізу ягонай асобы, гэтак і для ілюстрацыі тагачаснай палітычнай сытуацыі.

Нагадаю, што ў самым пачатку дзейнасьці Вярхоўнага Савету Лукашэнка ўваходзіў у дэпутацкі Дэмклюб, вясной 1991-га абвінаваціў 1-га сакратара ЦК КПБ Малафеева ў дыктатарскіх па-

мкненьнях, у жніўні падпісаў зварот больш як 80 дэпутатаў склікаць нечарговую сэсію Вярхоўнага Савету. На гэтым праявы «дэмакратызму» скончыліся. Ён адмовіўся ня тое што галасаваць, але нават рэгістравацца, калі галасавалі за незалежнасьць і прыпынялі дзейнасьць КПБ-КПСС, праз месяц фактычна паставіў пад сумнеў наданьне «Пагоні» і бел-чырвона-беламу сьцягу статусу дзяржаўных сымбаляў. Не падтрымаў Лукашэнка і ініцыятывы правядзеньня рэфэрэндуму.

Усе расейскамоўныя тэксты ў гэтай кнізе — прамовы, артыкулы, дакумэнты — падаюцца ў перакладзе на беларускую. Тое самае тычыцца і сказанага Лукашэнкам. Але для выступу па шклоўскім раённым радыё я раблю выключэньне, пакідаючы яго на мове арыгіналу — бо гэта дае больш поўнае ўяўленьне пра асаблівасьці прамоваў Лукашэнкі, зьвернутых не да дэпутатаў у Авальнай залі, а да звычайных людзей. Пакідаю бязь зьменаў і пабудову фразаў — там, дзе ён адрываўся ад паперы.

Пачаў Лукашэнка з тэмы рэфэрэндуму.

«... Не надо быть большим политиком, чтобы видеть причину всего этого. Я ни в коем случае не стану защищать Верховный Совет, волею вашей в котором мне приходится работать. Это действительно непредсказуемый Верховный Совет, это Верховный Совет, который может неквалифицированно, неграмотно принять то или иное решение, уничтожить партию, вырезать её, откровенно говоря, не брезгуя никакими законами. Верховный Совет, который может быстренько, за

один вечер поменять и флаг, и герб, и суверенитет объявить, и так далее. Я ни в коем случае в этом плане Верховный Совет защищать не стану».

У гэтым абзацы — квінтэсэнцыя палітычнай пазыцыі Лукашэнкі, якой яна выявіцца ў дзесяцігодзьдзі будучага прэзыдэнцтва.

Абвяшчэньне Незалежнасьці не ўяўлялася Лукашэнку ажыцьцяўленьнем мараў пакаленьняў беларусаў, як і наданьне нацыянальным сымбалям статусу дзяржаўных не ўспрымалася гістарычнай заканамернасьцю, а толькі праявай пасьпешлівага («быстренько, за один вечер») рашэньня. Прычым рашэньня няправільнага, па сутнасьці злачыннага (потым Лукашэнка будзе ужываць менавіта гэтае вызначэньне), за якое Вярхоўны Савет павінен прасіць апраўданьня — але ён, Лукашэнка, усьведамляючы ўсю злачыннасьць такога рашэньня, апраўдваць парлямэнт не зьбіраецца.

Тое самае тычыцца і пастановы аб прыпыненьні дзейнасьці КПБ-КПСС, якую Вярхоўны Савет прыняў пад ціскам Апазыцыі БНФ. Тут Лукашэнка выказваецца яшчэ больш экспрэсіўна — «вырезать» партыю. Хаця ў фізычным сэнсе ніводзін волас ня ўпаў з галавы былых камуністаў (за выключэньнем таго, што сакратар ЦК КПБ Валер Ціхіня быў абпляваны на плошчы, але яго адразу ўзяла пад ахову дружына БНФ; інцыдэнт, між іншым, здарыўся яшчэ да рашэньня аб КПБ-КПСС). Не было і ніякага судовага або палітычнага перасьледу былых камуністаў, а найбольш актыўныя зь іх рэгулярна зьбіраліся

пад чырвонымі сьцягамі, выпускалі свае газэты, у якіх ставілі пад сумнеў існаваньне Беларусі як сувэрэннай краіны, палівалі брудам бел-чырвона-белы сьцяг і «Пагоню». У пачатку 1992-га практычна ўся кіруючая намэнклятура была ўладкаваная ў структурах выканаўчай улады.

«Хотя и себе, на себя не могу взять ответственность за такие действия. Я уже говорил вам, по многим, что у меня было своё особое мнение, которое я не придерживался частенько общего мнения, которое бытовало в Верховном Совете».

У гэтай не зусім пісьменнай канструкцыі Лукашэнка спрабуе данесьці, што за незалежнасьць і прыпыненьне дзейнасьці КПБ-КПСС ён не галасаваў (што поўная праўда: 25 жніўня 1991 ён ня ўдзельнічаў у галасаваньні. А вось супраць ратыфікацыі Белавескіх пагадненьняў у сьнежні 1991-га прагаласаваў толькі Валер Ціхіня — гэта я бачыў на ўласныя вочы, нашыя крэслы ў Авальнай залі былі побач).

Далей Лукашэнка перайшоў да ініцыятараў рэфэрэндуму.

«Люди эти в основном теоретики, к которым, к сожалению, в последнее время примкнул и руководитель Верховного Совета Станислав Станиславович Шушкевич. Наверное, многие заметили, что у меня на этой почве часто бывают столкновения с ним, не только в Верховном Совете, но и здесь, на Могилёвщине, когда он встречался с фермерами. Идёт дикая борьба за власть. Борьба в то время, когда она абсолютно не нужна, И в этой борьбе ничем не брезгуют. Поэтому к БНФ

примкнули и другие „демократические“ так называемые партии. Вы знаете, что у нас и в Шклове ярким представителем такой партии является, в кавычках, надо сказать, бывший мой помощник, товарищ Щербак».

Шушкевіч зусім не «примкнул» да БНФ, пра што Лукашэнка цудоўна ведаў, назіраючы за паводзінамі сьпікера — хаця б за адным толькі адключэньнем мікрафонаў перад дэпутатамі апазыцыі. Што да рэфэрэндуму, дык Шушкевіч ад пачатку выступіў катэгарычна супраць.

Лукашэнка невыпадкова згадаў Аляксандра Шчарбака — можна меркаваць, што менавіта ён і быў нагодай для выступу на раённым радыё.

Вясной 1989-га Шчарбак працаваў у аргаддзеле Шклоўскага райкаму КПБ і ўдзельнічаў у камандзе Лукашэнкі на выбарах народных дэпутатаў СССР (тады выйграў Кебіч), а праз год, у 1990-ым, фактычна ўзначаліў выбарчую кампанію дырэктара саўгасу «Гарадзец» у Вярхоўны Савет БССР XII скліканьня. Тагачасны дырэктар саўгасу «Іскра» суседняга Бялыніцкага раёну Рыгор Кастусёў лічыць, што ў вялікай ступені дзякуючы Шчарбаку Лукашэнка і стаў дэпутатам, і гэтае ягонае меркаваньне падзяляе шмат хто з тых, хто сачыў за той выбарчай кампаніяй альбо ўдзельнічаў у ёй.

Аляксандар Шчарбак быў памочнікам Лукашэнкі як дэпутата, але ўжо ў 1991-ым зь ім разышоўся: «Шчарбак разгледзеў у Лукашэнку ворага беларускасьці, ворага незалежнасьці Беларусі і не пайшоў за Лукашэнкам. І застаўся

на гэтым баку да канца сваіх дзён», — прыгадваў Рыгор Кастусёў у інтэрвію Радыё Свабода. Аляксандар Шчарбак быў сябрам некалькіх партый (Сацыял-дэмакратычнай грамады, Аб’яднанай дэмакратычнай партыі, пэўны час узначальваў Шклоўскую раённую суполку БНФ), выпускаў газэту, затрымліваўся, штрафаваўся, быў жорстка зьбіты «невядомымі», перажыў тры інсульты і памёр у лютым 2013 году.

Журналістка і суаўтарка разам з Паўлам Шараметам кнігі пра Аляксандра Лукашэнку Сьвятлана Калінкіна ў інтэрвію Радыё Свабода сказала, што Шчарбаку няпроста было прыгадваць часы супрацоўніцтва з Лукашэнкам: «...калі чалавек спрабуе нават не апраўдацца, а зразумець самога сябе: як ён ня мог заўважыць нейкіх такіх званочкаў, якія б сьведчылі пра тое, што Лукашэнка быў ня тым барацьбітом з карупцыяй, за якога сябе выдаваў? Гэта быў пошук адказаў, як я асабіста зрабіў гэтую памылку і як уся краіна зрабіла гэтую памылку» (Радыё Свабода, 19 лютага 2013).

І ўсё ж Шчарбак адным зь першых разгледзеў у асобе Лукашэнкі тое, што іншыя ўбачылі значна пазьней, калі ён ужо заняў найвышэйшую ў дзяржаве пасаду. Да асобы Шчарбака Лукашэнка ў сваім выступе яшчэ вернецца, а пакуль — ізноў пра рэфэрэндум:

«И сегодня развернулась кампания сбора подписей о проведении всебелорусского референдума по недоверии Верховного Совета. Ну что ж, может быть, это и надо. Но я часто задумываюсь над другим вопросом: а что это даст? Кто

придёт сегодня в Верховный Совет? Пазьняк со своей командой? Ну что ж, гражданской войны не избежать. Я в этом просто убеждён. Убеждён потому, что эти люди не умеют искать компромиссов, и я их хорошо знаю, тесно сотрудничал и сотрудничаю с ними. Эти люди не идут ни на какие уговоры. Остервенели. Остервенелая драка за власть, стремление захватить эту власть».

У гэтым кавалку праўды — толькі пра тое, што кампанія збору подпісаў за рэфэрэндум сапраўды пачалася.

Канешне, Лукашэнка мог сказаць, што добра ведае дэпутатаў Апазыцыі БНФ, усё ж правёў разам з намі амаль два гады ў Авальнай залі, у часе сэсіяў — штодня па некалькі гадзінаў.

Але — ня болей. За выключэньнем першых дзён працы Вярхоўнага Савету ў 1990 годзе, калі Лукашэнка прыходзіў на пасяджэньні Дэмакратычнага клюбу, у склад якога ўваходзілі і дэпутаты БНФ, Лукашэнка ні ў якай калектыўнай працы ня ўдзельнічаў.

Ён не супрацоўнічаў з дэпутатамі БНФ (між іншым, даволі сумнеўная заява — супрацоўнічаць з тымі, хто нібыта прывядзе да грамадзянскай вайны; але супярэчлівасьці часта здараліся ў выступах Лукашэнкі нават у межах адной фразы). Аднойчы ў 1990 годзе ён прыйшоў на пасяджэньне Апазыцыі БНФ, мы якраз разьмяркоўвалі тэмы законапраектаў, прапанавалі яму далучыцца да групы, якая працавала над «аграрным» блёкам, ён нібыта пагадзіўся, але больш не прыходзіў. Я ўвогуле ня памятаю, каб Лукашэнка

ўдзельнічаў у працы над нейкім законапраектам, разам з апазыцыяй ці разам з камуністамі — такая праца вымагала шмат высілкаў, якія зусім не абавязкова маглі быць узнагароджаныя посьпехам у Авальнай залі ды цікавасьцю журналістаў. Іншая справа — рэплікі ад мікрафона і гучныя заявы, якія прыцягвалі ўвагу прэсы.

Ну а тое, што распрацаваныя дэпутатамі БНФ заканадаўчыя прапановы, нягледзячы на палітычны антаганізм парлямэнцкай большасьці, усё ж час ад часу прымаліся, было вынікам ня столькі нашых прамоваў з трыбуны ці ад мікрафонаў, колькі чарнавой кулюарнай працы, пераконваньня нашых палітычных апанэнтаў, дзе-нідзе і ўзаемных саступак — і гэта цалкам абвяргае словы Лукашэнкі пра нібыта няздольнасьць лідэраў БНФ да кампрамісаў.

«Я не могу согласиться с ними и в том, что правительство в данной критической ситуации практически ничего не делает, хотя и мало чего делает. Я в качестве примера доброй инициативы со стороны правительства хотел бы привести недавнюю поездку в Китай.

Совсем недавно мне пришлось быть членом делегации этого... этой делегации, и я был в Китае, изучая их опыт и договариваясь о конкретных делах».

Гэта быў той самы візыт у Кітай, пра які ў чэрвені 1994-га, у самы пік выбарчай прэзыдэнцкай кампаніі, будзе паказаны сюжэт па тэлебачаньні — Лукашэнку абвінавацяць у тым, што ён, так бы мовіць, узяў без дазволу з чамадана сьцю-

ардэсы набыты ёй масажор. Сьцюардэса выявіла страту яшчэ ў палёце, паскардзілася камандзіру экіпажу, дайшло да Кебіча, і той прапанаваў праверыць багаж ва ўсіх. Але да гэтага не дайшло — паводле афіцыйнай вэрсіі, Лукашэнка сказаў, што выпадкова паклаў масажор у свой чамадан. Гісторыя ня мела працягу — аж да моманту, пакуль яна не была скарыстаная ў згаданым тэлесюжэце, дзе ўспамінам падзяліўся адзін з членаў дэлегацыі, намесьнік старшыні Дзяржкамітэту па зьнешнеэканамічных сувязях. Празь некалькі дзён былі пераможныя для Лукашэнкі выбары, але, што цікава, удзел у сюжэце намесьніку міністра пасады не каштаваў. Тады ж, у пачатку 1992-га, пра гэтую гісторыю ў кулюарах Вярхоўнага Савету казалі, зьвязваючы гэта з паваротам у палітычнай пазыцыі Лукашэнкі — ад дэмакратаў да Кебіча. Абвінавачаньне так і засталося галаслоўным і ніколі не было даказана судом.

У кожным разе, мне падаецца, што паварот гэты не вымагаў нейкай экстраардынарнай прычыны — Лукашэнка заўсёды быў аўтарытарны паводле характару і прасавецкі паводле мэнтальнасьці. Ягоная прадэмакратычная рыторыка была ўсяго толькі інструмэнтам для кар’еры. Ён заўсёды адчуваў, на чым баку сіла і куды, як сказалі б пазьней, «ідзе трэнд». На мяжы 1980-х і 1990-х гадоў у грамадзтве пераважалі дэмакратычныя настроі — і Лукашэнка быў каля дэмакратаў (не з дэмакратамі — а вось менавіта прыстасаваўшыся недзе збоку). Студзень 1992-га быў сапраўды драматычны — лібэральныя гай-

69раўскія рэформы ў Расеі, да якой Беларусь усё яшчэ была прывязаная, пры адсутнасьці рэформаў у Беларусі, як мы і папярэджвалі, прывялі да рэзкага «вымываньня» тавараў, пагаршэньня жыцьцёвага ўзроўню (як потым казаў старшыня Нацбанку Станіслаў Багданкевіч, Беларусь «падаравала» Расеі каля ста мільярдаў рублёў). Сытуацыя патрабавала ўпэўненых крокаў у рынкавым накірунку — але ўрад Кебіча захоўваў «стабільнасьць», якая, акрамя ўсяго іншага, давала чыноўнікам магчымасьць стварыць базу пад будучыя канцэрны. Былая партыйная намэнклятура за некалькі месяцаў пасьля жніўня 1991-га перацякла ў выканаўчыя структуры, пад кантроль Кебіча, які ўсё больш канцэнтраваў у сябе рэальную ўладу. І Лукашэнка зрабіў выбар: не з дэмакратамі, а з Кебічам.

Прыкметна, што падобны выбар адначасна зрабілі і ягоныя будучыя паплечнікі на прэзыдэнцкіх выбарах — старшыня камісіі па заканадаўстве Дзьмітры Булахаў і намесьнік старшыні Маладэчанскага гарсавету, дэпутат Віктар Ганчар (у кастрычніку 1992 году Ганчар увогуле заявіў, што Кебіч зьяўляецца адзіным гарантам стабільнасьці). Але пры гэтым кожны з трох меў свае мэты, і асноўнай сярод іх была ўласная кар’ера — разьлік зразумелы для палітыка, але ў гэтых выпадках інтарэсам дзяржаўнай незалежнасьці тут месца не было.

Ну а паколькі выбар быў зроблены (Кебіч), быць апошнім у атачэньні прэм’ера Лукашэнка

ніяк ня мог. Толькі першы. Калі і ня самы першы, дык у ліку іх.

«Мы договорились, что китайцы помогут нам по бартеру, не за валюту, больше миллиона тонн зерна и примерно двести тысяч тонн сахара. А это примерно половина потребностей Беларуси. Сейчас премьер-министр попросил меня снова поехать в Китай во главе делегации уже и договориться о поставках конкретных нам, хлеб и сахар. Думаю, что если всё пойдёт нормально, то из этих двухсот тысяч тонн, очень надеюсь всё-таки, шкловчане около тысячи тонн получат. Если всё сложится так, как я рассчитываю, я имею обещание премьер—министра о том, что мы получим около тысячи тонн сахара на Шкловский район за то, что я поеду договариваться по этим вопросам. Более того, скажу: Кебич планирует визит в Шкловский район. Я его очень просил, говорил, что люди воспримут его визит нормально, и думаю, что мы можем от него ждать помощи здесь, во время его присутствия. У нас в последнее время сложились очень добрые отношения с этим человеком».

Натуральна, ніякай тысячы тонаў кітайскага цукру жыхары Шклоўскага раёну не атрымалі, як ня ўбачылі беларусы дзьвесьце тысячаў тонаў (у іншым выпадку «салодкая» тэма некалькі месяцаў гучала б з вуснаў Лукашэнкі ў інтэрвію агульнанацыянальным СМІ і з трыбуны Вярхоўнага Савету). Падаецца, прычынай такіх словаў была нават не ўласьцівая Лукашэнку ўжо тады звычка даваць заведама невыканальныя абяца-

ньні, а імкненьне падкрэсьліць сваю значнасьць. І ключавыя словы тут — «прэм'ер-міністар папрасіў мяне».

Увогуле, я б ня стаў за такое Лукашэнку надта ўжо асуджаць, паколькі такое імкненьне — паказаць блізкасьць да першых асобаў дзяржавы — было ўласьціва, у той або іншай ступені, практычна ўсім дэпутатам, за выключэньнем адзінак, каму не было патрэбы такім чынам самасьцьвярджацца ў вачах выбаршчыкаў (напрыклад, Пазьняку або Карпенку). Вядома, што амэрыканскія кангрэсмэны вывешваюць ў сваіх офісах на бачных месцах фатаздымкі, дзе яны побач з прэзыдэнтам. Пэўна, так было і будзе ва ўсіх краінах і ва ўсе часы. У гэтым выпадку адметна, што Лукашэнка выбраў блізкасьць не да Шушкевіча, які лічыўся дэмакратам і быў фармальна пэрсонай нумар адзін, а да пэрсоны нумар два — да Кебіча, які асацыяваўся з намэнклятурай. Ну і, канешне, уражвае маштаб матэрыялізацыі блізкасьці — сотні тысяч тонаў, палова патрэбаў краіны. Лукашэнка паказваў сябе перад выбаршчыкамі дзеячом менавіта агульнанацыянальнага маштабу.

Але і зямных, мясцовых праблемаў не цураўся:

«Сегодня как раз на совместном заседании президиума районного Совета и исполкома с участием многих депутатов, мне было поручено провести это заседание, мы обсуждали план на этот год по производству и районный бюджет. Депутаты присутствующие увидели очень много „белых пятен“ и проблем, которые сегодня суще-

ствуют. И это не потому, что наше правительство не хочет работать, хотя я ещё раз подчёркиваю: много и много вопросов к ним, очень много. А потому, что мы развалили, ничего не построив, развалили старое. Я имею ввиду Союз. Мы нарушили связи между предприятиями. Сейчас ни одно предприятие гарантированно не может заявить о том, что его смежники поставят ему сырьё и материалы. Возьмите фабрику „Спартак“ нашу. Она на грани остановки. На грани остановки потому, что нет сырья, нет целлюлозы. И она не может сегодня производить эту бумагу. Разве такие вопросы так остро стояли раньше, когда существовал этот Союз, который был развален просто-напросто?»

На шклоўскіх тэмах аратар засяродзіўся ненадоўга і хутка перайшоў да міжнародных:

«И я должен прямо сказать, вы помните, наша беседа последняя закончилась тем, что я заявил, что я за СНГ не голосовал. Я высказал свои сомнения в этом плане. К сожалению, они подтвердились. СНГ практически нам кроме драки президентов на высшем уровне в Минске поочерёдно и в Москве, потом в Казахстане в Алма-Ате, ничего не даёт. Мы в экономике ни на шаг не продвинулись. Мы начали заниматься там фехтованием, Кравчук уколол Ельцина, Ельцин Кравчука, и пошло, и поехало, и наш Шушкевич туда ввязался, и втянул в это парламент. Поэтому развал на союзном уровне, развал этого Союза, который мы очень успешно развалили, привёл к

развалу экономики и ухудшению жизни простого человека».

Тут Лукашэнка (ці не ўпершыню публічна) выказаў тэзіс, што пагаршэньне жыцьця — вынік распаду імпэрыі. Але сувэрэнітэт — не адзіная прычына катастрофы, ёсьць яшчэ як мінімум адна:

«Всё больше и больше сейчас звучат вопросы, что человек брошен в стихию рынка. На последнем заседании Верховного Совета, выступая по вопросам экономики, по вопросам бюджета, я заявил прямо, может быть, и несколько резко, особенно в интервью в „Радиофакте“, другим редакциям нашим, нашего радио, я заявил, что цивилизованные и разумные люди в такой ситуации действительно уже подумывают о диктатуре. Мы сами своими действиями в экономике пришли к диктатуре. Что я имею в виду? Мы пришли к тому, что нужно сегодня доводить жёсткие планы, что за эти планы нужно спрашивать, что надо регулировать цены, надо отказаться от свободного ценообразования. Вот эти вот... подъём цен, он убивает людей. Люди больше не вынесут повышения цен. Поэтому нам надо ограничить цены. И предложение было, оно принято на заседании глав государств, на заседании СНГ, ограничить рентабельность 50% этих цен».

Пакуль што Лукашэнка вымушаны апраўдваць слова «дыктатура» — але яно ўжо прагучала.

«По пути из Китая мы очень долго разговаривали с премьер-министром о том, что же быть с ценами», — працягваў аратар, і ў слухача павінна

было скласьціся ўражаньне, што кіраўнік ураду ня мог прыняць гэтае няпростае рашэньне, не параіўшыся з дырэктарам саўгасу «Гарадзец». Цэнаўтварэньне — тэма нават для Лукашэнкі складаная, але выйсьце было прэм’еру падказанае (тым больш, што час быў, дарога з Пэкіну да Менску і на самалёце няхуткая).

«Ну ладно, я согласен с тем, что нелегко даётся нам хлеб, молоко, мясо. Тут цены, может быть, стоит и оставить на этом уровне. Но совершенно недопустимо, и мировой опыт об этом говорит, когда поднимаются цены на промышленные товары. Ведь за границей наручные часы, одежда, обувь, они же стоят копейки! А у нас — дикие деньги. Поэтому нам, стремясь к мировым ценам на продукты питания, к чему мы уже пришли, нам надо стремиться к тому, чтобы понизить цены на эти товары. Только так, а не иначе. И премьер-министр со мной согласился. И мы договорились, что вот в ближайшее время мы сядем и обсудим эти проблемы. Но должен предупредить своих избирателей, что цены ещё поднимутся, административно поднимутся, на мясо. Это нужно ожидать. Но в то же время, мы будем бороться с монополизмом цен в промышленности. Вот такая ситуация сегодня складывается в экономике».

Дарэчы, даволі разумны аратарскі прыём: вяскоўцам (а менавіта яны складалі большасьць аўдыторыі) былі выгодныя высокія цэны на іх прадукцыю, і такі падыход ім павінен быў спадабацца. А вось тое, што выпускаюць у гарадах, можа каштаваць і капейкі.

Далей журналіст зьвярнуўся да тэмы, якая, магчыма, і была нагодай выступу Лукашэнкі па раённым радыё — зьяўленьне ўлёткі, у якой выкрываліся камэрцыйныя інтарэсы мясцовага начальства:

«У горадзе Шклове зьявіліся лістоўкі аб тым, што некаторыя кіруючыя работнікі раёну, у якіх ёсьць улада, добра зарыентаваліся ў цяперашніх умовах. Пачалі браць зямлю пад фэрмэрскія гаспадаркі. Там жа, сярод іншых, прыгадваецца і ваша прозьвішча».

Абарону Лукашэнка пачынае з нападу на, як ён мяркуе, аўтара ўлёткі.

«... Но как может заявлять человек, у которого нет в руках этих фактов? Это самая настоящая клевета, клевета на народного депутата, и я думаю, это тема для судебного разбирательства, что мы, наверное, и сделаем.

Но коль уж я затронул этот больной вопрос по этому человеку, я должен прояснить ситуацию… Вот он сейчас многих критикует, что что-то украли там, что-то взяли, дачу построили, а я приведу только несколько фактов. Совсем недавно по чужой доверенности он получает шины для своих собственных «жигулей», через раз, по чужой доверенности, и забывает внести, заплатить деньги. Нарушает, во-первых, финансовую дисциплину, получая по чужой доверенности, во-вторых, не платит деньги. Совсем недавно этот человек по доверенности совхоза приобретает три телевизора, два из которых оказываются у него дома. И когда я ему поставил принципиально

вопрос, он мне заявляет: «А мы думали, голосуя за тебя, что ты будешь поддерживать нашу демократическую партию!».

Няцяжка заўважыць несупастаўнасьць выстаўленых абвінавачаньняў: з аднаго боку, зямля, якую Лукашэнка сапраўды атрымаў, і нейкія недаказаныя парушэньні з афармленьнем набыцьця аўтамабільных шынаў і тэлевізараў. Але яшчэ больш уражвае схема, ужытая з мэтай дыскрэдытацыі апанэнтаў: маўляў, дэмакратыя для дэмакратаў — усяго толькі спосаб скрасьці. Такія самыя мэтады ў сьнежні 1993-га Лукашэнка скарыстае ў сваім «антыкарупцыйным» выступе, калі пераключыць увагу з найбліжэйшага атачэньня Кебіча на адносна невысокіх чыноўнікаў і абвінаваціць дэпутатаў апазыцыі ў тым, у чым яны ўвогуле былі не вінаватыя.

А крыху пазьней, ужо будучы прэзыдэнтам, будзе гэтак жа зьневажальна казаць пра тых, каму шмат у чым быў абавязаны пасадай, што ня ён ім, а яны яму абавязаныя.

Арэнду зямлі Лукашэнка патлумачыў наступным чынам:

«Что касается же принципиального вопроса, то сегодня Лукашенко — не руководящий работник районного звена. И по закону он имеет право иметь землю. Но цель моя была совсем в другом. Не столько мне нужна была эта земля, сколько дать толчок к развитию этого процесса. Ведь меня избиратели избирали и знали мои подходы. Знали вот мою нацеленность на перестройку в сельском хозяйстве, я всё больше и больше в этом убежда-

юсь. Но если сегодня избиратели потребуют от меня, чтобы я не работал на земле, чтобы я не извлекал доходы из земли, я подчинюсь воле своих избирателей и не буду работать на этой земле, до тех пор, пока люди мне доверяют, до тех пор, пока я народный депутат. И я всё чаще и чаще подумываю о том, что мне всё-таки придётся, наверное, отказаться от этого участка земли, наверное, для того, чтобы своих детей научить, мне хватит трёх или пяти гектаров. Хотя дети уже взрослые и могли бы обрабатывать. Я так же как любой гражданин имею право на этот клочок земли...»

Сам па сабе гэты ўчынак Лукашэнкі — арэнда вялікага зямельнага ўчастку — на мой погляд, была станоўчым крокам, бо фэрмэрства сапраўды зьяўлялася добрай альтэрнатывай збанкрутаванаму калгасна-саўгаснаму ладу. Менавіта падтрымка фэрмэрства ў канцы 1980-ых і зрабіла Лукашэнку вядомым, і ўласны прыклад сьведчыў бы толькі на ягоную карысьць. Калі б не адна істотная акалічнасьць: Лукашэнка пасьлядоўна выступаў супраць увядзеньня прыватнай уласнасьці на зямлю, чаго настойліва патрабавалі мы, дэпутаты апазыцыі, і без чаго ніякія кардынальныя зьмены ў сельскай гаспадарцы не ўяўляюцца магчымымі.

«И самое главное, ты вот в самом начале сказал о том, что партии объединились и борются против других лидеров, против партий. Смею доложить своим избирателям, что в списке под номером один, против кого развернулась такая вот борьба за его позицию, за человеческую по-

зицию в Верховном Совете, за популярность, которая существует, извините за нескромность, в республике — в списке этом под номером один значится моя фамилия».

Тут, зразумела, Лукашэнка меў на ўвазе адзіную пазыцыю дэмакратычных партый адносна рэфэрэндуму. Натуральна, ніякага «сьпісу» «іншых лідэраў» (а Лукашэнка аднёс сябе да іх ліку, хаця ніякую партыю ці арганізацыю не ўзначальваў) — не было.

Але галоўнае — у пачатку 1992-га Лукашэнка не разглядаўся дэмакратычнымі партыямі як апанэнт «нумар адзін».

Калі паспрабаваць расчысьціць напластаваньні, якія ва ўспрыманьні асобы Лукашэнкі назапасіліся за наступныя гады і дзесяцігодзьдзі, і прыгадаць, якім ён бачыўся нам у той час, выявіцца наступнае.

Лукашэнка ўжо выразна вызначыўся супраць дэмакратычных каштоўнасьцяў, супраць незалежнасьці Беларусі, за аўтарытарныя мэтады і ў палітыцы, і ў эканоміцы. Але гэта была пазыцыя большасьці дэпутатаў Вярхоўнага Савету, тут ён нічым асаблівым не вылучаўся. Арыгінальны ён быў хіба што ў стылі паводзінаў, калі выступаў па якіх заўгодна пытаньнях і вельмі часта з супярэчлівымі прамовамі, у якіх адны тэзісы маглі не сумяшчацца з другімі. Таксама ў ім выразна адчувалася вельмі хваравітае ўспрыманьне стаўленьня да ўласнай пэрсоны — нават самая дробная крытыка імгненна вымушала яго выходзіць да мікрафона і накідацца на «крыўдзі-

целя». У значнай часткі дэпутатаў — прычым як у апазыцыянэраў, гэтак і ў намэнклятуры — ён меў рэпутацыю блазна, чалавека ненадзейнага.

І калі б уявіць, што ў тым самым студзені 1992-га Лукашэнка заявіў на сэсіі, што прэтэндуе на пасаду прэзыдэнта (хаця такой пасады яшчэ не было) — я перакананы, што Авальную залю скалануў бы сьмех. Пры тым, што ў некаторых дзяржаўных выданьнях сустракаліся публікацыі «лістоў чытачоў», дзе яго называлі патэнцыйным кандыдатам на найвышэйшую ў краіне пасаду, такія меркаваньні таксама ўспрымаліся як несур'ёзныя (іншых палітыкаў — Ганчара ці Карпенку, называлі непараўнальна часьцей, ня кажучы ўжо пра Кебіча, Пазьняка ці Шушкевіча).

Таму вылучыць Лукашэнку асобна, назваць яго «нумарам адзін» і сканцэнтравацца на барацьбе супраць яго — у тых умовах азначала б толькі ўзьняць ягоны рэйтынг. Чаго Лукашэнка відавочна і дамагаўся, што бачна нават у гэтай ягонай заяве. Тым ня менш, у 1993 годзе дэпутаты Апазыцыі БНФ паставілі пытаньне перад Вярхоўным Саветам аб пазбаўленьні дэпутацкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі ў ліку іншых дэпутатаў, якія выступілі супраць дзяржаўнасьці Беларусі (прапанова не знайшла падтрымкі Шушкевіча і не была нават унесеная ў парадак дня сэсіі).

А завяршыў свой радыёвыступ Лукашэнка незвычайна.

«... если кто-то поддерживает дикие настроения, развернув какую-то борьбу против меня, не доверяет, я просто... очень-очень мне грустно

просто становится за таких людей. Ведь вы меня подняли, вы меня растили, и вы знаете, что я сегодня советник правительства нашего. Всё, что я сегодня имею — от вас. Я бы вас просил: не надо людей, которых вы когда-то подняли, сегодня давить и выступать против них. Давайте всё-таки спокойно, с трезвой головой, разберёмся во всех вопросах. И посмотрим, кто же прав, а кто виноват. Видимо, очень невыгодно в нашем Шкловском районе, многим невыгодно, та позиция, которую сегодня занимает ваш народный депутат. Я же служил вам и буду служить до тех пор, пока я буду народным депутатом».

Незвычайнасьць — не ў заяве пра тое, што ён «дарадца ўраду нашага». Кебіч сапраўды прапанаваў Лукашэнку быць сваім дарадцам па аграрных пытаньнях, але быў ім Лукашэнка не на сталай аснове, ні ў якіх даведніках у такім статусе не фігураваў, і што прыкметна — ніколі не прадстаўляўся дарадцам Кебіча на сэсіях Вярхоўнага Савету і, наколькі мне вядома, у інтэрвію агульнанацыянальным СМІ. Ён ня будзе згадваць пра гэты эпізод сваёй палітычнай біяграфіі і падчас прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі, бо тады прыйшлося б і на сябе браць долю адказнасьці. Але для мясцовага ўжываньня пасада дарадцы вельмі пасавала — як і тоны кітайскага цукру ці абмеркаваньне з прэм’ерам лёсу эканомікі.

Незвычайнасьць тут у іншым. Я ніколі ня чуў, каб дэпутат у кантактах з выбаршчыкамі прыбягаў да гэткіх аргумэнтаў. Звычайна ў выпадку прэтэнзій дэпутаты казалі пра тое, што

яны зрабілі для акругі (заасфальтавалі вуліцу ці дамагліся рамонту школы), якія законы распрацавалі. Тут жа — даволі прыніжальная просьба з адзіным аргумэнтам: вы павінны мяне падтрымліваць, бо вы мяне ўзьнялі. Тут ужо нешта такое, што палягае ня ў плоскасьці палітыкі і нават не ў катэгорыі міжасабовых адносінаў — а ў сфэры псыхалёгіі ці псыхіятрыі.

Таму я зьвярнуўся да прафэсійнага псыхоляга Юліі Гурневіч і папрасіў зрабіць аналіз гэтых словаў, не называючы таго, каму яны належаць.

Вось яе вэрдыкт: ««Ведь вы меня подняли, вы меня растили, и вы знаете, что я сегодня советник правительства нашего. Всё, что я сегодня имею — от вас» — гэта гучыць як падзяка («Всё, что я сегодня имею — от вас»), але адначасова як маніпуляцыя і перакладаньне адказнасьці зь сябе, кшталту, «гэтаму навучылі мяне вы (а цяпер я вам не падабаюся?)». «... и вы знаете, что я сегодня советник правительства нашего» — выразнае падкрэсьліваньне сваёй пасады, каб тыя, да каго прамоўца зьвяртаецца, выразна гэта адчулі. Гэта выяўляе такія рысы характару, як лідэрства і самаўпэўненасьць. «Я же служил вам и буду служить до тех пор, пока я буду народным депутатом» — гэта можа сьведчыць пра вернасьць сваім прынцыпам і гатовасьць ісьці дзеля іх насуперак сваім «настаўнікам». Рысы характару — вытрымка, упартасьць, мэтанакіраванасьць».

Патрапляньне, як гаворыцца, «у яблычак». Могуць сказаць, што ў Лукашэнкі ніколі не было прынцыпаў, ён быў гатовы іх мяняць у залежна-

сьці ад сытуацыі — але зноў жа паўтару, што, я перакананы, ён ніколі і ня быў дэмакратам, нават у пачатку 1991-га, калі стварыў фракцыю «Камуністы за дэмакратыю» (якую я называў «Канібалы за вэгетарыянства»). Галоўнаму свайму прынцыпу — дамагацца ўлады — ён якраз быў верны заўсёды, ажыцьцяўляў яго сапраўды мэтанакіравана, упарта і часьцей за ўсё — з вытрымкай. Самаўпэўненасьці ў яго было празьмерна, а перакладаньне адказнасьці на іншых асабліва выявіцца, калі ад яго будзе залежаць лёс амаль дзесяцімільённай краіны.

І выступ Лукашэнкі супраць рэфэрэндуму па раённым радыё ў самым пачатку кампаніі выглядаў цалкам лягічным з пункту гледжаньня стварэньня ўмоваў, пры якіх і зрабіўся магчымым ягоны прыход да ўлады.

# ЛЮТЫ

**1 лютага.** Удзельнікі Першай Асамблеі прадпрымальнікаў Беларусі заявілі пра намер падтрымаць БНФ у справе рэфэрэндуму, аднак адмовіліся ад гэтага пасьля абяцаньня кіраўніка ўраду зьменшыць падаткі.

**2 лютага.** З ініцыятывы Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады ўтвораны блёк «Новая Беларусь».

**6 лютага.** З прычыны недахопу паперы прыпынены выхад шэрагу дзяржаўных газэт, у тым ліку «Советской Белоруссии», «Белорусской нивы», «Мінскай праўды».

**7 лютага.** На зьезьдзе палітвязьняў створаная Беларуская асацыяцыя ахвяраў палітычных рэпрэсіяў.

**7 лютага.** У Маастрыхце (Нідэрлянды) падпісанае пагадненьне аб утварэньні Эўрапейскага Зьвязу.

**7 лютага.** У Расеі зачынілася апошняя калёнія для палітзьняволеных.

**10 лютага.** У межах акцыі «Даць надзею» вайскова-транспартны самалёт ЗША даставіў у Менск мэдыкамэнты.

**11 лютага.** Пачаўся страйк шахцёраў у Салігорску.

**11 лютага.** Прыбраныя бюсты Маркса і Леніна перад былым будынкам ЦК КПБ (з пачатку 1992 — будынак Вярхоўнага Савету).

**13 лютага.** Цэнтральная камісія па выбарах і рэфэрэндумах зарэгістравала Ініцыятыўную групу і пытаньне, якое выносіцца на рэфэрэндум.

**14 лютага.** У Менску на сустрэчы кіраўнікоў СНД падпісаная заява аб недапушчэньні ўжываньня сілы супраць краінаў СНД.

**15 лютага.** Сойм БНФ абнародаваў падпісныя лісты за рэфэрэндум.

**17 лютага.** Машыністы чыгункі Менску і Воршы абвясьцілі перадстрайкавы стан.

**19 лютага.** ВС Расеі прыпыніў дзейнасьць Пагадненьня СНД аб вяртаньні нацыянальных культурных каштоўнасьцяў краінам паходжаньня.

**21 лютага.** Рада Бясьпекі ААН накіравала міратворчыя сілы ў Югаславію.

**23 лютага.** Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў (БЗВ) ініцыявала падпісаньне пагадненьня на выпадак пагрозы сувэрэнітэту Беларусі.

**26 лютага.** У Хэльсынкі у палацы «Фінляндыя» Станіслаў Шушкевіч падпісаў Заключны акт Нарады ў справе бясьпекі і супрацоўніцтва ў Эўропе.

## ВЫБАРЫ — ТОЛЬКІ ПАВОДЛЕ НОВАГА ДЭМАКРАТЫЧНАГА ЗАКОНУ

Мажарытарная сыстэма (выбары дэпутатаў па акругах) ва ўмовах Беларусі — і ў 1992-м, і пазьней, як і ва ўсіх краінах з адсутнасьцю дэмакратычных традыцый і рэальнага падзелу ўладаў, мела істотныя недахопы. Галоўны зь іх — вялікая залежнасьць кандыдата, а затым і дэпутата, ад органаў улады — як мясцовых, гэтак і цэнтральных.

Прычына — у кантролі ўлады над выбаршчыкамі. Маю на ўвазе не працэдуру вылучэньня і падліку галасоў (хоць і гэта было), а фармаваньне грамадзкай думкі адносна кандыдата ці дэпутата.

Напрыклад, пасьля маёй перамогі на выбарах у сакавіку 1990-га мясцовае віцебскае начальства на нейкія просьбы жыхароў Чыгуначнага раёну (ён цалкам супадаў зь межамі маёй акругі) адказвала: «Вы абралі Навумчыка — цяпер да яго і зьвяртайцеся, каб ён дапамог вам адрамантаваць дарогу». Пазьней, калі наладзіліся адносіны са старшынём райвыканкаму (я сапраўды дапамагаў яму «выбіваць» у Саўміне ці Дзяржснабе патрэбныя для камунальнікаў матэрыялы), такіх заяваў зрабілася меней. Але паводле распаведаў дэпутатаў-франтаўцаў, ведаю, што ў некаторых

адносіны зь мясцовым начальствам ня склаліся, і ледзь ня ўсе недахопы ў раёне «вешалі» на іх.

Вось гэтая патрэба пастаянна займацца «надзённымі праблемамі» акругі (капітальны рамонт жытла, пракладка новай каналізацыі, асфальтаваньне дарогі, сьпіс можа атрымацца вельмі даўгі) — займала шмат часу. І, канешне, ішла на карысьць выбаршчыкам. Толькі трэба ўлічыць, што шыфэр, які ты «выбіў» у намесьніка старшыні Дзяржснабу, мог бы пайсьці на такія самыя патрэбы іншай акругі, дзе дэпутат быў менш спрытны (праўда, у пачатку 1990-ых была вялікая верагоднасьць, што той самы шыфэр паводле карупцыйнай схемы быў бы прададзены ў некалькі разоў даражэй камэрцыйнай фірме, а грошы начальства і прадпрымальнік падзялілі б паміж сабой).

Існавала і безьліч прыватных праблемаў у выбаршчыкаў — ад традыцыйнай адсутнасьці жытла да канфліктных сытуацыяў з начальствам (альбо са сьвятаром — у адным выпадку мне нават давялося зьвяртацца да мітрапаліта Філарэта; ён паставіўся да просьбы ўважліва і дапамог).

І ня так ужо й рэдка можна было пачуць: «Вы там у Менску займаецеся сваёй палітыкай — лепш бы нам, простым людзям, тут дапамагалі!» Канешне, у людзей была свая праўда — ды вось толькі ня кожны разумеў, што бяз гэтай самай «палітыкі» немагчыма наладзіць жыцьцё «простым людзям».

Увогуле мушу прызнацца, што ў нейкі момант я зразумеў, што калі буду займацца выключна

праблемамі акругі — ператваруся ў «таўкача» (была такая неафіцыйная прафэсія за савецкім часам на кожным вялікім прадпрыемстве — чалавек езьдзіў па ўсім Саюзе і «выбіваў» патрэбныя матэрыялы, запчасткі, альбо «сватаў» прадукцыю роднага заводу). І ні на што іншае (на тую самую палітыку) сілаў ужо не застанецца. Але — нікуды ня дзенесься, мусіў займацца.

Цяпер я разумею, што тыя клопаты былі на карысьць і мне, і іншым калегам-дэпутатам. Быў назапашаны досьвед дзеяньняў у неспрыяльных умовах, досьвед перамоваў зь людзьмі, якія часта ставіліся да цябе апрыёры падазрона, выпрацавалася здольнасьць хутка разьбірацца ў нейкіх невядомых табе галінах. Увогуле, дэпутаты Апазыцыі БНФ у завяршэньні кадэнцыі Вярхоўнага Савету ўяўлялі сабой абсалютна ўнікальную групу сапраўдных палітыкаў з досьведам дзяржаўнай дзейнасьці, якой Беларусь ніколі (ва ўсялякім разе, за апошнія стагодзьдзі) ня мела. Такі досьвед немагчыма было атрымаць у акадэміях, на звычайнай дзяржаўнай службе, хай і на вельмі высокіх пасадах — альбо ў апазыцыйнай партыі. Ён набываўся толькі сумяшчэньнем палітычнай апазыцыйнай дзейнасьці ў парлямэнце, рэгулярнымі сустрэчамі з выбаршчыкамі і досьведам будаўніцтва новаўтворанай дзяржавы.

Вызначэньне «апазыцыйнай» я дадаю таму, што праўладныя дэпутаты пераважна выконвалі волю кіраўніцтва — фактычна, яны не прымалі палітычных рашэньняў. А дэпутатам апазыцыі

гэтыя рашэньні даводзілася прымаць ледзь не штодня.

Гэта былі ўнікальныя трыццаць чалавек — але пасьля 1995 году іх досьвед ня быў скарыстаны. А новых, раўназначных ім палітыкаў, не зьявілася.

Але занятак будзённымі клопатамі «сваёй» акругі парадзіў у мяне глыбокае перакананьне, што ўсе гэтыя хай і вельмі важныя для людзей, але не палітычныя праблемы — ня справа дэпутата парлямэнту, гэтым павінны займацца муніцыпальныя дэпутаты.

Датэрміновыя выбары Беларускі Народны Фронт прапаноўваў праводзіць паводле новага выбарчага закону і паводле новых прынцыпаў, якія, як мы былі перакананыя, істотна прасунулі б Беларусь на шляху да дэмакратыі і падзелу ўладаў. Мы меркавалі, што датэрміновыя выбары маюць сэнс толькі тады, калі яны пройдуць менавіта паводле дэмакратычнага закону, і зусім лягічным выглядала зьвязаць гэтыя два пытаньні — новы закон і новыя выбары.

Прыняць такі закон мы імкнуліся адразу, як пачаў працу Вярхоўны Савет XII скліканьня — яшчэ былі жывыя ў памяці недасканаласьці таго, паводле якога нас абіралі. Але камуністы адкідвалі гэтую прапанову. Пасьля абвяшчэньня ў жніўні 1991-га Незалежнасьці неабходнасьць выбараў новага найвышэйшага заканадаўчага органу ўлады зрабілася першаснай мэтай, і хоць парлямэнцкая большасьць на новыя выбары не пагаджалася — мы падрыхтавалі праект новага

Закону аб выбарах. Які і прапанавалі вынесьці на рэфэрэндум.

У працы над Законам удзельнічалі, у той або іншай ступені, амаль усе дэпутаты Апазыцыі БНФ, але найбольш актыўна — Зянон Пазьняк, Галіна Сямдзянава. Працавала і група экспэртаў, якую ўзначальвала кандыдат юрыдычных навук Марына Сатоліна.

У чым жа палягалі асноўныя палажэньні нашага Закону, якія кардынальна мяняў выбарчую сыстэму?

Па-першае, іншым быў прынцып фармаваньня парлямэнту: Вярхоўны Савет абіраўся паводле мажарытарна-прапарцыйнай сыстэмы: палова дэпутатаў, як і раней, абіралася па акругах, палова — паводле партыйных сьпісаў.

Па-другое, скарачалася колькасьць дэпутатаў — ад 360 да 160.

Па-трэцяе, парлямэнт рабіўся прафэсійным. Гэта значыць, што адзіным месцам працы дэпутата быў Вярхоўны Савет.

Па-чацьвёртае, істотна мянялася сыстэма ўжо на ўзроўні рэгістрацыі выбаршчыкаў: уводзіўся прынцып добраахвотнай іх рэгістрацыі (у галасаваньні ўдзельнічалі толькі тыя грамадзяне Беларусі, якія самі выказалі такое жаданьне. І менавіта ад колькасьці зарэгістраваных выбаршчыкаў вылічваліся працэнты галасоў. пададзеных за кандыдатаў).

Нарэшце, у галасаваньні ня бралі ўдзел вайскоўцы. Ніжэй падрабязна патлумачу большасьць новаўвядзеньняў, але пра гэтае скажу адразу, бо

ў чытача яно найхутчэй выкліча неразуменьне і непрыманьне. Справа ў тым, што ў 1992 годзе вайсковыя часткі, разьмешчаныя на тэрыторыі Беларусі, складаліся ня толькі з грамадзянаў Беларусі, і нават так: пераважна — не з грамадзянаў Беларусі. У СССР існаваў прынцып: салдаты накіроўваліся служыць ня ў тыя рэспублікі, зь якіх прызываліся. Напрыклад, у маім ракетным дывізіёне, які месьціўся ў Заслонаве Лепельскага раёну і складаўся з крыху больш чым сотні вайскоўцаў (прыблізна 90 салдат і 15 афіцэраў і прапаршчыкаў) і ў 1984-86, калі я там служыў, зь Беларусі быў толькі адзін салдат і толькі адзін афіцэр (аўтар гэтых радкоў). Большасьць — з Расеі, шмат хто зь Сярэдняй Азіі, з Украіны, некалькі чалавек з каўкаскіх рэспублік. Канешне, у 1992 годзе ўжо дзейнічаў Закон аб грамадзянстве, але з прычыны закрытасьці войска пракантраляваць яго выкананьне пры галасаваньні было вельмі цяжка. Нарэшце, у войску, дзе галоўным прынцыпам зьяўляецца «адзінаначальле», дзе салдаты і афіцэры цалкам залежныя ад камандзіра, нават пры самым што ні ёсьць незалежным міжнародным кантролі вынікі галасаваньня заўсёды будуць такія, як скажа камандзір (у арсэнале якога ёсьць безьліч спосабаў пакараць тое або іншае падразьдзяленьне, калі выявіцца, што нехта ў ім прагаласаваў ня так, як трэба).

Ну а цяпер — пра іншыя аспэкты Закону.

Асаблівасьцю мажарытарнай сыстэмы ў Беларусі было тое (зрэшты, застаецца і цяпер, калі я пішу гэтыя радкі), што выканаўчая ўлада магла

кантраляваць увесь выбарчы працэс, пачынаючы ад фармаваньня ўчастковых камісіяў і сканчаючы падлікам галасоў на ўчастках. У 1992 годзе кантроль быў, канешне, значна меншы, чым потым пры Лукашэнку, але існаваў. У Менску ці ў Навапалацку, дзе дэпутаты БНФ былі прадстаўленыя ў мясцовых саветах, Фронт меў болей магчымасьцяў супраціўляцца ціску — але ў шмат якіх гарадах і асабліва ў вясковых раёнах дэмакратам было вельмі няпроста.

На вясновых выбарах 1990 году ў Вярхоўны Савет XII скліканьня ў правінцыі на выбар грамадзянаў уплывала здольнасьць кандыдата выканаць нейкую «канкрэтную карысную працу» — заасфальтаваць дарогу, дастаць шыфэр, «выбіць» для камунальных патрэбаў вельмі дэфіцытныя трубы (гэтыя трубы мне на просьбу старшыні «майго» Чыгуначнага выканкаму Віцебску даводзілася выпрошваць аж у Мясьніковіча — першага намесьніка старшыні Савету міністраў). Зразумела, што магчымасьці кандыдата ад улады — старшыні райвыканкаму або кіраўніка ведамства — былі непараўнальна большыя, чым выкладчыка альбо рабочага-актывіста страйкаму, якія вылучаліся ад БНФ або дэмакратычных партыяў.

Пра асноўныя палажэньні нашага выбарчага закону Марына Сатоліна распавяла ў першым нумары новай газэты «Пагоня», якая выходзіла ў Горадні пад рэдакцыяй Сяргея Астраўцова.

«Аўтары праекту Закону аб выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь» улічылі недахопы

дзеючага заканадаўства, уласны вопыт удзелу ў выбарчых кампаніях, сусьветную практыку, — пісала Сатоліна. — Памяншэньне колькасьці дэпутатаў, перавод іх на прафэсійную парлямэнцкую працу дае, перш за ўсё, больш высокі якасны ўзровень прымаемых рашэньняў».

Мы невыпадкова прапанавалі зьменшыць колькасьць акругаў, і эканомія сродкаў на дэпутацкі корпус была зусім не галоўная прычына.

У Вярхоўным Савеце XII скліканьня выбарчых акругаў было 310 — дарэчы, апошняй зь ліку, 310-й, была Шклоўская выбарчая акруга, па якой быў абраны дырэктар саўгасу «Гарадзец» Аляксандар Лукашэнка.

Паводле лёгікі, падзел на акругі мусіў вызначацца колькасьцю выбаршчыкаў і акругі мусілі б мець прыблізна роўную іх колькасьць. Аднак на самой справе гэты прынцып выконваўся толькі ў тым сэнсе, што гарадзкія акругі былі паміж сабой роўныя, і «вясковыя» былі паміж сабой роўныя (хоць здараліся і выключэньні). Але колькасьць выбаршчыкаў у гарадзкой акрузе (асабліва гэта тычылася Менску) магла быць большай за колькасьць у вясковай у паўтара, а то і ў два разы. Такім чынам, «вага» мандатаў была няроўная: за дэпутатам ад сталічнага «спальнага» раёну, Серабранкі ці Паўднёвага Захаду, ці Ўручча, выбаршчыкаў стаяла болей, чым за дэпутатам ад Лёзьненскага ці Глускага раёну, а мелі яны аднолькавы голас. Можна дадаць, што, як правіла, дэпутаты Апазыцыі БНФ былі абраныя ў гарадах, прадстаўнікі камуністычнай намэнклятуры —

у вясковых раёнах. Такім чынам, за «сярэднеарытмэтычным» дэпутатам БНФ было больш выбаршчыкаў, чым за «сярэднеарытмэтычным» намэнклятурнікам.

Зрэшты, у гэтым не было б вялікай бяды (нідзе ў сьвеце акругі ня роўныя з матэматычнай дакладнасьцю, хоць такога дысбалянсу, як было ў нас, няма), калі б такі падзел не стварыў надзвычай спрыяльныя ўмовы для кантролю ўлады за выбарчым працэсам.

Я не агаварыўся, калі напісаў — «дэпутат ад Глускага раёну», хоць правільна было б — ад Глускай выбарчай акругі.

Як правіла, межы акругаў супадалі з адміністрацыйным падзелам Беларусі на раёны. У рэгіёнах адна акруга адпавядала аднаму раёну, у гарадах, дзе насельніцтва ў раёнах было болей (напрыклад, 300-тысячны Віцебск быў падзелены на тры раёны) у склад раёну часта ўваходзіла і па дзьве акругі. А ў Менску на дзевяць раёнаў прыпадала больш за 40 акругаў — у сярэднім, па чатыры на раён. Але адзін прынцып заставаўся нязьменным: акруга ўваходзіла ў адзін адміністрацыйны раён (наколькі я ведаю, акругаў, падзеленых паміж раёнамі, не было ўвогуле). Гэты прынцып захоўваўся традыцыйна яшчэ з самых першых скліканьняў Вярхоўнага Савету (пры тым што колькасьць дэпутатаў зьмянялася, напрыклад, XI скліканьне складалася з 485 дэпутатаў ад такой самай колькасьці акругаў, а наша, XII-ае — з 310 (плюс 50 дэпутатаў ад грамадзкіх арганізацый). Выбары ў БССР, як і ва ўсім СССР,

мелі фармальны характар, кандыдат быў адзін, за арганізацыю кампаніі адказвалі райкамы партыі, і такі падзел (супадзеньне акругі зь межамі кантраляванага райкамам раёну) істотна спрашчаў арганізацыю так званых выбараў.

З утварэньнем Народнага Фронту і пачаткам жорсткага супрацьстаяньня паміж ім і кіруючай камуністычнай партыяй, улада выкарыстоўвала сумяшчэньне выбарчых акругаў з адміністрацыйным падзелам для даволі эфэктыўнага кантролю за выбарамі. Магчымасьці былі разнастайныя і эфэктыўныя: сакратар райкаму мог сабраць кіраўнікоў прадпрыемстваў ды парткамаў і даць ім адпаведныя ўказаньні, такія самыя ўказаньні даваў начальнік райана (раённага аддзелу адукацыі) дырэктарам школаў (а ўчастковыя камісіі і выбарчыя ўчасткі звычайна месьціліся ў школах), начальнік міліцыі кантраляваў сваю сыстэму, упаўнаважаны КДБ — сваю. Ну і, канешне, апэратыўна дзейнічаў рэдактар раённай газэты, які звычайна ўваходзіў у склад бюро райкаму партыі. На карысьць «свайго» кандыдата чыноўнікі кідалі ўсё, што маглі — а маглі яны шмат. Адначасна ішла энэргічная кампанія (з падключэньнем мясцовай падкантрольнай прэсы) супраць непажаданага ўладам кандыдата ад БНФ. І вельмі зручнай для начальства была каардынацыя гэтай кампаніі з аднаго цэнтру. Тут ужо ўсялякія нестыкоўкі ці выпадковасьці выключаліся.

З сыходам у жніўні 1991-га камуністычнай партыі з палітычнай арэны функцыі райкамаў перайшлі да райвыканкамаў — але магчымасьці

ўплыву мясцовай улады на вынікі выбараў у рэгіёнах, па-сутнасьці, засталіся тыя самыя.

Прынцып, прапанаваны намі, ламаў гэты сцэнар.

Стварэньне замест 310 усяго толькі 80 акругаў азначала, што ў рэгіёнах, у вясковых раёнах, дзе пазыцыі намэнклятуры былі найбольш моцныя, на адну выбарчую акругу прыпадала б па чатыры, а то і па пяць раёнаў. Гэта хоць і ня зводзіла магчымасьці мясцовага начальства кантраляваць выбары да нуля, але істотна іх зьмяншала.

Пазьней, пры Лукашэнку, замест Вярхоўнага Савету будзе створаная Палата прадстаўнікоў з 110 абраных па акругах дэпутатаў. Але пры той канцэнтрацыі непадзельнай улады, якую стварыў Лукашэнка, колькасьць ужо ня мела прынцыповага значэньня, як і супадзеньне ці несупадзеньне межаў акругаў з адміністрацыйным падзелам: навыкі здушэньня іншадумства і ўменьне фальсыфікацыі дасягнулі такіх памераў, якія і ня сьніліся кебічаўскім чыноўнікам.

Але тады, у 1992-м, нашая прапанова, калі б яна была рэалізаваная, мела б станоўчы вынік для дэмакратызацыі выбарчага працэсу.

Рэвалюцыйнай была прапанова ўвесьці добраахвотную рэгістрацыю выбаршчыкаў. Ізноў працытую тлумачэньне кіраўніцы рабочай групы Марыны Сатолінай: «Закон аб выбарах павінен улічваць увесь спэктар палітычных правоў грамадзянаў, у тым ліку і права на сьвядомую адмову ад удзелу ў выбарах. Таму праект Закону распаўсюджвае паняцьце «выбаршчык» толькі

на тых, хто мае права ўдзельнічаць у выбарах, а да таго ж выказаў такое жаданьне. Пасьля таго, як сьпісы выбаршчыкаў будуць складзеныя, у астатніх патэнцыяльных выбаршчыкаў застаецца магчымасьць узяць удзел у выбарах: у любы момант да дня галасаваньня можна ўключыць сваё прозьвішча ў дадатковы сьпіс. Як відаць, тут улічана ўсё: і абыякавасьць (пэўных грамадзянаў — С.Н.) да таго, хто будзе кіраваць дзяржавай, і сьвядомае нежаданьне ўдзельнічаць у выбарах, і жаданьне сказаць «так» ці «не» кандыдатам, партыям, рухам».

Сапраўды, такі падыход быў ляяльны да якой заўгодна грамадзянскай пазыцыі: і абыякавай, і зацікаўленай. І калі з палітычна актыўнымі грамадзянамі ўсё зразумела, дык пра абыякавых варта сказаць асобна.

Вярхоўны Савет XII скліканьня, паводле Канстытуцыі, складаўся з 360 дэпутатаў. Але ад першага дня сэсіі — 15 траўня 1990 году да апошняга дня ягоных канстытуцыйных паўнамоцтваў 9 студзеня 1996-га (калі пачаў працу наступны Вярхоўны Савет) — заўсёды заставалася больш за дзесяць вакантных месцаў. Калі не памыляюся, максымальная колькасьць абраных дэпутатаў, якая калі-небудзь была — 346. Лічба мянялася — хтосьці складаў дэпутацкія паўнамоцтвы ( як, напрыклад, мітрапаліт Філарэт або касманаўт Кавалёнак), нехта прызначаўся міністрам ці віцэ-прэм’ерам і ня мог сумяшчаць працу з дэпутацтвам паводле закону, хтосьці адыходзіў у лепшы сьвет.

З выбарамі ад грамадзкіх аб'яднаньняў было проста: на чарговым пасяджэньні Савету вэтэранаў галасавалі за новага прадстаўніка, і на бліжэйшай сэсіі Вярхоўны Савет зацьвярджаў ягоныя паўнамоцтвы. А вось па акругах запоўніць вакантныя месцы было складана. У першыя пару гадоў па некалькіх акругах няспынна прызначаліся новыя выбары — і нязьменна дэпутат не абіраўся. Звычайна гэта тычылася менскіх акругаў, дзе ўлада мела меней магчымасьцяў бескантрольна сфальсыфікаваць вынікі. БНФ вылучаў сваіх кандыдатаў (так, на давыбарах балятаваліся і намесьнік старшыні Сойму БНФ Юры Хадыка, і будучы кіраўнік Ініцыятыўнай групы па рэфэрэндуме Ўладзімер Анцулевіч) — але выбары не адбываліся: на ўчасткі не прыходзіла патрэбнай колькасьці выбаршчыкаў (паводле закону, патрабавалася ня менш за 50%). У некаторых правінцыйных акругах, дзе начальству трэба было правесьці свайго кандыдата, патрэбная колькасьць ўдзельнікаў набіралася (ці, калі больш дакладна, яе «набіралі»), а ў Менску, дзе балятаваліся кандыдаты ад БНФ — не.

Гэты прынцып (для прызнаньня выбараў сапраўднымі трэба ўдзел ня менш як паловы выбаршчыкаў) застанецца і ў будучым — увосень 1994-га, калі прымаўся новы Закон аб выбарах, нягледзячы на прапановы Апазыцыі БНФ зьнізіць плянку ўдзелу, ужо пад ціскам Лукашэнкі Вярхоўны Савет пакінуў ранейшую колькасьць. Вынік быў тым, які і патрабаваўся прэзыдэнту ў ягоным імкненьні зьвесьці легітымнасьць парля-

мэнту да мінімуму: у траўні 1995 году па многіх акругах выбары не адбыліся, і новы Вярхоўны Савет быў даабраны толькі ў сьнежні.

Мы лічылі, што залежнасьць фармаваньня найвышэйшага заканадаўчага органу ўлады ад тых, хто абыякавы да будучыні гэтай дзяржавы — гэта пытаньне нават ня лёсу дэмакратыі, а нацыянальнай, дзяржаўнай бясьпекі. Сапраўды, адсутнасьць легітымнага парлямэнту ня толькі стварае ўмовы для дысбалянсу ў падзеле ўладаў (а часам і наўпрост узмацненьня аўтарытарызму), але і можа быць скарыстаная зьнешнімі сіламі, не зацікаўленымі ва ўмацаваньні дзяржаўнасьці краіны.

Гэты аспэкт мы таксама ўлічвалі, прапануючы свой варыянт Закону аб выбарах.

Дарэчы, на выбарах 1995 году галоўнай прычынай была нават ня нізкая яўка, а тое, што многім кандыдатам, якія па выніках выбараў лідзіравалі ў сваіх акругах, не ўдалося набраць больш паловы галасоў выбаршчыкаў (50% плюс адзін голас). Некаторым кандыдатам ад БНФ не хапіла некалькіх дзясяткаў галасоў. (Вось жа як не пашанцавала! Нешанцунак, праўда, быў сплянаваны прадстаўнікамі прэзыдэнцкай адміністрацыі і мясцовай уладай.)

Дык вось, у праекце, які Народны Фронт выносіў на рэфэрэндум у 1992 годзе, быў закладзены прынцып, які ня ставіў выбары ў залежнасьць ад апатычнай, абыякавай часткі грамадзтва — абраным лічыўся кандыдат, які набраў галасоў больш за супернікаў, але ня менш чым 25% ад

агульнай колькасьці грамадзянаў, якія ўдзельнічалі ў галасаваньні.

Другую палову дэпутатаў (80) мы прапаноўвалі абраць па партыйных сьпісах.

У 1992 годзе ў Беларусі склалася асаблівая сытуацыя з партыямі. Пасьля прыпыненьня 25 жніўня 1991 году дзейнасьці КПБ-КПСС самай вялікай і структураванай палітычнай арганізацыяй быў Беларускі Народны Фронт. У розныя часы называлася розная колькасьць ягоных членаў (хоць у 1992 годзе, калі яшчэ не была ўтвораная Партыя БНФ, фіксаванага членства не было). Таму даводзіцца карыстацца вызначэньнем «прыхільнікі», якое, зноў жа, можна разумець дваіста. Былі людзі, якія і ў Менску, і ў рэгіёнах удзельнічалі ва ўсіх акцыях і кампаніях Фронту, распаўсюджвалі ўлёткі і франтаўскую літаратуру. Такіх людзей, мне падаецца, налічвалася ня менш за 10 тысяч. Значна больш было тых, хто падтрымліваў Фронт сваім удзелам у мітынгах у пэўныя крытычныя моманты (як у лютым 1990-га, калі перад выбарамі ў Вярхоўны Савет на тагачаснай плошчы Леніна сабраліся 100 тысяч чалавек, або ў тым самым жніўні 1991-га). Тут лік мог ісьці на дзясяткі тысяч. Ну і нарэшце тыя, хто ў мітынгах ды акцыях ня ўдзельнічаў, але падзяляў асноўныя праграмныя палажэньні Фронту, галасаваў за ягоных кандыдатаў. Як паказаў збор подпісаў за рэфэрэндум, у 1992 годзе такіх было ня менш за 400 тысяч чалавек; на будучых прэзыдэнцкіх выбарах за старшыню БНФ прагаласуе каля 700 тысяч выбаршчыкаў.

І ўсё ж, у пачатку 1992-га некалькі тысяч чалавек маглі сьмела пра сябе сказаць: «Я — у Фронце».

Іншыя дэмакратычныя палітычныя арганізацыі, афармленыя як партыі, былі значна меншыя. Самай вялікай і ўплывовай зь іх была Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада (на чале зь Міхасём Ткачовым) — тут можна было казаць пра тысячу-паўтары членаў, да таго ж членамі партыі былі дзясятак дэпутатаў Вярхоўнага Савету (большасьць зь якіх уваходзіла ў склад Апазыцыі БНФ). Была Аб'яднаная дэмакратычная партыя (яе ўзначальваў Аляксандар Дабравольскі) прыблізна з такой самай колькасьцю членаў, як і БСДГ і адным дэпутатам у парлямэнце (Аляксандрам Сьпіглазавым).

Генадзь Карпенка ўзначальваў новаўтвораную Партыю народнай згоды, праграмныя мэты якой фармуляваліся даволі няўцямна, а ў склад кіруючых органаў уваходзілі, акрамя дэмакратаў, прадстаўнікі намэнклятуры. ПНЗ дыстанцыявалася ад БНФ. (Пазьней, у 1999-м, за некалькі тыдняў да сьмерці, у часе свайго прыезду ў Прагу Генадзь Карпенка скардзіўся мне, што, за рэдкім выключэньнем, большасьць кіраўнікоў партыі яму здрадзілі. Думаю, што яны ніколі яго пасапраўднаму не падтрымлівалі, дый ініцыятыва стварэньня партыі належала не Карпенку.)

Калі я кажу, што партыі мелі сваіх прадстаўнікоў у Вярхоўным Савеце — дык разумею пад гэтым тое, што, за выключэньнем БНФ, да выбараў Вярхоўнага Савету ў 1990 годзе гэтых

арганізацый увогуле не існавала, яны ствараліся, калі парлямэнт ужо працаваў, звычайна пры ўдзеле саміх дэпутатаў (як БСДГ).

Мы, дэпутаты БНФ, не разглядалі гэтыя партыі як канкурэнтаў, а наадварот, спрыялі іх аўтарытэту. Выступаючы на сэсіях Вярхоўнага Савету, напрыклад, па пытаньнях сродкаў масавай інфармацыі, гаворачы пра доступ да эфіру ці газэтных палосаў Беларускага Народнага Фронту, я заўсёды дадаваў — «і іншых дэмакратычных партыяў». Трэба прызнаць, што пазьней з боку гэтых самых партыяў мы далёка не заўсёды сустракалі ўзаемнасьць — я ня чуў, каб у Вярхоўным Савеце наступнага, XIII скліканьня дэпутаты ад дэмакратычных партыяў аналягічна казалі пра Фронт, які ўжо ня быў прадстаўлены ў парлямэнце.

У 1992 годзе партыі толькі фармаваліся — але яны ўжо мелі даволі выразныя праграмы, мелі прафэсіяналаў, і таму іх прадстаўніцтва ў парлямэнце было б на карысьць дзяржаве, разьвіцьцю грамадзкіх інстытуцыяў.

Як адзначала Марына Сатоліна, «новыя выбары павінны стаць каталізатарам умацаваньня партыяў, іх палітычнага акрыяньня, высьвятленьня магчымасьцяў і здольнасьці браць на сябе абавязкі, а ня толькі раздаваць абяцаньні… Такая практыка прынятая ў шэрагу краін, дзе выбары праводзяць на шматпартыйнай аснове: у Нямеччыне, Італіі, Даніі, Швэцыі».

# ІНСТЫНКТ САМАЗАХАВАНЬНЯ НАМЭНКЛЯТУРЫ ЎРАЖВАЕ

Адразу пасьля рашэньня Сойму БНФ аб зборы подпісаў за рэфэрэндум і ўтварэньня Ініцыятыўнай групы як каардынатар (яшчэ не абраны старшынём) Уладзімер Анцулевіч сказаў карэспандэнту газэты «Навіны БНФ» Уладзімеру Панаду, што патрэбная колькасьць подпісаў будзе сабраная менш чым за два месяцы: «Мы мяркуем, што ў зборы подпісаў будуць удзельнічаць розныя партыі і палітычныя арганізацыі».

І сапраўды, ужо 4 студзеня ў 363-ім пакоі Дому ўраду, які быў замацаваны за Апазыцыяй БНФ, прайшла нарада дэпутатаў-фронтаўцаў з прадстаўнікамі пяці партый і рабочага руху. Лідэры чатырох партый падтрымалі ідэю рэфэрэндуму, але Сацыял-дэмакратычная грамада заняла асобную пазыцыю, заявіўшы, што рашэньне пра падтрымку ці непадтрымку рэфэрэндуму будзе разглядаць на пасяджэньні кіраўнічага органу (пазьней БСДГ вырашыла падтрымаць рэфэрэндум).

«Грамадоўцы» сапраўды займалі асобную пазыцыю па некаторых пытаньнях — напрыклад, на гэтай нарадзе было заяўлена, што партыя не зьяўляецца часткай БНФ. Гэта было праўдай, але праўдай было і тое, што члены цэнтральнага органу партыі ўваходзілі ў склад дэпутацкай Апазыцыі БНФ, а Алег Трусаў быў адным з двух

намесьнікаў (разам з Уладзімерам Заблоцкім) старшыні апазыцыі.

Крыху пазьней «Грамада» заявіла пра стварэньне руху «Новая Беларусь», які меўся аб’яднаць дэмакратычныя партыі на больш памяркоўнай, чым у БНФ, плятформе. У чым палягала гэтая «памяркоўнасьць» — не было патлумачана, бо ў галоўных праграмных палажэньнях праграмы, напрыклад, БНФ і Грамады супадалі. Уголас гэта не вымаўлялася, але было зразумела: ініцыятары блёку «Новая Беларусь» жадалі дыстанцыявацца ад іміджу БНФ як «радыкалаў» (хоць самі цудоўна разумелі, што імідж гэты быў штучна створаны яшчэ камуністычнай прэсай). Тым часам як Васіль Быкаў, наадварот, заклікаў усе партыі і рухі не распыляць сілы і аб’яднацца вакол БНФ. Спроба стварэньня новага блёку выклікала дыскусію ў прэсе, але ўжо у канцы 1992-га блёк ня ўзгадвалі.

І ўсё ж, галоўным было тое, што нягледзячы на некаторыя разыходжаньні дэмакратычныя партыі падтрымалі ідэю рэфэрэндуму і ўключыліся ў кампанію збору подпісаў.

Але асноўны цяжар у гэтай справе лёг на актывістаў Народнага Фронту.

Менавіта кіраўніцтву БНФ давялося фармаваць Ініцыятыўную групу (далей я буду яе так і называць, поўны афіцыйны назоў — Ініцыятыўная група рэспубліканскага рэфэрэндуму №1).

Ужо 14 студзеня Ініцыятыўная група падала ў Цэнтральную камісію заяву за подпісам Уладзімера Анцулевіча. У ёй паведамлялася

пра стварэньне групы і выказвалася просьба яе зарэгістраваць — у адпаведнасьці з артыкулам 10 Закону «Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)».

Прыводзілася і фармулёўка прапанаванага на рэфэрэндум пытаньня: «Ці лічыце Вы неабходным датэрміновы роспуск Вярхоўнага Савету і правядзеньне ўвосень 1992 году выбараў у прафэсійны парлямэнт Рэспублікі Беларусь на падставе дэмакратычнага Закону аб выбарах, унесенага Апазыцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце?» (Пазьней фармулёўка будзе скарэктаваная, пра гэта ніжэй.)

У канцы заявы адзначалася, што «паколькі мэта рэфэрэндуму прадугледжвае ўвядзеньне ў дзеяньне ўнесенага Апазыцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце новага Закону аб выбарах, а згодна з артыкулам 11 Закону аб рэфэрэндуме грамадзяне падчас збору подпісаў павінны мець магчымасьць азнаямленьня з поўным тэкстам рашэньня, просім Вас забясьпечыць апублікаваньне ў дзяржаўным друку праекту гэтага закону да пачатку збору подпісаў».

Гэта было натуральнае і законнае патрабаваньне — але яно не было выканана. Ніводная дзяржаўная газэта (акрамя «Народнай газэты», органу Вярхоўнага Савету) наш законапраект не надрукавала.

13 лютага Цэнтральная камісія зарэгістравала Ініцыятыўную групу. Як і было вызначана законам — на працягу месяца пасьля падачы заяўкі. Не пазьней — але і не раней, дзень у дзень. Было

зарэгістраванае і пытаньне, якое выносілася на рэфэрэндум, але камісія яго скарэктавала.

Нагадаю, што першапачаткова фармулёўка пытаньня гучала наступным чынам:

«Ці лічыце Вы неабходным датэрміновы роспуск Вярхоўнага Савету і правядзеньне ўвосень 1992 году выбараў у прафэсійны парлямэнт Рэспублікі Беларусь на падставе дэмакратычнага Закону аб выбарах, унесенага Апазыцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце?»

Цэнтральная выбарчая камісія са згоды Ініцыятыўнай групы скарэктавала фармулёўку пытаньня, цяпер яно гучала гэтак:

«Ці лічыце Вы неабходным правядзеньне ўвосень 1992 году выбараў у найвышэйшы орган дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь на падставе Закону «Аб выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь», праект якога ўнесены Апазыцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце, і ў сувязі з гэтым, датэрміновы роспуск цяперашняга Вярхоўнага Савету?»

У Ініцыятыўнай групе былі 28 дэпутатаў Вярхоўнага Савету, усе — члены Апазыцыі БНФ. Ніхто з так званага «Дэмакратычнага клюбу» да нас не далучыўся. Але гэта было зразумела.

Ужо ў першы дзень, калі паводле закону быў дазволены збор подпісаў, у Менску і ў іншых гарадах зьявіліся пікеты — зборшчыкі прапаноўвалі мінакам падтрымаць ідэю рэфэрэндуму. І хоць людзі ахвотна падпісваліся, выказвалі такое жаданьне, але кіраўніцтвам Ініцыятыўнай групы стаўка рабілася не на вулічны збор: закон

патрабаваў пазначыць дадзеныя пашпарта, а ён быў пры сабе, канешне, ня ў кожнага.

Значна лепей подпісы зьбіраліся па кватэрах: у 1992 годзе ў Менску пад’езды не замыкаліся, людзі адчынялі дзьверы.

Асабліва ўгаворваць не даводзілася: усе наслухаліся трансьляцый сэсій Вярхоўнага Савету і разумелі вартасьць большасьці дэпутацкага корпусу.

Магчыма таму, што ўжо зь першых дзён збор подпісаў набраў дынамічны тэмп, кіруючы апарат адразу ўжыў розныя мэтады супраціву. Тым больш што Закон даваў ім для гэтага добрыя магчымасьці.

Увогуле, збор подпісаў за рэфэрэндум, дый уся кампанія яшчэ раз ўразілі здольнасьцю чынавенства клапаціцца пра свае карпаратыўныя інтарэсы, яго інстынктам самазахаваньня і прадбачлівасьцю ў стварэньні казуістычных прававых сытуацый.

У працэсе прыняцьця Закону аб рэфэрэндуме ў 1991-ым мы, канешне, імкнуліся зрабіць яго максымальна дэмакратычным, унесьці свае папраўкі, часам гэта ўдавалася, часьцей — не, бо парлямэнцкая большасьць простай перавагай галасоў блякавала нашыя прапановы. Але нікому не вядомымі, сьціплымі чыноўнікамі ці то з апарату Савету Міністраў, ці то з апарату Вярхоўнага Савету былі закладзеныя «мэханізмы запаволенага дзеяньня» ў выглядзе двух-трох словаў — але здольныя пусьціць пад адхон справу тысяч людзей. І нават — калі не спыніць хаду гісторыі,

дык разьвярнуць краіну ў супрацьлеглы ад дэмакратыі бок — дакладна.

Некаторыя такія мэханізмы нам удалося вылічыць і выкрасьліць з закону яшчэ на этапе яго прыняцьця, але іншыя Вярхоўны Савет зацьвердзіў.

Закон аб рэфэрэндуме вельмі абцяжарваў працу Ініцыятыўнай групы, але некалькі палажэньняў былі асабліва адметныя і зрабіліся прадметам юрыдычных і палітычных дыскусій.

Іх было чатыры, пералічу ў той пасьлядоўнасьці, у якой зь імі нам давялося сутыкнуцца.

Першае — пытаньне рэфэрэндуму, на які трэба даць адназначны адказ — «так» або «не». Апанэнты заяўлялі, што ў пытаньні, прапанаваным БНФ, утрымліваецца некалькі пытаньняў, і таму на іх немагчыма даць адназначны адказ.

Другое — неабходнасьць заверыць кожны падпісны ліст старшынём і членам Ініцыятыўнай групы, які зьбіраў подпісы. Праціўнікі рэфэрэндуму сьцьвярджалі, што «завераны» — гэта азначае «уласнаручна падпісаны».

Трэцяе — подпіс старшыні Ініцыятыўнай групы мусіў быць завераны пячаткай мясцовага выканкаму. У некаторых выканкамах адмаўляліся ставіць пячатку.

І, нарэшце, чацьвёртае: у выпадку наяўнасьці патрэбнай колькасьці подпісаў, Вярхоўны Савет мусіў прызначыць дату рэфэрэндуму на чарговай сэсіі Вярхоўнага Савету. Закрыўшы вясновую сэсію, Шушкевіч сьцьвярджаў, што чарговая сэсія можа сабрацца толькі ўвосень — бо калі яе

прызначыць праз некалькі тыдняў або месяцаў пасьля папярэдняй, яна будзе лічыцца «нечарговай» альбо «надзвычайнай».

Некаторыя з штучна створаных цяжкасьцяў (гэтых самых «мэханізмаў запаволенага дзеяньня») нам удалося пераадолець, іншыя адыгралі фатальную ролю — адыгралі не самі па сабе, а з актыўным удзелам тых, хто не жадаў пакідаць свае дэпутацкія і чынавенскія крэслы.

# САКАВІК

**2 сакавіка.** Беларусь усталявала дыпляматычныя адносіны з Польшчай.

**3 сакавіка.** Войскі былога СССР пачалі пакідаць Літву.

**12 сакавіка.** У Салігорску пачаўся страйк шахцёраў.

**13 сакавіка.** Візыт у Менск міністра замежных справаў Нямеччыны Ганса-Дытрыха Геншэра, перамовы з кіраўніцтвам Беларусі і сустрэча з дэпутатамі Апазыцыі БНФ.

**14 сакавіка.** Стварэньне Антыкрызіснага камітэту і падпісаньне кіраўніцтвам Вярхоўнага Савету, Савету міністраў, лідэрамі палітычных партый, грамадзкіх арганізацый пагадненьня «Аб супольных дзеяньнях пры ўзьнікненьні пагрозы суверэнітэту Рэспублікі Беларусь».

**19 сакавіка.** Вярхоўны Савет прыняў рашэньне аб стварэньні самастойных узброеных сілаў Рэспублікі Беларусь.

**21 сакавіка.** На рэфэрэндуме ў Татарстане 62% удзельнікаў выказаліся за суверэнітэт.

**28 сакавіка.** Адбылася канфэрэнцыя па праблемах беларускага школьніцтва. Прадстаўнікі дзяржаўных органаў і дзяржаўных СМІ яе праігнаравалі.

**29 сакавіка.** Першы авіярэйс Менск-Франкфурт кампаніі «Люфтганза».

**30 сакавіка.** Старшыня Нацыянальнага банку Станіслаў Багданкевіч паведаміў, што першая партыя беларускіх грашовых адзінак («зайчыкаў») дастаўленая ў Беларусь.

**31 сакавіка.** У Маскве падпісаны Фэдэратыўная дамова. Татарстан і Чачня ня ўдзельнічалі ў падпісаньні.

# ФАКСЫМІЛЕ ЯК ПАЛІТЫЧНАЯ ПРАБЛЕМА

У тыя некалькі тыдняў, калі ішоў збор подпісаў, самым, напэўна, часьцей ужываным словам у кіраўніцтва Ініцыятыўнай групы — зразумела, пасьля слова «рэфэрэндум» — было «факсыміле».

Паводле закону, старшыня Ініцыятыўнай групы мусіў заверыць кожны падпісны ліст. Зразумела, што расьпісацца больш за сотню тысяч разоў было вельмі праблематычна.

Але ў законе не было сказана —«расьпісацца». А заверыць можна па-рознаму, і мы абралі факсыміле.

Праціўнікі рэфэрэндуму заявілі, што падпісныя лісты нельга прызнаваць сапраўднымі, паколькі на іх стаіць не ўласнаручны подпіс кіраўніка Ініцыятыўнай групы, а факсыміле ягонага подпісу.

Пра гэта казалі і некаторыя члены Цэнтральнай выбарчай камісіі і кіраўнікі выканкамаў, якія адмаўляліся ставіць пячаткі на падпісныя лісты.

І тут пачалося змаганьне з чынавенствам зброяй, якую яно само і абрала — юрыдычнай казуістыкай.




Збор подпісаў за рэфэрэндум

20 сакавіка Цэнтральная камісія прыняла адмысловую пастанову, якая забараняла засьведчваць подпіс, выкананы факсымільным спосабам.

Чыноўнікі стваралі пэўную юрыдычную калізію, якую, аднак, Ініцыятыўнай групе ўдалося пераадолець — скарыстаўшы закон больш дасканала, чым зрабілі гэта чыноўнікі і Цэнтральная камісія. Я б нават сказаў — віртуозна.

Але спачатку — пра ўласна факсыміле.

Факсыміле — гэта пячатка, якая дакладна паўтарае подпіс.

Ёсьць некалькі спосабаў капіяваньня подпісу. Гэта можа быць зроблена паліграфічным спосабам. Менавіта так у СССР рабілі на «ордэнскіх кніжках», дзе быў подпіс сакратара Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету, а пазьней — старшыні Прэзыдыюму. У часы «позьняга» Брэжнева ягоны подпіс як старшыні Прэзыдыюму ВС СССР паліграфічна друкаваўся на большасьці граматаў, якія прыкладаліся да залатых зорак Герояў Савецкага Саюзу і Сацыялістычнай працы, а таксама мэдалёў «Маці-гераіня». Падобным спосабам у некаторых краінах зьмяшчаюцца на грашовых купюрах подпісы кіраўнікоў нацыянальных банкаў. Існуе так званы «аўтапэн» — мэханізм, які пяром або флямастэрам выводзіць подпіс — яго выкарыстоўвалі найбольш папулярныя амэрыканскія астранаўты, каб праставіць подпіс на фатаздымках для калекцыянэраў, часта выкарыстоўваюць канцылярыі кіраўнікоў дзяржаваў — для падпісаньня вялікай колькасьці лістоў або тых самых фатаздымкаў. Напрыклад, у 1994 годзе я атрымаў ліст падзякі ад амэрыканскага прэзыдэнта Біла Клінтана за дапамогу ў арганізацыі ягонага візыту ў Менск — подпіс быў не ўласнаручны, а выкананы аўтапэнам (дарэчы, дата на лісьце была — 25 сакавіка, як мне патлумачыў амбасадар Дэйвід Сўорц — невыпадкова). Выкананы аўтапэнам подпіс складана адрозьніць ад арыгінальнага, добры спосаб — параўнаць з

аналягічным: яны супадуць ідэальна, пры тым што ніхто ня можа паставіць свой подпіс абсалютна аднолькава.

Факсыміле — напэўна, самы стары мэтад капіяваньня подпісу. Дэпутаты-камуністы, якія выступалі супраць рэфэрэндуму і сьцьвярджалі, што факсыміле — гэта ня подпіс (а значыць, ня мае юрыдычнай сілы), цудоўна ведалі сілу факсыміле.

Менавіта факсыміле сакратароў ЦК КПБ і сакратароў абкамаў выкарыстоўвалася на дакумэнтах, якія рассылаліся ў райкамы (у буйных гарадах, падзеленых на раёны, факсыміле мелі і сакратары гаркамаў). Факсыміле прастаўляліся на рашэньнях старшыні Савету міністраў і міністраў, якія рассылаліся ў аблвыканкамы, абласныя ўпраўленьні і галіновыя прадпрыемствы.

Некалькі дэпутатаў са складу нашага Вярхоўнага Савету зь ліку вышэйшай камуністычнай намэнклятуры маглі прыгадаць, што бачылі факсыміле генэральных сакратароў ЦК КПСС — арыгінальныя подпісы генсэкаў практычна не выходзілі са Старой плошчы ў рэспублікі і вобласьці.

У выпадку невыкананьня распараджэньня, заверанага такім спосабам, ад генсэка да сакратара гаркаму, кіраўніка чакалі непрыемнасьці рознай ступені цяжкасьці, аж да зьняцьця з пасады.

Гэта — у часы, на якія прыпаў кар’ерны росквіт большасьці дэпутатаў зь ліку намэнклятуры.

У гады ранейшыя, якія памяталі дэпутаты ад вэтэранскай арганізацыі, за невыкананьне пасылалі ў ГУЛАГ альбо ў Курапаты.

З 1930-ых гадоў Сталін даў права ставіць факсыміле свайго подпісу некалькім набліжаным асобам, у тым ліку і Бэрыі. Гэтая пачатка вырашала лёсы сотняў тысяч людзей, а часам і народаў — так, на распараджэньні аб высылцы калмыкаў стаіць факсыміле Сталіна.

У момант, калі я пішу гэтыя радкі, грамадзянскае заканадаўства абсалютнай большасьці краінаў прызнае факсыміле аналягам уласнаручнага подпісу. Але ў 1992 годзе не было заканадаўча вызначана, на дакумэнты якога кшталту можна ставіць факсыміле, а на якія — не. А гэта значыць, што дзейнічаў прынцып — тое, што не забаронена законам — тое дазволена.

Ініцыятыўная група зьвярнула ўвагу нашых апанэнтаў на частку 3 артыкулу 11 Закону аб рэфэрэндуме, дзе было сказана: «Кожны падпісны ліст павінен быць завераны старшынём і членам Ініцыятыўнай групы, які ажыцьцяўляе збор подпісаў, якія нясуць адказнасьць за праўдзівасьць дадзеных, што ў іх зьмяшчаюцца».

Пазьней у адмысловым адкрытым лісьце Анцулевіч і Пазьняк зьвярталі ўвагу на тое, што ў працытаваным вышэй палажэньні думка заканадаўцы выяўленая цалкам. «Старшыня і член Ініцыятыўнай групы ўскладаюць на сябе адказнасьць, завяраючы падпісныя лісты, — пісалі яны. — Але Закон не рэглямэнтуе, якім спосабам гэта рабіць! Гэта дае права выкарыстоўваць любы



ІНІЦЫЯТЫЎНАЯ ГРУПА РЭФЕРЭНДУМУ

ДАВЕДКА

Сп. Навумчык Сяргей Іосіфавіч

зьяўляецца членам ініцыятыўнай групы рэферэндуму, зарэгістраваны ў Цэнтральнай камісіі па рэферэндуму Рэспублікі Беларусь пад нумарам 6, мае права зьбіраць подпісы грамадзянаў у падтрымку прапановы аб правядзеньні рэферэндуму і зьвяртацца ў выканаўчыя і распарадчыя органы мясцовых Саветаў на ўсёй тэрыторыі Беларусі для засьведчаньня асабістага подпіса і подпіса старшыні ініцыятыўнай групы пячаткай.

Старшыня ініцыятыўнай групы рэферэндуму — У.Анцулевіч

Подпіс сп. У.Анцулевіча сапраўдны.

Старшыня БНФ "Адраджэньне" Народны дэпутат Беларусі — З.Пазьняк

14 лютага 1992г.

Вытрымкі з Закона "Аб народным галасаваньні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь":

Артыкул 11: "...Завяраючыя подпісы старшыні і члена ініцыятыўнай групы засьведчваюцца пячаткай выканаўчага і распарадчага органа гарадскога, раённага ў горадзе, пасялковага, сельскага Савета народных дэпутатаў..."

Артыкул 43: "Асобы, якія перашкаджаюць шляхам насільля, падману, пагроз, подкупу або іншым шляхам свабоднаму ажыцьцяўленьню грамадзянамі Рэспублікі Беларусь іх права на ўдзел у рэферэндуме, а таксама службовыя асобы дзяржаўных або грамадскіх органаў, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, члены ініцыятыўнай групы і камісій па рэферэндуму, якія ўчынілі падлог дакументаў, прыпіску, яўны няправільны падлік галасоў, парушылі тайну галасаваньня або дапусьцілі іншыя парушэньні гэтага Закона, нясуць устаноўленую законам адказнасьць."

Пасьведчаньне члена Ініцыятыўнай групы па правядзеньні рэфэрэндуму

зручны нам спосаб — ці подпіс, ці пячатку, ці адбітак пальца, ці, нават, магнітнае кадзіраваньне. Галоўнае — каб было магчыма па гэтым завяраючым знаку ідэнтыфікаваць чалавека, якому ён належыць. Таму члены Ініцыятыўнай групы

завяралі лісты асабістым подпісам, а Старшыня, якому неабходна было заверыць звыш 126 тысяч подпісаў — подпісам, выкананым факсымільным спосабам».

Але ў праціўнікаў рэфэрэндуму ўзьнікла яшчэ адно пярэчаньне. У Законе было сказана, што «завяральныя подпісы Старшыні і члена Ініцыятыўнай групы засьведчваюцца пячаткай выканаўчага і распарадчага органу» мясцовага Савету.

І ў выканкамах пачалі адмаўляцца завяраць пячаткай падпісныя лісты, патрабуючы, зноў жа, арыгінал подпісу на іх старшыні Ініцыятыўнай групы.

Пасьля нашых перамоваў з членамі Цэнтральнай камісіі камісія выдала пастанову, якая патлумачыла выканкамам, што пячаткай выканкаму засьведчваецца завяральны подпіс Старшыні Ініцыятыўнай групы, а не факсыміле ягонага подпісу.

Іншымі словамі — факсыміле пячаткі не патрабавала. Патрабаваў пячаткі толькі завяральны подпіс.

У спрэчцы з гэтай юрыдычнай казуістыкай нам удалося атрымаць перамогу — фактычна, Цэнтральная камісія патрапіла ў створаную ёй самой юрыдычную пастку.

Анцулевіч і Пазьняк нагадалі, што ў сваёй пастанове Цэнтральная камісія патлумачыла, што закону «не супярэчыць разьдзельнае засьведчаньне подпісаў старшыні і члена Ініцыятыўнай групы».

«Мы вельмі ўдзячныя Камісіі за своечасовасьць гэтага растлумачэньня, — пісалі Анцулевіч і Пазьняк пасьля таго, як подпісы былі сабраныя і здадзеныя. — У адпаведнасьці зь ім мы перадалі ў Камісію разам з Заключным актам і падпіснымі лістамі дакумэнт, які называецца «Завяральны подпіс», у якім Старшыня паведаміў «усім службовым асобам і іншым грамадзянам, што кожны падпісны ліст... зь ліку тых, якія перададзеныя ў Цэнтральную камісію па рэфэрэндуме Рэспублікі Беларусь разам з Заключным актам 13 красавіка 1992 году, завераны мною асабіста подпісам, выкананым факсымільным спосабам». У дакумэнце маецца ўзор гэтага подпісу, а таксама ўласнаручны подпіс Старшыні, які ў адпаведнасьці з Законам засьведчаны пячаткай Першамайскага гарвыканкаму гораду Менску».

Гэта азначала, што фактычна Анцулевічу ў межах працэдуры збору подпісаў трэба было расьпісацца толькі адзін раз — на тым самым лісьце, дзе быў узор ягонага факсыміле (калі не лічыць падпісаньня заявы ў Цэнтральную выбарчую камісію і Заключнага акту па выніках збору подпісаў).

Убачыўшы, што на юрыдычнай казуістыцы фронтаўцаў не правядзеш, улада ўзмацніла прапагандысцкую кампанію.

# ДЕНЬ, КАЛІ КЕБІЧ ПАДТРЫМАЎ ПАЗЬНЯКА. АЛЕ МАЎКЛІВА

Яшчэ ў канцы жніўня 1991-га, адразу пасьля абвяшчэньня незалежнасьці Ўкраінай і Беларусьсю, Крэмль вуснамі прэзыдэнцкага прэсавага сакратара заявіў пра магчымасьць тэрытарыяльных прэтэнзій да новаўтвораных дзяржаваў. Да падзелу земляў не дайшло, але на пачатак 1992 году Масква ўжо выкарыстоўвала шырокі арсэнал ціску — палітычнага, вайсковага, але найперш эканамічнага.

Важным (і небясьпечным) фактарам была наяўнасьць на тэрыторыі Беларусі вялікай (больш за 140 тысяч) вайсковай групоўкі, якая пакуль фармальна падпарадкоўвалася Маскве.

Вярхоўны Савет, які ўвосень 1991-га адкінуў прапанаваныя Апазыцыяй БНФ распрацаваныя разам зь Беларускім згуртаваньнем вайскоўцаў законапраекты аб войску, з пачатку 1992-га ўсё ж пачаў прымаць пэўныя рашэньні, але вельмі неахвотна і марудна.

У выпадку, калі б Масква пажадала рэалізаваць леташнія жнівеньскія пагрозы і захапіць частку тэрыторыі Беларусі (альбо нават усю Беларусь), яна магла гэта зрабіць без асаблівых клопатаў. Прычым Ельцын знайшоў бы тлумачэньне, якое збольшага задаволіла б Захад — кантроль над разьмешчанай на тэрыторыі Беларусі ядзернай зброяй (яшчэ некалькі месяцаў перад тым Захад і чуць не жадаў ні пра якую незалежнасьць бы-

лых савецкіх рэспублік, акрамя Балтыі, а пасьля распаду СССР яго найперш цікавіў лёс ядзерных боегаловак). Масква магла б аддаць загад камандаваньню Беларускай вайсковай акругі (якое ўсё яшчэ не прымала прысягу на вернасьць Беларусі), а магла пры патрэбе захапіць кіраўніцтва краіны альбо парлямэнт, даслаўшы некалькі самалётаў з дэсантам (што праз два дзесяцігодзьдзі будзе зроблена ў Крыме).

Менавіта таму ўзьнікла неабходнасьць пагадненьня паміж кіраўніцтвам краіны і суб’ектамі грамадзянскай супольнасьці на выпадак пагрозы Незалежнасьці.

«Было вельмі важным у часе, калі будаўніцтва беларускага войска толькі пачыналася, як мага гучней заявіць волю беларускага грамадзтва мець і абараняць сваю дзяржаву», — патлумачыў у 2017 годзе падпісаньне Антыкрызіснага пагадненьня адзін зь ягоных ініцыятараў, тагачасны старшыня Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў Мікола Статкевіч (архіў аўтара).

Пагадненьне называлася «Аб супольных дзеяньнях пры ўзьнікненьні пагрозы сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусь» і было падпісанае ў канфэрэнц-залі Дому літаратара 14 сакавіка 1992 году. Арганізацыю падпісаньня і пасяджэньня ўзялі на сябе дэпутаты Апазыцыі БНФ. Перад гэтым Пазьняк асабіста запрасіў прыйсьці кіраўніка ўраду Вячаслава Кебіча («Мы падтрымаем», — паабяцаў прэм’ер Пазьняку), ягонага намесьніка Міхаіла Дземчука і старшыню КДБ Эдуарда Шыркоўскага.




Пасяджэньне Антыкрызіснага камітэту 14 сакавіка 1992 году. Выступае Зянон Пазьняк, справа ад яго – Станіслаў Шушкевіч і Мікола Статкевіч.

Вёў пасяджэньне Пазьняк. Яно было прадстаўнічым — з удзелам Станіслава Шушкевіча, старшыні КДБ, лідэраў дэмакратычных партый і арганізацый. Сярод апошніх былі БНФ, Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, БЗВ, Сялянская партыя, Саюз прадпрымальнікаў. Пагадненьне таксама падпісалі Ліга жанчынаў, Аб’яднаньне яўрэйскіх арганізацый, Саюз палякаў, Аб’яднаньне татараў-мусульманаў.

Галоўным было тое, што падпісанты дамовіліся аб’яднаць намаганьні дзяржаўных уладных органаў, палітычных партыяў і грамадзкіх арганізацый у выпадку рэальнай пагрозы агрэсіі супраць Беларусі.

Станіслаў Шушкевіч у кароткай уступнай прамове сказаў, што пагроза сувэрэнітэту сыходзіць, найперш, ад ініцыятараў аднаўленьня Зьезду народных дэпутатаў СССР (яны не прызнавалі сувэрэнітэту былых савецкіх рэспублік).

Выступ Пазьняка журналісты назвалі «самым нечаканым». Гэтая нечаканасьць для іх выявілася ў тым, што, пацьвердзіўшы курс на датэрміновыя выбары Вярхоўнага Савету і адстаўку ўраду, лідэр БНФ заявіў пра гатовасьць, у выпадку неабходнасьці, супольна выступіць у абарону дзяржавы.

Аднак нечаканым можна назваць якраз успрыманьне журналістаў: нягледзячы на жорсткае супрацьстаяньне ў парлямэнце паміж апазыцыяй і намэнклятурай, Пазьняк, дый усе дэпутаты Апазыцыі БНФ заўсёды заклікалі сваіх палітычных апанэнтаў да супольнай працы на глебе ўмацаваньня Незалежнасьці. Іншая справа, што нашыя намаганьні звычайна не сустракалі той рэакцыі, на якую мы разьлічвалі.

Тут, між іншым, характэрная асаблівасьць успрыманьня ў тыя дні падзеяў нават тымі, хто, здавалася, няблага ў іх арыентаваўся (журналістамі): Фронт (у выніку антыфронтаўскай камуністычнай прапаганды і сапраўднай інфармацыйнай вайны супраць БНФ, галоўнымі нападнікамі ў якой былі якраз пракамуністычныя журналісты) па-ранейшаму ўспрымаўся як сіла, галоўнай мэтай якой было супрацьстаяньне, а не стваральная праца (і гэта нягледзячы на наяўнасьць пакету на той момант дзясяткаў законапраектаў).

Большасьць журналістаў (нават дэмакратычнай арыентацыі) ігнаравалі або проста не заўважалі стваральных ідэй Фронту, жылі нядаўнімі стэрэатыпамі і ацэнкамі, сфармаванымі намэнклятурай, і гэта адыграла даволі нэгатыўную ролю ў фармаваньні іміджу БНФ і ўвогуле дэмакратычнай апазыцыі ў грамадзкай сьвядомасьці.

Наступная заява Пазьняка была яшчэ больш нечаканая: ён прапанаваў абраць старшынём Антыкрызіснага камітэту кіраўніка ўраду Вячаслава Кебіча.

Празь некалькі тыдняў у інтэрвію Пазьняк даў такое тлумачэньне сваёй прапанове: «Антыкрызісны камітэт, калі падыходзіць да яго сур’ёзна, павінен быў узначаліць той, хто мае дзяржаўныя магчымасьці, гэта значыць уладу альбо частку ўлады. Гэта натуральна. С. Шушкевіч адмовіўся. В. Кебіч пагадзіўся, не раздумваючы, зразумеўшы адразу сэнс гэтага акту» («Знамя юности», 8 красавіка 1992).

Аднак тут былі свае «падводныя камяні», пра якія ў той час казаць не выпадала (дый далёка ня ўсе яны былі нам бачныя).

Прапанова, зробленая Кебічу Пазьняком, была тонкім і шматплянавым ходам. Пад заявай пра стварэньне камітэту паставілі подпісы падначаленыя старшыні Саўміну — кіраўнікі міністэрстваў унутраных справаў і абароны. Падпісаў пагадненьне старшыня КДБ Эдуард Ширкоўскі, які падпарадкоўваўся Вярхоўнаму Савету, тым самым цалкам дапаўняючы «сілавы блёк».

Вышэй я казаў, што Кебіч паабяцаў Пазьняку падтрымку. Але сам прэм'ер на пасяджэньне ў Дом літаратара не прыйшоў.

Якімі б прычынамі гэта ні тлумачылася, адсутнасьць выпадковай не была. Нароўні з Шушкевічам і сілавымі міністрамі (пры тым, што Міністэрства абароны пакуль далёка ня ў поўнай ступені кантралявала войскі на тэрыторыі краіны) Кебіч быў ключавой фігурай у арэапагу асобаў, якія адказвалі за абараназдольнасьць Беларусі. А фактычна, нават першай — з улікам рэальнай канцэнтрацыі ўлады.

Пра мерапрыемства было вядома загадзя, ён мог скарэктаваць свае пляны, і я перакананы, што калі б Кебіч ясна выказаў жаданьне ўзяць удзел — арганізатары, пры патрэбе, зьмянілі б час пасяджэньня, і гэта было б з разуменьнем і бяз крыўдаў успрынята іншымі ўдзельнікамі (усё ж, кіраўнік ураду, паводле вызначэньня — самы заняты дзяржаўны чыноўнік).

На пачатак 1992 году Кебіч яшчэ не рабіў заяваў пра «памылковасьць Белавескіх пагадненьняў», як ён гэта скажа праз год, тым больш не казаў пра іх злачыннасьць (як у часы Лукашэнкі) — але ніякай незалежніцкай рыторыкі ў ягоных выступах не было. Горш за тое, што ў сваіх дзеяньнях ён не выяўляўся актыўным абаронцам сувэрэнітэту — ягоныя ўчынкі хутчэй можна ацаніць як вымушаныя крокі ўсьлед за сытуацыяй.

Але сёньня, калі прыгадаць афіцыйныя мерапрыемствы 1992-1993 гадоў, якія ўспрымаюцца

сымбалямі нацыянальнага трыюмфу (у тым ліку сьвяткаваньне 75-х угодкаў БНР у будынку філярмоніі, Першы зьезд беларусаў сьвету ў Опэрным тэатры) — дык выяўляецца заканамернасьць: кіраўнік ураду на іх адсутнічаў. Маю на ўвазе не арганізаваныя Народным Фронтам акцыі, а менавіта афіцыйныя, з прадстаўніцтвам іншых кіраўнікоў краіны. На іх быў старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч, віцэ-прэм'ер Міхаіл Дзямчук, міністар замежных справаў Пятро Краўчанка, міністар інфармацыі Анатоль Бутэвіч, іншыя ўрадоўцы — але Кебіча не было.

Прысутнасьць віцэ-прэм'ераў і міністраў апрыёры здымала якія б то ні было папрокі Кебічу ў «заігрываньні з апазыцыяй» — ён сьмела мог браць удзел у такіх мерапрыемствах, не баючыся за сваё рэнамэ нават сярод намэнклятуры.

Але не прыходзіў. Нібыта нехта штораз адгаворваў яго, нібыта нейкая нябачная, невядомая нам сіла стрымлівала Кебіча зьяўляцца там, дзе прысутнасьць кіраўніка ўраду магла надаць сходу нацыянальнай, адраджэнскай накіраванасьці важкасьць і значны грамадзкі розгалас.

Гэтак і на падпісаньні Антыкрызіснага пагадненьня быў нават старшыня КДБ Эдуард Шыркоўскі, але Кебіч не прыйшоў.

У 2008 годзе Кебіч апублікаваў кнігу ўспамінаў «Спакуса ўладай», дзе заявіў, што зьяўляецца афіцэрам «выведкі». Праўда, не канкрэтызаваў — ці то ГРУ, ці вайсковай контравыведкі КДБ. Затое на некалькіх старонках расьпісаў, як яго вэрбавалі, як ён вучыўся, як выконваў даручэньні (на-



Вячаслаў Кебіч на трыбуне Вярхоўнага Савету

ват на пасадзе другога сакратара абкаму). Падрабязны аналіз гэтых шчырых прызнаньняў я зрабіў у кнізе «Дзевяноста першы», цікаўных адсылаю да яе. Выхад кнігі Кебіча суправаджалі інтэрвію ў СМІ, у тым ліку і ў незалежных, але, як ні дзіўна, ніхто не папрасіў аўтара ўдакладніць або патлумачыць ягоныя сэнсацыйныя прызнаньні. А яны сапраўды важныя, бо прымушаюць пад пэўным ракурсам ацэньваць дзейнасьць Кебіча ў вызначальныя для станаўленьня новай дзяржавы гады. Зрэшты, і бязьдзейнасьць — таксама.

У кожным разе, у адрозьненьне ад Шушкевіча, Кебіч не прыйшоў на ўстаноўчае пасяджэньне Антыкрызіснага камітэту. І гэтая ягоная адсутнасьць і ў сродках масавай інфармацыі і, што больш важна, у колах намэнклятуры і, нарэшце, у Маскве — магла трактавацца як наўпраставае ігнараваньне тэмы абароны сувэрэнітэту.

Тады, у сакавіку 1992-га, мы ў апазыцыі станоўча ўспрынялі прапанову Пазьняка, каб Антыкрызісны камітэт узначаліў Кебіч, але толькі пазьней, праз адлегласьць часу, я здолеў у пэўнай ступені ацаніць усю стратэгічную слушнасьць такога рашэньня.

За гэтую прапанову Пазьняка прагаласавалі аднагалосна — ясна, што іншага і быць не магло, на гэта Пазьняк і разьлічваў. Пра рашэньне паведамілі (хай і вельмі скарочана) дзяржаўныя СМІ (мерапрыемства з прысутнасьцю хаця б толькі старшыні Вярхоўнага Савету яны не маглі ігнараваць). Факт, такім чынам, адбыўся.

І ў такой сытуацыі Кебіч ня мог адмовіцца ад новай сваёй функцыі (хай сабе і фармальнай) — гэта выклікала б скандал, яшчэ большае абвастрэньне адносінаў з БНФ, нарэшце, непаразуменьні з Шушкевічам, Шыркоўскім і іншымі сілавымі міністрамі.

Кебічу выгодней было маўкліва пагадзіцца.

Для інтарэсаў Беларусі, канешне,было б лепей, каб Кебіч пасьлядоўна выконваў тое, пра што было дамоўлена і што было падпісана ўдзельнікамі пасяджэньня ў Доме літаратара. Але і з самога факту старшынёўства Кебіча, як потым зрабілася зразумелым (і што, пэўна, прадбачыў Пазьняк), мы мелі выгоду.

Карысьць палягала ў тым, што намэнклятура (ва ўсякім разе, у рэгіёнах, дзе яна ня ведала пэрыпэтыяў сталічных палітычных узаемаадносінаў) успрыняла старшынёўства Кебіча ў Антыкрызісным камітэце як ягоную станоўчую пазыцыю

адносна сувэрэнітэту і, што таксама істотна, апазыцыя ўспрымалася як паўнавартасны, сур’ёзны хай і апанэнт, але партнэр.

Далейшае разьвіцьцё падзеяў пацьвердзіла актуальнасьць падпісанага ў Доме літаратара пагадненьня. У Маскве праімпэрскія настроі чым далей, тым меней хаваліся. «Для мяне бясспрэчна, што Расея ёсьць нешта большае, чым Расейская Фэдэрацыя ў яе цяперашніх межах. Таму і геапалітычныя інтарэсы трэба разглядаць куды шырэй, чым гэта зафіксавана сёньня на мапах», — заявіў у красавіку 1992-га старшыня Камітэту па міжнародных справах ВС Расеі Яўген Амбарцумаў.

Тым ня менш, Антыкрызіснае пагадненьне было для Масквы важным сыгналам. Праз чвэрць стагодзьдзя, адказваючы на маё пытаньне пра ролю Антыкрызіснага пагадненьня, Пазьняк напіша:

«Варта сказаць, што на 14 сакавіка Антыкрызіснае пагадненьне падпісалі 30 арганізацыяў, а потым падпісалі яшчэ генэрал Яўген Бачароў (памежныя войскі), Уладзімер Ганчарык (Фэдэрацыя прафсаюзаў Беларусі), Мечыслаў Грыб (Камісія па нацыянальнай бясьпецы Вярхоўнага Савету), мітрапаліт Філарэт (Беларускі Экзархат РПЦ) і іншыя. Для Масквы гэта быў удар пад дых, асабліва фінт з Кебічам і Філарэтам, зь якім я асабіста размаўляў і прасіў «багаславіць» (а ён, бачыце, нават падпісаў). Я думаю, што арганізацыя Антыкрызіснага камітэту затармазіла тады нейкі вельмі авантурны плян Лубянкі і Крамля, пра які

ўжо ведалі і Шыркоўскі, і Кебіч, і, магчыма, Дзямчук, але ніхто зь іх ня мог (ці быў няздольны) нешта супрацьпаставіць плянам Масквы ці нешта зрабіць. А тут якраз дэпутаты Фронту выступілі з ініцыятывай Антыкрызіснага Камітэту і аб'яднаньня намераў. Вось улада і падключыліся, быццам бы стала пад сьцягі Апазыцыі БНФ. І фігу Маскве паказалі, і адносіны з Масквой захавалі (маўляў, «А мы — што? Гэта яны»). А Кебіч дык яшчэ і на паседжаньне не прыйшоў. Такія вось хітруны. На гэтай шахматнай дошцы нічога мяне не зьдзіўляла з такімі гульцамі, акрамя нечаканых паводзінаў мітрапаліта Філарэта. Ня думаю, што Філарэт узгадняў свой подпіс з патрыярхам Алексіем».

Ацэньваючы падзею ў гістарычнай рэтраспэктыве, Пазьняк заўважыў, што «Антыкрызіснае пагадненьне напалохала Маскву. Працягу пагадненьне ня мела, але стала ў нейкай ступені стрымліваючым чыньнікам для Крамля. Там убачылі, што пры пэўных абставінах улада і апазыцыя ў Беларусі могуць паразумецца супраць агрэсіі Масквы. Цяпер такое пагадненьне ў прынцыпе немагчымае, бо рэжым Лукашэнкі пастаўлены Масквой, кантраляваны Масквой і праводзіць антыбеларускую палітыку ў маскоўскіх інтарэсах. Гэта антынацыянальны рэжым» (травень 2017, архіў аўтара).

І ўсё ж гісторыя з Антыкрызісным пагадненьнем пакідае адчуваньне недавершанасьці і страчаных магчымасьцяў — і выключна зь віны тых, хто стаяў ля стырна дзяржавы. Упершыню (і на

момант, калі пішуцца гэтыя радкі, апошні раз) за круглым сталом сабраліся прадстаўнікі ўлады і апазыцыі ў першых асобах. Сабраліся ў імя самай галоўнай для існаваньня дзяржавы мэты — яе абароны. І менавіта ўлада павінна была клапаціцца пра абарону сувэрэнітэту, гэта яе галоўная місія ва ўсе часы. Аднак такога не адбылося — паралельна са стварэньнем уласных узброеных сілаў пачаўся працэс уцягваньня Беларусі ў вайсковую арбіту Расеі, што завяршылася падпісаньнем Ташкенцкай дамовы аб далучэньні да сыстэмы Калектыўнай абароны СНД. І найбольшую ролю ў гэтым небясьпечным для Беларусі працэсе адыгралі Савет міністраў і прадстаўнікі парлямэнцкай большасьці, якія ў пачатку 1992-га ўтварылі групу «Беларусь».

Маючы непераадольныя ідэйныя разыходжаньні з камуністамі, Народны Фронт няспынна імкнуўся далучыць намэнклятуру да будаўніцтва незалежнай дзяржавы. У жніўні 1991-га, пасьля правалу путчу, спыненьня дзейнасьці КПБ-КПСС і абвяшчэньня Незалежнасьці, мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, выступілі з заклікам да былых камуністаў уключыцца «ў дэмакратычны працэс, у рух адраджэньня вольнай сувэрэннай Беларусі». Праз паўгода, у сакавіку 1992-га дэмакратычныя партыі і грамадзкія арганізацыі зрабілі яшчэ адзін крок насустрач — зноў жа, у імя, здавалася б, агульнай мэты — умацаваньня дзяржаўнасьці.

Але працягнутая рука была непрынятая.

# ПАРАДА ВЯРХОЎНАМУ САВЕТУ: СЫСЬЦІ Ў ГІСТОРЫЮ

За дзень да адкрыцьця вясновай, Дзявятай сэсіі Вярхоўнага Савету, 10 сакавіка, газэта «Зьвязда» надрукавала маё інтэрвію палітычнаму агляdальніку Валянціну Жданко. Называлася яно «Вярхоўны Савет вычарпаў сябе і павінен мужна прызнаць гэта».

Прадстаўлены я быў як сакратар Камісіі Вярхоўнага Савету ў пытаньнях галоснасьці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека і як каардынатар парлямэнцкай Апазыцыі БНФ, значная частка інтэрвію была прысьвечаная сытуацыі ў СМІ, у тым ліку і асьвятленьню ў прэсе тэмы рэфэрэндуму. Ніжэй працытую тое, што тычылася непасрэдна патэнцыялу Вярхоўнага Савету і рэфэрэндуму пра датэрміновыя выбары.

«— Днямі пачынаецца чарговая сэсія Вярхоўнага Савету. З чым ідзе да яе парлямэнцкая апазыцыя?

— Ужо стала традыцыяй, што кожная новая сэсія дае нейкія спадзяваньні — бо чым далей, тым складаней робіцца жыцьцё, і многім здаецца: ну, вось цяпер ужо дэпутаты павінны ўзяцца за розум. Але ілюзіі разьвейваюцца ўжо ў першыя гадзіны, яшчэ падчас зацьвярджэньня парадку дня.

Так, Апазыцыі БНФ і цяпер ёсьць з чым ісьці на сэсію — у прыватнасьці, пад кіраўніцтвам Уладзімера Заблоцкага распрацавана канцэпцыя эка-

намічнай рэформы, мы мяркуем ізноў вынесьці некаторыя законапраекты. Але радыкальныя рэформы магчымыя толькі, па-першае, пры спрыяльным заканадаўчым рэжыме (а вы ведаеце, якія законы прымае наш парлямэнт) і, па-другое, калі іх будзе ажыцьцяўляць урад народнага даверу (не сакрэт, з каго складаецца наш урад).

Я ня думаю, што Кебіч і ўрад пойдуць у адстаўку — за два гады Вярхоўны Савет ніколі пасур’ёзнаму не спытаў з ураду за яго дзейнасьць. А нават калі б і пайшоў — гэты склад Вярхоўнага Савету ніколі не прызначыць дэмакратычных міністраў. Ня той, як цяпер модна казаць, мэнталітэт.

Мы катастрафічна страчваем час, і ў нас няма іншага выйсьця, як рэфэрэндум і новыя выбары.

— Але ж і рэфэрэндум, і датэрміновыя выбары — зусім ня танная справа. Ня кажучы ўжо пра патрачаны час — на гэта пойдуць вялізныя грошы.

— Так, правядзеньне рэфэрэндуму абыдзецца дзяржаве «у капеечку», — калі не памыляюся, гаворка ідзе пра дзясяткі мільёнаў рублёў (на пачатак 1992-га сотні тысяч даляраў. — удакладненьне 2017 г.). Але чаму члены Прэзыдыюму не падлічылі, колькі каштавалі грамадзтву непрафэсіяналізм дэпутатаў, іх, выбачайце, бязглуздыя ў шэрагу выпадках рашэньні? Калі б год назад аддалі людзям зямлю — сёньня б прылаўкі крамаў мелі зусім іншы выгляд (у канцы 1990 году Апазыцыя БНФ унесла ў Вярхоўны Савет законапраект аб увядзеньні прыватнай уласнасьці

на зямлю, але прапанова была адхіленая. — удакладненьне 2017 г.). Калі б прынялі разумную сыстэму падаткаабкладаньня — спад вытворчасьці не набыў бы такія катастрафічныя тэмпы. Тут ужо лік ідзе не на мільённыя, а на мільярдныя страты. А што будзе далей? Вы перакананыя, што 11 сакавіка у парлямэнцкую залю ўвойдуць людзі з кардынальна новым спосабам мысьленьня, што яны будуць здольныя працаваць канструктыўна? За два гады апазыцыя прапаноўвала дзясяткі заканадаўчых праектаў, і мы, здаецца, выкарысталі ўсе магчымыя спосабы ўзьдзеяньня на так званую «парлямэнцкую большасьць» — ну, хіба што па падлозе перад імі ня слаліся.

— Але ж ёсьць і варыянт рэарганізацыі Вярхоўнага Савету.

— Яшчэ ў лістападзе дэпутаты ад апазыцыі Баршчэўскі, Дзейка і Новікаў распрацавалі праект рэарганізацыі Вярхоўнага Савету, дзе прадугледжвалася пераўтварэньне яго ў зьезд і стварэньне Сойму — прафэсійнага парлямэнту, у якім мог бы працаваць кожны жадаючы дэпутат. Шушкевіч прапаноўваў выбары парлямэнту дэпутатамі — натуральна, пры гэтым непажаданыя кансэрватыўнай большасьці апазыцыянэры былі б «адсеяныя». Зрэшты, не прайшло ні адно, ні другое. І на гэты раз ніякая прапанова па рэформе не атрымае належнай падтрымкі — занадта шмат дэпутатаў, якіх задавальняе па два-тры месяцы драмаць на сэсіях, атрымоўваць і сутачныя, і зарплату па месцы працы...

А калі зазірнуць за сьцены парлямэнту? Калі ў Вярхоўным Савеце яшчэ ёсьць некалькі дзясяткаў дэмакратаў, то чым ніжэй — тым меней плюралізму, тым маналітнейшая сьцяна намэнклятурнікаў. Старшыня райвыканкаму, начальнік міліцыі і старшыня райспажыўсаюзу (раённага аддзяленьня Саюзу спажывецкай каапэрацыі, кантраляваў разьмеркаваньне дэфіцытных тады прадуктаў і тавараў. — удакладненьне 2017 г.) — гэтая «тройка» і да гэтай пары вяршыць лёс усіх і кожнага (да жніўня 1991-га была «чацьвёрка» — на чале зь першым сакратаром райкаму. — удакладненьне 2017 г.). Таму апазыцыя год назад прапаноўвала законапраект аб мясцовым самакіраваньні, дзе прадугледжвалася рэарганізацыя структуры мясцовай улады, прамыя выбары мэраў і г. д. Станіслаў Станіслававіч лічыць, што падобную рэарганізацыю трэба рабіць раней за зьмену вышэйшай заканадаўчай улады — і мне цяжка аспрэчваць гэты тэзіс. Але давайце зірнем на склад нашага парлямэнту: хіба гэтыя людзі, якія якраз і трымаюць на месцах уладу — будуць галасаваць супраць сябе?

Словам, наш Вярхоўны Савет дасягнуў мяжы дэмакратызацыі. Так Станкевіч (дэпутат Уладзімер Станкевіч. — удакладненьне 2017 г.) мае рацыю: пры першапачатковай зададзенасьці на мэтар парлямэнт скочыў на мэтар дваццаць — але ж цяпер планка устаноўленая на два трыццаць.

— Вы мяркуеце, — пытаўся далей Валянцін Жданко, — ёсьць гарантыя, што ў выніку новых

выбараў прыйдуць выключна кампэтэнтныя, дэмакратычна настроеныя дэпутаты?

— Складанае пытаньне. Цяперашняя стомленасьць людзей, іх раззлаванасьць даюць, канешне, вялікія перавагі люмпэнізаваным лідэрам, тым, хто гучней крыкне «Далоў!» на плошчы. Што і казаць, нам таксама ставяць у дакор, што мінулая выбарчая кампанія была пабудавана на татальнай крытыцы камуністычных структур. Сапраўды, наша праграма ўтрымлівала прынцыповыя палажэньні — сувэрэнітэт, дэкамунізацыя грамадзтва, рынак, але ўсё гэта мела даволі абстрактныя абрысы. Два гады напружанай працы ў парлямэнце далі і веды, і вопыт, хоць, магчыма, да прафэсіяналаў у клясычным разуменьні парлямэнтарызму яшчэ далёка. Але ж і грамадзтва за гэты час рушыла наперад, узьняўшыся на больш высокі ўзровень палітычнай сьвядомасьці. Безумоўна, на выбарах — па акругах — праскочыць нейкая колькасьць жырыноўскіх, але партыйныя сьпісы, думаю, кампэнсуюць гэта новымі палітыкамі, якія прыйдуць з жаданьнем працаваць канструктыўна.

Так, партыі ў нас яшчэ не зусім сфармаваныя і для вялікай часткі насельніцтва малавядомыя. А для вяскоўцаў — дык і зусім невядомыя. Дарэчы, Станкевіч зусім дарэмна лічыць, што БНФ ідзе на рэфэрэндум выключна таму, што мае самую ўстойлівую структуру і перакананы ў перамозе: мы цудоўна ведаем, якую прапаганду разгарнулі супраць нас у правінцыі. Але выбары якраз і прадстаўляюць народу найлепшую магчымасьць

параўнаць праграмы палітычных рухаў, дый самі партыі сталеюць.

— У апошні час прыкметна напружанымі сталі адносіны паміж С. Шушкевічам і парлямэнцкай апазыцыяй. Чым вы тлумачыце гэта?

— З самага пачатку свайго «старшынства» Шушкевічу трэба было згуртаваць вакол сябе дэмакратычныя сілы, прыцягнуць да супрацоўніцтва як мага большую колькасьць дэмакратычных дэпутатаў. Так, ня ўсе маюць патрэбны вопыт, у некаторых яшчэ захаваўся «мітынговы сындром» — але іншых пакуль няма, трэба працаваць з гэтымі, вучыць іх, у рэшце рэшт. А Станіслаў Станіслававіч мэтадычна адштурхоўваў іх ад сябе, а зь некаторымі пасьпеў нават і пасварыцца. Я ня ведаю, хто тут больш вінаваты — ён ці мы, але ж ведаю, што гэта не на карысьць справе.

Я хацеў бы сказаць яшчэ вось што. Як бы мы ні наракалі на гэты Вярхоўны Савет, але пасьля дзесяцігодзьдзяў таталітарызму гэта быў першы найвышэйшы орган улады, у якім былі прадстаўленыя дэмакратычныя сілы, які вельмі няпростым і пакутлівым шляхам прыняў найважнейшыя для лёсу Беларусі рашэньні. Скажу больш — ні папярэдні, ні наступны склад парлямэнту ня выклічуць у будучых дасьледчыкаў такую цікавасьць, і стэнаграмы яго сэсій зьявяцца матэрыялам не адной дысэртацыі. Словам, цяперашняму Вярхоўнаму Савету забясьпечана месца ў гісторыі».

Прызнаюся, што апошнія фразы былі сказаныя для «падмазкі» дэпутатаў, гэта была спроба надаць ім адчуваньне ўласнай гістарычнай значнасьці, што, як мне тады здавалася, было б пэўнай кампэнсацыяй за роспуск Вярхоўнага Савету (хоць па сутнасьці гэта была праўда, і час пацьвердзіў слушнасьць такога прагнозу — ні ВС-11, ні ВС-13 і блізка не занялі ў гісторыі таго месца, якое належыць Вярхоўнаму Савету XII скліканьня).

Але апэляцыя да Гісторыі была, канешне, бессэнсоўнай — ніхто з дэпутатаў парлямэнцкай большасьці не разважаў такімі катэгорыямі. На жаль, не разважалі і найбольш важнымі дзяржаўнымі актуаліямі. У тым самым нумары «Зьвязды» на той самай першай паласе, дзе быў зьмешчаны пачатак майго інтэрвію, апублікаваная Пастанова Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету ад 3 сакавіка, падпісаная Станіславам Шушкевічам.

Якое ж важнае палітычнае пытаньне разглядаў Прэзыдыюм парлямэнту («калектыўны прэзыдэнт» краіны, як мы яго часам называлі) напярэдадні сэсіі парлямэнту?

У тыя дні хапала праблемаў, якія патрабавалі неадкладных рашэньняў і былі зьвязаныя з самым галоўным у першыя месяцы 1992 году — умацаваньнем беларускай дзяржаўнасьці. Гэта ўвядзеньне нацыянальнай валюты, стварэньне ўласнага войска, рынкавыя рэформы, ня кажучы ўжо пра выпрацоўку стратэгіі адносінаў двухбаковых адносінаў з Расеяй, якая б вызначыла тое, у чым нельгаісьці на саступкі, і сфэры, дзе

мог бы быць дапушчальны ўзаемавыгадны кампраміс (на практыцы ўсе ці амаль усе перамовы з Масквой канчаліся невыгоднымі для Беларусі саступкамі).

Для гэтага дваццаць тры члены Прэзыдыюму мусілі б засядаць ня дзень і ня тыдзень, дыскутуючы, узважваючы розныя падыходы, раячыся з дэпутатамі, прыцягваючы экспэртаў. Але нічога падобнага не было.

Пастанова Прэзыдыюму, прынятая 3 сакавіка, мела назоў — «Аб пытаньнях, зьвязаных з правядзеньнем веснавой сяўбы».

У ёй пералічваліся прозьвішчы «кіраўнікоў міністэрстваў і ведамстваў», іншых высокапастаўленых чыноўнікаў, інфармацыя якіх «аб стане падрыхтоўкі да правядзеньня веснавых палявых работ» была «прынятая да ведама».

Стыль і тэматыка — нібыта з інфармацыі ў «Зьвязьдзе» якога-небудзь 1982 году пра пленум ЦК КПБ.

Савету міністраў давалася даручэньне «распрацаваць і рэалізаваць неабходныя меры па неадкладнаму выпраўленьню крытычнага эканамічнага становішча аграпрамысловага комплексу», «вырашыць пытаньні забесьпячэньня эквівалентнага тавараабмену».

Варта сказаць, тут быў адзін станоўчы момант: даючы распараджэньне Савету міністраў, Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету паказваў, «хто ў доме гаспадар»: парлямэнт, а ня Кебіч. Але гэта было толькі фармальна, бо заканчвалася паста-

нова рашэньнем, якое якраз было ў інтарэсах выканаўчай улады.

А менавіта — «унесьці на разгляд 9-й сэсіі Вярхоўнага Савету неабходныя прапановы аб устанаўленьні ільготнага падаткаабкладаньня і крэдытаваньня аграпрамысловага комплексу, а таксама аб расшырэньні паўнамоцтваў органаў выканаўчай улады ў забесьпячэньні апэратыўнасьці кіраваньня эканамічнай і крэдытна-фінансавай палітыкай».

Расшыфрую гэты абзац: калгасы і іх кіраўнікі (як іх называлі, «чырвоныя памешчыкі», бо яны з аднолькавай беспакаранасьцю распараджаліся што фінансамі, што тэхнікай, што лёсам людзей) — атрымлівалі «крэдыты», якія, канешне, не зьбіраліся аддаваць. Значная частка дзяржаўнага фінансаваньня да калгасаў не даходзіла і асядала ў фірмах, апэратыўна створаных чыноўнікамі (тыя нават не заўсёды прыкрываліся рэгістрацыяй на цешчу ці на дзяцей). А «пашырэньне паўнамоцтваў органаў выканаўчай улады» (гэта значыць, без кантролю мясцовых Саветаў, у многіх зь якіх былі, хай і ня ў большасьці, дэпутаты БНФ) «у забесьпячэньні кіраваньня эканамічнай і крэдытна-фінансавай палітыкай» было нічым іншым, як індульгенцыяй на крэдытаваньне «сваіх» людзей.

Пройдзе дваццаць гадоў, і выявіцца, што дзеці віцэ-прэм’ераў, міністраў, старшыняў абласных і раённых выканкамаў, іх намесьнікаў ды начальнікаў упраўленьняў выканкамаў выявілі надзвычайныя бізнэс-здольнасьці, зрабіўшыся ўладаль-

нікамі фінансавых кампаніяў, бэнзазапраўчных і гандлёвых сетак, будаўнічых фірмаў з гіганцкім абаротам.

Ну а ў пачатку 1992-га іх капітал толькі закладаўся. І на кожнай сэсіі Вярхоўнага Савету ўздымаўся які-небудзь дэпутат Гаркун і казаў пра «патрэбы працаўнікоў сяла» — найперш, канешне, у ільготных крэдытах. Крэдыты нязьменна выдаткоўвалі, «сяло» бяднела, фірмы набліжаных да ўлады — багацелі.

Не зрабілася выключэньнем і 9-ая сэсія, якая пачалася 11 сакавіка.

# МАГІЧНАЯ ЛІЧБА «25»

Мушу прызнацца, што да дэпутацтва я вельмі мала ведаў пра Беларускую Народную Рэспубліку — у школе пра яе не распавядалі, ва ўнівэрсытэце таксама, ну а камуністычная прэса прадстаўляла заснавальнікаў БНР «буржуазнымі нацыяналістамі» — не даючы практычна ніякай інфармацыі. Акцыя Алеся Пушкіна 25 сакавіка 1989 году (пазьней яе б назвалі адзіночным пікетам) прымусіла афіцыйны друк зьвярнуцца да гэтай тэмы, выйшаў нават абавязковы для публікацыі ў газэтах артыкул агенцтва БЕЛТА –канешне, з крытыкай і ўдзельніка акцыі, і падзеі, якой яна была прысьвечаная. Тым ня менш, ад канца 1980-ых што–нішто пачало зьяўляцца ў друку, а ў 1990-м першы нумар будучай «Свабоды» меў адмысловую назву — «Дзень Волі» (там было надрукаванае і знакамітае эсэ Ўладзімера Арлова «Незалежнасьць — гэта...»).

Канешне, размовы з калегамі-дэпутатамі (найперш Зянонам Пазьняком, Валянцінам Голубевым, Алегам Трусавым) дапамаглі пашырыць уяўленьне пра слаўную старонку нацыянальнай гісторыі. Назапашваньне ведаў ішло супольна са змаганьнем за прызнаньне фактычна сымболікі БНР у якасьці дзяржаўнай нацыянальнай сымболікі, што і было дасягнута ў верасьні 1991 году.

Перад 25 сакавіка 1992-га я падаў падаў просьбу ў сакратарыят сэсіі даць мне слова ў


Звязда

25 сакавіка

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 50

Настане час, калі дзень 25 сакавіка стане святам для кожнага беларуса

«МЫ АДРЫВАЕМСЯ АД СВАЕЙ ГІСТОРЫІ»

месца

е бывае...

Такой была першая паласа газэты “Зьвязда” 25 сакавіка 1992 г.

разьдзеле «Рознае», зь якога штодня пачыналіся пасяджэньні сэсіі.

Цяпер ужо не прыгадаю, ці таму, што запісаўся ў папярэдні дзень, ці таму, што сабраў 20 дэпутацкіх подпісаў, ці мне проста пашанцавала — але Шушкевіч даў мне слова першаму.

Далей цытую стэнаграму сэсіі Вярхоўнага Савету 25 сакавіка 1992 году.

«Навумчык С. І. (Віцебская-Чыгуначная выбарчая акруга 181). Шаноўны Старшыня, шаноўныя спадары дэпутаты! У гісторыі кожнай нацыі ёсьць дні, веліч якіх зь цягам часу ўсьведамляецца ўсё болей. А 6-й гадзіне раніцы 25 сакавіка 1918 году ў Менску Рада Беларускай Народнай Рэспу-

блікі абвясьціла Беларусь незалежнай дзяржавай. Была прынятая трэцяя Ўстаноўчая грамата, на падставе якой трацілі сілы старыя дамоўленасьці, што (цытую) «далі магчымасьць чужому ўраду падпісаць за Беларусь дамову ў Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі». Грамата пацьвярджала свабоду слова, друку, ды іншыя дэмакратычныя правы грамадзянаў, у тым ліку і права на зямлю.

Беларусь, такім чынам, упершыню прадэманстравала перад сусьветам сваё жаданьне жыць самастойна, абапіраючыся ў сваіх палітычных актах на дэмакратычныя прынцыпы. А самае галоўнае — мы даказалі, што не згубілі нацыянальнай годнасьці і веры ў свае сілы, нягледзячы на векавую няволю.

БНР адразу выйшла на міжнародную арэну, яе прызналі як незалежную дзяржаву Прыбалтыйскія краіны, Грузія, Украіна, Фінляндыя, Чэхаславаччына, Турцыя, Германія. Не прызналі яе Расея ды Польшча, якія ваявалі паміж сабой за тэрыторыю Беларусі.

Трагічны быў лёс у нашай дзяржаўнасьці. У сакавіку 1921 году ў Рызе Расея і Польшча падпісалі дамову, па якой Беларусь была падзелена. Многія дзеячы нацыянальнага Адраджэньня былі вымушаны зьехаць у эміграцыю. Наступныя дзесяцігодзьдзі пасылалі нашаму народу сапраўды апакаліптычныя выпрабаваньні, кожнае зь якіх адбірала мільёны жыцьцяў, але ня здолела адабраць веру ў сьветлую будучыню Бацькаўшчыны, веру, якую яе сыны захавалі, куды б ні

закідваў іх лёс: на парыскія бульвары, за калючы ГУЛАГаўскі дрот ці да магільнай ямы Курапатаў.

Ёсьць у нас нешта магічнае ў лічбе 25. Менавіта 25 сакавіка 1525 году Скарына заклаў у Вільні першую беларускую друкарню. У гэты ж дзень у 1918 годзе была прынятая Трэцяя Ўстаноўчая грамата, і 25 жніўня, летась, мы ў гэтай залі абвясьцілі Незалежнасьць Беларускай Рэспублікі.

Мы пераканаліся ў тым, што адзінае, што можа зьяднаць і яднае нас у гэтай залі дый за яе межамі — гэта патрэба ўмацаваньня беларускай дзяржаўнасьці. Беларускі Народны Фронт — парлямэнцкая апазыцыя, не ідучы на ідэалягічныя кампрамісы, заўсёды з прыязнасьцю ўспрымаў усе захады, якія былі накіраваны на ўмацаваньне сувэрэнітэту.

Тое, што наша воля і Незалежнасьць былі аплачаны крывёю і сьлязьмі пакаленьняў, не дазваляе нам лічыць сёньняшні дзень сьвятам для нейкай адной палітычнай сілы ці групы партый. Гэта ўсенароднае, нацыянальнае сьвята.

Мы верым, што калі-небудзь 25 сакавіка стане днём нацыянальнай еднасьці, і хочам, каб такі час наступіў як найхутчэй. Са сьвятам вас, паважаныя калегі! Жыве Беларусь! (АпляДысмэнты)».

І сапраўды — я сыходзіў з трыбуны пад апляДысмэнты ня толькі ад сяброў-фронтаўцаў, але і ад вэтэранаў ды былых камуністаў.

Напэўна, тое быў адзін з самых удалых маіх выступаў у Вярхоўным Савеце.

# КРАСАВІК

**1 красавіка.** Міністар па справах абароны Пётра Чавус узяў удзел у сустрэчы міністраў абароны краінаў НАТО, Усходняй Эўропы і СНД.

**2 красавіка.** Мітынг Свабоднага прафсаюзу з удзелам страйкоўцаў-гарнякоў Салігорску, якія патрабавалі новага тарыфнага пагадненьня.

**3 красавіка.** Кіраўнікі краінаў СНД зьвярнуліся да расейскага ўраду з просьбай устрымацца ад лібэралізацыі цэнаў на нафту.

**5 красавіка.** У Менску ў Доме літаратара адбылася Міжнародная навуковая канфэрэнцыя «Беларусь і Вялікае Княства Літоўскае».

**8-9 красавіка.** Візыт дэлегацыі Вярхоўнага Савету на чале са Станіславам Шушкевічам у Францыю і падпісаньне Беларусьсю Парыскай Хартыі вольнай Эўропы.

**13 красавіка.** Перадача Ініцыятыўнай групай ў Цэнтральную выбарчую камісію 446 061 подпісу за рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах.

**15 красавіка.** Міжнародная канфэрэнцыя «Сьвет пасьля Чарнобылю», прывітальны зварот да ўдзельнікаў Васіля Быкава.

**16 красавіка.** У «Народнай газэце» апублікаваная «Канцэпцыя эканамічнай рэформы ў Рэспубліцы Беларусь», падрыхтаваная Апазыцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце.

**22 красавіка.** Вярхоўны Савет зацьвердзіў генэрала Паўла Казлоўскага міністрам абароны Рэспублікі Беларусь.

**23 красавіка.** На сустрэчы кіраўнікоў архіўных фондаў 14 рэспублік былога СССР падпісаная Дамова аб праве на вяртаньне дзяржавам архіўных фондаў, калі яны фармаваліся на іх тэрыторыі ці адлюстроўваюць іх гісторыю.

**24 красавіка.** Вярхоўны Савет дафармоўвае Цэнтральную выбарчую камісію.

**25 красавіка.** Дэпутаты Апазыцыі БНФ заяўляюць, што пры дафармаваньні Цэнтральнай выбарчай камісіі Вярхоўным Саветам было парушана заканадаўства, усе новыя члены камісіі — прадстаўнікі кіруючай намэнклятуры.

**24 красавіка.** Падпісанае Тарыфнае пагадненьне паміж урадам і прафсаюзамі. Дырэктар «Беларуськалію» падаў у адстаўку, страйк гарнякоў Салігорску завяршыўся выкананьнем іх асноўных патрабаваньняў.

**30 красавіка.** У Жэнэве абвешчана, што тэхналёгія www будзе бясплатнай.

**Красавік.** З тэрыторыі Беларусі завершаны вывад тактычных ядзерных ракет у Расею.

# ЭГІПЭЦКАЯ ПРАЦА БЕЛАРУСКІХ ЧЫНОЎНІКАЎ

13 красавіка а 15-ай гадзіне да будынку Дому палітасьветы на вуліцы Кастрычніцкай, дзе месьцілася Цэнтральная камісія па выбарах пад’ехаў аўтобус.

Яго суправаджаў міліцэйскі аўтамабіль, зь якога выйшла група міліцыянтаў з «калашнікавымі». За некалькі дзён да гэтага Зянон Пазьняк зьвярнуўся да міністра ўнутраных справаў Уладзімера Ягорава з просьбай забясьпечыць ахову пры перадачы подпісаў за рэфэрэндум. Міністар пайшоў насустрач.

Актывісты Народнага Фронту — члены Ініцыятыўнай групы — пачалі выгружаць і заносіць у будынак пакункі з падпіснымі лістамі. На кожным пакеце была выява «Пагоні», у кожным — па 1000 падпісаных лістоў. Усяго ў Цэнтральную камісію была перададзена 446 061 подпіс грамадзянаў Беларусі.

Разам з подпісамі ў ЦВК быў перададзены Заключны акт Ініцыятыўнай групы, у якім пацьвярджалася, што група працавала «ў поўнай адпаведнасьці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, ажыцьцявіла збор подпісаў у адведзены



Вера Чуйко, Уладзімер Анцулевіч і Зянон Пазьняк каля пакетаў з падпіснымі лістамі за рэфэрэндум.

Законам тэрмін і ў неабходнай колькасьці». Таксама паведамлялася, што «Ініцыятыўная група мае подпіс кожнага пакета, у тым ліку зьвесткі аб колькасьці подпісаў на кожным падпісным лісьце, і захоўвае гэтыя зьвесткі ў сябе. Гэтыя дадзеныя могуць быць прадстаўленыя ў Цэнтральную камісію па рэфэрэндуме Рэспублікі Беларусь для параўнаньня выніку падліку колькасьці подпісаў і складаньня пратаколаў рознагалосьсяў, калі такія ўзьнікнуць».

Згадка пра вопіс кожнага пакета невыпадковая — было зразумела, што і пры праверцы подпісаў будуць шукаць якія заўгодна зачэпкі, каб прызнаць як мага большую колькасьць несапраўднымі; кіраўнікі Ініцыятыўнай групы не выключалі, што частка пакетаў можа ў працэсе падліку «згубіцца».

Цэнтральная камісія атрымала таксама афіцыйную заяву Уладзімера Анцулевіча, што ягоны асабісты подпіс на лістах «выкананы факсымільным спосабам», і ўзор гэтага подпісу, а таксама заяву Ініцыятыўнай групы аб парушэньнях органамі ўлады правоў чалавека ў справе ціску на грамадзянаў, якія ставілі подпісы. Такіх выпадкаў былі сотні.

У часе прэсавай канфэрэнцыі пасьля перадачы падпісных лістоў члены Ініцыятыўнай групы распавялі пра некаторую статыстыку (48% усіх подпісаў было сабрана ў сталіцы і ў Менскай вобласьці, а на другім месцы сярод гарадоў апынулася Горадня — тут за рэфэрэндум падпісаліся 32 тысячы).

«Якімі будуць дзеяньні Вярхоўнага Савету ў дачыненьні да рэфэрэндуму, прадказаць абсалютна немагчыма. Па законе ад іх патрабуецца прызначыць толькі дату рэфэрэндуму. Але ад гэтага Вярхоўнага Савету можна чакаць чаго заўгодна: яны могуць наогул забараніць рэфэрэндум... Аднак якімі б ні былі іхнія дзеяньні, гэта ўжо ня мае асаблівага значэньня. Ёсьць факт: Ініцыятыўная група выканала ўсе патрабаваньні закону і сабрала патрэбную колькасьць подпісаў. На тэрыторыі былога Савецкага Саюзу гэта першы выпадак, калі ня ўлады ініцыююць рэфэрэндум, а ён прыйшоў зьнізу», — яшчэ напярэдадні пракамэнтаваў сытуацыю газэце «Свабода» Зянон Пазьняк.

Цяпер, паводле закону, ЦВК мела месяц на праверку падпісных лістоў.

Подпісы правярала ня толькі ЦВК. Да гэтай працэдуры кіраўніцтва Вярхоўнага Савету і ўраду падышло як да місіі жыцьцёва важнай — у дапамогу членам ЦВК былі адмабілізаваныя (іншага слова і не падбярэш) дзясяткі супрацоўнікаў апарату Вярхоўнага Савету і Саўміну, якія цягам некалькі тыдняў займаліся выключна і толькі праверкай падпісных лістоў. Да іх, вызваленых ад асноўнай працы, дадаліся і сотні мясцовых чыноўнікаў, якія займаліся праверкай паралельна са сваімі асноўнымі абавязкамі.

Фактычна, месяц чынавенскі апарат краіны правяраў кожны ліст — ці сапраўды грамадзяне, якія там пазначаныя, падпісаліся, ці правільна пазначаны іх адрас і пашпартныя зьвесткі, ці не падробленыя подпісы, ці сапраўды кожны падпісны ліст быў завераны пячаткай выканкаму.

Праца была эгіпэцкая.

Пра яе маштаб сьведчыць хоць бы тое, што 2 372 лісты былі перададзеныя на почырказнаўчую экспэртызу. Гэта значыць, высакаклясныя графолягі былі вымушаныя праверыць на адпаведнасьць некалькі дзясяткаў тысяч (!) подпісаў.

У гісторыі Беларусі ёсьць толькі адзін падобны паводле маштабу прэцэдэнт — калі ў 1985 годзе супрацоўнікі міліцыі праверылі 570 тысяч узораў почырку жыхароў Віцебскай вобласьці, каб выявіць аўтара дасланага ў рэдакцыю газэты «Віцебскі рабочы» ліста, у якім падазравалі маньяка-забойцу (падазрэньні апраўдаліся, забойца 36 жанчын быў урэшце знойдзены — гэта быў сумнавядомы Генадзь Міхасевіч).

Пазьней старшыня ЦВК Аляксандар Абрамовіч скажа, што «Цэнтральная камісія праверыла кожны падпісны ліст, а ня толькі тыя 2 372 лісты, якія былі перададзеныя на почырказнаўчую экспэртызу».

Ішоў восьмы месяц існаваньня незалежнай дзяржавы, працы было — не разгрэбці, а дзяржаўны апарат правяраў падпісныя лісты, выратоўваў Вярхоўны Савет. Ну і сябе, канешне.

Але ўсе спробы даказаць, што БНФ ня здолеў набраць прадугледжаную законам колькасьць подпісаў, былі марнымі.

Паводле Абрамовіча, «было выяўлена, што з агульнай колькасьці 446 тысячаў 61 подпісу — 51 тысяча 363 подпісы былі прызнаныя Цэнтральнай выбарчай камісіяй як аформленыя з рознымі адступленьнямі. Зь яўнымі парушэньнямі патрабаваньня Закону аб рэфэрэндуме была аформлена колькасьць падпісных лістоў і подпісаў, якая складае менш за адзін працэнт ад агульнай колькасьці сабраных подпісаў».

Заўважым: гаворка ідзе не пра нейкія падробкі, не пра фальсыфікацыі — а пра парушэньні пры афармленьні (пры тым што і сама Ініцыятыўная група забракавала немалую колькасьць падпісных лістоў).

І нават пры гэтым афіцыйна прызнаных подпісаў для прызначэньня рэфэрэндуму аказалася больш, чым патрабаваў Закон — 384 тысячы.

# КАНЦЭПЦЫЯ АПАЗЫЦЫІ БНФ: І МІКРА- , І МАКРАЭКАНОМІКА

Ня тое каб часта, але рэгулярна старшыня Савету міністраў Вячаслаў Кебіч у кулюарах Вярхоўнага Савету вымаўляў, што «хоць сёньня» мог бы прапанаваць Юрасю Беленькаму пасаду міністра фінансаў, а Ўладзімеру Заблоцкаму — увогуле крэсла свайго намесьніка. Выказваўся Вячаслаў Францавіч як пра высокакваліфікаваных эканамістаў і пра некаторых іншых дэпутатаў парлямэнцкай апазыцыі БНФ.

Але — толькі выказваўся. Ніякіх канкрэтных прапаноў ні Беленькаму, ні Заблоцкаму Кебіч не рабіў. Думаю, што нават калі б паспрабаваў зрабіць — яму не дазволіла б гэта атачэньне, дзе ішла жорсткая барацьба за кожнае крэсла, паколькі месцы ва ўрадзе і вакол ураду ў 1992 годзе ўжо дазвалялі ўзбагачацца асабіста.

І што цікава, хоць такія высокія ацэнкі чулі многія дэпутаты, у публічных выступах або ў інтэрвію Кебіч ад іх устрымліваўся.

Практычна нічога не пісалі пра эканамічныя законапраекты Апазыцыі БНФ і саўмінаўскія газэты (якія мелі вялікі супольны наклад).

У гэтым сэнсе публікацыю ў газэце «Советская Белоруссия» 8 ліпеня 1992 году можна лічыць унікальнай.

«Гэты дакумэнт прываблівае канкрэтнасьцю пастаноўкі праблемаў і іх вырашэньня. Канцэпцыя шматплянавая і дэталёва прапрацаваная,

ахоплівае практычна ўсе бакі дзяржаўна-гаспадарчага жыцьця».

Гэта — ацэнка эканамічнай канцэпцыі, дадзеная доктарам эканамічных навук. І тычыцца гэта праграмы, распрацаванай не Саветам міністраў, а Апазыцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце.

Такая ацэнка кантрастуе зь мітам пра тое, што БНФ нібыта «дбае толькі пра мову і культуру» і ігнаруе эканоміку. Мітам, які ў 1992-м афіцыйны друк распаўсюджваў з гэткай самай настойлівасьцю, як ён рабіў гэта ў часы панаваньня кампартыі і як потым будзе рабіць лукашэнкаўская прэса. Здавалася б, разумнаму чалавеку дастаткова было ўключыць тэлевізар ці радыёпрыёмнік з трансьляцыямі сэсіі парлямэнту, каб пачуць, як дэпутаты Народнага Фронту адстойваюць свае законапраекты і прапановы ў галіне сельскай гаспадаркі, бюджэтна-фінансавай сфэры, каб аднойчы і назаўсёды пераканацца ў фальшывасьці сьцьвярджэньня, што «БНФ толькі за мову». Але ж на пэўную частку насельніцтва прапаганда спрацавала, асабліва з улікам таго, што пасьля 1995 году Народны Фронт ня меў прадстаўнікоў у парлямэнце і быў цалкам адрэзаны ад электронных сродкаў масавай інфармацыі.

Выглядае, што аўтар публікацыі, якую я вышэй працытаваў (доктар эканамічных навук Васіль Гаўрылюк), не пажадаў псаваць сваю рэпутацыю і апускацца да прапагандысцкіх клішэ.

Беларусь уступіла ў 1992 год у найцяжэйшай за ўсю сваю найноўшую гісторыю эканамічнай сытуацыі, якая вызначалася трыма асноўнымі

адметнасьцямі: адсутнасьцю эканамічных рынкавых рэформаў (паўтара года эканамічныя заканадаўчыя прапановы Апазыцыі БНФ адкідаліся), няздольнасьцю прызначанага яшчэ ў камуністычныя часы ўраду адэкватна ўспрымаць сытуацыю і правільна на яе рэагаваць і, нарэшце, вялікай залежнасьцю ад Расеі.

Апошні фактар складаўся, у сваю чаргу, з аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынаў. Да першых можна аднесьці залежнасьць Беларусі ад расейскіх энэрганосьбітаў і сыравіны, якую пераадолець у кароткі тэрмін было, канешне, немагчыма. Да другіх — тое, што ў Маскве каманда Ягора Гайдара пачала рэформы ўключна з прыватызацыяй і лібэралізацыяй цэнаў, і беларускі ўрад, ня маючы ўласнай канцэпцыі рэфармаваньня эканомікі, здольны быў толькі рэагаваць на тое, што ішло з Масквы.

Да прыкладу, ужо ў першыя дні 1992-га зь Беларусі ў Расею пачалі масава вывозіць прадукты і тавары — бо цэны ў расейскіх гарадах узрасьлі ў дзясяткі разоў. Пра мяжу з Расеяй урад Беларусі, вядома, і чуць не жадаў. У краіне з разьвітой эканомікай такога можна было б толькі жадаць — кожная дзяржава зацікаўленая ў росьце экспарту, але ў Беларусі пачатку 1992 году не хапала самых элемэнтарных паўсядзённых тавараў.

І пры гэтым на травень 1992 году Беларусь была вінная Расеі 7 мільярдаў рублёў, а Расея Беларусі — амаль у чатыры разы болей, 27 мільярдаў. Аднак урад Гайдара адмаўляўся расплачвацца за расейскія прадпрыемствы, матыву-



# КАНЦЭПЦЫЯ ЭКАНАМІЧНАЙ РЭФОРМЫ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСІ

(прапануецца Апазіцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусі)

Канцэпцыя эканамічнай рэформы, распрацаваная Апазыцыяй БНФ. «Народная газэта», 14 красавіка 1992 г.

ючы гэта неўмяшаньнем дзяржавы ў дзейнасьць суб’ектаў гаспадараньня ў новых рынкавых адносінах і ўмовамі ўступленьня ў Міжнародны валютны фонд.

У ліпені 1992-га дысбалянс павялічыўся: Беларусь была вінная Расеі 40 мільярдаў, Расея Беларусі — 120 мільярдаў.

Падобнае было ў адносінах зь іншымі былымі савецкімі рэспублікамі: на ліпень 1992-га яны былі вінныя нам болей, чым мы ім.

Дарэчы, гэта цалкам абвяргала папулярны яшчэ з часоў існаваньня СССР міт пра тое, што нібыта «Беларусі без Расеі не пражыць».

Увогуле, у фінансавай сфэры сытуацыя склалася драматычная: у Расеі пачалася гіпэрінфляцыя, а іншай грашовай адзінкі, акрамя расейскага рубля, у Беларусі не было — Вярхоўны Савет

ігнараваў нашы прапановы аб увядзеньні ўласнай валюты.

«Вырашэньне эканамічных праблем на Беларусі магчымае зараз толькі палітычнымі сродкамі», — заявіў у лютым Пазьняк агенцтву БелаПАН, маючы на ўвазе абраньне парлямэнту, якому будзе давяраць народ. «Па эканамічнай канцэпцыі разьвіцьця Беларусі, падрыхтаванай БНФ, для стабілізацыі будзе патрэбна прыблізна год пасьля таго, як гэтая канцэпцыя пачне працаваць», — патлумачыў Пазьняк супрацоўніку агенцтва Віталю Цыганкову.

Яшчэ ў лютым у інтэрвію францускай Le Monde на пытаньне, ці зьбіраецца Беларусь уводзіць сваю грашовую адзінку, Станіслаў Шушкевіч адказаў: «Гэта яшчэ адна рыса, якая розьніць нас з Украінай. Я асабіста зраблю ўсё, каб да гэтага не дайшло».

І сапраўды, рабіў усё, што ад яго залежала.

Пасьля заявы Ўкраіны аб выхадзе з рублёвай зоны, 27 і 28 сакавіка адбылося закрытае паседжаньне Вярхоўнага Савету, якое разглядала сытуацыю ў фінансавай сфэры. Мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, настойвалі на ўвядзеньні нацыянальнай валюты, аднак не атрымалі падтрымкі ад Станіслава Шушкевіча. Як і варта было чакаць, гэтаму супраціўлялася і парлямэнцкая большасьць.

«Ствараецца ўражаньне, што абрабаваныя і абкрадзеныя, яны, абураючыся рабаўніцтвам, у адданым рвеньні, на каленях, ныючы і скуголячы, гатовыя паўзьці ў пашчу галоднай Расеі і загінуць

разам зь ёй пад рэшткамі імпэрскай турмы», — пракамэнтаваў сытуацыю Зянон Пазьняк газэце «Знамя юности» (8 красавіка 1992).

16 красавіка 1992 году ў «Народнай газэце» была апублікаваная Канцэпцыя эканамічнай рэформы, падрыхтаваная дэпутацкай Апазыцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце. Тэкст заняў асобную ўкладку на дзьве паласы. Наклад газэты ў той дзень быў 393 400 экзэмпляраў.

Нам было важна паказаць людзям, што Народны Фронт прапануе ня проста зьмену ўлады праз новыя выбары, а канкрэтную праграму ў тым ліку і эканамічных рэформаў.

Гэта ўжо была другая зь ліку эканамічная праграма Апазыцыі БНФ (першая была распрацаваная ўвосень 1990 году разам з пакетам законапраектаў — натуральна, парлямэнцкай большасьцю заблякаваных. Праўда, некаторыя нашы прынцыповыя палажэньні нам усё ж удалося правесьці).

Канцэпцыі папярэднічаў разьдзел «Уводзіны» (напісаны Пазьняком), які дае ляканічную і дакладную ацэнку эканамічнай сытуацыі пачатку 1992 году праз прызму палітычнай сытуацыі.

У ім было засьведчана, што «прынцыпы пераходу эканомікі Беларусі да рынкавых узаемадачыненьняў і шэраг законапраектаў, прапанаваных дэпутацкай Апазыцыяй Беларускага Народнага Фронту ў 1990 годзе, былі адкінутыя камуністычна-намэнклятурнай большасьцю Вярхоўнага Савету. Была зробленая стаўка на стабілізацыю эканомікі загадна-адміністрацыйнымі мэтадамі пры захаваньні дзяржаўнай уласнасьці на сродкі

вытворчасьці і манапалізму дзяржаўных уладна-эканамічных структураў. Рыначная рэформа не праводзілася, заканатворчасьць насіла бессыстэмны, хаатычны характар; прынятыя законы не выконваліся альбо сабатаваліся старымі выканаўчымі органамі ўлады. Рыначныя структуры не разьвіваліся належным чынам. У выніку зьявіліся ценявыя прадпрымальніцтва і гандаль, вырасла крымінальная сыстэма эканомікі на аснове спалучэньня каманднa-адміністрацыйнай улады, дзяржаўнай уласнасьці, рынкавых утварэньняў і карумпаванай заканатворчасьці. Пачалася прыхаваная, незаконная, «дзікая» прыватызацыя, перапампоўваньне дзяржаўных фондаў і рэсурсаў у прыватную ўласнасьць дзяржаўнай бюракратыі і мафіёзных структураў, перавод безнаяўных грошай у наяўныя, усталяваньне двайных цэнаў (дзяржаўных і ценявых). Усё гэта паскорыла інфляцыю, зьнікненьне тавараў, рост беспрацоўя, зьбядненьне людзей і агульнае зьніжэньне жыцьцёвага ўзроўню насельніцтва Беларусі».

Пазьняк канстатаваў таксама «залежнасьць эканомікі Беларусі ад хворай эканомікі некаторых суседніх дзяржаваў» і капітулянцтва (мелася на ўвазе найперш залежнасьць ад Расеі, калі «шокавая тэрапія» Гайдара, гэтак ухваленая расейскімі дэмакратамі, у Беларусі адбілася імгненным зьбядненьнем беларускага народу «ў сувязі з навязанай нам так званай лібэралізацыяй цэнаў (фактычна іх падвышэньнем)». Усё гэта закрывала «свабодныя пэрспэктывы разьвіцьця Беларусі як вольнай эўрапейскай дзяржавы».

Канцэпцыя была распрацаваная эканамічнай групай Апазыцыі БНФ з удзелам Уладзімера Заблоцкага (агульная канцэпцыя), Юрася Беленькага (грашовая сыстэма), Лявонція Зданевіча (зямельнае пытаньне), Сяргея Папкова (праграма стабілізацыі).

Сама Канцэпцыя складалася з шаснаццаці разьдзелаў, якія вызначалі прынцыпы і мэты рэформы, яе пэрыядызацыю, асаблівасьці ў розных галінах эканомікі, у тым ліку і ў аграпрамысловым комплексе. Асобныя разьдзелы былі прысьвечаныя правядзеньню валютнай рэформы і стварэньню фінансавай сыстэмы з увядзеньнем нацыянальнай грашовай адзінкі.

Гэта была праграма і на макраэканамічным, і на мікраэканамічным узроўні.

Безумоўна, пераказваць яе ўсю няма магчымасьці, але з адным разьдзелам я хацеў бы пазнаёміць чытача больш-менш падрабязна, паколькі ён дае добрае ўяўленьне пра самыя надзённыя (як яны нам бачыліся 1992-м) крокі ў выпадку прыняцьця Канцэпцыі.

Апошнім — паводле парадку ў публікацыі, але неадкладным у рэалізацыі — быў разьдзел, прысьвечаны праграме захадаў па стабілізацыі эканомікі.

Ён меў на мэце «ўвядзеньне ў поўнай меры рынкавых мэханізмаў урэгуляваньня з улікам зьнешніх і ўнутраных эканамічных працэсаў і варункаў)» і падзяляўся на пяць этапаў.

Першы прадугледжваў актуальныя для 1992-га захады, такія, як стабілізацыя спажывецкага

рынку (напаўненьне крамаў прадуктамі і таварамі), комплекс захадаў па сацыяльнай абароне насельніцтва, рэарганізацыю гуртавога гандлю. Прапаноўвалася ліквідаваць Міністэрства гандлю і адпаведныя ўпраўленьні ў аблвыканкамах, якія ў той час ператварыліся ў карупцыйныя разьмеркавальнікі. Важным момантам была ліквідацыя манаполіі кіраўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў на распараджэньне маёмасьцю (якую дырэктарскі корпус пачынаў пераводзіць сабе ва ўласнасьць). Таваравытворцы павінны былі атрымаць маёмасьць ва ўласнасьць альбо ў арэнду праз адкрытыя аўкцыёны. Нарэшце, павінны былі быць уведзеныя «ўласныя грашовыя знакі» (своеасаблівая «перадвалюта»). На гэта адводзіліся два месяцы з моманту фармаваньня новага ўраду.

На другім этапе прадугледжвалася пашырэньне колькасьці таваравытворцаў, рэарганізацыя крэдытна-банкаўскай дзейнасьці, актыўная інвэстыцыйная палітыка ў паліўна-энэргетычнай і сыравіннай галіне (што было важна з улікам энэргетычнай залежнасьці ад Расеі і нафтавага шантажу Крамля). Прымалася праграма прыватызацыі ўсіх відаў дзяржаўнай маёмасьці, ствараліся спрыяльныя ўмовы для разьвіцьця бізнэсу і стварэньня новых працоўных месцаў, а фіналам гэтага этапу, разьлічанага на пяць месяцаў, мелася быць увядзеньне ўласных грошай.

На трэцім этапе меркавалася стварэньне антыманапольных варункаў, стварэньне ў прамысловасьці да 150000 юрыдычных асобаў, у

сельскай гаспадарцы — да 30 тысяч вытворцаў (як прыватных, гэтак і калектыўных гаспадарак). Апошняе ўпарта ігнаравалі тыя, хто абвінавачваў БНФ у імкненьні «неадкладна разагнаць калгасы». Істотным уяўляўся пераход на структуру і прапорцыі сусьветных цэнаў, а таксама запуск праграмы прыватызацыі. Тэрмін вызначаўся да ўсталяваньня антыманапольных адносінаў у прамысловасьці, аграсэктары і ў гандлі.

Прыватызацыя і поўны пераход на рынкавыя мэханізмы рэгуляваньня эканомікі былі адметнасьцю чацьвёртага этапу, ён прадугледжваў прыватызацыю 60% дзяржаўнай маёмасьці і быў разьлічаны на два гады.

На пятым этапе ставілася ўжо глябальная мэта — цягам пяці гадоў Беларусь павінна была ўвайсьці ў сусьветную эканоміку ў якасьці актыўнага суб’екта.

Аднак гэтая нашая эканамічная праграма была адкінутая.

У вышэй цытаванай публікацыі ў «Советской Белоруссии» аўтар папракнуў распрацоўнікаў эканамічнай Канцэпцыі БНФ, што яны хочуць забраць «агульнанародную ўласнасьць» і перадаць яе ў прыватныя рукі (тады як насамрэч мы прапаноўвалі якраз «народную прыватызацыю», пры якой кожны грамадзянін меў бы права на долю ўласнасьці).

Неўзабаве «народная ўласнасьць» усё ж апынецца ў прыватных руках — пераважна, тых самых, якія будуць кіраваць краінай без усякай адказнасьці перад народам.

# УРОК ДЛЯ ЯРМОШЫНАЙ

Пасьля таго, як Ініцыятыўная група здала ў Цэнтральную камісію 446 тысячы сабраных подпісаў, кіраўніцтва Савету Міністраў і падкантрольная яму дэпутацкая група «Беларусь» вырашыла «ўзмацніць» склад камісіі, дзе было некалькі вакансіяў. Яшчэ раней замест былога кандыдата ў члены бюро ЦК КПБ і старшыні Камітэту народнага кантролю Міхаіла Лагіра, які ўзначальваў ЦВК у часе выбараў 1990 году, быў абраны прафэсар Аляксандар Абрамовіч — Шушкевіч і іншыя дэмакратычныя былыя народныя дэпутаты СССР лічылі, што ён добра зарэкамэндаваў сябе ў якасьці члена Камітэту канстытуцыйнага нагляду СССР (своеасаблівы аналяг Канстытуцыйнага суду). Нейкім чынам парлямэнцкая большасьць прапусьціла яго ў старшыні, але хутка ўсьвядоміла памылку і адчула небясьпеку. Таму да іншых новых кандыдатураў членаў ЦВК падышлі адказна. І, каб гарантавана падстрахавацца ад непрыемных сюрпрызаў, выбралі іх, пераважна, з апарату юрыдычных аддзелаў выканкамаў.

Пры гэтым фармальна выканалі норму закону, які абавязваў вылучэньне і абмеркаваньне ў працоўных калектывах: хіба, напрыклад, юрыдычны аддзел Бабруйскага гарвыканкаму — гэта не працоўны калектыў? Ад гэтага калектыву была прапанаваная зусім невядомая юрыдычная кансультантка Лідзія Ярмошына, якой праз некалькі

гадоў і на некалькі дзесяцігодзьдзяў на пасадзе старшыні ЦВК давядзецца зрабіцца ключавой асобай усіх афіцыйных выбарчых кампаніяў, а ў нейкім сэнсе — і сымбалем, тварам гэтых кампаніяў.

Менавіта ў тыя дні, 21-22 красавіка, калі Вярхоўны Савет прызначаў новых членаў ЦВК, і ўзышла зорка Лідзіі Ярмошынай.

Дэбаты па кандыдатурах на сэсіі доўжыліся два дні, у прамежку паміж разглядам іншых пытаньняў парадку дня. Уласна, спрэчкі былі ня столькі пра асобаў, якія прапаноўваліся ў камісіі, колькі пра сам прынцып іх вылучэньня, пры якім намэнклятура захавала толькі бачнасьць выкананьня закону. Я прыводжу найбольш характэрныя ўрыўкі з выступаў дэпутатаў, зафіксаваных у стэнаграме. (Тут і ў наступных разьдзелах я падаю ўсе выступы дэпутатаў у перакладзе на беларускую мову. Варта ўлічыць, што дэпутаты БНФ выступалі пераважна па-беларуску, дэпутаты-намэнклятурнікі — выключна па-расейску.)

## Фальсыфікацыя ў Авальнай залі

Пасяджэньне, на якім меліся зацьвярджацца новыя члены Цэнтральнай камісіі па выбарах і рэфэрэндумах, пачалося з парушэньня.

Дэпутат Апазыцыі БНФ Уладзімер Новік заўважыў, як невядомы чалавек націснуў кнопку рэгістрацыі на месцы, дзе звычайна сядзеў Вячаслаў Кебіч. Вёў пасяджэньне першы намесьнік

старшыні Вярхоўнага Савету Вячаслаў Кузьняцоў.

Уладзімер Новік: «Паважаныя дэпутаты! Была груба парушана працэдура. Дэпутат Кебіч адсутнічае на месцы, а тым ня менш невядомы чалавек прыйшоў і зарэгістраваўся за дэпутата Кебіча. Я лічу, што гэта недапушчальна і гэты чалавек павінен пакінуць залю, як гэта прынята ў іншых парлямэнтах сьвету. Я прашу гэтага чалавека пакінуць залю, ён парушае працэдуру, гэта недапушчальна, гэта зьневажаньне Вярхоўнага Савету».

Валянцін Голубеў: «Я прашу старшыню спыніць таго чалавека, які зараз ідзе... (Шум у залі). Спыніце, калі ласка, растлумачце дэпутатам, хто гэта такі, чаму ён сядзеў на месцы спадара Кебіча, чаму ён зарэгістраваўся. І, дарэчы, у такіх выпадках трэба браць даведку ў сакратарыяту, ці сапраўды так зроблена, і потым даць ацэнку».

Старшыня: «Добра, мы папросім сакратарыят удакладніць».

Сяргей Навумчык: «Шаноўны старшыня! Вы разумееце, тое, што цяпер адбылося, гэта скандал (Шум у залі). У нармальных парлямэнтах адмяняецца пасяджэньне і ідзе сьледзтва, гэта грубейшае парушэньне парлямэнцкай працэдуры, закону».

Старшыня: «Мы папрасілі сакратарыят разабрацца. Дзякуй. Я думаю, ён дасьць нам інфармацыю. Пераходзім да разгляду асноўнага пытаньня парадку дня. (Шум у залі). Народны дэпутат Голубеў, прашу зь месца не крычаць…»

Да мікрафона падышла член Камісіі па дэпутацкай этыцы Інэса Драбышэўская.

Інэса Драбышэўская: «Кебіч сапраўды зарэгістраваны прысутным на сэсіі. Вячаслаў Мікалаевіч, але ж гэта абуральны факт. Што гэта значыць? (Шум у залі)… Я не выступаю супраць Кебіча, але гэта факт грубейшага парушэньня працэдуры. Што гэта за падстаўная асоба, якая замест кожнага з нас можа тут прысутнічаць?»

Кузьняцоў абмежаваўся тым, што правёў перарэгістрацыю, і далей дэпутаты пачалі разглядаць у другім чытаньні праект Закону аб прафэсійных саюзах.

Закон гэты прымаўся цэлы дзень, увесь гэты час пяцёра кандыдатаў у члены Цэнтральнай камісіі па выбарах і рэфэрэндуму сядзелі ў Авальнай залі, чакаючы, пакуль дойдзе да іх. Ужо ў першыя хвіліны прысутнасьці на пасяджэньні найвышэйшага заканадаўчага органу яны атрымалі прыклад фактычна беспакаранай фальсыфікацыі пры рэгістрацыі кіраўніка ўраду. Можна меркаваць, што Лідзія Ярмошына, якая была ў гэтай «пяцёрцы», зрабіла для сябе высновы.

## «Апарат міністэрства — таксама працоўны калектыў»

Да прызначэньня членаў ЦВК справа дайшла толькі на вечаровым пасяджэньні, калі дэпутаты былі стомленыя даволі экспрэсіўнай дыскусіяй па спрэчных палажэньнях «прафсаюзнага» закону.

Выглядала, што старшыня парлямэнцкай Камісіі па дзяржаўным будаўніцтве Ўладзімер

Леўчык, які прадстаўляў гэтае пытаньне парадку дня, спадзяваўся, што яно будзе разгледжана хутка.

Але мы імкнуліся сарваць такі сцэнар.

У сваім выступе Леўчык нагадаў, што Цэнтральная выбарчая камісія «была ўтворана 4 сьнежня 1989 году. Як бачна, прайшло ўжо больш за два гады, і за гэты час у яе складзе адбыліся значныя зьмены. На асабістую просьбу быў вызвалены з пасады старшыні камісіі Лагір, нядаўна мы зацьвердзілі на гэтую пасаду Аляксандра Міхайлавіча Абрамовіча». Паколькі са складу камісіі па розных прычынах выбылі некалькі членаў, Леўчык паведаміў, што «Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету 3 красавіка разгледзеў пытаньне аб папаўненьні складу Цэнтральнай камісіі. У прынятай пастанове даручана Камісіі па дзяржаўным будаўніцтве ўнесьці гэтае пытаньне на разгляд Вярхоўнага Савету. У адпаведнасьці з артыкулам 20 Закону Рэспублікі Беларусь “Аб выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь” прэзыдыюмы Берасьцейскага, Віцебскага, Магілёўскага і Менскага абласных саветаў народных дэпутатаў разгледзелі прапановы працоўных калектываў аб вылучэньні кандыдатур у склад Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь і рэкамэндавалі іх для разгляду ў Вярхоўным Савеце».

Далей Леўчык сказаў, што ягоная камісія, «разгледзеўшы ўсе прадстаўленыя матэрыялы, ня выявіла парушэньняў парадку вылучэньня кандыдатураў у склад Цэнтральнай камісіі», і

вынес кандыдатуры на зацьвярджэньне парлямэнтам. «Я спадзяюся на станоўчае вырашэньне гэтага пытаньня», — завяршыў сваю кароткую прамову Ўладзімер Леўчык.

Першым да мікрафона падышоў дэпутат Апазыцыі БНФ Валянцін Голубеў і запытаўся, якія грамадзкія арганізацыі ўдзельнічалі ў вылучэньні кандыдатаў, паколькі закон прадугледжвае іх удзел. Адказу ад Леўчыка ён не атрымаў, і тады пытаньне паўтарыла Галіна Сямдзянава.

Сямдзянава: «Артыкул 20 Закону аб выбарах абвяшчае, што вылучаецца прэзыдыюмамі абласных саветаў з улікам меркаваньня працоўных калектываў і рэспубліканскіх грамадзкіх арганізацый. Якія грамадзкія арганізацыі рэкамэндавалі Прэзыдыюму дадзеныя кандыдатуры? Гэта адно пытаньне. Пытаньне другое. Чаму ваша камісія не ўлічыла пастанову Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету? Там выразна напісана... аб кандыдатурах у склад Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў замест выбыўшых з улікам прапановаў прэзыдыюмаў Берасьцейскага, Віцебскага, Магілёўскага і Менскага гарадзкога саветаў, але ніяк ня Менскага абласнога савету, прабачце. Чаму не выконваецца пастанова Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету?»

Стэнаграма сэсіі не патлумачыць будучым дасьледнікам, чым было выклікана акцэнтаваньне Галінай Сямдзянавай увагі менавіта на адным з рэгіёнаў — здавалася б, чыста фармальная розьніца, прэзыдыюм Менскага гарадзкога альбо Менскага абласнога саветаў вылучыць сваю

кандыдатуру. Розьніца, аднак, была, і вялікая. Бо менавіта Менскі гарадзкі савет быў, паводле складу дэпутацкага корпусу, адным з найбольш прагрэсіўных органаў мясцовай прадстаўнічай улады — палову там складалі дэпутаты дэмакратычных перакананьняў, шмат было членаў БНФ, такіх як Галіна Вашчанка, Алесь Бяляцкі, Сяргей Антончык і Юрась Беленькі (апошнія двое былі адначасна дэпутатамі і Менскага гарадзкога савету, і Вярхоўнага Савету). Адпаведна, дэпутаты мелі ўплыў і на рашэньні прэзыдыюму, і ў выпадку, калі б давялося вылучаць кандыдатуру ў ЦВК, гэта, бясспрэчна, быў бы калі і ня «франтавец», дык як найменей чалавек дэмакратычных поглядаў. Менавіта таму прэзыдыюму Менгарсавету не прапанавалі вылучыць кандыдатуру — пры тым, што нават Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету даў для яго «разнарадку» (апошняе, канешне, было ня больш чым спробай захаваць выгляд законнасьці). Свайго кандыдата прадставіў прэзыдыюм Менскага абласнога савету — які цалкам кантраляваўся намэнклятурай.

Леўчык патлумачыў, што Менгарсавет ліквідаваў свой прэзыдыюм і можа сабраць сэсію толькі ў траўні, да таго ж у ЦВК, паводле яго, было дзевяць прадстаўнікоў ад Менску, тады як ад Гомельскай, Гарадзенскай, Магілёўскай і Менскай вобласьцяў — па адным, а ад Віцебскай — увогуле нікога.

Усе гэтыя дзевяць прадстаўнікоў, аднак, былі прызначаныя ў ЦВК яшчэ за камуністычным часам.




Мітынг БНФ і салігорскіх гарнякоў, 16 красавіка 1992 г.

Далей старшыня Камісіі па дзяржаўным будаўніцтве паведаміў, якія «працоўныя калектывы» вылучылі кандыдатаў.

Леўчык: «Аб рэкамэндацыі таварыша Баня. Адбыўся сход аддзелу... агульны сход работнікаў Упраўленьня юстыцыі Менаблвыканкаму. Па Мініну — агульны сход работнікаў Віцебскага абласнога аб'яднаньня прафсаюзаў. Па Сукалу — агульны сход супрацоўнікаў апарату Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь. Па Цімафеевічу — сход працоўнага калектыву Ўпраўленьня юстыцыі Берасьцейскага аблвыканкаму. Па кандыдатуры Ярмошынай Лідзіі Міхай-

лаўны — сход калектыву работнікаў Бабруйскага гарвыканкаму».

Зразумела, такім сходам можна палічыць якую заўгодна працоўную нараду, сабраную, напрыклад, старшынём Бабруйскага гарвыканкаму. Фармальна — парушэньня закону тут не было: гэта — таксама працоўны калектыў. Але ва ўсіх пяці выпадках гэты былі калектывы чыноўнікаў. Канешне, не было ніякага вылучэньня альтэрнатыўных кандыдатураў, бо начальства ўжо назвала кандыдата, не было і дыскусіяў — сабраліся і аднадушна прагаласавалі. А магчыма — нават і не зьбіраліся, а проста аформілі пратакол.

Сытуацыя ўзьнікла для парлямэнцкай большасьці непрыемная.

Уратаваў яе, як гэта ўжо неаднойчы здаралася, былы другі сакратар Гомельскага абкаму Міхаіл Мачуленка, які прапанаваў «не пароць гарачку» і не «псаваць настрой» кандыдатам, а перанесьці галасаваньне на заўтра, на «сьвежую галаву».

Камуніст зразумеў камуніста — для зацьвярджэньня кандыдатураў, з улікам таго, што на вечаровых пасяджэньнях дэпутатаў было заўсёды меней, магло банальна не хапіць галасоў. Старшыня пасяджэньня заявіў, што «людзі прыехалі з усёй рэспублікі» (дарэчы, вельмі рэдка з вуснаў камуніста гучала слова «краіна»), і зьвярнуўся да дэпутатаў з просьбай усім прыйсьці, «каб у нас быў максымальны кворум».

Гэтак і вырашылі — без галасаваньня.

## «Засільле адной, ужо не кіруючай партыі»

Наступны дзень, 22 красавіка, як заўсёды, пачаўся з разьдзелу «Рознае», у якім, сярод іншых, выступіў старшыня Магілёўскага аблвыканкаму Мікалай Грынёў: «Расея вінаватая рэспубліцы 12 мільярдаў рублёў за прадукцыю, якая пастаўляецца зь Беларусі, у тым ліку па Магілёўскай вобласьці Расея вінаватая 370 мільёнаў рублёў за прадукцыю сельскай гаспадаркі. І давайце ўдумаемся, чаму кіраўніцтва Расеі не ідзе на прапанову аб пераzаліку. Я расцэньваю так: каб “задушыць” і калгасьнікаў, і прамысловасьць. Бо за тое, што мы пастаўляем у Расею мяса і малако, Расея з намі не разьлічваецца. І, у рэшце рэшт, апошнімі, крайнімі застаюцца калгасы і саўгасы. З гэтай трыбуны неаднаразова гучалі прамовы аб тым, што калгасы трэба разагнаць. Гэта значыць, атрымліваецца, што праз Расею ідзе «здушэньне» калгасаў і саўгасаў нашай рэспублікі. Вы памятаеце, калі мы абмяркоўвалі дамову СНД, колькі было запэўненьняў, што гэта добра, што развал Саюзу — гэта таксама добра і гэтак далей. Я так разумею, што калі кіраўніцтву рэспублікі хапіла розуму разваліць Саюз і нам паабяцаць, што СНД будзе лепшае, чым Савецкі Саюз, хай яно паступова ідзе да таго, каб людзі пачулі і ўбачылі, што гэта лепш».

У гэтай рэпліцы кіраўніка Магілёўскай вобласьці выявіўся ці ня ўвесь спэктар пазыцыі тых, хто кіраваў краінай і павінен быў вызначаць яе палітыку (у тым ліку і міжнародную). Як кіраўнік

вобласьці, Грынёў бачыў (напэўна, куды лепей за нас, дэпутатаў апазыцыі), што Расея папросту выціскае зь Беларусі плён працы, нічога не даючы ўзамен (так было і пры СССР — Беларусь пастаўляла прадукты ў Маскву і Ленінград). Аднак у яго (дарэчы, былога першага сакратара райкаму) не хапала здольнасьці зразумець, што якраз такі прыклад і павінен быць нагодай для пераасэнсаваньня адносінаў з Масквой — па ўсіх пытаньнях Грынёў галасаваў за саюз з Расеяй. І прычыны ўсіх бедаў бачыў у развале СССР — інакш кажучы, у Незалежнасьці. Пазьней, ужо пры Лукашэнку, у пачатку 2000-х, у адным з прапагандысцкіх фільмаў тэлебачаньня ён выказжацца пра развал Савецкага Саюзу як пра злачынства — непрыманьне Незалежнасьці застанецца зь ім на ўсё жыцьцё. Але ў гэтым сэнсе Грынёў нічым не адрозьніваўся ад іншых кіраўнікоў вобласьцяў у 1992 годзе. І менавіта такія людзі і вызначалі палітыку ў Вярхоўным Савеце.

Калі я чуў гэткія выступы (а яны гучалі на сэсіях Вярхоўнага Савету ледзь не штодня), я ўспрымаў абвяшчэньне Незалежнасьці гэтымі самымі людзьмі 25 жніўня 1991 году як цуд (цуду, канешне, не было — тое быў вынік тактыкі дэпутатаў Народнага Фронту і выключна ўдалага, дарэчнага выступу Пазьняка перад галасаваньнем).

Нарэшце, вярнуліся да разгляду кандыдатаў у склад Цэнтральнай камісіі.

Мы адразу пайшлі ў наступ.

Голубеў: «Апазыцыя БНФ. Я спадзяюся, сёньня паважаны старшыня камісіі дасьць тлумачэньне, што закон кажа пра вылучэньне гэтых кандыдатаў, і раскажа нам, з прадстаўнікамі якіх рэспубліканскіх грамадзкіх арганізацый раіліся пры вылучэньні гэтых людзей. Скажа, прадстаўнікі якіх грамадзкіх арганізацый, акрамя былой КПБ, прысутнічаюць і вылучаюцца цяпер у склад Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў. Як ішло гэтае вылучэньне? Ці адпавядала яно на гэтым этапе вылучэньням у першапачатковы склад Цэнтральнай выбарчай камісіі? Дзякую».

Леўчык: «У артыкуле 20 Закону “Аб выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь” гаворыцца: “Цэнтральная камісія па выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь утвараецца Вярхоўным Саветам па прапановах абласных і Менскага гарадзкога саветаў народных дэпутатаў ці іх прэзыдыюмаў з улікам меркаваньняў працоўных калектываў і рэспубліканскіх органаў грамадзкіх арганізацый не пазьней чым за 90 дзён да выбараў у складзе старшыні, двух намесьнікаў старшыні, сакратара і 15 членаў камісіі. Тэрмін паўнамоцтваў Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь — пяць гадоў”. З гэтага вынікае, па-першае, што кандыдатуры ў склад Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў прапануюцца Вярхоўнаму Савету толькі абласнымі і Менскім гарадзкім саветамі або іх прэзыдыюмамі. Па-другое, працоўныя калектывы вобласьці, рэспубліканскія

органы грамадзкіх арганізацый на пленумах, канфэрэнцыях рэспубліканскіх органаў могуць выказваць сваё меркаваньне па кандыдатурах, прапанаваных абласнымі і Менскім гарадзкім саветамі. Такія думкі выказваюцца да ўнясеньня прапаноў па кандыдатурах у Вярхоўны Савет на сэсіях адпаведных саветаў або пасяджэньнях прэзыдыюму, дзе абмяркоўваюцца кандыдатуры ў Цэнтральную камісію па выбарах народных дэпутатаў».

Навумчык: «Паважаны Ўладзімер Канстанцінавіч, вы сказалі, што гэтыя кандыдатуры абмяркоўваюцца ў грамадзкіх арганізацыях, на пленумах мясцовых філіялаў грамадзкіх арганізацый. Усё ж такі, калі ласка, хоць адзін прыклад. Ну, скажам, прадстаўнік ад Віцебску. Дзе ён абмяркоўваўся? А можа, у яго былі нейкія канкурэнты? А можа, віцебскі завод "Камінтэрн" вылучыў нейкую альтэрнатыўную кандыдатуру, а гэты аказаўся лепшым кандыдатам? Гэта людзі, якія будуць фармаваць выбарчыя камісіі і гэтак далей, кантраляваць правядзеньне будучых выбараў. Калі ласка, яны павінны прайсьці самі нейкую канкурэнтную барацьбу і быць лепшымі зь лепшых. Дык, калі ласка, прыклады, хоць па адным. Дзе вось гэта пройдзена?»

Леўчык: «Я ўчора сказаў па кожнай кандыдатуры, дзе абмяркоўвалася пытаньне. Трэба ўважліва слухаць».

Навумчык: «Я ўважліва слухаў. І высьвятляецца, што яны абмяркоўваліся кожны ў сваіх калектывах. І, скажам, начальнік юрыдычнага

ўпраўленьня Менаблвыканкаму, гаварыў Садоўскі, абмяркоўваўся ў сваім упраўленьні, і яго, начальніка, вылучылі, прызналі найлепшым».

Сямдзянава: «Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту. У мяне ў руках пастанова Вярхоўнага Савету яшчэ Беларускай ССР, дзе быў абраны склад цяпер дзеючай Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў. Махавікоў Сямён Сьцяпанавіч — намесьнік старшыні, першы намесьнік загадчыка Аддзелу арганізацыйна-партыйнай і кадравай работы ЦК Кампартыі Беларусі. Ліхач Іван Васільевіч — загадчык Аддзелу па рабоце саветаў Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету Беларускай ССР. Асіпенка Вячаслаў Аляксандравіч — сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі. Роднікаў Анатоль Анатольевіч — першы намесьнік начальніка палітупраў Чырванасьцяжнай Беларускай ваеннай акругі. Раманчанка Канстанцін Сямёнавіч — намесьнік старшыні Менскага гарадзкога савету вэтэранаў вайны і працы. Пытаньне. Чаму няма ў цяперашнім складзе, прапанаваным на сэсіі, прадстаўнікоў утвораных фракцый? Для даведкі. 11 красавіка на Сойме Беларускага Народнага Фронту была ўнесена кандыдатура ў склад Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў, старшыня камісіі пра гэтую кандыдатуру ведае. Вы зрабілі ўсё адмыслова. Трэба ўвесьці ў склад камісіі шэсьць чалавек, уводзіцца пяць. Чаму? Чаму зноў парушаецца? Чаму ў вас ідзе толькі засільле адной, ужо некіруючай партыі, хоць шосты і сёмы артыкул Канстытуцыі адменены ўжо даўно?

Таму, будзьце ласкавы, забудзьцеся пра тое, што вы жывяце пры КПСС. Час крыху іншы».

Леўчык: «Камісія, уносячы прапановы на Вярхоўны Савет, кіравалася Законам "Аб выбарах народных дэпутатаў", цяпер дзеючым. Заканадавец не прадугледзеў, на жаль, парадак разгляду прапаноў для Вярхоўнага Савету па складзе Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў, і таму на Прэзыдыюме разглядалі з улікам меркаваньня тых калектываў, дзе працуюць людзі, якія вам прапанаваныя».

## «Загнаных коней прыстрэльваюць»

Грынёў (старшыня Менскага аблвыканкаму, які раніцай плакаўся пра распад СССР): «Паважаны Вячаслаў Мікалаевіч! Паважаныя народныя дэпутаты! Мы гэты спэктакль будзем глядзець, мне ўяўляецца, да абеду, калі дамо волю пэўным палітычным сілам распаляць страсьці на Вярхоўным Савеце. Таму ў мяне ёсьць такая прапанова: калі пытаньняў няма, пасадзіць старшыню камісіі на сваё працоўнае месца, прагаласаваць пра тое, каб не абмяркоўваць гэтае пытаньне (мы дамовіліся шчыльна працаваць), і прагаласаваць за прапанаваныя кандыдатуры».

Мы пачалі пратэставаць, але Кузьняцоў паставіў прапанову Грынёва на галасаваньне, яна, як і варта было чакаць, набрала патрэбную колькасьць галасоў — арытмэтыка перамагла. Леўчык сышоў з трыбуны, але дэпутаты працягвалі стаяць ля мікрафонаў. Слова ўзяў Віктар Ганчар, які не ўваходзіў у склад апазыцыі.

Ганчар: «Калі ацэньваеш прадстаўленьне кандыдатураў у склад Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў, міжволі прыходзяць на памяць вядомыя словы Яна Гуса на вогнішчы інквізыцыі, зьвернутыя да бабулькі, якая падкідала ў яго вогнішча дровы: "О, сьвятая прастата". Учора старшыня камісіі з такой самай абяззбройваючай прастатой і шчырасьцю запытаўся: "А што, уласна, здарылася?" Я ня буду браць партыйную прыналежнасьць кандыдатаў, але зьвярніце ўвагу на парадак фармаваньня гэтых кандыдатаў. Бо гэта фактычна філіял або прадстаўніцтва Міністэрства юстыцыі разам з былым міністрам юстыцыі, а цяпер першым намесьнікам. Падкрэсьліваю, я нічога супраць гэтых кандыдатаў ня маю. Большасьць зь іх я ведаю асабіста, гэта выдатныя спэцыялісты. Але ў новых умовах вось што зьмянілася, паважаны Уладзімер Канстанцінавіч: гэтыя людзі павінны быць абсалютна нэўтральныя і незалежныя. Таму я прапаную паставіць на галасаваньне іншую прапанову: зьняць гэтае пытаньне з абмеркаваньня як непадрыхтаванае».

Гэтую прапанову пашырыў дэпутат Апазыцыі БНФ Уладзімер Заблоцкі.

Заблоцкі: «Я думаю, тут у нас дэманструецца ранейшая практыка намэнклятурнага падбору на надзвычай важныя месцы. Цэнтральная камісія па выбарах народных дэпутатаў, з майго пункту гледжаньня, — гэта вельмі важная структура ў нашай дэмакратычнай Беларусі. Таму аналіз прадстаўленых кандыдатураў гаворыць пра

тое, што гэта працаўладкаваньне, або прадастаўленьне магчымасьцяў старым намэнклятурным работнікам. Я мяркую, што было б правільна сёньня не разглядаць гэтыя кандыдатуры, а прапанаваць вылучыць кандыдатуры ў Цэнтральную камісію па выбарах народных дэпутатаў сапраўды працоўным калектывам Беларусі, а не намэнклятурным аддзяленьням Міністэрства юстыцыі. Таму я заклікаю ўсіх уважлівым чынам падысьці да гэтага пытаньня. Гэта толькі ўяўнае глупства, нібыта неістотнае пытаньне. Але гэта вельмі важнае пытаньне, і мы павінны адказна падысьці да вырашэньня фармаваньня выбарчай камісіі, тым больш Цэнтральнай».

Выступ Галіны Сямдзянавай, звычайна разважлівай, гэтым разам быў эмацыйны. На завяршэньне прамовы Галіна прыгадала фразу, якая ў тыя дні часта гучала як аргумэнт супраць рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах: «Коней на пераправе не мяняюць». Але прыгадала такім чынам, што некаторыя дэпутаты паўскоквалі са сваіх месцаў.

Сямдзянава: «Тут прагучала, што вельмі добра, што прыйшлі туды юрысты, будзе які-небудзь парадак у Цэнтральнай камісіі. Вы ведаеце, гэта было б нядрэнна. Я, вы памятаеце, падтрымлівала кандыдатуру старшыні Цэнтральнай камісіі, таму што лічыла, што гэта юрыст, пісьменны чалавек, які зможа навесьці парадак у камісіі. На жаль, гэтага ня здарылася. І прыклад гэтаму я вам зараз прывяду. Цяпер працуюць над апрацоўкай матэрыялаў па рэфэрэндуму прыцягнутыя людзі.



Сяргей Навумчык у Авальнай залі.

Але хто яны? Гэта — старэйшыя рэфэрэнты і рэфэрэнты Вярхоўнага Савету, спэцыялісты Савету Міністраў — тыя людзі, якія не зацікаўленыя ў тым, каб рэфэрэндум адбыўся, і якія баяцца, што Вярхоўны Савет будзе разагнаны. Гэта самыя што ні на ёсьць зацікаўленыя людзі, якія атрымліваюць вялікую зарплату ў Вярхоўным Савеце як старэйшыя рэфэрэнты і выконваюць тэхнічную працу ў Цэнтральнай камісіі. Прабачце, што будуць рабіць высокакваліфікаваныя юрысты на тэхнічнай працы ў Цэнтральнай камісіі? Цэнтральная камісія — гэта ня толькі галасаваньне, але і тэхнічная праца... Вы любіце паўтараць, што коней на пераправе не мяняюць. Так я дазволю вам нагадаць іншае выказваньне, што загнаных коней проста прыстрэльваюць...»

У стэнаграме пазначана «Шум у зале», але быў ня проста шум — былі абураныя крыкі.




«Пяты мікрафон» і дэпутат Аляксандар Лукашэнка

Навумчык: «Шаноўныя калегі! Мы ўсе зразумелі, што гэта быў такі жарт, ніхто тут нікога не зьбіраецца страляць. Шаноўныя калегі! Я думаю, што пасьля прызначэньня ўраду два гады назад і прызначэньня генэральнага пракурора гэта трэцяе па сваёй важнасьці кадравае пытаньне, якое мы тут разглядаем. Чаму? Таму што цяпер мы прызначаем людзей, якія шмат у чым будуць вырашаць вынікі будучай выбарчай кампаніі, а яна, мы думаем, не за гарамі, рэфэрэндум блізіцца, мы гэта ўсе цудоўна разумеем. І правільна казаў Ганчар: вось, скажам, мы прад'яўляем прэтэнзіі, што многія зь іх былі ў КПСС. Але задайце мне пытаньне: хацеў бы я, каб усе гэтыя людзі былі ў БНФ? Ні ў якім разе. Як бы я ні хацеў, каб яны былі, скажам, у "Грамадзе", у нейкай іншай партыі, яны павінны быць (правільна казаў Віктар Ганчар) нэўтраль-

ными. А дзеля таго, каб быць нэўтральнымі, яны павінны прайсьці вельмі вялікі адбор і апытаньне ў працоўных калектывах. Гэта мінімум — прайсьці працоўныя калектывы, прайсьці гэтыя нізы. Магчыма, была б нейкая больш дасканалая працэдура, але лепшай пакуль няма. І толькі потым яны павінны быць вылучаныя сюды. Вось такім намэнклятурным падборам, які цяпер ажыцьцявіў спадар Леўчык... Ці ёсьць гэтая гарантыя нэўтральнасьці? Няма гэтай гарантыі. Я ні да адной з гэтых кандыдатураў ня маю асабістых прэтэнзій. Але вось, скажам, спадар Садоўскі выступіў, і ў мяне ўжо па адной кандыдатуры ёсьць стопрацэнтны адвод, таму што ня выканана патрэбная працэдура. Ужо толькі адно гэта прымушае нас зьняць гэтых людзей з абмеркаваньня і вынесьці на, магчыма, нейкі позьні тэрмін, тым больш што блізіцца рэфэрэндум. І гэтая камісія будзе кантраляваць этапы рэфэрэндуму, што нам вельмі важна. Мы ўяўляем, што ўзьнікне вельмі шмат спрэчных пытаньняў — і па рэфэрэндуме, і потым па выбарах. І каб потым не кусаць локці, давайце ўжо цяпер падыдзем з сумленьнем да гэтага пытаньня».

Мы не спынялі націск — да мікрафона падышоў дэпутат Апазыцыі БНФ і сябра «Грамады» Віталь Малашка.

Малашка: «Справа ў тым, што сапраўды ў працоўных калектывах гэтыя людзі не абмяркоўваліся, яны абмяркоўваліся ў аддзелах Міністэрства юстыцыі па месцы працы. Былі начальнікамі — начальніка вылучылі. Гэтую

практыку мы ведаем. Але, мусіць, і правесьці выбары ў працоўных калектывах таксама будзе надта складана і цяжка. Сюды прыйдзе шмат кандыдатаў, зь якіх мы будзем ізноў абіраць тых жа шэсьць. Таму менавіта сёньня, калі мы рыхтуемся да шматпартыйных выбараў, магчыма, найбольш кампрамісны варыянт — зрабіць так: зьвярнуцца да палітычных партый, якія сёньня зьбіраюцца ўдзельнічаць у выбарах, каб яны прапанавалі па адным кандыдаце».

Пасьля выступу Віталя Малашкі слова зноў узяла Інэса Драбышэўская, якая вярнулася да тэмы фальсыфікацый пры рэгістрацыі дэпутатаў на сэсіі.

Драбышэўская: «Паважаныя народныя дэпутаты! Я пратэстую супраць фальсыфікацыі... Не апазыцыя, а, па-мойму, сакратарыят уздымаў пытаньне аб тым, што ў нас у залі не было кворуму, і давайце будзем усё-ткі праўдзівымі. У нас ёсьць дадзеныя аб тым (і я ўчора пра гэта казала), што многія нашы дэпутаты атрымалі музычную адукацыю па клясе фартэпіяна і рэгіструюцца і галасуюць за некалькіх дэпутатаў, што зьяўляецца надзвычай грубым парушэньнем Рэгляманту. Пра гэта ў нас ёсьць пацьверджаныя дадзеныя. Так, дэпутат Фарфель, які знаходзіцца ў афіцыйнай камандзіроўцы ў Ізраілі, зарэгістраваны на поўны дзень працы. Дэпутат Гюнтэр, які знаходзіцца ў камандзіроўцы ў Германіі, і дэпутат Кавалёнак Уладзімер Васілевіч таксама зарэгістраваныя. Я магла б назваць цэлы сьпіс».

Ніякага эфэкту словы Драбышэўскай на вядоўцу сэсіі, першага намесьніка старшыні Вярхоўнага Савету Вячаслава Кузьняцова не зрабілі. Выглядала, што ранейшыя ягоныя словы пра неабходнасьць кворуму ў часе галасаваньня пры дафармаваньні Цэнтральнай выбарчай камісіі былі ўспрынятыя ў самым шырокім сэнсе: зарэгістравалі тых дэпутатаў, якія адсутнічалі.

Вынік галасаваньня быў нам зразумелы, пра што і сказаў дэпутат Апазыцыі БНФ Лявонці Зданевіч.

Зданевіч: «Цалкам відавочна, што большасьць у Вярхоўным Савеце сёньня прагаласуе за прадстаўленыя нам кандыдатуры. Я проста хачу ахарактарызаваць падобны падыход (які, безумоўна, правамерны, улічваючы раскладку ў нашым Вярхоўным Савеце) усё ж сілавым і правакацыйным. У дадзенай палітычнай сытуацыі такі падыход — вылучэньне кандыдатураў у Цэнтральную камісію па выбарах народных дэпутатаў — ня што іншае, як палітычная правакацыя. Таму я заклікаю вас уважліва паставіцца да гэтага пытаньня і падтрымаць прапанову тых, хто назваў пытаньне непадрыхтаваным. Я прапаную сёньня не галасаваць, а ўнесьці новыя кандыдатуры».

## Лукашэнка — апазыцыі: Усё роўна прымем патрэбнае рашэньне

Аднак Кузьняцоў паставіў на галасаваньне ня нашу прапанову аб новым вылучэньні кандыдатаў, а прапанову аб спыненьні, як ён выказаўся, «абмеркаваньня вынесеных кандыдатураў»,

хоць дыскусія, як мог пераканацца чытач, ішла не пра асобы, а пра сам прынцып фармаваньня Цэнтральнай выбарчай камісіі. За спыненьне спрэчак прагаласавалі 202 дэпутаты. Гэтага было дастаткова, каб перайсьці да галасаваньня па кандыдатурах.

Але мы не давалі віцэ-сьпікеру гэта зрабіць.

Голубеў: «Апазыцыя. Я хачу напомніць старшынствуючаму, што ў Рэглямэнце ёсьць такі пункт, што кожны можа выказацца па матывах галасаваньня. Вы мяне ўжо адзін раз не заўважылі, дзякуй, што зараз пры дапамозе голасу ўдалося гэтага дабіцца. Паважаныя дэпутаты камуністы! Апазыцыя, 29 чалавек, сьцьвярджае, што вы як знаходзіліся ва ўладзе, так і знаходзіцеся. І 20 чалавек тут нічога не пераломіць, вы што хочаце, тое і робіце... Па матывах галасаваньня. Я падтрымліваю прапанову дэпутата Ганчара і лічу, што трэба адмяніць сёньняшняе абмеркаваньне ў сувязі з тым, што быў парушаны парадак вылучэньня кандыдатаў, і перанесьці на будучыню».

Такую напружаную сытуацыю ніяк ня мог абмінуць дэпутат, які меў свой погляд літаральна па ўсіх законах і па ўсіх пытаньнях, якія абмяркоўваліся на сэсіі — выступаў ён звычайна ад пятага мікрафона, які разьмяшчаўся ў крайнім левым праходзе, калі глядзець на прэзыдыюм (роўна насупраць месца, дзе стаяў першы мікрафон, у які прамаўлялі дэпутаты зь Менску, у тым ліку Пазьняк).

Лукашэнка: «Паважаныя народныя дэпутаты! Я хачу зьвярнуць вашу ўвагу на ўчорашні дзень.

Вы памятаеце, што вы паабяцалі гэтым людзям (хай нас 300 чалавек, а іх 4) учора, што вы ім сказалі? Вы ж ім сказалі: ну, прабачце, праседзелі вы цэлы дзень, мы заўтра раніцай прымем гэтае рашэньне. Я не разумею тых дэпутатаў, якія сёньня падыходзяць і кажуць: адкласьці, перанесьці і іншае. Сумленьне і павага да гэтых людзей у вас у рэшце рэшт ёсьць? Давайце прымаць рашэньне, у нас наперадзе асноўныя пытаньні. Усё роўна ж прымем рашэньне, і апазыцыя пра гэта сказала».

Апошняя фраза Аляксандра Лукашэнкі азначала, што рашэньне будзе такое, якое захоча большасьць, зь якой ён сябе атаясамліваў.

Дэпутат Апазыцыі БНФ і член Сацыял-дэмакратычнай грамады Мікалай Крыжаноўскі ўсё ж паспрабаваў яшчэ раз заклікаць да сумленьня дэпутатаў — але не ў дачыненьні да кандыдатаў, якія чакалі свайго прызначэньня ў ЦВК, а да Бацькаўшчыны.

Крыжаноўскі: «Паважаныя дэпутаты! Я прашу так не хвалявацца. Я спадзяюся, тое, што цяпер адбываецца ў гэтай залі, тое, што мы хочам такія сур’ёзныя зьмены правесьці ў Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў, мусіць, гэта ня дзеля таго, каб даабраць астатніх 14 дэпутатаў Вярхоўнага Савету. Я лічу, што сёньня — гэта ўжо загляд у будучае, у тыя выбары, якія ў хуткім часе (ці сёлета, ці праз тры гады), павінны адбыцца. І я лічу, што мы павінны сёньня думаць пра лёс нашай Бацькаўшчыны і нашай рэспублікі, пра тое, каб мы ўмацоўвалі дзяржаўныя структуры, а не прыярытэт нейкай адзінай партыі ці

адзінай сыстэмы. Я зьяўляюся прадстаўніком Сацыял-дэмакратычнай грамады. Але сёньня я хацеў бы, каб у Цэнтральнай выбарчай камісіі, у дзяржаўных структурах былі людзі нэўтральныя. І таму я падтрымліваю прапанову шаноўнага дэпутата Ганчара. Мы павінны вельмі ўважліва паставіцца да гэтага пытаньня, каб у Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў былі людзі, якія будуць перш за ўсё клапаціцца аб лёсе рэспублікі, аб тым, каб пры наступных выбарах прыйшлі сапраўды прафэсійныя парлямэнтарыі і стварылі нармальныя ўмовы для разьвіцьця рэспублікі, а не адстойвалі інтарэсы партыі, якая ня толькі сябе скампрамэтавала, а і давяла сёньня нашу дзяржаву, нашу Бацькаўшчыну да такога становішча, што ўжо далей няма куды. А сёньня зноў вылучаюцца кандыдатуры ад той партыі, якая ўжо рыхтуецца зноў атрымаць перамогу на наступных выбарах і зноў завесьці рэспубліку ў такую галечу».

Кузьняцоў прапанаваў галасаваць, аднак дэпутат БНФ Уладзімер Новік выказаў сумнеў у дакладнасьці сыстэмы галасаваньня.

Новік: «Неаднаразова ішло грубае парушэньне працэдуры. Я не давяраю гэтай сыстэме галасаваньня і хацеў бы, каб было праведзена расьсьледаваньне па выпадках парушэньня працэдуры ўчарашняга дня. Таму тайнае галасаваньне з дапамогай электроннай сыстэмы ня мае ніякага сэнсу, таму што гэта падлог і падман. Толькі праз бюлетэні прашу правесьці тайнае галасаваньне».

Гэта абурыла парлямэнцкую большасьць, пачаліся крыкі.

Сямдзянава: «Я вас прашу, Вячаслаў Мікалаевіч, навядзіце, калі ласка, парадак у залі! Так, апазыцыя вырашыла скарыстацца гэтай трыбунай. Але зрабіце, калі ласка, так, каб заля паводзіла сябе годна, і ня ладзіла тут нейкія пасядзелкі. Гэта — сэсія Вярхоўнага Савету. І я вас прашу: дайце магчымасьць апазыцыі выступаць спакойна. І калі дэпутаты ад групы “Беларусь” хочуць выступіць, дайце, калі ласка, ім слова, а не ўчыняйце роў у залі».

Аднак далей старшынствуючы пачаў галасаваньне — ня шляхам бюлетэняў, як прапаноўваў Уладзімер Новік, а электронным спосабам.

Старшыня: «Паважаныя народныя дэпутаты, я стаўлю на галасаваньне першую кандыдатуру. Хто за тое, каб выбраць у склад Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь Баня Ўладзімера Васілевіча, начальніка Ўпраўленьня юстыцыі Выканаўчага камітэту Менскага абласнога савету народных дэпутатаў, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся? Рашэньне прынята. Паважаныя народныя дэпутаты! Наступная кандыдатура — Мінін Віктар Пракопавіч, намесьнік старшыні Віцебскага абласнога аб’яднаньня прафэсійных саюзаў. Хто за тое, каб абраць яго ў склад Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь, прашу прагаласаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся Рашэньне прынята. Наступная кандыдатура — Сукала Валянцін Алегавіч, першы

намесьнік міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь. Хто за тое, каб абраць у склад Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў Сукалу Валянціна Алегавіча, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся? Рашэньне прынята. Наступная кандыдатура — Цімафеевіч Канстанцін Іосіфавіч, намесьнік начальніка Ўпраўленьня юстыцыі Выканаўчага камітэту Берасьцейскага абласнога савету народных дэпутатаў. Хто за тое, каб выбраць у склад Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь Цімафеевіча Канстанціна Іосіфавіча, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся? Рашэньне прынята. Наступная кандыдатура — Ярмошына Лідзія Міхайлаўна, юрысконсульт Выканаўчага камітэту Бабруйскага гарадзкога савету народных дэпутатаў. Хто за тое, каб абраць яе ў склад Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся? Рашэньне прынята».

## «Намэнклятурны сход Вярхоўнага Савету выбраў працяг намэнклятурнага сходу ў Цэнтральнай камісіі»

Ацэнку таго, што адбылося, даў намесьнік старшыні Апазыцыі БНФ, прэм'ер Ценявога кабінэту Ўладзімер Заблоцкі.

Заблоцкі: «Паважаныя народныя дэпутаты! Цяпер быў цэлы шэраг парушэньняў Часовага рэгляманту работы Вярхоўнага Савету. Я мяркую, што Вячаслаў Мікалаевіч гэты Рэглямэнт павінен вывучыць спачатку, а потым весьці сэсію.

Зараз адбылося тое, што і павінна было адбыцца: намэнклятурны сход Вярхоўнага Савету выбраў працяг намэнклятурнага сходу ў Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў».

Член Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады Яўген Цумараў падтрымаў Заблоцкага.

Цумараў: «Паважаны старшынствуючы! Я зьвяртаюся да вас і да старшыні Камісіі па заканадаўстве з пытаньнем. На маю думку, вы парушылі Закон аб выбарах... Як далажыў старшыня камісіі паважаны народны дэпутат Леўчык па кандыдатурах Баня, Цімафеевіча і Ярмошынай адсутнічаюць пратаколы працоўных калектываў аб іх вылучэньні. Таму што юрыдычны аддзел — гэта не працоўны калектыў… І вы ня мелі права ставіць гэтае пытаньне на галасаваньне. Тым самым вы парушылі закон, і наша галасаваньне зьяўляецца па гэтых трох кандыдатурах несапраўдным».

Старшыня: «Я зыходзіў з таго, што папярэдне Камісія ў пытаньнях працы саветаў вывучыла наяўныя матэрыялы і прадставіла іх нам на разгляд, у тым ліку ўсе пратаколы аб вылучэньні. Я ня маю падставаў не давяраць камісіі».

Ганчар: «Я хачу скарыстацца сваім правам і задаць пытаньне першаму намесьніку міністра юстыцыі, калі ён захоча на яго адказаць. Гэтае самае пытаньне я адрасую і свайму калегу Аляксандру Міхайлавічу Абрамовічу. Ці лічыце вы як людзі і спэцыялісты (бо гаворка ідзе і аб вашым аўтарытэце), што працэдура галасаваньня была выканана правільна і не было парушэньня закону?»

Грынёў: «Паважаны Вячаслаў Мікалаевіч, я вас хачу падтрымаць як старшынствуючага, пажадаць больш жорстка весьці сэсію, не рэагаваць на крыкі і енкі, якія тут раздаюцца. Давайце скончым. Перад намі сядзіць група кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў. Калі камусьці сёньня ня трэба ні мяса, ні малака, хоць за зямлю крычаць так, што мікрафон разрываецца... (Грынёў меў на ўвазе намаганьні Апазыцыі БНФ увесьці прыватную ўласнасьць на зямлю — С.Н.). Я прапаную жорстка павесьці далей сэсію. У нас ёсьць надзвычай сур'ёзнае аграрнае пытаньне».

Старшыня: «Дзякую за падтрымку».

Пасьля гэтага выступіў старшыня ЦВК Уладзімер Абрамовіч.

Абрамовіч (Старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь): «Я хачу падзякаваць Вярхоўнаму Савету за тое, што ён папоўніў склад камісіі, паколькі бяз гэтага папаўненьня праца практычна магла быць дэзарганізаваная. Фактычна гэта трэцяя частка складу камісіі. Што тычыцца таго, як зрабіў Вярхоўны Савет, — гэта кампэтэнцыя толькі Вярхоўнага Савету, гэта значыць вас, паважаныя народныя дэпутаты. І ў гэтым пляне Віктару Іосіфавічу Ганчару я хацеў бы параіць патурбавацца аб уласным аўтарытэце».

На гэтым пытаньне аб даўкамплектаваньні Цэнтральнай выбарчай камісіі было завершанае.

Праз некалькі дзён мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, выступілі з заявай, у якой далі палітычную і юрыдычную ацэнку падзеям у Вярхоўным Савеце.

«Пасьля таго, як больш чым 440 тысяч грамадзянаў Беларусі выказаліся за рэфэрэндум аб датэрміновым роспуску Вярхоўнага Савету і правядзеньне новых парлямэнцкіх выбараў, пракамуністычная намэнклятура пачала шукаць спосабы захаваньня ўласных кіруючых пазыцый.

22 красавіка ў Вярхоўным Савеце адбылося даабраньне членаў Цэнтральнай выбарчай камісіі, якая, згодна з існуючым заканадаўствам, павінна кантраляваць і правядзеньне рэспубліканскіх рэфэрэндумаў.

Усе прапанаваныя кандыдатуры прадстаўлялі кіруючую намэнклятуру, у іх вылучэньні ня ўдзельнічалі працоўныя калектывы заводаў, калгасаў, навучальных установаў, а таксама грамадзкіх арганізацый, што зьяўляецца парушэньнем заканадаўства. Галасаваньне ж па кандыдатурах адбывалася з парушэньнем Часовага рэгляманту Вярхоўнага Савету — дэпутаты нават былі пазбаўленыя магчымасьці задаць пытаньні прэтэндэнтам, высьветліць узровень іх кваліфікацыі.

Аднак у выніку сілавога ціску кансэрватыўнай парлямэнцкай большасьці ўсе пяцёра прапанаваных кандыдатаў былі абраныя — у мэтах самазахаваньня Вярхоўны Савет ізноў пайшоў на парушэньне заканадаўства. Такім чынам, сёньня ў складзе Цэнтральнай выбарчай камісіі няма ніводнага прадстаўніка дэмакратычных партый і рухаў, зарэгістраваных у Беларусі.

Мы асуджаем падобныя дзеяньні Вярхоўнага Савету і пакідаем за сабой права зьвярнуцца да сусьветнай супольнасьці, замежных дзяржаўных

і грамадзкіх арганізацый з просьбай накіраваць сваіх назіральнікаў на будучы рэфэрэндум».

Заяву падпісалі Зянон Пазьняк, Валянцін Голубеў, Сяргей Навумчык, Ігар Гермянчук, Лявонці Зданевіч, Лявон Баршчэўскі, Лявон Дзейка, Галіна Сямдзянава, Мікалай Крыжаноўскі, Уладзімер Заблоцкі, Юрась Беленькі, Генадзь Грушавы, Алег Трусаў, Сяргей Папкоў, Віталь Малашка, Аляксандар Шут, Мікола Маркевіч, Віктар Какоўка, Аляксандар Паруль, Яўген Глушкевіч, Уладзімер Новік, Уладзімер Грыбанаў, Уладзімер Станкевіч, Васіль Даўгалёў, Леанід Зьвераў, Станіслаў Бабачонак, Сяргей Антончык, Яўген Цумараў, Віктар Аляміеў.

Між іншым, у той самы дзень пасьля зацьвярджэньня членаў ЦВК Вярхоўны Савет зацьвердзіў першага ў гісторыі краіны міністра абароны — Паўла Казлоўскага. І адкінуў нашую прапанову, каб новы міністар адразу прынёс прысягу перад Вярхоўным Саветам. Амаль увесь 1992 год новы міністар ня будзе прыведзены да прысягі на вернасьць Беларусі — як і дзясяткі тысяч афіцэраў новаўтворанага беларускага войска.

Тады ж у Авальнай залі адбылася яшчэ адна падзея, якая, як потым выявілася, адыграла вялікую ролю ў лёсе рэфэрэндуму.

Шмат якія намэнклятурныя дэпутаты прапаноўвалі спыніць сэсію – «ідзе пасяўная». Але заставаліся неразгледжанымі больш як два дзясяткі пытаньняў парадку дня.

Тады мы прапанавалі сэсію не спыняць, а проста зрабіць доўгі (магчыма, пару тыдняў) перапы-

нак. Гэта было ў інтарэсах ініцыятараў рэфэрэндуму: за гэты час Цэнтральная камісія скончыла б праверку, вынесла вэрдыкт (мы не сумняваліся, што ён будзе станоўчы), і калі дэпутаты сабраліся б на працяг сэсіі – ім нічога не заставалася б, каб прызначыць дату рэфэрэндуму. Тут важна было і тое, што наступныя пасяджэньні былі б працягам сэсіі, якая называлася «чарговая» - а толькі «чарговая», паводле закону, магла прызначаць дату рэфэрэндуму. Сэсія, скліканая адмыслова, мела б назоў «нечарговай» або «надзвычайнай», і праціўнікі рэфэрэндуму маглі ўчапіцца за гэта, каб адмовіцца разглядаць пытаньне аб рэфэрэндуме.

«Сяргей Навумчык: Паважаныя дэпутаты! Мы сабраліся сюды, каб прымаць законы, а прымаць іх у сьпешцы сапраўды нельга. Таму нармальна, што такое абмеркаваньне вельмі часта доўга ідзе. Гэта высьвятленьне ісьціны. Аднак той блёк законаў, які вынесены ў парадак дня, паважаны Васіль Іванавіч, не дазваляе прыняць іх за чатыры дні, каб гэта было зроблена грунтоўна і кваліфікавана. Таму вельмі лягічныя прапановы, якія тут гучалі. Я разумею дэпутата Кавалёва і разумею вас, шаноўныя дэпутаты, асабліва, як кажуць, ад палёў і фэрмаў, што трэба сеяць. Таму, напэўна, перапынак трэба зрабіць не да 10 траўня, а можа да 20 траўня. Зрабіць вялікі перапынак, а потым мы зноў зьбярэмся на сэсію і спакойна дапрацуем, як трэба».

І тут ўзьняўся дэпутат Уладзімер Грыбанаў, які раней падтрымліваў апазыцыю.

«Уладзімер Грыбанаў: Паважаныя народныя дэпутаты! Я ня супраць рэфэрэндуму, але я за тое, каб «гуляць адкрытымі картамі». Па ўсёй бачнасьці, некаторыя, якія сядзяць у залі, не разумеюць тых матываў, па якіх выступалі прадстаўнікі апазыцыі, каб перапыніць сэсію і пачаць яе як мага пазьней. Пытаньне, якое Цэнтральная камісія па выбарах народных дэпутатаў вынесе (па рэфэрэндуме, я маю на ўвазе) на сэсію, па законе можна вынесьці толькі на чарговую сэсію. І калі на гэтую сэсію не пасьпяваюць (а яны не пасьпяваюць, калі мы закрыем яе), то тады атрымліваецца, што пытаньне выносіцца на восень, на лістапад, а значыць, рэфэрэндум страчвае сэнс, таму што ў гэтым годзе выбары не адбудуцца. Я ня супраць рэфэрэндуму, я супраць «гульні мечанымі картамі». Давайце гуляць «у адкрытую». Таму прапанову аб тым, каб перапыніць сэсію, можна інтэрпрэтаваць па-іншаму яшчэ: закрыць гэтую сэсію, а 15 траўня адкрыць пазачарговую.

Старшыня. Уладзімер Міхайлавіч, дзякуй за тлумачэньні».

Не люблю экзальтаваных выразаў, але гэты выступ справядліва можна назваць «нажом у сьпіну», бо Грыбанаў падпісваў амаль усе заявы апазыцыі. Цяпер ні пра які перапынак гаворка ісьці не магла: тлумачэньні Грыбанава, за якія яму падзякаваў Шаладонаў, добра зразумелі і прадстаўнікі дэпутацкай большасьці. Адбылося тое, што праз гады Зянон Пазьняк назаве пераломам гісторыі Беларусі: 24 красавіка сэсія была завершаная, і Вярхоўны Савет не зьбіраўся паўгода.

# ТРАВЕНЬ

**1 траўня.** Фэдэрацыя прафсаюзаў Беларусі на чале з Уладзімерам Ганчарыкам разам з камуністамі правяла ў Менску сьвяточны мітынг — пад сьцягамі БССР і рэспублік СССР.

**4 траўня.** На нарадзе па бясьпецы і супрацоўніцтве ў Хэльсынкі пацьверджаны намер правесьці ў Менску канфэрэнцыю па Нагорным Карабаху («Менскі працэс»).

**5 траўня.** Пачатак грамадзянскай вайны ў Таджыкістане.

**10 траўня.** У моладзевым цэнтры «Юнацтва» пад Менскам прадстаўнікі БНФ і Нацыянальна-дэмакратычнай партыі ўзялі ўдзел у міжнароднай канфэрэнцыі «Шляхі пабудовы дэмакратычнай дзяржавы» з удзелам нацыянальна-дэмакратычных рухаў краінаў Закаўказьзя, Балтыі, Украіны, Малдовы і Польшчы.

**11 траўня.** ЦВК вынесла станоўчае заключэньне па праверцы падпісных лістоў за рэфэрэндум.

**12 траўня.** Урад падвысіў цэны на некаторыя прадукты харчаваньня, у тым ліку на алей і цукар.

**16 траўня.** РСФСР пераўтварылася ў Расейскую Фэдэрацыю.

**20 траўня.** Візыт у Беларусь прэзыдэнта Фінляндыі Маўна Койвіста.

**23 траўня.** У Лісабоне Беларусь, ЗША, Расея, Казахстан і Украіна падпісалі пратакол да дамовы START 1 (аб скарачэньні стратэгічных наступальных узбраеньняў). Паводле пратаколу, уся ядзерная зброя на тэрыторыі Беларусі, Казахстану і Украіны падлягала зьнішчэньню альбо пераводу пад кантроль Расеі.

**25 траўня.** Паралельна з расейскім рублём уводзяцца разьліковыя білеты Нацыянальнага банку Рэспублікі Беларусь («зайчыкі»).

**26 траўня.** Беларусь усталявала дыпляматычныя адносіны з Ізраілем.

**31 траўня.** Урад удвая падвысіў цэны на малако, хлеб і некаторыя іншыя прадукты.

## «ПАД ЦІСКАМ БНФ ПРЫНЯЛІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ, І ВОСЬ МЫ ЛЯ РАЗЬБІТАГА КАРЫТА»

Старт антырэфэрэндумнай прапагандзе быў дадзены публікацыяй у газэце «Советская Белоруссия» артыкулу Вольгі Абрамавай — як яна падпісалася, «кандыдата філязофскіх навук».

Аўтарка не абцяжарвала чытача філязофскімі матэрыямі, а з самага пачатку выказалася без эўфэмізмаў:

«...у выпадку станоўчых вынікаў рэфэрэндуму ёсьць варыянт атрымаць у далейшым новы парлямэнт, сфармаваны з абаронцаў палітыкі ізаляцыянізму — палітыкі, непрымальнай для рынкавых адносінаў. Бо як Сойм БНФ матываваў сваю ідэю пра падрыхтоўку адстаўкі таго самага ўраду? Маўляў, гэты ўрад ня ў стане стварыць нацыянальную гвардыю, ўласную мытную службу, увесьці нацыянальную валюту. Тут праглядаецца болей клопат пра атрыбутыку сувэрэнітэту рэспублікі, чым пра неадкладныя патрэбы эканомікі, а значыць, і грамадзтва».

Гэтыя словы даюць чытачам адэкватнае ўяўленьне пра тое, як частка інтэлігенцыі, якая не ўспрыняла нацыянальнае Адраджэньне, успрымала само існаваньне беларускай дзяржаўнасьці. Тое, на чым трымаецца кожная дзяржава — войска, уласная грашовая сыстэма, мытня — адсоўваюцца на нейкае другое-трэцяе месца перад «неадкладнымі патрэбамі эканомікі». Тое, што менавіта парлямэнцкая Апазыцыя БНФ (у тым ліку і ў канцы 1991-га, і ў пачатку 1992-га) уносіла ў Вярхоўны Савет законапраекты і дзясяткі прапановаў, якія тычыліся менавіта эканомікі — Вольга Абрамава абмінула. Хоць яе абазнанасьць у праграмных палажэньнях БНФ выключае магчымасьць, што ня ведала. Пэўна ж, ведала. Але гэта ня ўпісвалася ў прапагандысцкую канцэпцыю, якая гучала ўжо пару гадоў і будзе гучаць дзесяцігодзьдзі: «БНФ — толькі мова ды сьцягі, а эканоміка ім нецікавая».

Далей Абрамава перасьцерагае, што «пры адначасовай зьмене ўсяго складу ўраду магчымы палітычны крызіс, выкліканы вакуўмам выканаўчай улады ў надзвычай важным яе зьвяне. Бо ў складзе БНФ і палітычных партый, якія яго падтрымалі, ня бачна яскравых эканамістаў — асобаў накшталт Яўлінскага, Шаталіна, Петракова».

Тут «палітоляг» (пазьней менавіта так Абрамава будзе прадстаўляцца ў СМІ) выявіла элемэнтарнае няведаньне палітычных рэаліяў шмат якіх дэмакратычных краінаў, у якіх у выніку выбараў вельмі часта ўрад зьмяняецца адначасна і ў поўным складзе. Пры тым што прадстаўнікі Народ-

нага Фронту пастаянна заяўлялі: кваліфікаваныя службоўцы захаваюць свае пасады ў сыстэме дзяржаўнага кіраваньня, у тым ліку і ва ўрадзе.

Канешне, і ў складзе Ценявога кабінэту Апазыцыі БНФ, і сярод экспэртаў, былі яркія эканамісты — але іх наяўнасьць ужо ня ўкладвалася ў іншую канцэпцыю, сутнасьць якой — «усё лепшае — у Маскве».

«Парлямэнт павінен складацца не з полузнаек (пакіну гэтае слова аўтаркі безь перакладу — С.Н.), якіх «абраў час», якія спрытна спэкулююць на кансэрватыўных або радыкальных лёзунгах, а са спэцыялістаў, перш за ўсё эканамістаў і юрыстаў, як і ў кожным рацыянальна арганізаваным грамадзтве».

Гэтая сумнеўная тэза потым будзе актыўна ўбівацца ў сьвядомасьць людзей: у парлямэнце павінны быць эканамісты і юрысты. У адрозьненьне ад кандыдатаў БНФ, у якіх, як сьцьвярджала прапаганда, эканамістаў і юрыстаў нібыта няма. Пры гэтым замоўчвалася, што парлямэнтарый павінен быць найперш палітыкам. Пазьней Абрамава будзе ўключана адміністрацыяй Лукашэнкі ў склад некалькіх «склікаańняў» так званай «палаты прадстаўнікоў», дзе абсалютную большасьць складуць людзі менавіта зь юрыдычнай ды эканамічнай адукацыяй (выпускнікі Акадэміі пры прэзыдэнце, супрацоўнікі сілавых структураў, кіраўнікі прадпрыемстваў). Але ніхто зь іх ня будзе палітыкам (ва ўсякім разе, у часе свайго дэпутацтва), бо ніхто і ніколі не паставіць



Калёна БНФ ідзе ўскладаць кветкі да помніка Перамогі, сярод удзельнікаў – Мая Кляшторная, Зянон Пазьняк, Лявон Баршчэўскі, Юрась Беленькі, Валянцін Голубеў. 9 траўня 1992 г.

пад сумнеў ніякія дзеяньні таго, хто прывёў іх у Авальную залю — Лукашэнкі.

Але гэта будзе пазьней, а пакуль Вольга Абрамава выказалася не пра эканоміку, а пра яшчэ адзін «атрыбут»:

«Нагадаем, калі беларускі парлямэнт прымаў вядомае рашэньне (чытаецца як «сумнавядомае» — С.Н.) пра наданьне статусу дзяржаўнай беларускай мове, меркаваньнем грамадзкасьці ня

вельмі ўжо цікавіліся. У другім выпадку парлямэнт увогуле не палічыўся з народным волевыяўленьнем, выказаным на сакавіцкім рэфэрэндуме 1991 году. Больш за тое, на ўсе прапановы не сьпяшацца з рашэньнем гэтых важных праблемаў, правесьці па іх плебісцыт, лідэры парлямэнцкай апазыцыі пярэчылі, што, маўляў, наш народ яшчэ палітычна не дарос да самастойнага вырашэньня гэткіх пытаньняў. А паводле якіх крытэрыяў кіраўніцтва БНФ сёньня здолела вызначыць, што мы ўжо сасьпелі да таго, каб прыбраць старую і паставіць над сабой новую ўладу?»

Апошнія словы паказальныя — аўтарка не аспрэчвае, што ў Беларусі засталася ранейшая, яшчэ з часоў СССР улада.

Што да прыгаданага рашэньня аб дзяржаўным статусе беларускай мовы, дык тут Абрамава сказіла ісьціну: ягонаму прыняцьцю ў студзені 1990 году Вярхоўным Саветам яшчэ XI скліканьня якраз папярэднічала шырокая дыскусія ў друку, а дэбаты ў Вярхоўным Савеце (напэўна, упершыню ў гісторыі) трансьляваліся па тэлебачаньні.

Ну і, канешне, ніколі лідэры БНФ не сьцьвярджалі, што народ «не дарос» да вырашэньня пытаньня аб Незалежнасьці — іншая справа, што ва ўмовах абсалютнага панаваньня камуністычнай улады і кантролю за падлікам галасоў вынік такога рэфэрэндуму быў бы, хутчэй за ўсё, адмоўным, і мы б па-простую страцілі час. Рэфэрэндум жа аб датэрміновых выбарах БНФ ініцыяваў, калі камуністычная сыстэма абрынулася, а намэнкля-

тура яшчэ не пасьпела кансалідавацца настолькі, каб кантраляваць вынікі галасаваньня ў той ступені, як гэта яна рабіла да краху КПСС.

Далей у сваім артыкуле Абрамава прапануе ўраду паслугі эканамічных экспэртаў «Руху за дэмакратычныя рэформы ў Беларусі» (арганізацыі, якая адразу пасьля абвяшчэньня Незалежнасьці ў жніўні 1991-га паставіла пад сумнеў слушнасьць гэтага акту Вярхоўнага Савету) і вяртаецца да тэмы рэфэрэндуму.

І вось тут ва ўрадавым выданьні зь вялікім накладам прагучала прапанова, якая праз тры гады будзе рэалізаваная Лукашэнкам.

«Калі нам сёньня і неабходны рэфэрэндум, дык па найбольш спрэчных пытаньнях будучай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь», — піша Абрамава і засяроджвае ўвагу на дзяржаўнасьці беларускай мовы.

«Упэўненая, статус дзяржаўнай мовы павінны атрымаць абедзьве агульнаўжываныя у рэспубліцы мовы — і беларуская, і расейская. У адваротным выпадку грамадзянскай згоды нам не дасягнуць».

У далейшым Вольга Абрамава будзе сыстэматычна казаць пра неабходнасьць наданьня расейскай мове статусу дзяржаўнай, нароўні зь беларускай — аж пакуль у выніку так званага рэфэрэндуму 1995 году гэтага не адбудзецца. Але лёс беларускай мовы, якая пасьля прапанаванага ёй рэфэрэндуму будзе загнаная ў гета, ня выкліча зацікаўленьня ў дэпутаткі палаты прадстаўнікоў некалькіх скліканьняў Абрамавай. Ва ўсякім разе,

мне невядома ніводнага выпадку, калі б яна — клапоцячыся пра статус расейскай мовы — на дзяржаўным узроўні выказала занепакоенасьць лёсам мовы беларускай.

Вынікам ініцыятывы Вольгі Абрамавай, выказанай ёй у гэтым артыкуле ў пачатку 1992 году, было тое, што ў «парлямэнце», дэпутатам якога яна была ў канцы 1990-пачатку 2000-х, беларуская мова амаль не гучала.

Пакуль жа артыкул Абрамавай выканаў функцыю прапагандысцкага старту, за якім пайшлі няспынныя публікацыі ў падкантрольных ураду газэтах пра немэтазгоднасьць і нават шкоднасьць ініцыяванага Народным Фронтам рэфэрэндуму.

Але гэта, пераважна, ужо былі не развагі кандыдатаў навук (хоць зьяўляліся і яны), а лісты чытачоў.

Раптоўна ў чытачоў падкантрольных Саўміну газэтаў, асабліва «Советской Белоруссии», выявілася любоў да эпісталярнага жанру — прычым, як правіла, патас лістоў быў зусім не на карысьць рэфэрэндуму.

Цяпер я шкадую, што тады, займаючы пасаду сакратара Камісіі Вярхоўнага Савету ў пытаньнях галоснасьці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, не папрасіў у рэдакцыі той самай «Советской Белоруссии» арыгіналы лістоў — ну проста для таго, каб пераканацца ў адпаведнасьці надрукаванага арыгіналам. Альбо нават — у іх фізычнай наяўнасьці. Але такая ідэя ў 1992 годзе мне нават не магла прыйсьці ў галаву, бо гэта імгненна было б успрынята як спроба дэпутата, ды

яшчэ аднаго з кіраўнікоў парлямэнцкай камісіі па СМІ, умешвацца ў рэдакцыйныя справы (няспыннае кіраўніцтва з боку чыноўнікаў Саўміну ў рэдактараў пярэчаньняў не выклікала).

І паколькі факт адсутнасьці гэтых лістоў не даказаны — застаецца лічыць, што лісты супраць рэфэрэндуму ішлі ў рэдакцыю няспынным патокам. І зьдзіўляцца, што сярод сотняў тысяч чытачоў газэты не было тых, хто б выступаў за рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах. Хоць лісты публікаваліся пад рубрыкай «Рэфэрэндум: на перакрыжаваньні думак», думка выказвалася адна: рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах непатрэбны.

Але загалоўкі апублікаваных лістоў, бясспрэчна, прыдумлялі супрацоўнікі рэдакцыі.

Вось некаторыя: «Не да часу і не да месца», «З нашых жа кішэняў», «Усё тыя самыя твары», «Пазьбегчы б крайнасьцяў», «Хай плаціць той, хто замаўляе музыку» — і гэтак увесь час да кастрычніка, калі Вярхоўны Савет разгледзеў пытаньне аб рэфэрэндуме. Чытач мог і ня траціць час на самі лісты — пазыцыя навязвалася загалоўкамі.

І ўсё ж што-нішто з публікацый «Советской Белоруссии», варта працытаваць.

«Чытаю рэспубліканскія газэты, і робіцца ніякавата: Беларусь зноў паглынаецца хваляй палітычных страсьцей, выкліканай гэтым разам рэфэрэндумам па датэрміновым роспуску вышэйшых органаў улады.

Так, крытыка парлямэнту і ўраду шмат у чым абгрунтаваная. Людзі стаміліся ад росту цэнаў, сацыяльнай нестабільнасьці, шмат каму пагражае беспрацоўе. Але разам з тым давайце падумаем, ці можа адстаўка парлямэнту і ўраду радыкальна зьмяніць становішча ў народнай гаспадарцы, надаць дынамізм ягонаму разьвіцьцю? Мяркую, што не. Надзея лідэраў БНФ на магчымасьць з дапамогай рэфэрэндуму вырашыць грамадзкія праблемы выглядаюць, як найменш, утапічна. Перакананы, што рэфэрэндум у такі надзвычай цяжкі час не зьяўляецца найлепшым варыянтам.

І яшчэ пра адно хацелася б сказаць. Вельмі турбуе актывізацыя ў нашай рэспубліцы нацыянальна-радыкальных настрояў, якая ясна прасочваецца ў праекце закону «Аб выбарах», падрыхтаваным Апазыцыяй БНФ. Думаю, што палітыка, якая супрацьстаіць стварэньню агульнай эканамічнай прасторы, непазьбежна прывядзе да непапраўнага. Сёньня мы ўсе — у адной лодцы. Чарняк, прадпрымальнік».

«Рэфэрэндум будзе каштаваць немалых сродкаў. Адкуль яны возьмуцца? З поўнай падставай можна сказаць — з нашых жа кішэняў. Дык ці варта? В. Папковіч, Жлобін».

«Я не баюся цяжкасьцяў. Я просты чалавек. Адзінае, чаго баюся — паўтору Нагорнага Карабаху ў Беларусі. Б. Радзько, Мазыр».

«Апазыцыя БНФ сёньня набіла руку ў нагнятаньні жарсьці вакол ураду, у ашальмоўваньні рашэньняў і дзеяньняў органаў улады. Але варта толькі падумаць — а што істотнага прапанавала

сама апазыцыя для народу, што ёю зроблена для паляпшэньня жыцьцезабесьпячэньня грамадзянаў рэспублікі, як адразу ж прыгадваюцца словы аднаго казачнага пэрсанажа: «А кароль жа голы? Юры Сьмірноў, кандыдат юрыдычных навук».

«Здаецца, нядаўна быў усесаюзны рэфэрэндум, на якім народ прагаласаваў за адзінства Саюзу. Парлямэнт Беларусі пад ціскам БНФ праігнараваў волевыяўленьне народу. І вось мы — ля разьбітага карыта, адзін на адзін з Чарнобылем, з разбуранай эканомікай. Нас ізноў заклікаюць да рэфэрэндуму. А што абяцаюць? Ды нічога. Мяркую пра гэта хаця б па адным толькі законе — законе аб мовах у Беларусі. Я — беларуска. Ганаруся, што вырасла на расейскай культуры, якая, бясспрэчна, зьяўляецца найвышэйшым дасягненьнем сусьветнай цывілізацыі. Апазыцыя БНФ у Вярхоўным Савеце выганяе зь Беларусі расейскую культуру, супраць волі народу насаджае беларускамоўнасьць, замест таго, каб у рэчышчы сапраўднага дэмакратызму абвясьціць дзяржаўнымі дзьве мовы — беларускую і расейскую, ці нават тры — плюс польскую. Штучна разьядноўваюцца ня самі народы — нас разьядноўваюць нашыя ж уладары. Шкада, што не надрукуеце маю думку. Тамара Чыж, Мінск».

Дарэчы, падобныя лісты незадаволеных здабыцьцём Беларусьсю незалежнасьці («пад ціскам БНФ») газэты Савету міністраў у пачатку 1990-ых публікавалі няспынна.

«Дзеля чаго патрэбны рэфэрэндум? Мяркуючы па прапановах дэпутацкай апазыцыі — каб

зьмяніць склад Вярхоўнага Савету і ўраду, сфармаваць сваю ўладу, прывесьці да кіраўніцтва парлямэнтам новых лідэраў. За гэтымі акцыямі, калі яны адбудуцца, непазьбежна прыйдзе пераарыентацыя Беларусі ў рэчышчы вузканацыянальных ідэяў БНФ, канчатковы адрыў ад Расеі, ад народаў былога Саюзу. Ня трэба быць прарокам, каб убачыць наступствы гэтых крокаў: рэспубліка задыхнецца ў нацыянальнай шкарлупіне. Ягораў, горад Мінск».

«Ва ўмовах найвастрэйшага сацыяльнага і эканамічнага крызісу пакінуць рэспубліку без кіраўніцтва на працяглы тэрмін — значыць узмацніць цяжкасьці, прывесьці эканоміку да поўнага развалу… Пасьля рэфэрэндуму выканаўчая ўлада будзе паралізаваная, асабліва на сярэднім узроўні, у чаканьні «новай мяцёлкі». Ніхто і ніколі ня будзе вырашаць простыя пытаньні, ня кажучы ўжо пра больш складаныя. Гэтага варта чакаць і на ўзроўні ўраду. Наўрад ці будзе плённа працаваць той, хто ня ведае сваёй будучыні... Усе расходы па правядзеньні рэфэрэндуму лягуць на бюджэт рэспублікі, а значыць — на плечы простых людзей. Ужо калі і праводзіць рэфэрэндум, дык за сродкі тых палітычных партыяў, рухаў і грамадзянаў, якія яго падтрымоўваюць. Адначасна са зборам подпісаў трэба было б і зьбіраць грошы на правядзеньне гэтай акцыі. Гэта ня позна зрабіць і цяпер. Старая ісьціна сьцьвярджае: хто плаціць, той і замаўляе музыку. Ляпяшчынская, вэтэран працы, карэнная мінчанка».

Усе гэтыя аргумэнты, выказаныя нібыта чытачамі, лёгка і проста разьбіваліся, ну вось хоць бы з апошняга ліста, наконт «паралічу ўлады» ў выніку выбараў — у дэмакратычных краінах выбары праводзяцца рэгулярна, гэтак сама часта мяняецца ўлада, адзін прэм’ер саступае месца іншаму, міністэрскія крэслы займаюць тыя, хто ўчора быў у апазыцыі, а праз нейкі час сыходзяць і яны — і пры гэтым стабільна працуюць дзяржаўныя ўстановы, жыцьцё не спыняецца. Яно якраз таму не спыняецца, што рэгулярная зьмена выканаўчай улады праз свабодныя выбары — адна з гарантыяў эфэктыўнага функцыянаваньня дзяржаўнага апарату.

Гэта — арытмэтыка, якую ў пачатку 1990-ых трэба было патлумачыць людзям, якія дзесяцігодзьдзямі жылі ва ўмовах аўтарытарызму. Але саўмінаўская прэса, наадварот, заблытвала людзей. А прадстаўнікі БНФ, іншых дэмакратычных арганізацый доступу да палосаў той самай «Советской Белоруссии» ня мелі.

**4 чэрвеня.** У Курапатах невядомыя зьнішчылі памятны знак і сьпілавалі некалькі дрэваў. Адбыўся арганізацыйны сход па стварэньні грамадзка-хрысьціянскага аб'яднаньня «Курапаты».

**5 чэрвеня.** Беларусь зрабілася ўдзельніцай Дамовы аб звычайных узброеных сілах у Эўропе.

**7 чэрвеня.** На прэзыдэнцкіх выбарах у Азэрбайджане перамог лідэр Народнага фронту Абульфаз Эльчыбэй.

**19 чэрвеня.** Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету ўтварыў Камісію па забесьпячэньні адзінай палітыкі выкарыстаньня дзяржаўных сымбаляў («Пагоні» і бел-чырвона-белага сьцяга).

**22 чэрвеня.** Управа БНФ прыняла заяву супраць вайсковага саюзу з Расеяй.

**23–25 чэрвеня.** Візыт у Польшчу дэлегацыі на чале са Станіславам Шушкевічам, у складзе дэлегацыі — Васіль Быкаў. Падпісаньне Дамовы аб добрасуседзтве і супрацоўніцтве.

**25 чэрвеня.** Усталяваныя дыпляматычныя адносіны з Расеяй.

**29 чэрвеня.** Камісія па культуры БНФ правяла ў Доме літаратара круглы стол «Беларуская мова ў сродках масавай інфармацыі».

**30 чэрвеня.** Адкрыта прадстаўніцтва Украіны ў Беларусі.

## ШУШКЕВІЧ: «ВЯРХОЎНЫ САВЕТ НІЧОГА НЕ БАІЦЦА»

Да гэтага я не казаў падрабязна пра стаўленьне да тэмы рэфэрэндуму асобы, яка адыграла ў ёй ключавую ролю. Зрэшты, у 1992 годзе (як і ў наступным) ад яе залежала ў палітыцы Беларусі калі ня ўсё, дык — вельмі шмат.

Канешне, я маю на ўвазе найвышэйшую службовую асобу — старшыню Вярхоўнага Савету Станіслава Шушкевіча. Праз гады ў замежжы яго будуць прадстаўляць як першага кіраўніка незалежнай Беларусі (і Шушкевіч пагодзіцца з такой фармулёўкай), але ў 1992-1993 гадах ён падкрэсьліваў, што займае пасаду «ўсяго толькі» сьпікера парлямэнту, а рашэньні прымае Вярхоўны Савет.

У тых словах Шушкевіча была праўда — ягоную ўладу нельга было параўнаць з той, якую мелі, напрыклад, прэзыдэнт Расеі Ельцын ці прэзыдэнт Украіны Краўчук.

Але ў справе рэфэрэндуму паўнамоцтвы ў Шушкевіча былі, і вельмі значныя. Я сказаў бы, што вызначальныя.

Па-першае, паводле Закону аб рэфэрэндуме, ён як старшыня Вярхоўнага Савету мог выйсьці з ініцыятывай яго правядзеньня. Кажучы простай

мовай, ягоны подпіс замяняў подпісы 350 тысяч выбаршчыкаў. Пры гэтым ён мог прапанаваць уласную фармулёўку пытаньня (альбо ўзяць тую, якую сфармулявала Ініцыятыўная група).

Па-другое, не жадаючы ініцыяваць рэфэрэндум, Шушкевіч мог склікаць сэсію Вярхоўнага Савету. Папярэдняя сэсія завяршылася 24 красавіка, пры тым што два дзясяткі пытаньняў парадку дня засталіся неразгледжанымі. Мы лічылі, што сэсію не жадаюць зьбіраць таму, што тады, з улікам станоўчага вэрдыкту ЦВК, давядзецца прызначаць дату рэфэрэндуму.

Па-трэцяе, Шушкевіч меў уплыў на грамадзтва, і ад ягонага стаўленьня да рэфэрэндуму — станоўчага ці адмоўнага — залежала шмат.

У пачатку 1993 году «Народная газэта» пад загалоўкам «Шушкевіч — палітык года» апублікавала графік зьмены цягам 1991-1992 гадоў рэйтынгаў трох вядучых палітычных дзеячоў — Кебіча, Пазьняка і Шушкевіча, падрыхтаваны сацыялягічнай службай «Грамадзкая думка». У першыя месяцы 1991-га Кебіч апярэджваў Шушкевіча, але пачынаючы ад красавіка 1991-га Шушкевіч займаў першае месца (у жніўні 1991-га рэйтынгі Шушкевіча і Пазьняка практычна зраўняліся, у першага — 21%, у другога — 20%. Рэйтынг Кебіча ў гэты момант складаў 5%). У верасьні, калі Шушкевіч быў абраны старшынём Вярхоўнага Савету, ягоны рэйтынг узьляцеў у два разы — да 40% («народ любіць начальства»), і далей, нават і пры нестабільных паказьніках, заўсёды апярэджваў і Пазьняка, і Кебіча.

Дык вось, паводле «Грамадзкай думкі» ў студзені 1992 году рэйтынг Шушкевіча быў 52%, у лютым — 33,3% (камэнтатары зьвязалі падзеньне рэйтынгу з падвышэньнем цэнаў) у сакавіку — 47,1%. У чэрвені 1992 году рэйтынг Шушкевіча складаў 27,6% (але ўсё роўна быў самы высокі ў параўнаньні зь іншымі палітыкамі).

Можна па-рознаму паставіцца да гэтых лічбаў, верыць у праўдзівасьць апытаньняў або не. Але тут важна іншае: Шушкевіч іх ведаў (натуральна, нават яшчэ да публікацыяў у друку).

У студзені 1992-га, калі БНФ заявіў пра рэфэрэндум і пачаў актыўна рыхтавацца да кампаніі па зборы подпісаў (рашэньне на сойме было прынята яшчэ 29 сьнежня 1991-га), рэйтынг Шушкевіча быў самы высокі — 52%.

І калі б Шушкевіч падтрымаў ініцыятыву Народнага Фронту, гэта, бясспрэчна, вельмі істотна паўплывала б на грамадзкія настроі. У яго заўсёды была магчымасьць зьвярнуцца наўпрост да народу — і ён ёю карыстаўся, праводзячы рэгулярныя прамыя тэлеэфіры.

Нарэшце, у Шушкевіча была магчымасьць, якой акрамя яго валодаў толькі Кебіч (але вельмі рэдка выкарыстоўваў яе) і ніколі ня меў Пазьняк — выхаду ў дзяржаўным тэлебачаньні ў які заўгодна момант.

І Шушкевіч карыстаўся гэтай магчымасьцю. Пачынаючы ад студзеня 1992-га, «прамыя эфіры» са старшынём Вярхоўнага Савету зрабіліся рэгулярнымі. Вёў іх тагачасны намесьнік галоўнага рэдактара «Народнай газэты» Аляксандар Кла-



Станіслаў Шушкевіч на трыбуне сэсіі Вярхоўнага Савету

скоўскі. Вёў прафэсійна, раскавана, аддаючы перавагу ня ўласным пытаньням, а тэлефанаваньням гледачоў (некалькі супрацоўнікаў тэлебачаньня запісвалі пытаньні па тэлефонах, нумары якіх былі на экране).

Ужо першая перадача выклікала надзвычайную цікавасьць, і пасьля другой «Зьвязда» зьмясьціла інтэрвію з Класкоўскім, «які вядзе, бадай, самыя папулярныя цяпер перадачы Беларускага тэлебачаньня — цыкл прамых ліній са старшынём Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь С. С. Шушкевічам». «Кожная ваша перадача, — канстатаваў аглядальнік «Зьвязды», — потым некалькі дзён актыўна абмяркоўваецца ў чэргах, грамадзкім транспарце, на працы». Сам жа Кла-

скоўскі пагадзіўся з такой ацэнкай папулярнасьці — «пасьля першай прамой лініі абрушыўся шквал званкоў з адным пытаньнем: «Калі будзе наступная перадача? Хачу спытаць наконт...» Тое самае здарылася і пасьля другой перадачы».

Сапраўды — прамыя эфіры з Шушкевічам глядзелі мільёны людзей. Трэба сказаць, што яны адыгралі станоўчую ролю ў фармаваньні грамадзкай думкі адносна нядаўніх Віскулёўскіх пагадненьняў ды неабходнасьці эканамічных рэформаў — Шушкевіч аргумэнтавана, як кажуць, «на пальцах» тлумачыў тое, што, па вялікім рахунку, мусілі б тлумачыць у адмысловых перадачах дзяржаўнага тэлебачаньня (тады як вельмі часта і па тэлебачаньні, і па радыё лілі сьлёзы па «разбуранай вялікай дзяржаве»). Але што тычыцца новых выбараў, дык Шушкевіч лічыў, што рэформы можна і трэба праводзіць менавіта з гэтым складам Вярхоўнага Савету (праўда, з пэўным унутраным рэфармаваньнем), пра што і заяўляў мільёнам тэлегледачоў.

Ва ўважлівага чалавека, які хоць крыху сачыў за падзеямі ў Вярхоўным Савеце, такая перакананасьць спараджала непаразуменьне: бо ў той самы час, калі Шушкевіч заяўляў пра «патэнцыял» дэпутацкага корпусу, большасьць гэтага самага корпусу блякавала прапанаваныя ім кандыдатуры на пасаду ягонага першага намесьніка — аж пакуль ня быў абраны Вячаслаў Кузьняцоў, «плоць ад плоці» намэнклятуры. Гэта бачылі ўсе, хто глядзеў або слухаў штодзённыя вечаровыя рэпартажы з Авальнай залі. Ну а

прыхільнікі Народнага Фронту адзначылі, што заканадаўчыя прапановы Апазыцыі БНФ, распрацаваныя з мэтай менавіта рэформаў, парлямэнцкай большасьцю адхіляюцца.

І калі б Шушкевіч пацьвердзіў тое, што сказаў у апошнія хвіліны сэсіі 25 жніўня 1991-га пра неабходнасьць новых выбараў — гэта істотна паўплывала б на настрой той часткі грамадзтва, якая ня вызначылася (бо як мінімум 440 тысяч чалавек вызначыліся).

Але Шушкевіч выступіў супраць рэфэрэндуму і цягам некалькіх месяцаў у публічных выступах ды інтэрвію крытыкаваў ідэю датэрміновых выбараў.

Яшчэ ў пачатку лютага 1992-га на сустрэчы зь лідэрамі прафсаюзаў (як «афіцыйных», гэтак і незалежных) Шушкевіч сказаў, што «рэфэрэндум аб роспуску парлямэнту, чаго патрабуюць сёньня і левыя, і правыя, стаў бы «піравай перамогай» апазыцыі. Гэта прывядзе толькі да яшчэ большага бязладзьдзя і паставіць грамадзтва на мяжу грамадзянскай вайны» («Літаратура і мастацтва», 14 лютага 1992).

На маю думку, катастрафічнай для лёсу беларускай дэмакратыі было жаданьне Шушкевіча спачатку прыняць Канстытуцыю, і толькі потым правесьці выбары ў новы Вярхоўны Савет.

Мы лічылі наадварот: гэты склад дэпутацкага корпусу прыняць дасканалую Канстытуцыю няздольны, таму спачатку павінны адбыцца выбары, і ўжо новыя дэпутаты прымуць Асноўны

закон. Слушнасьць нашай пазыцыі пацьвердзілі наступныя падзеі.

Шушкевіч упарта настойваў менавіта на пасьлядоўнасьці «Канстытуцыя — выбары», прывязваючы сюды і новы выбарчы закон (натуральна ж, без усялякага рэфэрэндуму).

Вось што ён казаў у інтэрвію агенцтву «Інтэрфакс», якое было распаўсюджана і па-за межамі краіны.

«Перакананы: цяпер самай галоўнай задачай зьяўляецца прыняцьце новай Канстытуцыі. А ўжо зыходзячы зь яе палажэньняў, на мой погляд, павінен распрацоўвацца новы закон аб выбарах. Работа над праектам Асноўнага закону незалежнай Беларусі ўжо завяршаецца. Ён прайшоў «абкатку» ў парлямэнцкіх камітэтах і камісіях (камітэтаў у ВС не было, толькі камісіі — С.Н.), яго аналізавалі найбуйнейшыя ў сьвеце спэцыялісты ў галіне права — экспэрты Эўрапарлямэнту. На 26 старонках дробным почыркам прафэсіяналы з сусьветным імем па кожным пункце кожнага артыкулу новай Канстытуцыі ўнесьлі свае заўвагі… З пункту гледжаньня міжнародных нормаў, наша новая Канстытуцыя фактычна бездакорная».

І яшчэ: «Канстытуцыя будзе прынята ў найбліжэйшым часе. Тады і пагаворым пра новы закон аб выбарах».

Гэтых «найбуйнейшых у сьвеце спэцыялістаў» я ў кабінэтах Вярхоўнага Савету ніколі ня бачыў — магчыма, свае заўвагі «дробным почыркам» яны даслалі з Брусэлю поштай. Для мяне гэта застаецца загадкай, затое ўсім вядома, што

«у найбліжэйшым часе» Канстытуцыю Вярхоўны Савет не прыняў — за яе дэпутаты прагаласавалі толькі праз амаль два гады. Прымалі з парушэньнем Рэгляманту Вярхоўнага Савету, і атрымалася яна далёкая ад «бездакорнасьці».

У інтэрвію «Інтэрфаксу» Шушкевіч выказаўся і пра рэфэрэндум.

«Лідэры апазыцыі са сваімі экспэртамі, якія распрацоўваюць свой варыянт закону аб выбарах, ня здолеюць зрабіць яго больш сучасным з пункту гледжаньня міжнароднага права, чым гэта можам зрабіць мы, паколькі і тут (як і з праектам Канстытуцыі — С.Н.) нам дапамогуць эўрапарлямэнцкія спэцыялісты. Распрацоўнікі Закону аб выбарах ад апазыцыі самі далёка не прафэсіяналы, а аматары, энтузіясты. І эмацыйнае ўспрыманьне ў іх пераважае над прафэсіянальным. Ствараецца ўражаньне, што лідэры апазыцыі гэтага ня хочуць зразумець. Але захопленыя ўласнай ідэяй, яны ўсё роўна павінны правесьці свой законапраект праз усе парлямэнцкія працэдуры. Толькі тады гэты дакумэнт можа быць прыняты».

Тут Шушкевіч або памыляўся, або сьвядома ўводзіў у зман.

Праект Закону аб выбарах быў да гэтага моманту зроблены, над ім працавалі не аматары, а юрысты з навуковымі ступенямі, урэшце, у выпадку станоўчага выніку рэфэрэндуму ніякай патрэбы ў праходжаньні праз парлямэнцкія працэдуры (профільныя камісіі, у якіх ва ўсіх большасьць складалі экс-камуністы) не было. Закон фактычна прымаўся ўсенародным галасаваньнем.

Ну а далей — палітычная ацэнка: «Гэта толькі гульня ў палітыку, жаданьне сутыкнуць ілбамі людзей, якіх мы ня маем права, прабачце, дурыць!»

Яшчэ больш падрабязна сваю пазыцыю Шушкевіч абгрунтаваў у інтэрвію галоўнаму рэдактару газэты «Свабода» Ігару Герменчуку.

«У пытаньні, прапанаваным Ініцыятыўнай групай, заблытана як мінімум тры пытаньні: ці патрабуецца роспуск гэтага ВС; на падставе якога закону павінны адбыцца новыя выбары; калі павінны адбыцца новыя выбары. Рэфэрэндум ня можа адным «так» або «не» на пытаньне, што мы разганяем Вярхоўны Савет, праводзім новыя выбары (зараз, імгненна) і па новым законе, які ўсталёўвае мажарытарны прынцып, па якім, дарэчы, можа наогул ня быць утвораны ВС. На такую рызыкоўную справу ня можа пайсьці ўлада. Я, напрыклад, як дэпутат не магу галасаваць за такую прапанову». («Свабода», ліпень 1992)

Шушкевіч адразу абазначыў сваё стаўленьне: як дэпутат ён ня будзе галасаваць за прызначэньне рэфэрэндуму. Што да «заблытанасьці» пытаньняў, дык пра гэта ён будзе заяўляць аж да самой сэсіі. І сотні разоў прадстаўнікі Ініцыятыўнай групы тлумачылі, што пытаньне сфармулявана канкрэтна — гаворка менавіта пра выбары ўвосень 1992 году, менавіта паводле выбарчага закону, прапанаванага Апазыцыяй БНФ, і на яго канкрэтна можна адказаць «так» або «не».

Шушкевіч сказаў, што законапраект прадугледжвае мажарытарны прынцып — але прапа-

ноўвалася якраз не мажарытарная, а «зьмешаная» сыстэма выбараў, прапарцыйна-мажарытарная, палова — паводле партыйных сьпісаў, палова — па акругах (ён або памыліўся, або не чытаў наш законапраект). Якраз такая прапанаваная намі сыстэма давала значна больш гарантыю абраньня Вярхоўнага Савету (запаўненьня патрэбнай колькасьці дэпутацкіх месцаў), чым толькі мажарытарная, паводле якой абіраўся Вярхоўны Савет XII скліканьня (ня лічачы фактычна прызначаных дэпутатаў ад грамадзкіх арганізацый), і па якой паўтары дзясяткі месцаў так і не былі запоўненыя цягам усёй кадэнцыі гэтага Вярхоўнага Савету. А Вярхоўны Савет наступнага, XIII скліканьня, увогуле абіраўся больш за паўгода — не хапала кворуму да першай сэсіі. Канешне, абсалютнай гарантыяй запаўненьня ўсіх месцаў былі б выбары па партыйных сьпісах, але і кампрамісны, прапанаваны БНФ варыянт, быў куды лепшы і дэмакратычны, чым той, паводле якога парлямэнт абіраўся з 1990 году.

«Закон аб выбарах — гэта сур'ёзны юрыдычны дакумэнт. Ён павінен быць вельмі-вельмі дасканалы, — працягваў Шушкевіч. — Таму было б добра, каб тую энэргію, якая трацілася цяпер на ўтварэньне новых палітычных структураў, на розныя іншыя захады, скіраваць на стварэньне новай Канстытуцыі і дасканалага выбарчага закону. Я не выключаю, што можна канцэптуальна вызначыць, якія ў нас будуць новыя выбары, і да прыняцьця Канстытуцыі прыняць закон аб выбарах. Гэта павінен быць сур'ёзны, нармальны



Ігар Гермянчук у Авальнай залі

закон. І на падставе гэтага закону павінны адбыцца выбары».

Выказаўся Шушкевіч і наконт БНФ — без усялякай сымпатыі.

«Я бачу, што пэўныя палітычныя рухі спадзяюцца, што яны пяройдуць праз той парог, калі можна будзе мець сваё ўплывовае прадстаўніцтва ў парлямэнце. Па-першае, яны могуць тут памыліцца, бо сытуацыя ўвесь час зьмяняецца. Па-другое, закон не павінен падганяцца пад сёньняшнюю сытуацыю, а быць такім жа даўгавечным, як, напрыклад, Канстытуцыя Злучаных Штатаў. Таму, адказваючы на пытаньне, я думаю, што ў гэтым годзе правесьці новыя выбары нерэальна... Я супраць таго, каб рабіць нешта часовае і хуценька правесьці новыя выбары».

Але Ігар Гермянчук нагадаў Шушкевічу ягоныя ж словы, сказаныя адразу пасьля абвяшчэньня Незалежнасьці 25 жніўня на сэсіі Вярхоўнага Савету: «Мы павінны знайсьці ў сабе мужнасьць і адным разумным захадам вырашыць усе пытаньні. Такі захад існуе, ён уключае і пытаньне аб старшыні, і пытаньне аб Прэзыдыюме, і пытаньне аб Вярхоўным Савеце наогул. Мы павінны неадкладна прыняць новы выбарчы закон, дэмакратычны... На падставе гэтага дэмакратычнага закону трэба выбраць у гэтым годзе (гэта значыць — яшчэ ў 1991! — С.Н.) новы Вярхоўны Савет. І ў нас павінна хапіць мужнасьці пайсьці на гэты крок. (Апляадысмэнты)... І на працягу двух, максымум трох месяцаў (да сьнежня 1991-га — С.Н.) вырашыць гэтае пытаньне. Гэта адзіны шлях да згоды. Я ня бачу іншага шляху і заклікаю вас стаць на гэты шлях».

«Я добра памятаю, што я казаў тады, — адказаў Шушкевіч. — Добра памятаю, чаму я гэта казаў тады. І цяпер зьмянілася толькі адно: я бачу, што ў такім тэмпе Вярхоўны Савет працаваць ня здольны. І відавочна, што гэта быў мой энтузіязм, калі я ня вельмі добра ведаў усе мэханізмы работы парлямэнту, мне здавалася, што гэта можна зрабіць. Аднак гэта — рэвалюцыйны падыход. Так, я выступаў за гэта. Закон можна было б прыняць, але ж Вярхоўны Савет не пайшоў гэтым шляхам. І я павінен шукаць іншыя шляхі. Я іх шукаю».

«Я вам раскажу, як, на маю думку, можна выйсьці з таго становішча, у якое нас можа паставіць

рэфэрэндум. Дарэчы, ён можа і не паставіць», — заявіў Шушкевіч Герменчуку.

«Што вы маеце на ўвазе?»

«Я маю на ўвазе адмоўныя вынікі рэфэрэндуму. Таму што цяпер мы назіраем вельмі нізкую палітычную актыўнасьць людзей, і выбаршчыкі могуць папросту не прыйсьці на рэфэрэндум».

«У такім выпадку — чаго баіцца Вярхоўны Савет?»

«Вярхоўны Савет нічога не баіцца. І чаму вы так ставіце пытаньне, што Вярхоўны Савет нечага баіцца. Чаго ён баіцца?»

«Баіцца, напрыклад, склікаць нечарговую сэсію хаця б дзеля таго, каб ратыфікаваць Дамову аб скарачэньні звычайных узбраеньняў у Эўропе, якую Вы едзеце заўтра падпісваць у Хэльсынкі. На Захадзе выказваюць заклапочанасьць тым, што Беларусь, у адрозьненьне, скажам, ад Украіны, усё яшчэ не ратыфікавала гэтую дамову. На апошнім паседжаньні Прэзыдыюму ВС абмяркоўвалася гэтая сытуацыя. Але Прэзыдыюм вырашыў усё ж не склікаць сэсію, баючыся, як лічаць дэпутаты ад апазыцыі, што тады давядзецца разглядаць і пытаньне пра рэфэрэндум».

«Вы памыляецеся. У законе запісана, што пытаньне пра рэфэрэндум разглядаецца менавіта на **чарговай** сэсіі, а не на **бліжэйшай**. (тут і далей выдзелена тлустым у публікацыі — С.Н.). І калі кіравацца законам, то на **нечарговай** сэсіі гэтае пытаньне ня можа разглядацца. Апазыцыі гэта вельмі непрыемна, але так патрабуе закон аб рэфэрэндуме».

Далей Шушкевіч сказаў, што «дзеля таго, каб склікаць нечарговую сэсію, неабавязкова трэба зьбіраць Прэзыдыюм. Я як Старшыня ВС таксама маю такое права і мог гэта зрабіць. Але я папрасіў прааналізаваць: колькі дэпутатаў рэальна могуць зьявіцца на сэсію? Высьветлілася, што можам сабраць 208–212 дэпутатаў, бо мы самі прынялі рашэньне, каб з 15 чэрвеня па 15 жніўня дэпутаты пайшлі ў адпачынак. І калі ў такой сытуацыі спрабаваць склікаць сэсію, то можна атрымаць зьнешнепалітычны скандал: зьбіралі спэцыяльную сэсію, а дэпутаты не сабраліся, значыць — не жадаюць ратыфікаваць пагадненьне».

«Акрамя таго, я не выключаю, што пэўныя парлямэнцкія сілы — або апазыцыя, або бальшавікі — сьвядома маглі б пайсьці на «падрыў» гэтай сэсіі і не зьявіліся б на яе. І што тады? Паўтараю, гэтую сэсію можна было вельмі лёгка сарваць, і я ня мог ставіць Беларусь у такое рызыкоўнае становішча. А рэфэрэндум тут ні пры чым. Гэтае пытаньне можна разглядаць толькі на чарговай сэсіі».

Гермянчук зьвярнуў увагу Шушкевіча на тое, што «чарговая сэсія адносіцца на восень. Між тым, на ўнесеным на рэфэрэндум пытаньні адназначна сфармулявана: «Ці лічыце Вы неабходным правесьці ўвосень 1992 году новыя выбары?» Пытаньне было афіцыйна зацьверджана яшчэ на пачатку году. Ініцыятары рэфэрэндуму выканалі ўсе патрабаваньні закону. Засталося Вярхоўнаму Савету выканаць закон і волю 440 тыс. грамадзянаў».

У сваім адказе сьпікер ня надта выбіраў лексыку.

«Гэта глупства тых, хто зацьвердзіў такое пытаньне, і хітравумная задумка тых, хто гэтае пытаньне прапанаваў. Толькі па прычыне нізкай кваліфікацыі папярэдняга складу Цэнтральнай выбарчай камісіі было зацьверджана такое заблытанае пытаньне, якое немагчыма выносіць на рэфэрэндум, бо на яго нельга даць адназначны адказ «так» або «не». Таму я бачу выйсьце ў тым, каб разам з ініцыятарамі рэфэрэндуму ўдакладніць пытаньне, зрабіць яго лягічным і зацьвердзіць Вярхоўным Саветам».

«А калі Ініцыятыўная група не пагодзіцца «ўдакладніць» пытаньне?»

«Тады, я думаю, Вярхоўны Савет не захоча бударажыць народ, не захоча яго заблытваць, не захоча, так бы мовіць, зьдзекавацца зь яго — і проста прыме рашэньне, што гэты рэфэрэндум мае кансультатыўны характар, а не абавязковы. І я думаю, што ніякага выбуху ў грамадзтве не адбудзецца, будзе вельмі простая рэакцыя».

Станіслаў Шушкевіч прыадчыніў заслону над тым, што рабілася на вяршыні ўлады:

«Ведаеце, калі б я хацеў сарваць гэтую работу апазыцыі, то зрабіў бы вельмі проста: сабраў бы сэсію з мэтаю, каб яна прызначыла рэфэрэндум вось зараз, у летні пэрыяд. І я Вам даю гарантыю, што 50% людзей на яго б не прыйшлі. Дарэчы, такія пажаданьні былі. Але я сумленна не пайшоў на гэта».

Вось гэта было цікавае прызнаньне — што намэнклятура прыдумала такі ход (сапраўды, інстынкт самазахаваньня ў яе быў надзвычайны).

Даведаліся мы пра гэта з публікацыі, нікому з дэпутатаў апазыцыі Шушкевіч нічога не сказаў. Але ў Шушкевіча былі такія адносіны з апазыцыяй, што чакаць іншага не выпадала. У працэсе працы над кнігай я зьвярнуўся да Пазьняка з просьбай прыгадаць, ці былі ўвогуле ў яго размовы ці перамовы з Шушкевічам у 1992 годзе — для сьпікера парлямэнту гутарка зь лідэрам парлямэнцкай фракцыі справа цалкам натуральная, уласна, паводле парлямэнцкіх традыцый ён абавязаны гэта рабіць. Пра гэткую гутарку Пазьняка з Шушкевічам я не памятаю, але, магчыма, яна адбылася, проста я пра яе забыўся. Аказалася, памяць не падвяла.

«З Шушкевічам ні аб чым сур'ёзным нельга было гаварыць, — адказаў Пазьняк. — Зь ім ні аб чым нельга было дамовіцца. Ініцыятывы спаткацца са мной ён не праяўляў. Калі мы выпадкова сустракаліся, ён звычайна скорагаворкай пускаў філіпікі наконт фармулёўкі рэфэрэндуму, і далей гаворка не ішла. Хіба што ён яшчэ паўтараў сваё кароннае: «Урад добры. Урад працуе»» (Архіў аўтара).

У тым самым нумары «Свабоды», дзе было надрукаванае інтэрвію з Шушкевічам, быў апублікаваны і адкрыты ліст старшыні Ініцыятыўнай групы Уладзімера Анцулевіча.

«Той, хто сочыць за падзеямі, што разгортваюцца вакол усебеларускага рэфэрэндуму, мог

заўважыць эвалюцыю адносінаў да яго з боку высокапастаўленых асобаў: ад самаўпэўненага «коней на пераправе не мяняюць» да беспадстаўных абвінавачаньняў Ініцыятыўнай групы ў парушэньні Закону, — пісаў Анцулевіч. — Апагеем гэтага ляманту было выказваньне Старшыні ВС, які ў дзень перадачы падпісных лістоў у Цэнтральную камісію назваў гэтыя подпісы «сьмецьцем». А пасьля на працягу месяца 49 чыноўнікаў з Саўміну і Вярхоўнага Савету, парушаючы закон, разам з Цэнтральнай камісіяй старанна правяралі гэтае «сьмецьце». І не знайшлі ніводнага адмысловага парушэньня закону ініцыятарамі рэфэрэндуму. Цяпер ужо ўсе «кіруючыя асобы» Беларусі прымушаны прызнаць, што звыш 440 тысячаў грамадзянаў выказалі сваю волю, якую праігнараваць немагчыма. Таму — рэфэрэндум будзе!

Аднак — вельмі ня хочацца. І таму спыняецца вясновая сэсія, ня вычарпаўшы парадак дня. І разьбягаюцца дэпутаты на «канікулы». І зрываецца ўвод у дзеяньне агульнаэўрапейскай Дамовы аб скарачэньні звычайных узбраеньняў, бо Беларусь яе не ратыфікавала — для гэтага трэба хоць на адзін дзень склікаць сэсію, а тады паўстане пытаньне пра рэфэрэндум...»

Старшыня Ініцыятыўнай групы прапанаваў Станіславу Шушкевічу тэледэбаты ў прамым тэлевізійным эфіры.

Прапанову Ініцыятыўнай групы правесьці адкрытыя дэбаты ў прамым тэлеэфіры Шушкевіч праігнараваў. Але ў сваіх прамых тэлезваротах

(ён, канешне, меў неабмежаваны доступ да эфіру) працягваў крытыку як ідэі рэфэрэндуму аб новых выбарах, гэтак і пазыцыі Народнага Фронту.

Даводзіць да насельніцтва аргумэнтацыю на карысьць рэфэрэндуму давялося нам, дэпутатам парлямэнцкай апазыцыі, калі ўдавалася прарвацца ў эфір тэлебачаньня (што здаралася вельмі рэдка, нягледзячы на гарантаваны Законам аб статусе дэпутата доступ да дзяржаўных СМІ).

Інтэрвію Ігара Герменчука са Станіславам Шушкевічам прыкметнае яшчэ і тым, што ў ім Шушкевіч разгорнута публічна выказаў адмоўнае стаўленьне адносна Беларускага Народнага Фронту і дэпутацкай Апазыцыі БНФ.

Вось ён называе ініцыяванае Народным Фронтам пытаньне «хітравумнай задумкай», фактычна папракае яго імкненьні «бударажыць народ», «яго заблытваць», «так бы мовіць, зьдзекавацца зь яго», ставіць БНФ на адну дошку з «бальшавікамі» ў верагодным, на ягоную думку, намеры сапсаваць міжнародны імідж Беларусі (чаго Фронт ніколі не рабіў). Па ўсім інтэрвію адчуваецца ня вельмі прыхаванае адмоўнае стаўленьне да БНФ і чаканьне ягонай паразы («пэўныя палітычныя рухі спадзяюцца...» — «...яны могуць тут памыліцца»).

Без падтрымкі БНФ было б немагчымае ні абраньне Шушкевіча народным дэпутатам СССР у 1989 годзе, ні ягонае абраньне дэпутатам Вярхоўнага Савету БССР XII скліканьня ў 1990-ым і ў тым самым годзе — першым намесьнікам старшыні ВС, ні абраньне на пасаду старшыні

ў верасьні 1991-га. На кожным з гэтых этапаў палітычнай кар’еры Шушкевіча адмова БНФ у падтрымцы, без варыянтаў, азначала б паразу.

У свой час актывіст БНФ, адзін зь лідэраў рабочага руху Віктар Івашкевіч трапна заўважыў, што Шушкевіч любіць паўтараць, што на 95% падзяляе праграмныя палажэньні Народнага Фронту, але бяда ў тым, што асноўныя мэты Фронту якраз уваходзяць у іншыя 5%.

За некалькі месяцаў да інтэрвію, узятага Ігарам Герменчуком, у той самай «Свабодзе» зьявілася вялікая публікацыя Андрэя Ганчарова (на той момант — намесьніка галоўнага рэдактара «ЛіМу»), якую можна назваць палітычным партрэтам Станіслава Шушкевіча. Называлася яна — «Спадар кампраміс».

«Увогуле, назіраючы, як складваюцца дачыненьні Станіслава Шушкевіча з тымі, хто на тым або іншым этапе палітычнай кар’еры дапамагаў яму, — узьнікае досыць дзіўнае ўражаньне, што ён ім... «не даруе», — канстатаваў аўтар. — Так, калісьці Шушкевіч спыніў адносіны з БНФ, ня вельмі шануе і парлямэнцкую апазыцыю. А нядаўна разышоўся зь Дзьмітрыем Булахавым, якога ніяк не папракнеш празьмерным радыкалізмам, але роля якога ў выбраньні Шушкевіча старшынём ВС была надзвычай актыўная. Зь іншага боку, напрыклад, Іван Каратчэня (былы першы сакратар Вілейскага РК КПБ — С.Н.), зь якім наш старшыня не зусім карэктна абыходзіўся ў часе памятнага абмеркаваньня пытаньня аб маёмасьці КПБ, становіцца шэфам рабочай групы СНД...

Палітык інэрцыйнага складу, а ня лідэр, які ініцыюе падзеі, Станіслаў Шушкевіч найбольш упэўнена пачуваецца тады, калі тое або іншае пытаньне, што называецца, дасьпела, вырашана самім часам. Застаецца яшчэ крыху націснуць, і лічбы на табло засьведчаць такое кранальнае адзінадушша. У гэтыя імгненьні не прынята ўзгадваць, хто ж першы вымавіў «а», затое ўзьнікае ілюзія перамогі «цэнтрысцкай лініі», якую праводзіць старшыня» («Свабода», люты 1992).

Вельмі трапныя назіраньні зрабіў Андрэй Ганчароў. Так было і зь Незалежнасьцю, якую ў красавіку 1991-га Шушкевіч называў жартам, а ў першы дзень надзвычайнай сэсіі, 24 жніўня 1991, не жадаў уключаць у парадак дня пытаньне аб наданьні Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнага закону. І толькі Апазыцыя БНФ разам з франтаўскімі актывістамі на плошчы няспынным ціскам прымусіла дэпутатаў зрабіць тое, што ўжо днём раней зрабіла Вярхоўная Рады Ўкраіны.

Магчыма, асьцярожнае стаўленьне да нейкіх прапановаў можна лічыць станоўчай для палітыка рысай — але ў спакойныя часы і ў краінах, дзе дэмакратычныя інстытуцыі маюць даўнія традыцыі. А Беларусь у 1992-1993 гадах вымагала рэформаў, і найперш — палітычных. Для гэтага лідэр мусіў мець якасьці ініцыятыўнага палітыка — якімі ў Расеі валодаў Ельцын, якія былі ў Пазьняка, і ў пэўнай ступені (хоць усё часьцей са знакам «мінус») — нават у Кебіча.

Калі ж вярнуцца да палітычнай пазыцыі, дык Станіслаў Шушкевіч выказаў яе недвухсэнсава і гранічна зразумела ў адказе на пытаньне Ігара Герменчука пра магчымасьць увядзеньня ў Беларусі пасады прэзыдэнта:

«Гэта відавочна адзіная пазыцыя, дзе я пагаджаюся з падыходам Беларускага Народнага Фронту. Я лічу, што нельга ўводзіць пасаду прэзыдэнта — пакуль што». І далей: «Я буду рабіць усё магчымае, каб пераканаць наш Вярхоўны Савет не ісьці на такі захад раней чым праз 3-4 гады».

Такім чынам, супольнай з БНФ у Шушкевіча засталася толькі адна «пазыцыя».

Пройдзе паўгода, і ў пачатку 1993-га Шушкевіч, як старшыня Канстытуцыйнай Камісіі, пагодзіцца на ўвядзеньне пасады прэзыдэнта.

У 2010-м у інтэрвію Віталю Цыганкову на пытаньне пра лёс рэфэрэндуму, які не адбыўся, Шушкевіч патлумачыў, чаму адмовіўся падтрымаць рэфэрэндум: «Калі б я заявіў, што падтрымліваю — то што было б? Правалілі б раз-другі, а потым сказалі б — «навошта ты нам такі патрэбны?».

Урэшце, намэнклятура сказала гэтак Шушкевічу — у студзені 1994-га. А тады, у 1992-ім, у стаўленьні да пытаньня рэфэрэндуму пазыцыі Шушкевіча і «бальшавікоў», і шырэй — усёй парлямэнцкай большасьці — супадалі цалкам.

І ня толькі з камуністамі — супадала і з тымі, хто да парлямэнцкай большасьці не належаў, але быў у адкрытым канфлікце з Шушкевічам з

прычынаў незадаволеных асабістых амбіцыяў. Не падтрымаў ініцыятыву БНФ Віктар Ганчар — як кваліфікаваны юрыст ён бачыў недзеяздольнасьць Вярхоўнага Савету, часта казаў, што свой патэнцыял гэты склад парлямэнту вычарпаў. І адначасна быў супраць рэфэрэндуму, бо ня быў упэўнены, што ён адбудзецца — у часы дэпутацтва ён ніколі ня ўдзельнічаў у тым, што мела шанец скончыцца няўдала і адмоўна адбіцца на ягоным рэнамэ. Старшыня камісіі Вярхоўнага Савету па заканадаўстве Дзьмітры Булахаў рыхтаваў (разам з намэнклятурай) адмоўны вэрдыкт, каб увайсьці ў гісторыю магільшчыкам рэфэрэндуму. Калі Ганчар і Булахаў крытыкавалі ініцыятыву БНФ, але пакуль устрымліваліся ад адмоўных ацэнак самога Народнага Фронту, дык Аляксандар Лукашэнка ня стрымліваў сябе ні ў чым — у БНФ ён бачыў ідэйнага ворага. У стаўленьні да рэфэрэндуму яны з Шушкевічам былі адзіныя.

**1 ліпеня.** У дзяржаўнай прэсе надрукаваныя тэксты варыянтаў дзяржаўнага гімну, у тым ліку «Пагоня» на словы Максіма Багдановіча, «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» на словы Макара Краўцова, «Магутны Божа» на словы Натальлі Арсеньневай.

**3-5 ліпеня.** У Віцебску прайшлі Шагалаўскія дні.

**4 ліпеня.** Адбылася сустрэча Станіслава Шушкевіча з актывістамі Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў, у часе якой Шушкевіч выказаў перакананьне ў тым,што войска на тэрыторыі Беларусі будзе прыведзенае да прысягі.

**10 ліпеня.** Беларусь зрабілася членам Міжнароднага валютнага фонду.

**14 ліпеня.** Памёр пісьменьнік Аляксей Карпюк.

**20 ліпеня.** У Маскве падпісаны шэраг пагадненьняў паміж Беларусьсю і Расеяй, якія БНФ ацаніў як небясьпечныя для Незалежнасьці.

**25 ліпеня — 9 жніўня.** У Барсэлёне прайшлі XXV Алімпійскія гульні.

**27 ліпеня.** БНФ правёў шэсьце па цэнтральным праспэкце ў Менску у сувязі з Днём Незалежнасьці — гадавінай прыняцьця Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце.

## АДРАДЖЭНЬНЕ: ГЕРОІ І ПРАЦІЎНІКІ

Кожная эпоха мае свае найбольш адметныя падзеі і даты, сваіх герояў і свае шэдэўры, мае яна і візуальныя сымбалі, якія трывала замацоўваюцца ў сьвядомасьці.

Калі я чую пра Вялікае Княства Літоўскае — адразу прыгадваю парэшткі Наваградзкага замку (яшчэ да іх так званай рэстаўрацыі). Падзеі 1863 году атаясамліваюцца з фатаздымкам Кастуся Каліноўскага (тым самым, які вісеў над сталом у кабінэце Ўладзімера Караткевіча і які падараваў яму Зянон Пазьняк). Калі прыгадваюць Беларускую Народную Рэспубліку — у памяці ўсплывае легендарная выява дзевяці яе дзеячоў.

Пэрыяд апошняй хвалі нацыянальнага Адраджэньня для мяне ўвасобіўся ў фатаздымку шэсьця калёны Беларускага Народнага Фронту па сонечным цэнтральным праспэкце сталіцы раніцай 27 ліпеня 1992 году — у першую гадавіну прыняцьця Дэклярацыі аб дзяржаўнымі сувэрэнітэце, у афіцыйны Дзень Незалежнасьці. Наперадзе — Зянон Пазьняк, дэпутаты і тысячы людзей ідуць па самым цэнтры праспэкту да сквэру Янкі Купалы. Я таксама быў сярод іх, і той узьнёслы настрой застаўся ў памяці на ўсё жыцьцё.




Шэсьце БНФ 27 ліпеня 1992 г.

А ўвогуле, калі прыгадваеш 1992 і 1993 гады — першыя гады адноўленай беларускай дзяржаўнасьці — прыходзіш да супярэчлівых ацэнак.

З аднаго боку, гэты час быў вяршыняй апошняй хвалі нацыянальнага Адраджэньня, якое ахапіла ўсе сфэры грамадзкага жыцьця. Гэта несумненна.

Але на гэты час прыпала і разгортваньне антыбеларускай, праімпэрскай палітыкі, якая з прыходам да ўлады Лукашэнкі набудзе дзяржаўны характар.

Спачатку — пра тое, што радавала прыхільнікаў нацыянальных каштоўнасьцяў.

Пачаў дзейнічаць Закон аб мовах, прыняты яшчэ папярэднім Вярхоўным Саветам у студзені 1990 году. Адкрываліся беларускія клясы, нават у новаўтвораным Міністэрстве абароны распачаліся курсы па вывучэньні беларускай мовы.

Да прыкладу, на пачатак 1992-1993 навучальнага году ў Горадні было 23 беларускія школы. Прадметы там выкладаліся і па-расейску, але першая і другая клясы вучыліся ўжо цалкам па-беларуску. У той самай Горадні ў Фарным касьцёле кожную нядзелю імшу пачалі праводзіць на беларускай мове. У лістападзе на экраны кінатэатраў выйшаў першы перакладзены на беларускую мову замежны фільм («Ісус» вытворчасьці ЗША).

Адначасна пашыралася беларускае кнігавыданьне, ці не штодня выходзіла тое, што раней на паліцах кнігарняў уявіць было немагчыма — і ў галіне мастацкай прозы, і ў гістарыяграфіі.

Недзе вясной апарат Вярхоўнага Савету пераехаў у будынак былога ЦК КПБ па Карла Маркса, і я часта заходзіў на пяты паверх, у прыёмную Шушкевіча. Да яго самога — рэдка, часьцей да кагосьці з дарадцаў, а звычайна проста ў прыёмную, з адзінай мэтай: паглядзець, што новага выйшла з друкарняў. Старшыні Вярхоўнага Савету (напэўна, як раней першаму сакратару ЦК) рэгулярна дастаўлялі, акрамя пэрыядычных выданьняў, і навінкі кнігадруку. Праўда, мастацкую літаратуру я ў гэтых стосах, якія ляжалі ці то на стале, ці то на падваконьні, я бачыў рэдка, а вось кніг на гістарычныя тэмы было там шмат. І практычна штораз сярод кніг траляліся (і іх

было ўсё болей) імёны аўтараў ці герояў, уявіць якія на вокладках яшчэ тры-чатыры гады таму было немагчыма.

Калі раней з вокладкі зборніка гістарычнай прозы Ўладзімера Арлова ці не ў апошні момант прыбралі «Пагоню», дык у 1992 годзе зборнік «Рандэву на манэўрах» выйшаў зь бел-чырвона-белай стужкай — што, канешне, успрымалася цалкам натуральна, бо такім быў і колер дзяржаўнага сьцяга. Праўда, кніга ад моманту здачы ў набор да падпісаньня да друку праляжала год.

У 1992-ім быў падрыхтаваны і здадзены ў набор (выйшаў у 1993-ім) даведнік «Беларускія пісьменьнікі 1917-1990», у якім былі прадстаўленыя біяграфіі Ларысы Геніюш, а таксама літаратараў, якія жылі ў эміграцыі — Натальлі Арсеньневай, Масея Сяднёва, Янкі Юхнаўца. Іх творы зьмяшчаліся ў дзяржаўных літаратурных часопісах — летам 1992-га, гасьцюючы ў Сяднёва пад Нью-Ёркам, я пачуў ад яго, што бачыць свае вершы, надрукаваныя ў Беларусі, для яго нязвыкла, і што перамены сапраўды адбываюцца незвычайныя. «Але ж так і павінна быць, гэта нармальна», — дадаў ён. Сапраўды, адбываўся нармальны і заканамерны працэс вяртаньня культурнай спадчыны.

Менавіта ў 1992-м Беларусь упершыню наведалі многія з тых, хто быў вымушаны пакінуць Бацькаўшчыну шмат дзесяцігодзьдзяў таму. Адметным быў візыт у лютым-сакавіку першагерарха Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы мітрапаліта Мікалая, падчас якога ён сустрэўся зь мітрапалітам Філарэтам. У міжнарод-

най Чарнобыльскай канфэрэнцыі ўдзельнічала старшыня Канадыйскага фонду дапамогі ахвярам Чарнобылю, будучая старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла — гэта быў яе першы прыезд у Беларусь пасьля таго, як сямігадовай дзяўчынкай яна выехала з Бацькаўшчыны разам з бацькамі.

Была сарваная заслона маўчаньня перад постацямі заснавальнікаў і герояў Беларускай Народнай Рэспублікі. Зусім нядаўна, у камуністычныя часы, іх імёны ўзгадваліся з кляймом «буржуазных нацыяналістаў» — а вось артыкул на цэлую паласу штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» ад 12 чэрвеня 1992 году, прысьвечаны Вацлаву Ластоўскаму: «… жыў Бацькаўшчынай, у мроях бачыў жаданы росквіт роднае краіны Беларусі. Яму давялося шмат змагацца, самаададана ствараць і пацярпець за ідэю. Ягоныя праблемы сугучныя з нашымі, сёньняшнімі, тагачасныя рэаліі беларушчыны падобныя да цяперашніх…» Суаўтар артыкулу — дзевятнаццацігадовы студэнт філялягічнага факультэту БДУ Юрась Бушлякоў, у будучым — прызнаны мовазнаўца і выбітны папулярызатар беларускага слова, чыё жыцьцё так заўчасна абарвалася на ўздыме. Тое была першая ягоная прыкметная публікацыя — і шмат хто зь літаратараў, музыкаў, мастакоў упершыню надрукаваўся або выйшаў на сцэну менавіта ў гэтыя часы свабоды.

У 1992-ім пачаў выходзіць збор твораў Васіля Быкава, дзе ўпершыню не ў часопісным варыянце былі надрукаваныя «Мёртвым не баліць» ды некаторыя іншыя ягоныя забароненыя цэнзу-




Спэцгашэньне маркі з “Пагоняй”

рай творы. А ў сэрыі «Плошча Свабоды», якую ў выдавецтве «Беларусь» распачаў тагачасны яго галоўны рэдактар Аляксандар Лукашук, выйшаў зборнік публіцыстыкі Быкава — уключна з прамовай на V зьезьдзе Саюзу пісьменьнікаў БССР у чэрвені 1966 году, дзе Быкаў сказаў вельмі непрыемныя для тагачаснага партыйнага кіраўніцтва словы наконт права мастака пісаць праўду. Асабіста я ўпершыню прачытаў тэкст той легендарнай прамовы ў гэтым выданьні. У той самай сэрыі выйшлі зборнікі Ніла Гілевіча і Сяргея Законьнікава — пра лёс беларускай мовы, беларускага школьніцтва, беларускага кнігадрукаваньня.

У выдавецтве «Беларусь» выйшла кніга Ўладзімера Ўліцёнка «Іншадумцы» — зборнік інтэрвію з тымі, хто, паводле слоў Васіля Быкава ў прадмове, «маўчаць не схацеў»: Уладзімерам Арловым, Вінцуком Вячоркам, Віктарам Іваш-

кевічам, Міхасём Кукабакам, Зянонам Пазьняком, Анатолем Сідарэвічам, Міхасём Ткачовым, Юрасём Хадыкам ды іншымі. Зноў жа, яшчэ паўтара года перад тым такую кнігу ў дзяржаўным выдавецтве ўявіць было немагчыма. І ўжо зусім фантастычным падалося б тое, што яна атрымае Дзяржаўную прэмію Беларусі ў галіне журналістыкі.

Звычайнымі зрабіліся канцэрты рок-музыкаў на плошчах сталіцы — у выпадку, калі маглі ўзьнікнуць бюракратычныя складанасьці, дэпутаты БНФ заяўлялі пра іх як пра «сустрэчу з выбаршчыкамі», якая нам гарантавалася законам, казалі кароткае ўступнае слова, ну а потым — некалькі гадзінаў музыкі. Мне даводзілася некалькі разоў распачынаць іх у сквэры Янкі Купалы і ў будынку Інстытуту замежных моваў (па іроніі, апошні канцэрт без купюраў паказалі па нацыянальным тэлебачаньні, але мой выступ з трансьляцыі выразалі).

Усё гэта не ішло па інэрцыі і не давалася само сабой — шмат якія грамадзкія ініцыятывы, ня кажучы ўжо пра дзеяньні дзяржаўнага апарату, былі магчымыя толькі дзякуючы падтрымцы дэпутатаў-франтаўцаў — як Вярхоўнага Савету, гэтак і мясцовых, асабліва Менскага гарадзкога.

Арганізацыйным цэнтрам у справе беларусізацыі была, безумоўна, Камісія Вярхоўнага Савету ў справах адукацыі, культуры і захаваньня гістарычнай спадчыны (так званая «камісія Гілевіча», паводле імя яе старшыні). У камісію ўваходзіла некалькі дэпутатаў БНФ і Грамады — Алег Тру-

саў і Лявон Баршчэўскі (намесьнікі старшыні), Яўген Цумараў (сакратар), Мікалай Аксаміт, Лявон Дзейка, Лявонцій Зданевіч.

У тым, што было зроблена ў пачатку 1990-ых на ніве беларушчыны — вялікая заслуга гэтых людзей.

І, канешне, вялікім быў унёсак самога старшыні камісіі — Ніла Гілевіча. Зь Нілам Сымонавічам мы разыходзіліся ў стаўленьні да некаторых палітычных зьяваў і падзеяў, найперш зьвязаных з камуністычнай партыяй. Ні ад воднага слова, сказанага пра яго ў маіх кнігах «Сем гадоў Адраджэньня» і «Дзевяноста першы», я не адракуся — часам здаралася так, што ягонае празьмерна, на мой погляд, ганарлівае стаўленьне да ўласнай пэрсоны стварала не зусім камфортныя сытуацыі, найперш для яго самога. Для агульнай справы — таксама. Часам, як гэта было ў дні красавіцкіх страйкаў 1991 году, ён станавіўся на бок уладаў і выступаў супраць Народнага Фронту ды дэмакратычнага руху. Усё гэта было.

Але галоўным у асобе Ніла Гілевіча бачыцца іншае — ягоная адданасьць беларускай справе і, найперш — беларускай мове. У палітыцы ён мог ісьці на нейкія кампрамісы, а часам сьвядома выступаць супраць БНФ — але ў тэме зьберажэньня, а лепей сказаць, ратаваньня мовы, у яго кампрамісаў не было, і ў гэтай справе ён быў з намі. Калі ў 1992-ім прымаліся (яшчэ папярэдне) разьдзелы новай Канстытуцыі, Гілевіч скарыстаў увесь свой палемічны талент і аўтарытэт, каб бе-

ларуская мова ў Асноўным законе была запісаная адзінай дзяржаўнай мовай.

Камісія Гілевіча, напэўна, з усіх больш як дваццаці парлямэнцкіх камісіяў працавала найбольш эфэктыўна, выконваючы ў поўнай ступені і сваю кантрольную функцыю. Яе кіраўніцтва сапраўды паводзіла сябе так, як і павінна было паводзіць кіраўніцтва парлямэнцкай камісіі ў дачыненьні да адпаведных міністэрстваў і ведамстваў, дамагаючыся, найперш, выкананьня Закону аб мовах. Толькі закону, не выдумляючы нічога празьмернага.

І вось тут скажу пра адну прыкмету часу. Гэтая настойлівасьць членаў камісіі — зрэшты, і ня толькі іх, але і іншых, хто клапаціўся пра беларускую мову, звычайна не выклікала ў чынавенства агрэсіўнай варожай рэакцыі. Ва ўсялякім разе, адмоўныя эмоцыі, калі яны былі (а ў некаторых былі, напэўна), хаваліся і не агалошваліся. Паводле маіх адчуваньняў, у чынавенства (значнай яго часткі) існавала разуменьне, што да беларускай мовы была ўжытая нейкая несправядлівасьць, што яе адраджэньне — непазьбежны працэс, супрацьстаяць якому — бессэнсоўна.

Вось прыклад «ад адваротнага».

У лістападзе 1992-га штотыднёвік «Літаратура і мастацтва» надрукаваў ліст студэнта Інстытуту культуры, у якім той распавёў, як заварушыліся выкладчыкі, калі прыйшла «камісія Трусава», і як пасьля яе сыходу ўсё вярнулася да «вялікарасейства».

У гэтай гісторыі прыкметна тое, што выкладчыкі не пажадалі публічна агучваць гэтае самае «вялікарасейства». І тлумачылася гэта агульным настроем, які панаваў у Беларусі: людзі разумелі, што так або інакш, але да мовы трэба вяртацца. Тут трэба прызнаць станоўчую ролю Станіслава Шушкевіча, які ў народзе ўспрымаўся кіраўніком дзяржавы і пры гэтым гаварыў па-беларуску.

Я не магу сказаць, што ў 1992 годзе было немагчыма тое, што зрабілася звычайным у 2017-ым, калі, як напісала «Наша Ніва», у адной са школаў настаўніца раіць вучням для чытаньня вершык: «Что мы Родиной зовём? Флаг России над Кремлём». Але гэткае магло быць хутчэй па інэрцыі, і калі такое заўважалася — імгненна спынялася (у адрозьненьне ад 2017-га, калі кіраўнікі сыстэмы адукацыі на такое не рэагавалі).

На другім годзе беларускай Незалежнасьці я не сустракаў чалавека, які б паскардзіўся мне на тое, што ягонае дзіця пайшло ў беларускую школу ці пачало вучыцца на беларускай мове. Кажу не пра актывістаў Народнага Фронту ці нацыянальна арыентаваную інтэлігенцыю (ад якіх чакаць падобных скаргаў асабліва не выпадала), а пра сотні людзей, якія ня мелі ніякага дачыненьня да нацыянальнага Адраджэньня і зь якімі даводзілася сустракацца і асабіста, і на розных сходах у Менску, і ў Віцебску, і ў іншых месцах.

Пратэсты супраць пераходу школьніцтва (малодшых клясаў) на беларускую мову — былі адзінкавымі, у параўнаньні зь лістамі, якія атрымлівалі мы ў Вярхоўным Савеце за беларускую

мову і з трывогай за тое, што беларусізацыя ідзе марудна.

Асаблівасьці вяртаньня беларускай мовы трапна акрэсьліў у жніўні 1992-га аглядальнік газэты «Зьвязда» Валянцін Жданко: «Ні Закон аб мовах, ні Дзяржаўная праграма разьвіцьця беларускай мовы ня ставілі жорсткіх рамак беларусізацыі — меркавалася расьцягнуць гэты працэс на тры, пяць і нават дзесяць гадоў… Усенароднага трыюмфу і сьвяткаваньня (як гэта было ў Прыбалтыцы) у Беларусі з нагоды разьняволеньня роднай мовы не назіралася. Гэта балюча ўсьведамляць, але немагчыма не прызнаць: спружына нацыянальнага Адраджэньня, якая ў іншых рэспубліках — ледзь толькі яе перасталі заціскаць — прыйшла ў рух і прынесла імгненныя вынікі, у нас засталася нерухомай, нібы яе і не адпускалі. (Размова, зразумела, пра агульную карціну, а не пра асобныя фрагмэнты). Такое ўражаньне, што гэты стан сьціснутасьці стаў натуральным станам, і цяпер, каб прымусіць спружыну рухацца, трэба чарговы раз прыкласьці сілавое намаганьне і распраміць яе».

І далей — тлумачэньне: «Сытуацыя парадаксальная і трагічная: калі давялося выбіраць паміж уласным камфортам і будучыняй нацыі, — большасьць робіць выбар на карысьць першага. Менавіта ў гэтым — у жаданьні асэнсаваць і ўсьвядоміць, у гатоўнасьці дзеля высокай мэты ахвяраваць часам і прыкласьці зусім невялікія намаганьні, — уся справа. Жаданьня гэтага, гэтай гатоўнасьці катастрафічна мала. Ва ўсіх краінах,

дзе давялося сутыкнуцца з праблемай, падобнай на нашу, магутным каталізатарам моўнага адраджэньня была нацыянальная інтэлігенцыя. Менавіта дзякуючы ёй напаўжывыя мовы шпаркімі тэмпамі набывалі прэстыж, а разам зь ёй вярталі сваю жыцьцёвую прастору. У нас гэтага не адбылося» («Зьвязда», 15 жніўня 1992).

У жніўні 1992-га на міжнароднай навуковай канфэрэнцыі «Фармаваньне і разьвіцьцё нацыянальнай самасьвядомасьці беларусаў» Адам Мальдзіс прывядзе лічбу, якая пацьвярджае зробленыя Валянцінам Жданко высновы: «74% апытаных ня здолелі вызначыцца, што для іх лепей — беларусізацыя ці поўная русыфікацыя».

Меў рацыю Валянцін Жданко і ў іншым: вялікая частка інтэлігенцыі замест таго, каб дапамагчы, паводле мэтафары Валянціна Жданко, распраміць спружыну — занялі іншую пазыцыю.

У заканамерным і справядлівым працэсе аднаўленьня права народу на сваю моўную спадчыну яны бачылі «прыцясьненьне» расейскамоўнага насельніцтва. Іх незадаволеныя рэплікі ўсё часьцей зьяўляліся ў афіцыйным друку. Так, 17 верасьня 1992 году кіраўнік выдавецтва «Эридан» Аляксандар Патупа надрукаваў у «Народнай газэце» прысьвечаны беларусізацыі артыкул, сутнасьць якога была выкладзеная ўжо ў загалоўку: «Нужно ли прибегать к приёмам большевицкой пропаганды?» Сярод іншага, Патупа выказаў перакананьне, што калі правесьці рэфэрэндум, дзьве траціны беларусаў выказаліся б за двухмоўе. Ён фактычна заклікаў Вярхоўны Савет

«прарэагаваць» на «рэальную моўную сытуацыю ў рэспубліцы».

Пройдзе некалькі гадоў, Вярхоўны Савет пад прымусам Лукашэнкі і пасьля зьбіцьця дэпутатаў Апазыцыі БНФ «адрэагуе», прызначыўшы рэфэрэндум, праграма беларусізацыі будзе згорнутая, за беларускае слова пачнуць цягаць у міліцэйскі пастарунак — але абаронцы «прынцыпу роўнасьці моваў» ні слова ня вымавяць у абарону мовы карэннай нацыі.

Адзін з актывістаў Таварыства беларускай мовы Валер Паўсьцюк надрукаваў у «ЛіМе» аналіз становішча ў сыстэме адукацыі. Вось якое яно было ў верасьні 1992-га, у пачатку новага навучальнага году.

Большасьць студэнтаў пэдагагічных інстытутаў арыентаваныя на расейскую, а не на беларускую мову. У школах не хапае друкаваных матэрыялаў, ад азбукі і дзёньнікаў, атласаў і да звычайных падручнікаў на беларускай мове. Усе надпісы на сшытках — па-расейску. З кнігарняў зьнікла дзіцячая літаратура на беларускай мове. «Апошні факт можа здацца дробным, але ён паказальны — яскрава выяўляюцца адносіны дзяржавы да беларускага слова, — адзначыў аўтар і нагадаў пра адметнасьць ня менш паказальную. Хто чытае «Народную газэту», пэўна, заўважыў, што афіцыйныя дакумэнты Вярхоўнага Савету, падпісаныя С. Шушкевічам, друкуюцца па-беларуску, а ўрадавыя дакумэнты, падпісаныя В. Кебічам, у асноўным па-расейску… Мне расказвалі і пра тое, як для высокапастаўленага дэпутата

Вярхоўнага Савету рабіўся тэзісны пераклад на расейскую мову прамоваў ягоных калегаў, сказаных па-беларуску. Відавочна, «товарищи не понимают» мовы народу, якім кіруюць».

Выснову актывіст ТБМ зрабіў палітычную: «Адзіны цывілізаваны спосаб адхіліць намэнклятуру ад улады — рэфэрэндум».

Зь вялікай часавай адлегласьці асабліва маштабнымі ўяўляюцца тыя дасягненьні і прарывы ў справе нацыянальнага Адраджэньня, якія прыпалі на 1992 і 1993 гады, падобнага не было ў папярэднія дзесяцігодзьдзі і доўгі час яшчэ ня будзе.

Але — вось трывалае, штодзённае адчуваньне тых часоў: таго, што робіцца — замала. У незалежнай дзяржаве павінна быць па-іншаму. А яшчэ ўсё больш адчувалася нарастаючая хваля арганізаванага супраціву дэмакратызацыі і нацыянальнаму Адраджэньню.

І ў гэтым — галоўная адметнасьць працэсаў у грамадзтве ў 1992-1993 гады, як мне падаецца, уласьцівая з усіх постсавецкіх дзяржаваў толькі Беларусі: наступ на дэмакратыю сумяшчаўся з наступам на незалежнасьць краіны. Палітычныя сілы, якія выступалі супраць дэмакратычнага авангарду грамадзтва — Беларускага Народнага Фронту — мелі выразна антыбеларускі, праімпэрскі і прарасейскі, а часта і шавіністычны характар.

Акрамя ўплыву Расеі, што зразумела, гэта тлумачыцца і практычна поўным дэнацыяналізаваным характарам большай часткі кіруючай эліты.

У 1989-1991 гадах кіраўніцтва кампартыі пад ціскам новаўтворанага Народнага Фронту было вымушана прызнаць неабходнасьць адраджэньня беларускай мовы і спрыяць прыняцьцю адпаведнага закону. Паколькі ЦК кантралявала ў Беларусі ўсё, у тым ліку і друк, тэлебачаньне і радыё, у СМІ было немагчымае зьяўленьне адкрытых шавіністычных ці антыбеларускіх заяваў.

З падзеньнем кампартыі рэальная ўлада перайшла да Савету Міністраў, які пераважна клапаціўся выключна пра тое, каб гэтую ўладу ўтрымаць. Нейкія ідэі іх не цікавілі — цікавілі найперш улада і ўласнае ўзбагачэньне. А для ўтрыманьня ў крэслах трэба было нэўтралізаваць найбольш небясьпечнага палітычнага апанэнта — Народны Фронт, галоўнай ідэяй, мэтай якога было нацыянальнае Адраджэньне. Менавіта таму з самага пачатку 1992 году ў саўмінаўскай прэсе пачалі зьяўляцца антыбеларускія ў сваёй сутнасьці публікацыі, якія ставілі пад сумнеў само існаваньне беларускай дзяржавы.

Спачатку галасы супраць Незалежнасьці гучалі асьцярожна, потым — усё сьмялей. Ужо ўлетку 1992-га па ўсёй Беларусі дзяржаўны друк (за выключэньнем «Народнай газэты», «Зьвязды», «Чырвонай зьмены», яшчэ некалькіх выданьняў — але нешматлікіх) разгарнуў кампанію супраць сувэрэнітэту Беларусі, якая дасягне свайго апагею ў наступным, 1993-ім годзе.

На ўжо згаданай канфэрэнцыі ў Маладэчне Адам Мальдзіс заўважыў, што «ні ў воднай цывілізаванай дзяржаве не засталіся б беспакара-

нымі заявы аб тым, што «ў Беларусі ідэя нацыянальнай дзяржавы проста абсурдная, паколькі ў падмурку яе закладзена неіснуючая нацыя». Гэта цытата зь «Витебского курьера». Наўрад ці ў якой іншай дзяржаве дазволілі б так зьдзекавацца зь беларускай нацыянальнай сымболікі, як гэта робіць газэта «Мы и время».

Менавіта ў 1992 годзе было створанае так званае «Народное движение Беларуси», якое ўзначаліў кіраўнік аднаго з упраўленьняў Савету Міністраў Сяргей Гайдукевіч. Вакол яго аб'ядналіся праімпэрскія, шавіністычныя сілы. Гайдукевіч выказваў уголас тое, што было некамільфо вымаўляць з парлямэнцкай трыбуны дэпутатам праўрадавай групы «Беларусь».

У рэгіёнах жа кіраўнікі сябе ня стрымлівалі. А тое, што дазвалялі сабе мясцовыя чыноўнікі і падкантрольная ім прэса, немагчыма ўявіць ні ў якай іншай дзяржаве. Ня толькі ў дэмакратычнай — увогуле ні ў якай. Дзяржаўнасьць Беларусі падвяргалася самаму натуральнаму шальмаваньню, а нашыя пратэсты супраць гэткіх публікацый успрымаліся як наступ на свабоду слова. Замест таго, каб умацоўваць дзяржаўнасьць на грунце нацыянальных каштоўнасьцяў, чынавенскі апарат ставіў іх існаваньне пад сумнеў і ўвогуле адмаўляў права беларусаў на сувэрэнную дзяржаву.

Толькі адзін прыклад: у Віцебску ў ліпені 1992 году гарадзкія ўлады правялі «сход працоўных калектываў гораду», на якім быў прыняты зварот да дэпутатаў з патрабаваньнем выступіць

ініцыятарамі «аднаўленьня СССР і аднаўленьня дзеяньня Канстытуцыяў СССР і БССР».

Газэта Савету Міністраў мела назоў па-беларуску — «Рэспубліка» — але практычна ўсе публікацыі ў ёй былі па-расейску. Рэдакцыя не давала слова актывістам БНФ, у зьедлівым тоне пісала пра ініцыятывы Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце, але 10 чэрвеня 1992 году зьмясьціла вялізны тэкст школьніка з Барысава. «Хіба не цікава, што 16-гадовы чалавек думае пра наш час», — патлумачыла рэдакцыя.

Аб'ём публікацыі быў вялізны, на паласу — мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, пра такое ў «Рэспубліцы» і марыць не маглі.

А пісаў юнак пра распад СССР і зьяўленьне незалежнай беларускай дзяржавы як пра найвялікшае зло, пра тое, што «воляй лёсу мы апынуліся юрыдычна і палітычна ізаляванымі ад Расеі» («гэта часовы разрыў»). Натуральна, выказвалася поўная падтрымка пракамуністычнаму Вярхоўнаму Савету і ўраду і нагадвалася пра неабходнасьць «супрацьпаставіць «нацыянал-дэмакратам», як яны самі сябе называюць, магутную патрыятычную арганізацыю, якая б аб'яднала людзей, якія ўсьведамляюць пагібельнасьць залежнасьці ад Захаду».

Аўтарам публікацыі быў Усевалад Янчэўскі — праз дваццаць пяць гадоў «галоўны ідэоляг» лукашэнкаўскай адміністрацыі.

Ніводнаму маладому беларускаму патрыёту «Рэспубліка» слова не дала.



Першыя разьліковыя білеты Нацбанку (“зайчыкі”) – пакуль ня грошы, але ўжо не расейскія

Але ў тыя самыя дні «ЛіМ» надрукаваў ліст іншага 16-гадовага юнака, Яўгена Касьцюшкі з Гомелю. «Два гады назад я нават не задумваўся, хто я (вядома ж, рускі), але паступова пад узьдзеяньнем новага ў жыцьці нашага грамадзтва ў маёй сьвядомасьці пачаўся пераварот… Канчаткова павязка з маіх вачэй упала летам — восеньню 1991 году. Я адчуў гонар за тое, што належу да беларускай нацыі, якая пасьля шматвяковага рабства, панаваньня чужынцаў…знайшла ў сабе сілы зноў пачаць нацыянальнае Адраджэньне».

Аднак году хапіла, каб юнак убачыў тое, чаго не жадалі бачыць дзяржаўныя мужы. «Цяпер аб нацыянальнай палітыцы нашага ўраду. Яна выклікае ў мяне рэзкую крытыку і абурэньне. Канешне, у ёй ёсьць добрыя бакі, але калі прадстаўнікі найвышэйшай улады нашай дзяржавы ходзяць на задніх лапках перад «старшей сестрою» і кожны раз азіраюцца на яе, ці ж дага-

дзілі, то ў мяне няма слоў… Я не ўскладаю надзей на цяперашні Вярхоўны Савет і ўрад, таму агітаваў сваіх родзічаў паставіць подпіс у падтрымку рэфэрэндуму» («Літаратура і мастацтва», 17 ліпеня 1992).

Ліст Янчэўскага кантрастуе зь лістом таксама 16-гадовага Яўгена Касьцюшкі, і, здавалася б, усё гэта пацьвярджала існаваньне плюралізму — на старонках пэрыядычнага друку можна было знайсьці розныя меркаваньні.

Але ніякага плюралізму насамрэч не было: дзяржаўныя, фінансаваныя Саўмінам выданьні, якія ў адрозьненьне ад «Свабоды» ці «ЛіМу» выходзілі гіганцкім накладам, давалі слова пераважна праціўнікам беларускай незалежнасьці (як правіла, без крытычных ацэнак). І я ня памятаю ні ў «Советской Белоруссии» ні ў «Белорусской ниве», ні ў «Рэспубліцы», агульны наклад якіх у пэўныя пэрыяды набліжаўся да мільёну асобнікаў, ніводнай публікацыі ніводнага ліста ў абарону Адраджэньня.

Затое супраць — колькі заўгодна.

Але прапаганда была ня толькі прарасейская. Сытуацыя ва ўсходніх рэгіёнах Беларусі не нашмат адрозьнівалася ад таго, што адбывалася ва ўсходніх — адначасна ішла як расейская, гэтак і польская экспансія.

Вось урыўкі з публікацыі ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва» пра канфэрэнцыю Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны сувэрэнітэт Рэспублікі Беларусь».

Выступае Сяргей Законьнікаў, галоўны рэдактар часопіса «Полымя»: «… у нас ніякага тэлебачаньня няма. Пасьля Бураўкіна, які паклаў шмат працы і крыху вывеў тэлебачаньне ў людзі, — цяпер усе тыя набыткі згубленыя… у якой краіне можа быць такое, калі дзяржаўнае тэлебачаньне ваюе са сваёю мовою; дзе, у якой краіне дзяржаўнае тэлебачаньне ваюе са сваім сувэрэнітэтам? Тут прыгадвалася праграма «Крок». Я таксама глядзеў іх. Людцы родныя! Дзе ж гэта мы жывем, і што гэта за ўрад такі, калі можна так абразьліва гаварыць па нацыянальным тэлебачаньні пра сваю мову, пра свой сувэрэнітэт, сьмяяцца з гэтага!.. Я пазнаёміўся са статыстыкай, якая яшчэ нядаўна была засакрэчаная. Скажам, па нашай сталіцы горадзе Менску. Кіруючы апарат, пачынаючы зь Вярхоўнага Савету, Савету Міністраў і заканчваючы дырэктарамі навучальных установаў, прадпрыемстваў, выглядае так, што беларусы знаходзяцца на самым апошнім месцы. Сярод рабочай клясы сытуацыя адваротная — беларусы ў абсалютнай большасьці. Па Менску сярод кіруючых кадраў амаль паўсюдна пераважае расейская нацыянальнасьць…».

Алесь Белакоз, настаўнік зь вёскі Гудзевічы Іўеўскага раёну: «У нас на Гарадзеншчыне гандаль, мэдыцына, суд, улада ў большай ступені ў руках «палякаў». У нас там ідзе апалячваньне поўным ходам, і яму дадзена зялёнае сьвятло… Апалячваньне ідзе найперш праз касьцёл, праз польскіх ксяндзоў».

Васіль Дубейка, сябра Баранавіцкай раённай рады ТБМ: «Місіянэры, падрыхтаваныя людзі вядуць пасьпяховую палянізацыю. Супраць іх мы нічога ня можам зрабіць… Місіянэры дзейнічаюць у вёсцы Новая Мыш. За гэты час дзеткі пачалі ставіць канцэрты, сьпяваць, складаць вершы на польскай мове, яны прасякаюцца польскім патрыятызмам… Зноў я паўтару пытаньне да ўраду: чаму ў касьцёлах разьвешваюць польскія дзяржаўныя сьцягі, хто дапусьціў у нашы вёскі місіянэраў? Кебіч, Шушкевіч павінны даць адказ, але яны маўчаць… Вось што самае крыўднае для нас, беларусаў — што мы цярпім абразу… Не магу не паўтарыцца, не сказаць пра тэлебачаньне, якое беспакарана зьневажае беларускую мову. Давайце ўявім сабе, што было б калі б Астанкінскае тэлебачаньне абразіла расейскую мову?»

Алесь Міткавец, мэтадыст гарадзкога аддзелу народнай адукацыі Гомелю: «Колішняя партыйная газэтка «Вечерний Гомель» цяпер зьмяніла назву, але па-ранейшаму выдаецца на расейскай мове, распачала атаку на сьвядомасьць чытачоў, даказваючы, што Гомель — горад не беларускі, што беларусаў у ім няма, што нібыта бальшавікі прышчапілі яго да Беларусі толькі ў дваццаць шостым годзе. Усе тыя асобы, якія жылі ў ранейшым СССР, уяўляючы яго як вялікую Расею, не прымаюць нашу беларускую дзяржаўнасьць, нашу мову».

Алесь Касьцень, старшыня Пастаўскай раённай рады ТБМ: «Я ведаю, што ёсьць прыклады, калі каталіцкія сьвятары вядуць набажэнствы

па-беларуску і прэса наіўна разьдзімае гэтыя прыклады, але я жыву ў глыбінцы заходняй Беларусі, там, дзе жыцьцё бруіць, і бачу, што польскі каталіцкі касьцёл, як і расейская праваслаўная царква — ворагі ўсялякай беларускасьці... У старажытным, маляўнічым мястэчку Дунілавічы зьявіўся паляк-ксёндз… Сёньня гэты ксёндз мала таго, што польскую мову ў касьцёле ўвёў, — ён нясе яе ў школу… Больш таго, польскія сьцягі сталі неад’емнай часткай гэтага касьцёла… Людзі, зь якімі я гутарыў і спрабаваў пераканаць, але безвынікова, выдатна размаўляюць па-беларуску, называюць сябе палякамі. У час размовы я чуў ад іх: мы былі крэсамі ўсходнімі і хочам імі быць. Гэта людзі шчырыя: як іх падвучылі, так яны і выказваюцца».

Яраслаў Клімуць, старшыня Магілёўскай гарадзкой рады ТБМ: «Калі бачыш, у які наступ ідуць, каб адабраць наш яшчэ не ўмацаваны сувэрэнітэт, робіцца сапраўды балюча і трывожна. Сапраўды, на Магілёўшчыне Руская праваслаўная царква спрабуе даказаць, што гэта землі «истинно русские», з захаду мы бачым тую самую палянізатарскую экспансію каталіцкага касьцёлу». («Літаратура і мастацтва», 29 траўня 1992).

На гэтай канфэрэнцыі ТБМ прысутнічалі і выступілі віцэ-прэм’ер Міхаіл Дзямчук, міністар інфармацыі Анатоль Бутэвіч, міністар культуры Яўген Вайтовіч і намесьніца міністра народнай адукацыі Людміла Сухнат. Аўтар справаздачы напісаў, што «прамовы афіцыйных асоб не пакінулі надзей на хуткую зьмену ў лепшы бок

дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да беларускай мовы» («Літаратура і мастацтва», 29 траўня 1992). І гэта пры тым, што, нягледзячы на неідылічныя адносіны вышэйназваных кіраўнікоў з БНФ, і Дзямчук, і Бутэвіч, і Вайтовіч — найбольш за ўсіх ва ўрадзе рабілі для беларусізацыі (у гэты шэраг варта таксама паставіць і міністра замежных справаў Пятра Краўчанку).

Тое станоўчае, што імкнуліся рабіць Бутэвіч, Вайтовіч, Дзямчук, Краўчанка, — было іхняй прыватнай ініцыятывай і ня мела належнай падтрымкі на ўзроўні Кебіча і «нефармальнага» атачэньня прэм’ера ў апараце Саўміну. Тое атачэньне, наадварот, завязвала ўсё больш цесныя сувязі з Крамлём і Лубянкай.

Мы, дэпутаты, імкнуліся рэагаваць на выпадкі абразы беларускай мовы, самой беларускай дзяржавы — але наш арсэнал быў небагаты: дэпутацкі запыт, выступ на сэсіі ці ў прэсе. Па канкрэтных справах прымаліся патрэбныя рашэньні, але сыстэма не мянялася.

У свой час выбітны дзяяч украінскага Адраджэньня Грушэўскі сказаў: «Бяда Ўкраіны ў тым, што ёю кіруюць людзі, якім яна не патрэбная». Гэтыя словы можна было прымяніць і да Беларусі першага поўнага году яе адноўленай дзяржаўнасьці.

Тут сапраўды патрэбнае было палітычнае рашэньне — зьмена ўлады.

І калі я прыгадваю 1992 год, гутаркі з Васілём Быкавым, Рыгорам Барадуліным, Уладзімерам Арловым, зь іншымі творцамі, чыя грамадзянская

пазыцыя мела выразна нацыянальны, беларускі характар — дык ня памятаю ніводнага выпадку, калі б нехта зь іх паставіў пад сумнеў неабходнасьць правядзеньня рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах. І нават тыя, каго лёс закінуў далёка ад Беларусі, падтрымлівалі гэтую ідэю. У чэрвені і ліпені 1992-га на запрашэньне амэрыканскай амбасады я быў у ЗША, у Вашынгтоне — адтуль паехаў у Нью-Ёрк, дзе тады на пасадзе сталага прадстаўніка Беларусі ў ААН працаваў Генадзь Мікалаевіч Бураўкін. У сям'і Бураўкіных я правёў два дні — усю ноч мы прагаварылі, Бураўкін з роспаччу распавядаў, як беларуская дзяржава страчвае магчымасьці на міжнародным узроўні, дадзеныя ёй лёсам. «Гэты час прапусьцім — потым ня вернем», — казаў Бураўкін. Ён таксама выказваўся за рэфэрэндум, бо разумеў, што лёс нацыянальнага Адраджэньня наўпрост завязаны на сфармаваны яшчэ пры камуністах урад, на недзеяздольны Вярхоўны Савет, і першае, што можа гарантаваць незваротнасьць Адраджэньня — гэта зьмена ўлады.

**5 жніўня.** У Беларусі ўведзены надзвычайны стан у сувязі зь ляснымі пажарамі.

**6 жніўня.** Урад Расеі запатрабаваў ад краінаў Балтыі 7,7 мільярда даляраў за вывад былых савецкіх войскаў.

**13 жніўня.** ААН кваліфікавала праведзеныя сэрбамі этнічныя чысткі ў былой Югаславіі як ваеннае злачынства.

**22 жніўня.** Прэзыдэнт Украінскай Народнай Рэспублікі ў выгнаньні Мікола Плаўюк склаў паўнамоцтвы перад прэзыдэнтам Украіны Леанідам Краўчуком.

**28 жніўня.** Дэпутаты Апазыцыі БНФ прынялі заяву, у якой запатрабавалі склікаць сэсіі Вярхоўнага Савету для прызначэньня даты рэфэрэндуму.

**31 жніўня.** На галоўпаштамце ў Менску прайшло адмысловае гашэньне марак з выявай «Пагоні» і бел-чырвона-белага сьцяга.

# ЭФІР ДЛЯ АПАЗЫЦЫІ

«Год таму — 25 жніўня 1991 — Беларусь прадэкляравала Незалежнасьць. Ці лічыце вы, што за гэты пэрыяд дасягнута тое, пра што з самага пачатку заяўляў БНФ, альбо гэта — год нерэалізаваных магчымасьцяў?»

З такім пытаньнем, на просьбу нямецкага агенцтва DPA, я зьвярнуўся да Зянона Пазьняка ў пачатку жніўня 1992-га.

«Ні першае, ні другое, — адказаў лідэр парлямэнцкай апазыцыі. — Пад ціскам Народнага Фронту ўдалося канстытуцыйна замацаваць незалежнасьць Беларусі, вярнуць нацыянальную сымболіку, ліквідаваць КПСС, усталяваць адносіны зь некаторымі дзяржавамі на ўзроўні амбасадаў, але галоўныя мэты ня вырашаныя — гэта найперш дэмакратычныя рэформы ўлады і рынкавыя рэформы эканомікі, пытаньні стварэньня фінансава-крэдытнай сыстэмы на аснове беларускага талера, мытнай сыстэмы і межаў дзяржавы, нацыянальнага войска Беларусі. І найгалоўнейшае — аднаўленьне нацыянальнай культуры, сыстэмы нацыянальнай адукацыі, беларускай мовы. Расейскія камуністы зьнішчалі нас як нацыю і этнас, яны за 74 гады істотна разбурылі нашу

культуру, а без адраджэньня культуры і высокай нацыянальнай сьвядомасьці глыбокія грамадзкія пераўтварэньні немагчымыя.

Пра «нерэалізаваныя магчымасьці» казаць не даводзіцца, паколькі ўся заканадаўчая, выканаўчая, судовая і, у асноўным, эканамічная ўлада, а таксама сродкі масавай інфармацыі засталіся ў руках былой камуністычнай намэнклятуры. Гэтая намэнклятура не зацікаўленая ў рэформах і грунтоўных дзяржаўных пераўтварэньнях. БНФ удалося рэалізаваць хутчэй немагчымае ў такой абстаноўцы. Каб зрабіць немагчымае магчымым, Народны Фронт выступіў з ініцыятывай рэфэрэндуму аб роспуску Вярхоўнага Савету і правядзеньні новых, дэмакратычных выбараў на падставе дэмакратычнага закону, распрацаванага БНФ.

... У красавіку Вярхоўны Савет фактычна самараспусьціўся на нявызначаны тэрмін і сышоў з палітычнай арэны. Гэты дзіўны крок прадыктаваны нежаданьнем прымаць рашэньне пра дату правядзеньня рэфэрэндуму» (Архіў аўтара).

Пазьняк невыпадкова прыгадаў сродкі масавай інфармацыі побач з галінамі ўлады — яны не зрабіліся «чацьвёртай уладай», як іх часта называюць у дэмакратычных краінах, а зрасьліся з уладай выканаўчай. На сярэдзіну 1992-га манапалізацыя СМІ ў руках Саўміну дасягнула максымальнага ўзроўню.

Яшчэ вясной мы выступілі з ініцыятывай замены кіраўніцтва дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Увогуле, асабіста я быў праціўнікам

знаходжаньня прэсы ў дзяржаўных руках, але акцыянаваньне патрабавала часу, а кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі і асноўных дзяржаўных газэтаў было прызначана яшчэ ЦК КПБ і збольшага праводзіла антыдэмакратычную, а галоўнае — антыбеларускую палітыку. Мы прапанавалі сваіх людзей на пасады, сярод іх Анатоля Вярцінскага і Ігара Герменчука.

У чэрвені 1992-га мяне запрасіў да сябе міністар інфармацыі Анатоль Бутэвіч. Зь ім у мяне былі добрыя адносіны, Бутэвіч — адзін зь нешматлікіх членаў ураду, якія гаварылі па-беларуску і ўвогуле сымпатызавалі нацыянальнаму Адраджэньню.

Міністар сказаў, што прынята рашэньне пра рэформу агенцтва БЕЛТА, яно ператвараецца ў «Белінфарм», а мне прапануецца пасада генэральнага дырэктара. З кіраўніцтвам Саўміну (Кебічам і ягоным намесьнікам Дземчуком) узгоднена. Я папрасіў час на роздум.

Увогуле, фармальна гэта было ніжэй за маю тагачасную пасаду сакратара Камісіі Вярхоўнага Савету ў пытаньнях галоснасьці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, якая прыраўноўвалася да міністэрскай (нават зарплату адмыслова зрабілі аднолькавую зь міністрамі).

Аднак агенцтва было самастойным сродкам масавай інфармацыі, якое пасьля рэфармаваньня магло б быць крыніцай распаўсюду аб'ектыўнай інфармацыі. Але пры той умове, што і на чале іншых дзяржаўных СМІ былі б кіраўнікі дэмакратычных перакананьняў. У адваротным вы-



ЦЕСНЫ МУНДЗІР ЧЫНОЎНІКА...

БелаПАН.

НЯДАЎНА міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч прапанаваў Сяргею Навумчыку, сакратару парламенцкай камісіі па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, узначаліць Беларускае тэлеграфнае агенцтва. Сяргей Навумчык прапанову адхіліў, паколькі, на яго думку, новае міністэрства інфармацыі складаецца з былых наменклатурных работнікаў. Акрамя таго, ён не жадае сумяшчаць функцыі выканаўчай і заканадаўчай улад. Сяргей Навумчык адзначыў, што не можа не трывожыць цяперашняя сітуацыя, калі многія народныя абраннікі працуюць у структурах Саўміна.

Публікацыя ў газэце “Добры вечар”, 2 ліпеня 1992 г.

падку аб’ектыўная інфармацыя, якую б выпускаў Белінфарм, не друкавалася б у той самай «Советской Белоруссии», не гучала б у выпуску навінаў тэлебачаньня і радыё і не даходзіла б да людзей. Дакладней, як і раней, даходзіла б толькі тое, што было выгодна ўраду. Сэнсу ўдзельнічаць у гэтым я, канешне, ня бачыў.

Быў яшчэ адзін асабісты момант. Агенцтва сапраўды трэба было рэфармаваць, у тым ліку (і пра гэта сказаў Бутэвіч) шляхам скарачэньня супрацоўнікаў. Мне было 30 гадоў, я ўявіў, як буду звальняць людзей, у тым ліку і амаль у два разы старэйшых за сябе, зь сем’ямі — звальняць фактычна ў нікуды, бо наўрад ці са сваім досьведам працы ў вельмі рэглямэнтаваным дзяржаўным СМІ яны б уладкаваліся ў прыватныя інфармацыйныя структуры.

Канешне, я адразу параіўся з Пазьняком — памятаю, мы ў гутарцы прайшлі па Праспэкце ад

Дому ўраду да плошчы Перамогі. Мае засьцярогі адносна блякаваньня аб’ектыўнай інфармацыі ён успрыняў, але раіў не сьпяшацца з адказам. Ён схіляўся больш да таго, што трэба пагаджацца — ва ўсялякім разе, скарыстаць шанец. «Але разумею мінусы, пра якія ты кажаш, таму катэгарычна не настойваю».

У выніку, пасьля развагаў, я адмовіўся ад прапановы. У мяне яшчэ захавалася надзея паўплываць на зьмены ў сродках масавай інфармацыі на тагачаснай сваёй працы ў парлямэнцкай камісіі (нарэшце, дырэктарства ў агенцтве азначала б сумяшчэньне заканадаўчай і выканаўчай працы, супраць чаго мы выступалі, і зрабіла б вельмі праблематычнай апазыцыйную дзейнасьць).

У тым самым 1992 годзе на даручэньне Апазыцыі БНФ я распрацаваў Канцэпцыю інфармацыйнай палітыкі, якая базавалася на прынцыпах свабоды прэсы, акцыянаваньні выданьняў і дзяржаўнай падтрымцы беларускамоўных СМІ.

Першачарговым крокам мелася быць дэманапалізацыя сродкаў масавай інфармацыі, якія сканцэнтраваліся ў руках Саўміну. У ліпені я запрасіў на гутарку галоўных рэдактараў дзяржаўных газэт — палова не прыйшла, а тыя, хто прыйшоў, скептычна паставіліся да маіх прапановаў. Яны не хавалі, што ў выбары паміж свабодай і фінансавай падтрымкай ураду выбіраюць грошы. Хай будуць і залежныя, затое — сытыя.

Акрамя таго, яны цудоўна ведалі, што вырашае не парлямэнцкая камісія, а апарат Саўміну, аддзелы, створаныя распараджэньнем Кебіча без

усялякага ўзгадненьня зь Вярхоўным Саветам. Прэсай там займаліся аж дзьве структуры — Упраўленьне інфармацыі і грамадзкіх сувязяў на чале з былым сакратаром ЦК ЛКСМБ Валерыем Драгаўцом і Аддзел друку, радыё і тэлебачаньня на чале зь Сяргеем Паваляевым. Менавіта яны і прымалі рашэньні.

У ліпені 1992 году я напісаў ліст на імя Шушкевіча, у якім зьвярнуў увагу на ненармальную сытуацыю, калі прызначаныя прэм'ерам чыноўнікі даюць распараджэньні рэдактарам газэт і міністру інфармацыі, які зацьвярджаўся парлямэнтам. Ніякай рэакцыі з боку Шушкевіча не было.

Магчыма, таму не было, што і сам Шушкевіч стварыў у апараце Аддзел інфармацыі (узначальваў яго Васіль Вераб'ёў), які імкнуўся ўплываць на СМІ. Паміж гэтым аддзелам і адпаведнымі структурамі Саўміну разьвязалася сапраўдная інфармацыйная і апаратная вайна. Пры гэтым абодва бакі падкрэсьлена ігнаравалі нашу парлямэнцкую камісію. Нешта падобнае было і зь іншымі Камісіямі Вярхоўнага Савету. (Разьвязка надыдзе ў канцы 1993 году, калі старшыня КДБ Эдуард Шыркоўскі і міністар унутраных справаў Уладзімер Ягораў выступяць з адкрытым лістом да Вярхоўнага Савету супраць начальніка Ўпраўленьня грамадзкай бясьпекі і абароны Генадзя Данілава — бліжэйшага паплечніка Вячаслава Кебіча. Шыркоўскі і Ягораў напішуць гэты ліст у спадзяваньні на падтрымку Шушкевіча — але не атрымаюць яе. У студзені 1994 году кан-



ВЯРХОЎНЫ САВЕТ БССР
КАМІСІЯ ПА ПЫТАННЯХ ГАЛОСНАСЦІ, СРОДКАЎ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ І ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА
220010, г. Мінск, Дом Урада

ВЕРХОВНЫЙ СОВЕТ БССР
КОМИССИЯ ПО ВОПРОСАМ ГЛАСНОСТИ, СРЕДСТВ МАССОВОЙ ИНФОРМАЦИИ И ПРАВ ЧЕЛОВЕКА
220010, г. Минск, Дом Правительства

27 мая 1992г. №21/40

Старшыні Вярхоўнага Савета
Рэспублікі Беларусь
сп.Шушкевічу С.С.

Шаноўны Станіслаў Станіслававіч!

Згодна з Вашым даручэннем, зроблены аналіз прапаноў, выкладзеных у лісце загадчыка Беларускага аддзялення агенцтва Навіны /раней – АПН/.

Новае агенцтва, стварыць якое прапануецца ў лісце, фактычна дубліруе функцыі дзяржаўнага інфармагенцтва, у тым ліку і ў дачыненні распаўсюджвання інфармацыі за мяжой. Іншая справа, што наспела неабходнасць істотна змяніць саму структуру БелТА /Белінфарм/, умацаваўшы яго міжнародны сектар /што запатрабуе дадатковых валютных сродкаў на тэхнічнае аснашчэнне, якія, зрэшты, даволі хутка кампенсуюцца/. Натуральна, у склад гэтай структуры магло б увайсці і цяперашняе Беларускае аддзяленне агенцтва Навіны.

Што ж да жадання калектыву стварыць незалежнае ад дзяржаўных структур агенцтва, то яно не супярэчыць закону /такі статус мае, напрыклад, "БелаПАН"/, але не зразумела, пры чым Вярхоўны Савет.

Аўтарам ліста дадзены адказ.

Лічыў бы неабходным звярнуць Вашу ўвагу на пэўныя трывожныя тэндэнцыі, якія, хоць і тычацца сферы масавай інфармацыі, але выходзяць за яе межы.

Рашэннем Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В.Кебіча створаны Аддзел друку, радыё і тэлебачання Кіраўніцтва Справамі Савета Міністраў. Вывучэнне Палажэння аб гэтым аддзеле /зацверджана Старшынёй СМ Кебічам/ у членаў Камісіі выклікала шмат пытанняў.

Лісты аўтара да Шушкевіча і Кебіча адносна сытуацыі ў СМІ звычайна заставаліся без адказу. Як бачна, мы не адразу дамагліся зьмены «бэсэсэраўскіх» блянкаў на новыя, з «Пагоняй»

траляваная Кебічам парлямэнцкая большасьць адправіць іх абодвух у адстаўку, а праз некалькі дзён здыме з пасады старшыні Вярхоўнага Савету і самога Шушкевіча.)

**ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**Камісія па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека**

220016, г. Мінск, тэл. 29-35-65

5.10 1992 г. № 21/93

Старшыні Вярхоўнага Савета
Рэспублікі Беларусь
**Шушкевічу С.С.**

Паважаны Станіслаў Станіслававіч!

По даручэнню Першага намесніка Старшыні Вярхоўнага Савета В.Н.Кузняцова ў Камісіі зроблены аналіз праектаў Статута Міждзяржаўнай тэлерадыёкампаніі (МТРК) і Пагаднення аб яе стварэнні, а таксама Пагаднення аб супрацоўніцтве ў галіне інфармацыі.

Акрамя таго, намі вывучаны некаторыя іншыя дакументы, якія з"яўляюцца часткай агульнага пакета заснавальніцкіх дакументаў МТРК (атрыманы па запыце Камісіі з Міністэрства інфармацыі і тэлекампаніі "Астанкіна").

Асобныя палажэнні прааналізаваных дакументаў носяць супярэчлівы характар і выклікаюць сумненні.

Так, Канцэпцыя МТРК у арт.4 прадугледжвае, што асновай інфармацыйнай палітыкі Кампаніі з"яўляюцца "недопущение тенденциозности, агитацонно-прапагандистской направленности, <u>пренебрежения к событиям, явлениям и процессам в жизни суверенных государств"</u> і тут жа дэкларуе "максимально возможную деполитизацию материалов". Тэрмін "дэпалітызацыя", калі яго разглядаць у юрыдычным аспекце, дасць магчымасць якраз ігнараваць пэўныя падзеі і з"явы ў жыцці рэспублікі, важнейшыя з якіх, безумоўна, не могуць не насіць палітычны характар. Што, дарэчы, назіраецца ўжо сёння ў перадачах тэлекампаніі "Астанкіна". Абзац 2 у арт.4 прапануецца зняць.

Пакуль жа, у 1992-м, Шушкевіч назіраў за супрацьстаяньнем парлямэнцкага і ўрадавага апарату. Адносна нас, дэпутатаў — кіраўнікоў камісіяў, у яго была апрабаваная тактыка, якую я спазнаў на ўласным досьведзе.

Некалькі разоў я зьвяртаўся да Шушкевіча з прапановамі (пераважна ў справах сродкаў маса-



ВЯРХОЎНЫ САВЕТ БССР

КАМІСІЯ ПА ПЫТАННЯХ ГАЛОСНАСЦІ, СРОДКАЎ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ І ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

220010, г. Мінск, Дом Урада

ВЕРХОВНЫЙ СОВЕТ БССР

КОМИССИЯ ПО ВОПРОСАМ ГЛАСНОСТИ, СРЕДСТВ МАССОВОЙ ИНФОРМАЦИИ И ПРАВ ЧЕЛОВЕКА

220010, г. Минск, Дом Правительства

3. 05 1992 г. № 21/20

Старшыні Савета Міністраў
Рэспублікі Беларусь
Кебічу В.Ф.

Шаноўны Вячаслаў Францавіч!

Як стала вядома, Вы прынялі рашэнне перадаць Беларускі Дом Друку ў распараджэнне Гаспадарчага Упраўлення Савета Міністраў. Выклікае здзіўленне, што гэты акт не быў нават узгоднены з нашай Камісіяй. Калі ўлічыць, што на паліграфічнай базе "Дома друку" выдаецца ледзь не ўвесь тыраж рэспубліканскіх газет – то такое рашэнне можна разгледзець як яшчэ адзін крок у напрамку манапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі.

І потым – чаму не Міністэрству інфармацыі, а гаспадарчаму упраўленню (які, калі не памыляюся, распараджаецца гаражамі, сталоўкамі і г.д.). У свой час Пячэннікаў называў журналістаў "падлакотнікамі партыі", але паставіць друк ніжэй афіцыянтаў ды прыбіральшчыц не дадумаўся нават ён.

Прапаную неадкладна адмяніць гэтае рашэнне да моманту, пакуль не будзе прынята Канцэпцыя дзяржаўнага кіравання сферай кнігавыдання і інфармацыі у Рэспубліцы Беларусь.

Сакратар Камісіі С.Навумчык

вай інфармацыі) — варта аддаць яму належнае, ён адразу прымаў дэпутатаў і ў гэтым сэнсе паводзіў сябе дэмакратычна. Ужо вясной 1992-га камісіі і апарат Вярхоўнага Савету перабраліся ў будынак былога ЦК КПБ (перад фасадам якога былі прыбраныя бюсты Маркса і Леніна), і Шушкевіч заняў кабінэт першага сакратара ЦК, так званы «машэраўскі». Замест партрэта Леніна над пісьмовым сталом быў Скарына.

Шушкевіч уважліва выслухоўваў, але фіналам гутаркі былі нязьменныя два варыянты адказаў.

Калі гаворка ішла пра нейкую маштабную справу, якая патрабавала рашэньня ня толькі ягонага, ён раіў: «А вы пераканайце ў гэтым Вярхоўны Савет!» Ніколі не сказаў хаця б кшталту — «Добра, я паспрабую пераканаць». Пры гэтым, канешне, цудоўна разумеў, што правесьці рашэньне праз парлямэнцкую большасьць нам, дэпутатам БНФ, будзе вельмі праблематычна.

Здаралася, што патрэбна было ягонае пэрсанальнае рашэньне альбо тэлефонны званок. Так, у пачатку 1992-га, пасьля візыту ў Менск кіраўніцтва Радыё Свабода — Свабодная Эўропа, удалося папярэдне дамовіцца пра тое, што Беларуская служба Свабоды будзе арэндаваць пэўны час у правадной радыёсетцы. Тады «радыёкропкі» былі амаль што ў кожнай кватэры і ў кожнай вясковай хаце, былі яны і на працы, радыёперадачы слухалі мільёны. Можна толькі ўявіць, які ўплыў зрабіла б непадцэнзурнае вяшчаньне — хай сабе і на працягу гадзіны-дзьвюх у суткі. Вяліся перамовы са старшынём Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Аляксандрам Сталяровым, асабіста я гутарыў зь міністрам сувязі Іванам Грыцуком (з апошнім — у нейкіх тэхнічных справах). Міністар сказаў, што можа прыняць рашэньне — «Але зразумейце мяне правільна, гэта пэўная адказнасьць і мне патрэбна ўказаньне «зьверху»». Я разумеў, што з Кебічам дамовіцца будзе цяжка, і запытаўся ў міністра: «Званка Шушкевіча хопіць?» — «Ка-




Сяргей Навумчык і Лявон Баршчэўскі на мітынгу БНФ у гадавіну абвяшчэньня незалежнасьці, 25 жніўня 1992 г.

нешне!» Званком ад старшыні Вярхоўнага Савету міністар, безумоўна, мог прыкрыцца ад каго заўгодна. Але званка не было.

Другі варыянт: «Гэта не мая справа», — адказваў звычайна Шушкевіч у такіх выпадках, часам дадаючы, што ён «усяго толькі» сьпікер парлямэнту. У такія імгненьні прыгадваўся Ельцын, які да лета 1991 году таксама быў «толькі сьпікерам», альбо Ландсбергіс, які быў «толькі сьпікерам» — аднак абодва здолелі скарыстаць сьпікерства ў інтарэсах сваіх краінаў напоўніцу.

У мяне ўзьнікала адчуваньне, што Шушкевічу дастаўляе нейкае задавальненьне вось так абыходзіцца з дэпутатамі, што з поўным правам можна было б назваць своеасаблівым зьдзекам.

Пазьней адзін з ініцыятараў адстаўкі Шушкевіча Віктар Ганчар заўважыць, што ён перанёс інтрыгі вузкага кола навуковай катэдры ў палітыку — вызначэньне вельмі трапнае (пры тым, што адстаўку Шушкевіча я, як і іншыя дэпутаты БНФ, не падтрымліваў).

Асобны сюжэт у тэме сродкаў масавай інфармацыі — доступ дэпутатаў апазыцыі да тэлебачаньня і радыё. Хоць закон аб статусе дэпутата прадугледжваў яго, але ў рэальнасьці выхаду ў эфір даводзілася дамагацца.

Увогуле, «выбіваньне» эфіру для дэпутатаў БНФ было адным з маіх абавязкаў як каардынатара парлямэнцкай апазыцыі, і працэс гэты быў хоць і даволі дыскамфортны псыхалягічна (даводзілася ці то прасіць, ці то пераконваць кіраўніцтва Дзяржтэлерадыё). Пры афармленьні сваіх заяваў я звычайна спасылаўся на закон: «У адпаведнасьці з Законам аб статусе народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь, прашу выдзеліць…» Здагадваюся, што законам і апраўдваліся тэлевізійныя кіраўнікі перад сваім начальствам у Саўміне за тое, што раз на паўгода нам удавалася выйсьці ў эфір.

Але мы разумелі, што магчымасьць апэляцыі да грамадзтва праз СМІ (і найперш тэлебачаньне) павінна быць не спарадычнай. Таму ў пачатку жніўня 1992 году я падрыхтаваў зварот да міністра інфармацыі Анатоля Бутэвіча з патрабаваньнем выдзяленьня нам гарантаванага, сталага эфірнага часу на тэлебачаньні і на радыё.



ДАМОВА

Гэтым пацьвярджаецца, што кіраўніцтва Беларускай тэлерадыёкампаніі з I кастрычніка 1992 года прадстаўляе дэпутацкай апазіцыі БНФ дзве гадзіны тэлеэфіру і адну гадзіну радыёэфіру на тыдзень. Пры гэтым I гадзіна прамога тэлеэфіру будзе прадстаўляцца кожную сераду ў 21-00, другая — па меры гатоўнасці. Пры гэтым тэлерадыёкампанія прадстаўляе бясплатна студыйную плошчу, мантажныя памяшканні, відэатэхніку. Адказныя асобы з боку апазіцыі ~~прадстаўляюць~~ – I.Гердзянчук /тэлебачанне/ і С.Навумчык /радыё/.

За апазіцыю БНФ у ВС Беларусі

За Беларускую тэлерадыёкампанію

Дамова аб выдзяленьні эфіру дэпутатам Апазыцыі БНФ, якая не была падпісаная

26 жніўня мы зь Зянонам Пазьняком тры гадзіны вялі перамовы з намесьнікам міністра інфармацыі Іванам Карэндам і намесьнікам старшыні Белтэлерадыёкампаніі Баляславам Сушкевічам. Мы казалі пра тое, што электронныя сродкі масавай інфармацыі манапалізаваныя Саўмінам, а дэпутаты, увогуле прадстаўнікі дэмакратычных сілаў сутыкаюцца зь перашкодамі, калі хочуць данесьці свае меркаваньні да грамадзкасьці. У адказ Карэнда і Сушкевіч запэўнівалі, што перашкоды, калі яны сапраўды былі — гэта «асобныя выпадкі». «Голас апазыцыі павінен гучаць у эфіры», — сказаў намесьнік міністра.

Мы вырашылі сустрэцца зноў, каб ужо канкрэтна дамовіцца пра тэхнічны бок справы.

Жнівень і першая палова верасьня быў часам адпачынку, кіраўнікоў СМІ не было ў Менску, а



ДВ 5.X.92

# ЭФІР ІМ ТОЛЬКІ СНІЦЦА...

**АЛЕСЬ ЛІПАЙ, БелаПАН.**

Міністр інфармацыі Беларусі Анатоль Бутэвіч і старшыня Белтэлерадыёкампаніі Аляксандр Сталяроў адмовілі парламенцкай апазіцыі БНФ у прадастаўленні ёй пастаяннага эфірнага часу на тэлебачанні і радыё.

Нагадаем, папярэдняя дамоўленасць аб прадастаўленні пастаяннага эфірнага часу была дасягнута ў жніўні паміж кіраўніцтвам Міністэрства інфармацыі, Белтэлерадыёкампаніі і прадстаўнікамі парламенцкай апазіцыі. Меркавалася, што ў перадачах гэтага часу ўдзельнічалі б не толькі дэпутаты Вярхоўнага Савета, але і прадстаўнікі дэмакратычных партый, дэпутаты мясцовых Саветаў, якім, натуральна, таксама ёсць што сказаць. Толькі іншага лёс назычыў...

— Такая пазіцыя кіраўніцтва дзяржаўных інфармацыйных структур,— лічыць каардынатар апазіцыі Сяргей Навумчык,— з'яўляецца адбіткам антыдэмакратычнай палітыкі ўрада, які заўсёды імкнуўся заткнуць рот сваім палітычным апанентам. Наша грамадства, якое пераважна чуе толькі афіцыйную, аднабаковую трактоўку падзей, мае права ведаць і альтэрнатыўны пункт гледжання. Менавіта таму апазіцыя будзе рашуча супрацьстаяць усялякім спробам манапалізацыі прэсы.

Публікацыя ў газэце “Добры вечар”

23 верасьня Зянон Пазьняк, Ігар Гермянчук і я сустрэліся з намесьнікам старшыні Белтэлерадыёкампаніі Паўлам Шаўчуком у ягоным кабінэце ў будынку на Макаёнка.

Мы пагадзіліся, што дамоўленасьць аб выдзяленьні дэпутатам апазыцыі эфірнага часу павінна быць замацаваная дакумэнтам, які б рэглямэнтаваў абавязкі абодвух бакоў. Пад ім павінны былі стаяць подпісы першых асобаў. Меркавалася, што дакумэнт падпішуць міністар інфармацыі Анатоль Бутэвіч і старшыня Белтэлерадыёкампаніі Аляксандар Сталяроў.

На сустрэчу з Бутэвічам і Сталяровым 28 верасьня мы з Пазьняком пайшлі з праектам

дамовы, які я падрыхтаваў з улікам ўсіх тых дэталяў, якія мы абгаварылі з Шаўчуком.

Але падпісаць яе не ўдалося.

У самым пачатку Бутэвіч і Сталяроў заявілі, што пра папярэднюю дамоўленасьць з Шаўчуком ім нічога не вядома. Таксама яны сказалі, што даць эфірны час дэпутатам Апазыцыі БНФ — гэта стварыць пэўнага кшталту прэцэдэнт, далей трэба будзе і лідэраў іншых партыяў пусьціць на тэлебачаньне. Найперш — прадстаўнікоў дэпутацкай групы «Беларусь». Пазьняк заўважыў, што гэтая група слова ў слова паўтарае афіцыйную пазыцыю ўраду, якая і без таго прадстаўленая ў эфіры штодня. Я сказаў, што ў прынцыпе забесьпячэньне іншым дэмакратычным партыям магчымасьці данесьці сваю пазыцыю да насельніцтва — звычайная практыка ў дэмакратычных краінах. Але ў дачыненьні да дэпутатаў БНФ гаворка ідзе пра тое, што наўпрост гарантавана нам законам.

Бутэвіч і Сталяроў не пагадзіліся, сустрэча скончылася безвынікова. Безвынікова для нас, дэпутатаў апазыцыі — а ўлады замацавалі за сабой права не даваць права голасу сваім палітычным апанэнтам.

Было зразумела, што перад сустрэчай яны пракансультаваліся «ўверсе» і атрымалі ўказаньне: эфір не даваць.

Цяпер жа для завяршэньня тэмы з эфірам для парлямэнцкай апазыцыі забягу наперад, у апошнія месяцы 1992 году.

5 лістапада я выступіў на сэсіі Вярхоўнага Савету ў разьдзеле «Рознае» і паўтарыў патрабаваньне аб выдзяленьні апазыцыі гарантаванага эфіру — дзьвюх гадзінаў на тэлебачаньні і гадзіны на радыё кожны тыдзень.

Празь некалькі дзён на тры адрасы — Вярхоўнаму Савету, Савету Міністраў і мне як дэпутату — прыйшоў адказ, падпісаны міністрам інфармацыі Анатолем Бутэвічам.

«Патрабаваньне парлямэнцкай апазыцыі аб выдзяленьні пастаяннага эфірнага часу… у апошнія месяцы гучыць неаднаразова, — пагаджаўся міністар. — Гэтае пытаньне абмяркоўвалася ў часе сустрэч прадстаўнікоў міністэрства, Белтэлерадыёкампаніі і лідэраў апазыцыі.

Наша пазыцыя была і застаецца адназначнай: мы не адмаўляем апазыцыі ў праве на эфір, аднак выдзяляць ёй пастаянны час для перадач лічым немэтазгодным. На наш погляд, па гэтым шляху нельга ісьці таму, што эфір дзяржаўнага тэлебачаньня і радыё не павінен быць арэнай барацьбы розных палітычных сіл».

Тут перапыню цытаваньне і зьвярну ўвагу на тлумачэньне: эфір не павінен быць арэнай палітычнай барацьбы. Дзіўнавата было чытаць такое ў адказе міністра, члена ўраду краіны, разьмешчанай на эўрапейскім кантынэнце, дзе (у большасьці) урады фармуюцца ў выніку свабодных выбараў, а самі выбарчыя кампаніі праходзяць у сутыкненьні пазыцый менавіта ў сродках масавай інфармацыі (і найперш — у дзяржаўных, калі такія ў той або іншай краіне існуюць).



Аб скліканні сесіі Вярхоўнага Савета

~~Ці не задоўжыліся канікулы,~~
~~панове — дэпутаты?~~

Апошнім часам на Беларусі ўсё большую сілу набываюць сімптомы небяспечнай эканамічнай хваробы — некантралюемы рост цэнаў, інфляцыя, спад і, нават, спыненне вытворчасці. З аднаго боку, адсутнасць найбольш важных законаў у сферы эканамічнага жыцця, якія абавязаны быў прыняць Вярхоўны Савет, пазбавіла народ Беларусі права на ўласнасць, на валоданне зямлёй і сродкамі вытворчасці і, фактычна, пакінула людзей безабароннымі перад хваляй беспрацоўя. З другога боку, — павялічваюцца тэмпы наменклатурнай прыватызацыі.

Асаблівую трывогу выклікае шэраг пагадненняў паміж Беларуссю і Расіяй, падпісаных кіраўніцтвам ураду 20 ліпеня г.г. у Маскве, якія не адпавядаюць дзяржаўным інтарэсам Беларусі. Такія некантралюемыя дзеянні Савета Міністраў патрабуюць неадкладнай парламенцкай ацэнкі.

Такім чынам, палітычная і эканамічная сітуацыя вымагаюць тэрміновага прыняцця адпаведных заканадаўчых рашэнняў на сесіі Вярхоўнага Савета.

У прыватнасці, неабходна:

– даць ацэнку росту дэфіцыту бюджэта і выканання яго за I паўгоддзе 1992 года, прыняць надзвычайны бюджэт на II паўгоддзе г.г.;

– павысіць мінімальны ўзровень заработнай платы з улікам падвышэння цэнаў;

– прыняць пакет законаў, патрэбных для нармальнага функцыянавання эканомікі, развіцця эканамічных рэформаў;

– прыняць законы, накіраваныя на абарону інтарэсаў беларускай дзяржавы і грамадзян Беларусі.

Заява дэпутатаў Апазыцыі БНФ з патрабаваньнем склікаць сэсію Вярхоўнага Савету. Жнівень 1992 г.

Далей, нагадаўшы, што «ўсе зарэгістраваныя ў рэспубліцы партыі і рухі маюць роўныя правы на асьвятленьне сваёй дзейнасьці ў сродках масавай інфармацыі» (але не сказаўшы, што скарыстацца гэтым правам могуць ня ўсе), міністар



2.

Усведамляючы ўсю складанасць сённяшняга становішча, мы заклікаем народных дэпутатаў Беларусі далучыцца да нашага патрабавання склікаць чарговую сесію Вярхоўнага Савета 29 верасня 1992 года. Нагадаем, што для гэтага патрэбна сабраць II5 подпісаў народных дэпутатаў рэспублікі. Мы таксама прапануем Старшыні Вярхоўнага Савета сп.Шушкевічу выкарыстаць дадзенае яму Канстытуцыяй права – прызначыць сесію ўласным рашэннем.

Народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь:

пісаў: «Задаволіць патрабаваньні БНФ і іншых палітычных арганізацый на выдзяленьне ім пастаяннага эфірнага часу немагчыма і зь іншых важкіх прычынаў — з-за абмежаваньня аб’ёмаў вяшчаньня, катастрафічнага стану матэрыяльна-тэхнічнай базы тэлебачаньня і радыёвяшчаньня, недахопу фінансавых сродкаў. Нельга не ўлічыць

і тое, што перадач на палітычныя тэмы на беларускім тэлебачаньні і радыё дастаткова (яны займаюць каля 60-70 працэнтаў эфірнага часу). Што гледачы і слухачы настойліва ставяць пытаньне аб нарошчваньні аб'ёмаў мастацкага вяшчаньня, стварэньні праграмаў аб разьвіцьці і адраджэньні нацыянальнай культуры, духоўнасьці беларускага народу».

Ізноў даводзіцца спыніць цытаваньне. Не сумняваюся, што такія патрабаваньні да міністра і ў Белтэлерадыёкампанію прыходзілі, на гэтым настойвалі і мы, дэпутаты. Але ў рэальнасьці на экранах тэлевізараў было нешта супрацьлеглае. Напрыклад, «Крок» і іншыя перадачы моладзевай рэдакцыі тэлебачаньня, якія ў канцы 80-ых гадоў зьбіралі мільённую аўдыторыю дзякуючы сваёй вастрыні, дэмакратычнасьці, — у 1992 годзе ператварыліся ў рупар антынезалежніцкіх, антыбеларускіх сілаў. З экрана гучалі абразы і зьдзекі ў бок беларускай мовы, сама дзяржаўнасьць беларускай мовы высьмейвалася, права Беларусі быць сувэрэннай краінай ставілася пад сумнеў. Кіравала рэдакцыяй Ніна Чайка — прыхільніца чарнасоценнага «славянскага сабору Белая Русь». У пачатку 2000-ых яна будзе галоўным рэдактарам часопісу «Нёман» які надрукуе гнюсны тэкст супраць Васіля Быкава, і я ў Празе буду сьведкам, як падарве гэтая публікацыя здароў'е Васіля Ўладзімеравіча ў апошнія месяцы ягонага жыцьця.

Менавіта такія асобы, якія мелі добрыя пазыцыі ў кіраўніцтве тэлебачаньня і радыё, і пе-

рашкаджалі стварэньню «праграм аб разьвіцьці і адраджэньні нацыянальнай культуры», а зусім не «катастрафічны стан матэрыяльна-тэхнічнай базы». І якраз патранаваныя імі антыбеларускія, антыдэмакратычныя перадачы займалі калі ня ўсю, дык добрую палову прыгаданых міністрам «60-70 працэнтаў эфірнага часу».

Думаю, калі б усё сапраўды залежала толькі ад міністра Бутэвіча, сытуацыя ў сродках масавай інфармацыі была б іншая. Ва ўсялякім разе, значна лепшая. Але рэальны кантроль ажыцьцяўляў апарат Саўміну, дзе панавалі антыбеларускія, праімпэрскія настроі.

Менавіта іх меў на ўвазе Васіль Быкаў, калі ў жніўні 1992-га выступаў у Маладэчне на міжнароднай канфэрэнцыі «Фармаваньне і разьвіцьцё нацыянальнай самасьвядомасьці беларусаў»:

«Нацыянальны рух для гэтых людзей — самая яўная перашкода на шляху да страчанай імі ўлады. Таму сёньня мы бачым, што чым далей, тым усё болей упартым робіцца іхняе супраціўленьне нашай нясьмелай, нерашучай, непасьлядоўнай беларусізацыі: камуністычны саўмінаўскі друк, радыё і тэлебачаньне рэдкі дзень так або інакш не спрабуюць зганьбіць яе».

**4 верасьня.** Падпісанае пагадненьне паміж КДБ Беларусі і Службай зьнешняй выведкі Расеі.

**7 верасьня.** У Нью-Брансьвіку адбылася XX Сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

**8 верасьня.** У Менску адкрылася аддзяленьне ААН.

**8 верасьня.** У Менску на плошчы Незалежнасьці Актывісты БНФ і БЗВ прынесьлі прысягу на вернасьць Беларусі і беларускаму народу.

**9 верасьня.** Амбасадар ЗША Дэйвід Сўорц уручыў даверчыя граматы Станіславу Шушкевічу. Афіцыйную прамову амбасадар казаў па-беларуску.

**22 верасьня.** Прэзыдыюм Савету Міністраў разгледзеў пытаньне аб барацьбе з карупцыяй.

**25 верасьня.** У Менску прайшла першая кансультацыйная нарада камуністаў краінаў СНД.

# «...ПРЫСЯГАЮ НА ВЕРНАСЬЦЬ РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ»

2 верасьня мы даведаліся, што Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету не зьбіраецца склікаць сэсію у бліжэйшыя дні, як мы, дэпутаты БНФ, гэтага патрабавалі ў адмысловай заяве, перададзенай у прэсу ў канцы жніўня. Мы прапаноўвалі Шушкевічу склікаць сэсію ўласным рашэньнем, на што ён меў права — але Шушкевіч адмовіўся. Датай пачатку сэсіі Прэзыдыюм назваў 20 кастрычніка.

Акрамя прызначэньня рэфэрэндуму Вярхоўны Савет мусіў прыняць і некаторыя іншыя неадкладныя рашэньні, у тым ліку — адносна войска. Час ішоў, а афіцэры не былі прыведзеныя да прысягі.

Разам з кіраўніцтвам Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў мы вырашылі правесьці прысягу на плошчы Незалежнасьці.

Прысягу прызначылі на 8 верасьня — слаўную дату ў гісторыі нацыі, калі ў 1514 годзе ў пераможнай бітве пад Воршай войскі Вялікага Княства Літоўскага пад кіраўніцтвам князя Канстанціна Астроскага разьбілі ўтрая большае войска маскоўцаў.



Прысяга беларускіх афіцэраў на плошчы Незалежнасьці, 8 верасьня 1992 г.

На плошчы — некалькі тысяч. Як прыгадваў пазьней Валер Костка супрацоўніку газэты «Салідарнасьць» Руслану Гарбачову, з аднаго толькі Маладэчна прыехала некалькі дзясяткаў чалавек, давялося замаўляць два аўтобусы.

На трыбуне — вэтэраны Васіль Быкаў і Артур Вольскі, а таксама Анатоль Грыцкевіч, Зянон Пазьняк, Міхась Ткачоў, дэпутаты Галіна Сямдзянава і Вольга Галубовіч. Перад харугвамі выйшла група афіцэраў-актывістаў БНФ у парадная вайсковай форме — Уладзімер Барадач, Алесь Станкевіч, Мікалай Бірукоў, Леанід Балвановіч, Аляксандар Кулеш, Валер Костка, Уладзімер Савянок, Аляксандар Бобыр, Міхаіл Варанец, Кастусь Шыманец, Жорж Харахноў. Далей сталі мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ — аўтар гэтых радкоў,



Васіль Быкаў, Анатоль Грыцкевіч, Зянон Пазьняк, Вольга Галубовіч, Артур Вольскі ў часе прыняцьця прысягі беларускімі афіцэрамі, 8 верасьня 1992 г.

Ігар Пырх, Лявон Баршчэўскі, Ігар Гермянчук, Лявон Дзейка, Віктар Какоўка, Сяргей Папкоў.

Выступіў Зянон Пазьняк, а Мікола Статкевіч зачытаў тэкст прысягі: «Я, грамадзянін Беларусі, паступаючы на вайсковую службу, прысягаю на вернасьць Рэспубліцы Беларусь і яе народу. Калі ж я парушу прынятую мной вайсковую прысягу, то гатовы несьці адказнасьць, устаноўленую законамі Рэспублікі Беларусь».

Афіцэры на плошчы, апусьціліся на адно калена — сярод іх актывісты БНФ Генадзь Банкевіч і Ўладзімер Кармілкін. Мікола Статкевіч падышоў да нашага шэрагу, кожны з нас расьпісаўся

пад прысягай. Гучаў «Палянэз» Агінскага. Потым Галіна Сямдзянава ўсіх нас пацалавала.

Падпісалі прысягу і тысячы афіцэраў і салдатаў у запасе, якія сабраліся ў той дзень на плошчы. Сьпяваў хор «Унія».

Усе афіцэры, якія стаялі ў першым шэрагу перад трыбунай, з войска былі звольненыя. Пік рэпрэсіяў супраць актывістаў БЗВ прыйшоўся на 1993 год, але ўжо тады, увосень 1992-га, прыняцьце прысягі вельмі нэрвова было ўспрынята генэралітэтам.

Ужо назаўтра Міністэрства абароны назвала прыняцьце прысягі на вернасьць Беларусі і беларускаму народу «дэстабілізуючым фактарам».

«Міністэрства абароны падвяргаецца жорсткаму прэсінгу з боку асобных радыкальна настроеных палітыкаў, апазыцыі, БЗВ — заявіў міністар абароны Павал Казлоўскі. — Штучна нагнятаецца нацыяналізм, неабгрунтаваныя абвінавачаньні прад'яўляюцца генэралам і афіцэрам у тым, што яны да гэтага часу не прынялі прысягу на вернасьць народу Рэспублікі Беларусь і г. д.» («Рэспубліка», 21 кастрычніка 1992).

Павал Казлоўскі заявіў таксама, што неабходнасьць прыняцьця прысягі «не адмаўляецца нікім», але яна «павінна прымацца не пад ціскам эмоцый, а сьвядома». Міністэрства прапанавала Вярхоўнаму Савету і ўраду правесьці прысягу ў канцы году — калі парлямэнт «прыме законы па вайсковым будаўніцтве».

Ну а калі б парлямэнт, што было зусім магчыма, ізноў адклаў гэтыя законы, як ён рабіў

неаднаразова? Афіцэры больш як стотысячнага войска служылі б немаведама каму?

Дый сама фраза — прысягаць «не пад ціскам эмоцый, а сьвядома» — успрымалася вельмі дзіўна ў вуснах прафэсійнага вайскоўца, на той момант ужо генэрал-палкоўніка. Ужо адно тое, што чалавек надзеў вайсковую форму, сьведчыць пра асэнсаванасьць ягонага выбару — служыць дзяржаве. Так, ён можа адмовіцца служыць канкрэтнай дзяржаве («асэнсавана, а не пад ціскам эмоцый») — але ў гэтым выпадку ў яго павінен быць выбар толькі з двух варыянтаў: альбо зьняць форму, альбо пайсьці на службу іншай дзяржаве. Другі варыянт якраз і быў рэалізаваны ва Ўкраіне, дзе ўжо ў першыя тыдні 1992 году некалькі сотняў афіцэраў, якія адмовіліся прымаць прысягу, былі адпраўленыя ў Расею. Калі ж вайсковец не прысягае дзяржаве, але служыць у яе войску, узьнікае сумнеў, ці будзе ён гэтую дзяржаву бараніць. А таксама пытаньне: а якой дзяржаве ён служыць?

Адказ на гэтае пытаньне знайсьці было нескладана. Не прымаючы прысягу Беларусі, афіцэры заставаліся верныя ранейшай прысязе — СССР. А праваправаемніцай СССР абвясьціла сябе Расея, з чым пагадзілася і міжнародная супольнасьць.

Было немагчыма ўявіць, каб генэралы ня ведалі гэтых ісьцін. Пэўна ж, ведалі. Магчыма, нехта зь іх яшчэ не ўсьвядоміў, што незалежная Беларусь — гэта ўжо назаўсёды, але, мяркуючы па асабістых уражаньнях, большасьць зь іх якраз спадзявалася, што незалежнасьць гэтая часовая.

Яны, як самі казалі, «былі прывязаныя да Расеі тысячамі повязяў», а беларускае для іх было «нацыяналізмам» (у сваім артыкуле міністар Казлоўскі так і не патлумачыў, што ж канкрэтна ён мае на ўвазе пад гэтым тэрмінам).

І адначасна — сотні афіцэраў, якія усьведамлялі сябе беларусамі, але служылі ў іншых рэспубліках былога СССР, безвынікова дамагаліся пераводу на Бацькаўшчыну. Наколькі гэта было цяжка, магу меркаваць па справе аднаго афіцэра па прозьвішчы Гурыновіч, бацька якога да мяне зьвярнуўся. Перапіска зь міністэрствам доўжылася некалькі месяцаў — на шчасьце, скончылася станоўча. Але ж я як дэпутат зьвяртаўся непасрэдна да міністра, і ён пэрсанальна аддаваў распараджэньні — афіцэры аднекуль з Таджыкістану або Далёкага Ўсходу такой магчымасьці былі пазбаўленыя.

Аднойчы ўдалося паспрыяць пераводу ў Беларусь некалькіх дзясяткаў афіцэраў-беларусаў разам зь сем'ямі. У пачатку чэрвеня разам з дэпутатам Віктарам Кучынскім Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету накіраваў мяне назіральнікам на прэзыдэнцкія выбары ў Азэрбайджан. У тым часе там ішлі баявыя дзеяньні. Між іншым, пасьля пасяджэньня мы падышлі да міністра замежных справаў Пятра Краўчанкі з пытаньнем, ці будуць у яго нейкія просьбы ці даручэньні. «Толькі адно — вярніцеся адтуль жывымі і здаровымі», — адказаў міністар. Падышлі да Шушкевіча і пачулі: «На вашым месцы я б туды не паляцеў».

Мы, аднак, паляцелі, і калі прыйшлі да віцэспікера парлямэнту Азэрбайджану, былога старшыні Вярхоўнага Савету (Мэджлісу) Нахічэванскай аўтаномнай рэспублікі Афіядзіна Джалілава (праз два гады ён быў застрэлены), папрасіліся ў Нахічэвань У аэрапорце, акрамя афіцыйных асобаў, нас сустракаў камандзір 75-ай дывізіі генэрал Расьціслаў Слабашэвіч — як выявілася, беларус.

Яшчэ ў аэрапорце мы ўбачылі два «барты» — «Іл» і «Ан», якія, як нам патлумачылі, былі дадзеныя прэзыдэнтам Украіны Краўчуком і міністрам абароны дэпутату Вярхоўнай Рады для вывазу афіцэраў-украінцаў. Кантраст паміж стаўленьнем да сваіх суайчыньнікаў кіраўніцтваў Украіны і Беларусі быў красамоўным.

Выглядала, генэрал Слабашэвіч наіўна меркаваў, што і мы з Кучынскім як дэпутаты Вярхоўнага Савету маем такія самыя магчымасьці, як нашая ўкраінская калега — толькі пакуль што прыляцелі без уласных «бартоў»...

Слабашэвіч адразу з аэрапорту прывёз нас у штаб дывізіі, завёў у свой кабінэт, і сказаў, што ня выпусьціць, пакуль мы не дамовімся з Шушкевічам або Кебічам наконт пераезду ў Беларусь афіцэраў-беларусаў: «Тэлефон ВЧ у вашым распараджэньні». Ні Шушкевіча, ні Кебіча на месцы не было — але я дазваніўся да Шаладонава.

На гэтым наш «арышт» ня скончыўся. Слабашэвіч пазваніў старшыні Вярхоўнага Савету Нахічэванскай аўтаномнай рэспублікі Гейдару Аліеву ў Турэччыну, дзе той знаходзіўся на лячэньні, і паведаміў, што ў яго цяпер два дэпутаты

зь Беларусі: «Гейдар Аліевіч папрасіў, каб вы яго дачакаліся — ён вяртаецца празь некалькі дзён».

Пасялілі нас у былым гасьцявым доме абкаму (тым самым, дзе потым нейкі час жыў зрынуты прэзыдэнт Эльчыбэй). Была ў мяне і сустрэча зь мясцовымі актывістамі Народнага Фронту — у двары нейкага дома сабралася сотня, можа і болей, мужчын і жанчын, палова — з аўтаматамі Калашнікава. Ім было незразумела, навошта мы дамагаемся зьмены Вярхоўнага Савету і ўраду — у нас жа, дзякуй Алаху, мір і ніхто не адарваў кавалак тэрыторыі, а рэформы — справа часу.

Выбары былі рутыннай працэдурай, а вось сустрэча з Гейдарам Аліевым зрабіла моцнае ўражаньне. Аліеў прыняў нас у кабінэце старшыні Вярхоўнага Савету ў сьціплым тыповым для былога Савецкага Саюзу будынку які нагадваў райвыканкам дзе-небудзь у Паставах ці Бешанковічах.

Наша сустрэча ад пачатку і да канца здымалася на відэа. Гутарылі мы хвілінаў сорак. Аліеў казаў пра праблемы Азэрбайджану, нагадваў, што ніводная з рэспублік былога СССР не знаходзіцца ў такім цяжкім стане, як Азэрбайджан — бо толькі Азэрбайджан страціў частку сваёй тэрыторыі і ўжо чатыры гады ваюе. Аліеў прыгадваў Машэрава, казаў пра свае добрыя адносіны да Беларусі, а таксама — што ён сьціплы чалавек, стомлены ад палітыкі, яму б хацелася займацца ўнукамі, але народ паклікаў яго на радзіму. І ён прыехаў, жыве ў сьціплай кватэры разам зь сям’ёй сястры. Пра нейкія прэзыдэнцкія амбіцыі гаворкі не было.

Але ў Аліеве я адчуў вельмі моцную волю і, павінен прызнаць, не абы-які інтэлект. Мяркую, гэта было, як гаворыцца, ад прыроды, а не напрацаванае ў якасьці генэрала КДБ і члена Палітбюро. Але і шматгадовы досьвед палітыка (які, як я чуў раней, вылучаўся у брэжнеўскім кіраўніцтве) быў відавочны. Я зразумеў, што гэты чалавек зусім не абмяжуецца цацканьнем з унукамі. Таму калі ў хуткім часе Аліеў зрабіўся прэзыдэнтам Азэрбайджану, мяне гэта не зьдзівіла.

Па вяртаньні ў Менск я выступіў у праграме «Ніка» Беларускага тэлебачаньня, расказаў пра сытуацыю ў Азэрбайджане. Паказаў і відэасюжэт пра беларускіх афіцэраў, які мы зьнялі ў Нахічэвані. Празь нейкі час тыя зь іх, хто выказаў жаданьне перавесьціся ў Беларусь, атрымалі такую магчымасьць.

Вярнуўся ў Беларусь і генэрал Расьціслаў Слабашэвіч, ужо пры Лукашэнку ён быў прызначаны намесьнікам камандуючага ўнутраных войскаў. Ня ведаю, ці даваў ён загады на разгоны масавых акцыяў апазыцыянэраў, сярод якіх былі і актывісты БНФ і БЗВ, што ў свой час дамагаліся вяртаньня афіцэраў-беларусаў на Бацькаўшчыну.

… Праз тры дні пасьля прыняцьця прысягі на плошчы Незалежнасьці адбылася канфэрэнцыя Ініцыятыўнай групы ўсебеларускага рэфэрэндуму. Была прынятая рэзалюцыя, у якой адзначалася, што «Вярхоўны Савет, які згодна з Законам павінен прызначыць дату рэфэрэндуму, ухіліўся ад сваіх абавязкаў. Дзеля гэтага ён спыніў вясновую сэсію і амаль паўгода ўвогуле не працуе».

Тым самым найвышэйшы орган дзяржаўнай улады Беларусі груба парушыў прынятыя ім самім законы і правы чалавека».

Важным было тое, што на двары быў верасень, а ў фармулёўцы вынесенага на рэфэрэндум пытаньня гаварылася пра выбары ўвосень. Нават калі б рэфэрэндум адбыўся ў дзень канфэрэнцыі — з улікам усіх працэдураў правесьці выбары да канца лістапада было б вельмі праблематычна. Члены Ініцыятыўнай групы канстатавалі, што «сваёй наўмыснай бязьдзейнасьцю Вярхоўны Савет зрабіў немагчымым выбары ў вызначаны тэрмін і парушыў тым самым агульнапрызнаныя ў цывілізаваным сьвеце і гарантаваныя Канстытуцыяй Беларусі правы грамадзянаў на ўдзел у кіраваньні дзяржавай»

Члены Ініцыятыўнай групы заявілі таксама, што ўхіленьне ад прызначэньня даты рэфэрэндуму ёсьць захаваньне ўлады незаконным шляхам. У гэтых умовах народ Беларусі мае права самастойна вырашаць свой лёс дэмакратычным спосабам без удзелу страціўшага легітымнасьць Вярхоўнага Савету».

# КАСТРЫЧНІК

**7 кастрычніка.** Парлямэнт Азэрбайджану адхіліў ратыфікацыю статутных дакумэнтаў СНД.

**9 кастрычніка.** Створаны грамадзкі камітэт для спрыяньня вяртаньню на Бацькаўшчыну вайскоўцаў і абароны грамадзянскіх, палітычных і сацыяльных правоў вайскоўцаў, якія служаць на тэрыторыі Беларусі. Старшынём камітэту «Вяртаньне» абраная дэпутат Апазыцыі БНФ Галіна Сямдзянава.

**9 кастрычніка.** Абвешчана пра стварэньне Народнага руху Беларусі на чале з супрацоўнікам апарату Саўміну Сяргеем Гайдукевічам, які заявіў пра супрацьстаяньне з БНФ.

**10 кастрычніка.** Сойм БНФ ухваліў праграму супольных дзеяньняў зь незалежнымі прафсаюзамі.

**18 кастрычніка.** У Менску на плошчы Незалежнасьці прайшоў мітынг БНФ у падтрымку рэфэрэндуму.

**20 кастрычніка.** У Падуі (Італія) на будынку ўнівэрсытэту адкрытая дошка ў памяць Францішка Скарыны.

**21 кастрычніка.** Вярхоўны Савет на закрытым пасяджэньні ратыфікаваў Пагадненьне аб скарачэньні звычайных узброеных сілаў у Эўропе.

**27 кастрычніка.** Вярхоўны Савет прыступіў да разгляду пытаньня пра рэфэрэндум.

**29 кастрычніка.** Вярхоўны Савет адхіліў прапанову Ініцыятыўнай групы, падтрыманую 384 тысячамі грамадзянаў, аб правядзеньні рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах найвышэйшага заканадаўчага органу. Вярхоўны Савет заявіў, што «бачыць сваёй галоўнай задачай прыняцьце не пазьней за 1993 год Канстытуцыі (Асноўнага закону) Рэспублікі Беларусь і правядзеньне ў сакавіку 1994 году выбараў у новы найвышэйшы орган дзяржаўнай улады».

## «ВАС ПАДТРЫМАЕ БЕЛАРУСІ НАРОД»

Нядзеля 18 кастрычніка выдалася халоднай, ішоў дождж, але некалькі сотняў нарадафронтаўцаў сабраліся на плошчы Незалежнасьці. Весьці мітынг, прымеркаваны да пачатку сэсіі Вярхоўнага Савету, даручылі мне і дэпутату Менскага гарадзкога савету Галіне Вашчанка.

Сярод іншых прамоўцаў выступіў прэм’ер Ценявога кабінэту Апазыцыі БНФ дэпутат Уладзімер Заблоцкі:

«Я выкажу думку апазыцыі, якая лічыць, што рэфэрэндум патрэбны таму, што эканамічныя пытаньні, ход рэформаў ня могуць быць прынятыя гэтым складам Вярхоўнага Савету, таму што над ім яшчэ стаіць камуністычная ідэалёгія, таму што ў іх галовах не прымаюцца рынкавыя адносіны і рэформа эканомікі. Не даецца права на эканамічную дзейнасьць людзям, не праводзіцца разьдзяржаўленьне дзяржаўнай маёмасьці і заблытана пытаньне ўласнасьці. Акрамя таго не ствараюцца інстытуты дзяржаўнасьці ў нашай Беларусі нягледзячы на тое, што мы ўжо даўно прынялі Дэклярацыю незалежнасьці… Таму адзінае выйсьце ў тым, каб зьмяніць гэты склад Вярхоўнага Савету, але законным шляхам».




Мітынг БНФ на плошчы Незалежнасьці, кастрычнік 1992 г.

Выступоўцы заклікалі Вярхоўны Савет прызначыць дату рэфэрэндуму, удзельнікі аднагалосна падтрымалі наказ дэпутатам, у якім казалася, што калі «Вярхоўны Савет груба парушыць правы амаль паўмільёна грамадзян Беларусі, адмовіцца прызначыць дату рэфэрэндуму або прыме дэмагагічныя палавіністыя рашэньні пра зьмену фармулёўкі пытаньня рэфэрэндуму, пра новыя выбары ў 1994 годзе або нешта падобнае — тады гэты Вярхоўны Савет становіцца незаконным, становіцца ўзурпатарам улады, і мы заклічам усіх дэпутатаў апазыцыі, усіх сумленных дэпутатаў, хто застаецца верны свайму народу, спыніць удзел у калектыўнай працы ВС і распачаць стварэньне паралельных органаў улады. Вас падтрымае і беларускі народ, і сусьветная грамадзкая думка».

«Апошні мітынг на плошчы Незалежнасьці паказаў, наколькі Фронт папулярны ў народзе.

І зьдзеклівыя справаздачы пра яго ў прэсе сьведчаць шмат пра што», — пракамэнтаваў адносную нешматлюднасьць мітынгу дэпутат Аляксандар Лукашэнка («Белорусская нива», 22 кастрычніка 1992).

Але ня ён адзін.

«Народ разабраўся, хто ёсьць хто», — сказаў Станіслаў Шушкевіч у інтэрвію, якое прагучала па радыё праз два дні, перад адкрыцьцём сэсіі. На словы карэспандэнта, што дэпутаты БНФ у выпадку, калі пытаньне пра рэфэрэндум ня будзе пастаўлена ў парадак дня першым, пакінуць Авальную залю, Шушкевіч сказаў: «Калі нехта кажа, што ён выступае ад імя народу і што дзеля народу ён выйдзе з залі, калі будзе абмяркоўвацца пытаньне, як палепшыць дабрабыт народу, то, прабачце мне, гэта — не народныя дэпутаты, гэта — пры-народныя дэпутаты».

Сэсія пачалася 20 кастрычніка. Пытаньне аб рэфэрэндуме было ўключана ў парадак дня, хоць і ня першым. Таксама ўключылі пытаньне аб скасаваньні рашэньня аб прыпыненьні дзейнасьці КПБ-КПСС — мы, дэпутаты апазыцыі, спрабавалі не дапусьціць гэтага, сталі каля мікрафонаў, але Шушкевіч спыніў спрэчкі і ня даў усім выступіць. У роспачы я ляпнуў рукой па пюпітры — якраз калі старшыня паставіў пытаньне на галасаваньне, атрымалася, што прагаласаваў «за». Давялося адразу ж пісаць заяву ў сакратарыят сэсіі, каб мой голас ня быў залічаны. Але гэта ня мела значэньня — галасоў у парлямэнцкай большасьці хапала.

# «РАШЭНЬНЕ НА ДЗЕСЯЦІГОДЗЬДЗІ»

Да разгляду пытаньня аб рэфэрэндуме Вярхоўны Савет зьвярнуўся толькі 27 кастрычніка. З моманту, калі Цэнтральная выбарчая камісія пацьвердзіла сапраўднасьць больш як 380 тысяч подпісаў і накіравала ў парлямэнт сваё станоўчае заключэньне пра прызначэньне рэфэрэндуму, прайшло амаль паўгода.

Нам былі вядомыя асноўныя аргумэнты апанэнтаў, якія, у асноўным, зводзіліся да двух: што нібыта Ініцыятыўная група парушыла закон і што рэфэрэндум і датэрміновыя выбары прывядуць да «безуладзьдзя» і «хаосу».

У часе працы над гэтай кнігай у мяне былі сумненьні, ці варта даваць вытрымкі са стэнаграмы дыскусіі і ў якім аб'ёме — усё ж там сапраўды шмат мудрагелістых прававых палажэньняў ды розных юрыдычных нюансаў. Я істотна скараціў тэксты, пакінуўшы асноўнае — тое, што паказвае ўзровень аргумэнтацыі як прадстаўнікоў улады, гэтак і апазыцыі. Чытач мае магчымасьць атрымаць поўнае ўяўленьне адносна прававой вартасьці рашэньня, якое Вярхоўны Савет прыняў адносна меркаваньня некалькіх сотняў тысяч грамадзянаў Беларусі. Як і раней, усе расейскамоўныя выступы падаюцца ў перакладзе на беларускую мову.

Напачатку заўважу, што мы запатрабавалі, каб на сэсіі было дадзена слова старшыні Ініцы-

ятыўнай групы Ўладзімеру Анцулевічу. Аднак большасьць дэпутатаў прагаласавала супраць.

Зь вялікім дакладам выступіў старшыня Камісіі па заканадаўстве Дзьмітры Булахаў. Асноўны патас ягонага выступу палягаў у тым, што нібыта Ініцыятыўная група пайшла на фальсыфікацыю, а ЦВК ня мела права выносіць станоўчае рашэньне.

Булахаў: «…Дэмакратыя без захаваньня законаў, нават недасканалых законаў, ня ёсьць дэмакратыя. Шлях невыкананьня законаў — гэта простая дарога да тупіку, за якім толькі ахлякратыя і фашызм.

…Закон ускладае адказнасьць і абавязак на Цэнтральную камісію па рэфэрэндуме за выкананьне Ініцыятыўнай групай законаў. Толькі пры такім падыходзе дакумэнты па рэфэрэндуме могуць быць прызнаныя аформленымі ў належным парадку, гэта значыць, у тым самым парадку, які ўстаноўлены гэтым законам, Законам аб усенародным галасаваньні і рэфэрэндуме. Толькі ў такім выпадку Вярхоўны Савет сапраўды без дэбатаў абавязаны прызначыць дату рэфэрэндуму, як сьцьвярджаюць паважаныя народныя дэпутаты, члены Ініцыятыўнай групы. Я працытую ўсё ж артыкул 14 Закону аб рэфэрэндуме, частку першую. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь па атрыманьні аформленага ў належным парадку (гэта значыць у тым парадку, які ўстаноўлены законам) прапановы прызначае дату. Калі ж закон парушаны, і гэта выразна вынікае з часткі другой артыкулу 14, то варта ўжываць частку другую

артыкулу 14 Закону аб рэфэрэндуме, якая пачынаецца са словаў: у выпадку парушэньня гэтага Закону ініцыятарамі (таму што пастаянна робяцца спробы зьвесьці і супрацьпаставіць Вярхоўны Савет і грамадзянаў) рэфэрэндуму Вярхоўны Савет (і яшчэ адно слова падкрэсьлю) мае права (але не абавязаны) адхіліць прапанову аб правядзеньні рэфэрэндуму. Заўважце, …Вярхоўнаму Савету дадзена права прыняць палітычнае рашэньне, калі закон парушаны.

Усяго быў пададзены 446 601 подпіс, зь іх прызнана сапраўднымі 384 318 подпісаў. З розных прычынаў, у тым ліку з прычыны (яшчэ раз падкрэсьліваю, канстатаванага Цэнтральнай камісіяй па рэфэрэндуме) надзвычай грубага парушэньня заканадаўства, што выявілася і ў падробках і гэтак далей, было выключана з агульнай сукупнасьці 62 283 подпісы. Прычым з агульнай колькасьці падпісных лістоў выбарачна (я падкрэсьлю слова "выбарачна") 2372 лісты былі падвергнуты элемэнтарнай почырказнаўчай экспэртызе… Нават у гэтак нязначным масіве відавочная падробка подпісаў дакумэнтальна ўстаноўлена ў 1598 лістах. Задумайцеся: 67,37 працэнты падробленых подпісаў ад выбарачнай сукупнасьці! (Шум у залі)».

Мы абурыліся, бо Булахаў наўпрост перакручваў: гэта былі выпадкі, калі муж расьпісваўся за жонку або жонка за мужа, ЦВК не кваліфікавала гэта як «падробкі», пра што пазьней сказаў яе старшыня Абрамовіч. Ну а экстрапаляцыя працэнту непрызнаных подпісаў на ўвесь масіў

сабраных подпісаў (а менавіта гэта рабіў Булахаў) увогуле выглядала махлярствам: ЦВК перадало на праверку графолягам усе лісты, якія выклікалі сумнеў. У астатніх сотнях тысячаў сумневу не было (нагадаю, што чыноўнікамі Вярхоўнага Савету і Саўміну быў правераны кожны ліст).

Булахаў працягваў: «Падробка выбарчых дакумэнтаў — крымінальна каральнае дзеяньне. Як відаць з тэксту Закону аб рэфэрэндуме, у Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуме няма права займацца апэрацыямі аднімання. У артыкуле 13, частцы трэцяй, Закону аб рэфэрэндуме зьмяшчаецца імпэратыўнае ўказаньне аб тым, што парушэньне закону зьяўляецца падставай для адмоўнага рашэньня Камісіі па рэфэрэндуму. У яе няма права выбіраць, шмат парушэньняў або мала, тут або “так”, або “не». Кіруючыся законам, магло быць прынята адно рашэньне — пра адхіленьне.

…Такім чынам, паводле аднадушнага меркаваньня Камісіі па заканадаўстве, якая папярэдне разгледзела і тэзісы гэтага выступленьня, і яго асноўныя высновы, Вярхоўны Савет у дадзенай сытуацыі юрыдычна не зьвязаны з рашэньнем Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуме і, такім чынам, уся кампанія па зборы подпісаў, праведзеная Ініцыятыўнай групай, не зьяўляецца юрыдычным (падкрэсьліваю) фактам, зь якога для Вярхоўнага Савету могуць выцякаць якія-небудзь юрыдычныя правы ці абавязкі.

…Зыходзячы з таго, што юрыдычным фактам дзеяньні Цэнтральнай камісіі і Ініцыятыўнай

групы для Вярхоўнага Савету не зьяўляюцца, Вярхоўны Савет мае права і магчымасьць адхіліць прапанову аб рэфэрэндуме ў сувязі з парушэньнямі закону і не прымаць ніякіх іншых рашэньняў па дадзенай сытуацыі».

## Заблоцкі — Булахаву: «Гэта поўная непісьменнасьць»

Булахаў яшчэ ня скончыў свой выступ, а дэпутаты Апазыцыі БНФ ужо стаялі ля мікрафонаў.

Алег Трусаў (Апазыцыя БНФ): «Я хацеў бы ведаць, калі дэпутат Булахаў гаворыць ад імя камісіі, не зьбіраючы камісію, як ён часта гэта ўмее рабіць. А калі гэта ўсё ж такі рашэньне камісіі, то я патрабую, каб мы атрымалі пратаколы ўсіх пасяджэньняў камісій і Леўчыка, і Булахава, каб было ясна, ці гэта думка толькі Булахава ім узурпаваная, ці гэта рашэньне камісіі, у якім ёсьць галасаваньне. Таму што пытаньне вельмі важнае. Я ведаю, што частка дэпутатаў, якія зьяўляюцца членамі заканадаўчай камісіі, не запрашалася Булахавым на гэтую камісію».

Пытаньне сапраўды было важным — выглядала, што афіцыйнага пасяджэньня Камісіі па заканадаўстве не праводзілася, Булахаў рабіў даклад «ад сябе» — на што, канешне, меў права, але тады не павінен быў прадстаўляць свае аргумэнты як меркаваньне камісіі.

Дзьмітры Булахаў: «Што датычыцца запрашэньня на пасяджэньне камісіі. Інакш як праз аб’явы, якія робіць сакратарыят на гэтай сэсіі,

публічна зьбіраць членаў камісіі я ня маю магчымасьці. Непасрэдна падыходзіць да тых, хто ніколі не прысутнічае на пасяджэньнях камісіі, я ня толькі як чалавек, але і як старшыня камісіі не рабіў і рабіць ня буду. Ніякіх пэрсанальных запрашэньняў таксама ў нашай камісіі рабіць не прынята. Што датычыцца пасяджэньняў камісіі, дык тыя восем чалавек, якія прысутнічалі пры абмеркаваньні, знаходзяцца тут узалі. Калі ёсьць хто-небудзь, хто мае іншы пункт гледжаньня на пасяджэньне гэтай камісіі, я прасіў бы ўстаць».

Лявонцій Зданевіч (Апазыцыя БНФ): «Паважаны Дзьмітры Пятровіч, мяне вельмі ўразілі вашы словы пра канстатацыю з фальсыфікацыяй. Уразілі таму, што гэтая канстатацыя была зроблена на падставе візуальнага аналізу. Ці лічыце вы як юрыст дастатковым такі аналіз, каб рабіць такія высновы, якія вы зрабілі?»

Дзьмітры Булахаў: «Давайце мы з вамі зараз, каб далей не было гэтых спрэчак, абмяркуем такую пазыцыю. Ёсьць пытаньні па крымінальна-прававой тэматыцы, і калі мы кажам аб падробцы подпісаў, дык у крымінальным праве гэта адно. Другое — Закон аб рэфэрэндуме не акрэсьлівае нейкіх асобных патрабаваньняў для раскрыцьця паняцьця “грубае парушэньне закону». І каб адказаць на вашае пытаньне, я працытую заключэньне Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуме: “1. Почырказнаўчай экспэртызай, выкананай на даручэньне Цэнтральнай камісіі адпаведнай навукова-дасьледчай установай устаноўлена, што з 2372 лістоў, выбарачна перададзеных на экспэр-

тызу, у 1598 лістах, якія зьмяшчаюць 6991 подпіс грамадзянаў у падтрымку рэфэрэндуму, адной і той самай асобай за іншых грамадзян учынены па два і больш подпісы у кожным з гэтых лістоў. 2. Праверкай, якая праведзена шляхам асабовага апытаньня грамадзян, устаноўлена, што ў 20 лістах, якія зьмяшчаюць 68 подпісаў, па два і больш подпісаў з гэтых лістоў зроблена таксама адной і той самай асобай за іншых грамадзян. 3. 14 грамадзян, запісаных у падпісныя лісты рэфэрэндуму, свайго подпісу наогул не паставілі. 4. 5 грамадзян, якія паставілі свае подпісы, стала пражываюць па-за межамі Рэспублікі Беларусь" і гэтак далей. Усяго 13 пунктаў заключнага акту».

Уладзімер Заблоцкі (Апазыцыя БНФ): «Паважаны Дзмітры Пятровіч! Я думаю, што тую цытату, якую вы прывялі, можна выкарыстоўваць такім чынам, што канкрэтна можна казаць толькі аб дасьледаваньні 2100 подпісаў… Пашыраць гэтую неверагодную для мяне як для матэматыка статыстыку на ўсе сабраныя подпісы недапушчальна, таму што ў гэтым выпадку можна выключыць толькі тыя парушэньні, якія зафіксаваныя, але зрабіць статыстычную выснову — гэта поўная непісьменнасьць, прабачце».

Дзьмітры Булахаў: «Цалкам з вамі згодны, можна казаць аб тым, што выяўлена, і выяўлена гэта. Аднак я задаваў пытаньне старшыні Цэнтральнай камісіі. Спрабаваў ён хаця б распаўсюдзіць такую мэтадалёгію праверкі? Не, не спрабаваў — не было часу, не было сілаў, не было магчымасьцяў...».

Сяргей Навумчык (Апазыцыя БНФ): «Скажыце, калі ласка, падвяргаючы сумненьню тыя подпісы, па якіх ужо выказалася Цэнтральная камісія (і што не зьяўляецца адкрыцьцём Амэрыкі), ці падвяргаеце вы сумненьню тыя больш як 350 тысяч подпісаў грамадзянаў, якія выказалі сваю думку? Так ці не? Ці ёсьць у вас афіцыйныя (я падкрэсьліваю) юрыдычныя для гэтага падставы?»

Дзьмітры Булахаў: «Адказваю на ваша пытаньне часткай чацьвёртай артыкулу 11 Закону аб рэфэрэндуме, дзе гаворыцца, што незавераныя подпісы прызнаюцца несапраўднымі. А зараз цытата з заключнага акту Камісіі па рэфэрэндуму: “Ня лічачы, што шляхам пастаноўкі факсыміле свайго подпісу старшыня Ініцыятыўнай групы выканаў патрабаваньне ў законе аб зацьвярджэньні кожнага падпіснога ліста сваім подпісам, аднак...” Але вось калі “аднак”, то гэта я называю з пункту погляду юрыста фокусам, а не юрыспрудэнцыяй. Гэта ўжо палітыка, і мае права ставіць такую коску толькі Вярхоўны Савет, а не Цэнтральная камісія».

Далей пачалі задаваць пытаньні прадстаўнікі дэпутацкай большасьці — канешне, з мэтай падкрэсьліць няслушнасьць пазыцыі прыхільнікаў рэфэрэндуму.

Да мікрафона падышоў старшыня Сьветлагорскага гарсавету Аляксандар Якабсон, пазьней, пры Лукашэнку, пасьлядоўна — старшыня Гомельскага гарвыканкаму, старшыня Гомельскага аблвыканкаму і, нарэшце, старшыня Камітэту

дзяржаўнага кантролю краіны. Кантраляваць разьмеркаваньне сродкаў і падлічваць, як вынікае з выступу, ён быў здольны ўжо тады).

Аляксандар Якабсон: «Дзьмітры Пятровіч! Вы пазначылі сваёй інфармацыяй суму матэрыяльных выдаткаў на правядзеньне рэфэрэндуму — 495 мільёнаў рублёў. Я хацеў бы ўдакладніць. Мэханізм гэтага падліку заставаўся такім самым, як і ў ранейшыя часы, калі мы праводзілі выбары, ці вы ўсё ж улічваеце, што ў сёньняшніх умовах, будзем прама казаць, на грамадзкіх пачатках, як гэта было ў ранейшыя гады, усе выбарчыя камісіі ўжо працаваць ня будуць? Па маіх падліках гэтую лічбу па меншай меры трэба патроіць».

Дзьмітры Булахаў: «Я не гатовы адказаць на пытаньне аб мэханізьме падліку. Я карыстаюся толькі канчатковай сумай па стане на 1 верасьня 1992 году, якую ў сваіх разьліках прапаноўвала Цэнтральная камісія па рэфэрэндуме».

Старшыня Апазыцыі БНФ вярнуўся да ключавога аргумэнту ў выступе Булахава.

Зянон Пазьняк: «Шаноўны дэпутат Булахаў! Вы, спасылаючыся на заключэньне, тэкст якога ў вас на руках, сказалі, што Цэнтральнай камісіяй па рэфэрэндуме выяўлены факт падробкі подпісаў. Я прашу вас зачытаць гэтае месца, дзе напісана аб факце падробкі подпісаў, заключэньне. Прашу вас зачытаць».

Дзьмітры Булахаў: «Шаноўны дэпутат Пазьняк, на жаль, нічога новага ў сваім пытаньні вы не паднялі. Я цытаваў першы пункт заключэньня

Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуме. Гэта мой адказ».

Іншым адказ быць і ня мог — слова «фальсыфікацыя» ў заключэньні ЦВК не было.

## Старшыня ЦВК: У нас сумленьне чыстае, а рашэньне — за вамі

Потым слова было дадзена старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі Аляксандру Абрамовічу. Ён зрабіў прапанову з улікам таго, што Вярхоўны Савет зацягнуў разгляд пытаньня аб рэфэрэндуме і на правядзеньне выбараў увосень 1992 году, як прапаноўвалася ініцыятарамі, часу не заставалася.

Аляксандар Абрамовіч: «На вялікі жаль, я сёньня не магу канстатаваць, што тая фармулёўка пытаньня, якая была вынесена на рэфэрэндум, поўнасьцю адпавядае патрабаваньням часткі 4 артыкулу 10 Закону аб рэфэрэндуме, дзе гаворыцца, што пытаньне павінна быць сфармулявана Ініцыятыўнай групай дакладна і ясна, каб на яго быў магчымы адназначны адказ. Тым ня менш пытаньне было пастаўлена, і сёньня трэба шукаць рашэньне, каб атрымаць гэты адназначны адказ, калі рэфэрэндум усё ж ці будзе прызначаны ці не, бо гэта справа Вярхоўнага Савету.

Тэкст праекту рашэньня мог бы быць наступны: “Прыняць закон аб выбарах, прапанаваны БНФ, і правесьці чарговыя выбары ў Вярхоўны Савет 7 траўня 1993 году». Гэта той мінімальны тэрмін, які можа наступіць, калі будзе дадзены, скажам,

становучы адказ на пытаньне рэфэрэндуму. Канешне, прымаць законы шляхам рэфэрэндуму, не абмеркаваўшы іх у парлямэнце, справа, мякка кажучы, ня зь лепшых. Але аб гэтым, паважаныя народныя дэпутаты, трэба было думаць, прымаючы Закон аб рэфэрэндуме, які не забараняе такі шлях прыняцьця законаў. Другое. Адносна пастаўленага пытаньня — яго адпаведнасьць патрабаваньням Канстытуцыі. Згодна з артыкулам 172 зьмяненьне Канстытуцыі праводзіцца рашэньнем Вярхоўнага Савету. Але з Закону аб рэфэрэндуме вынікае, што на рэфэрэндум могуць выносіцца і разглядацца пытаньні, прымацца рашэньні аб прыняцьці і зьмяненьні Канстытуцыі (артыкул 36, частка трэцяя), якія і лічацца прынятымі, калі за такія зьмяненьні прагаласавала больш за дзьве трэці грамадзян, унесеных у сьпісы для галасаваньня (ня тых, што прынялі ўдзел, падкрэсьліваю, а ўнесеных у сьпісы), што мае месца і ў нашым выпадку. Такім чынам, у наяўнасьці была калізія нормаў Канстытуцыі і Закону аб рэфэрэндуме, аб чым паведаміла ў сваім заключэньні Камісія па заканадаўстве і па пытаньнях работы саветаў Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуме.

Было зарэгістравана, зыходзячы з артыкулу 2 Канстытуцыі аб паўнаўладзьдзі народу і зыходзячы з таго, што найбольш важныя пытаньні выносяцца на ўсенароднае галасаваньне — рэфэрэндум...

Таму мне сёньня крыху дзіўна бачыць праект пастановы, у якой прызнаецца неабходным не



У Авальнай залі.

прызначаць правядзеньне рэфэрэндуму. Чаму? Калі было вынесена канстытуцыйнае пытаньне, якое, на думку паважаных пастаянных камісій і іх прадстаўнікоў, нельга было выносіць на рэфэрэндум, то чаму, калі не пачаўся яшчэ збор подпісаў, не было адменена гэтае рашэньне Цэнтральнай камісіі? Фактычна не адмяніўшы гэтага рашэньня Цэнтральнай камісіі, якое вынікала з калізій нормаў фактычна двух законаў, тым самым было санкцыянавана дадзенае рашэньне і нададзеная яму роля крыніцы права.

…У працэсе збору подпісаў узьнік цэлы шэраг праблем, якія як і папярэднія, у многім узьнікалі з прычыны недакладнасьці і супярэчнасьцяў тых або іншых нормаў Закону аб рэфэрэндуме.

Яшчэ горшая сытуацыя склалася з патрабаваньнем часткі трэцяй артыкулу 11 Закону аб тым, што кожны падпісны ліст павінен быць завераны ня толькі членам Ініцыятыўнай групы, але і старшынём. Паколькі член Ініцыятыўнай групы сам зьбірае подпісы грамадзян, то ніякіх праблем засьведчаньня яго асабістага подпісу не было. А вось адзіны на ўсю Ініцыятыўную групу па рэспубліцы старшыня фактычна ня мог заверыць уласным подпісам усе 125 тысяч падпісных лістоў. І, канешне, ён ня мог замест падпісных лістоў утвараць нейкія папірусы кшталту цэлай абоймы шпалераў. Такім чынам, у законе была закладзена працэсуальная норма, якая або заведама, або ненаўмысна была немагчымая для выкананьня адпаведных нормаў матэрыяльнага права, нормаў, якія даюць права грамадзянам на ўдзел у дзяржаўным і грамадзкім жыцьці шляхам выказваньня сваёй волі пры правядзеньні рэфэрэндумаў».

Тут спыню цытаваньне. Як бачна, нават высокакваліфікаваны юрыст, доктар навук, прафэсар прызнаў наяўнасьць у законе нормы, выканаць якую было заведама немагчыма. Паказальнае і выказанае Абрамовічам меркаваньне, што гэтае палажэньне магло быць закладзена наўмысна.

Далей старшыня ЦВК сказаў пра праверку падпісных лістоў.

Аляксандар Абрамовіч: «Я бачу, што тут ставяцца нейкія пытаньні, нейкія кантэксты. Я разумею тую псыхалягічную сытуацыю, у якой знаходзяцца паважаныя члены Вярхоўнага Са-

вету, нашы народныя дэпутаты. Канешне, пытаньне накіравана супраць большасьці членаў Вярхоўнага Савету. Каму гэта можа быць даспадобы? Тым ня менш, прашу прабачэньня, я хачу сказаць: праверку падпісных лістоў Цэнтральная камісія правяла з усёй неабходнай дакладнасьцю і з усёй той паўнатой, якой патрабуе закон (курсіў мой — С.Н.). У прыватнасьці, Цэнтральная камісія праверыла кожны падпісны ліст, а ня толькі тыя 2372 лісты, якія былі перададзены на почырказнаўчую экспэртызу. Пры праверцы ўсіх падпісных лістоў выяўлялася адпаведнасьць кожнага ліста і подпісу такім патрабаваньням закону, як наяўнасьць у іх прозьвішча, імя і імя па бацьку, подпісаў членаў Ініцыятыўнай групы, месца жыхарства, даты нараджэньня, даты падпісаньня ліста, нумару і рэквізытаў пашпарта і гэтак далей… У выніку было выяўлена, што з агульнай колькасьці 446 061 сабраных подпісаў 51 363 подпісы былі прызнаныя Цэнтральнай камісіяй як аформленыя з рознымі адступленьнямі. І ці мы можам тут сказаць пра 67 працэнтаў (працэнты нібыта сфальшаваных подпісаў, пра якія заявіў Булахаў — С.Н.), калі, скажам, грамадзянін замест «Іваноў Іван Іванавіч» напісаў «Іваноў Іван І.»? Канешне, гэта былі недакладнасьці ў выкананьні закону і яны Цэнтральнай камісіяй шляхам скрупулёзнага аналізу выяўляліся і фактычна выводзіліся за рамкі агульнага падліку.

Аднак, на вялікі жаль, пры праверцы падпісных лістоў выявілася таксама, што ў шэрагу зь іх, а менавіта ў 2370 лістах утрымліваюцца па

два, а ў асобных выпадках і болей подпісаў, якія маюць значнае падабенства. Гэта было выяўлена шляхам уважлівага назіраньня і вывучэньня ўсіх падпісных лістоў. Таму былі ўзяты подпісы ня скопам, а толькі тыя, якія былі адобраныя папярэдняй, калі можна так сказаць, экспэртызай. Была арганізаваная дадатковая праверка гэтых лістоў з выездам членаў камісіі ў Віцебск, Баранавічы, Магілёў, Барысаў і па горадзе Менску. Але справа паказала, што мэтад праверкі заснаваны на асабістым апытаньні грамадзянаў, якія падпісалі лісты, хоць і надзейны, але марудны. Такім чынам удалося праверыць толькі каля 80 подпісаў грамадзянаў, зь якіх выявілася, што 20 былі зробленыя той самай асобай. Таму і было вырашана астатнія 2372 лісты, што выклікалі ў членаў камісіі, калі можна так сказаць, неабходнасьць у дадатковай упэўненасьці, перадаць на почырказнаўчую экспэртызу. Яна паказала, што камісія амаль не памылялася, бо ў 1598 лістах было па 2 і больш подпісаў, зробленых адной асобай. Але згодна з патрабаваньнямі часткі чацьвёртай артыкулу 11 Закону, былі прызнаны несапраўднымі ня толькі гэтыя тры зь нечым тысячы подпісаў, якія былі ўчыненыя адной асобай, а ўсе амаль 7 тысяч подпісаў, якія ўтрымліваліся ў такіх падпісных лістах. Такім чынам, фактычна зь яўнымі парушэньнямі патрабаваньняў Закону аб рэфэрэндуме была колькасьць падпісных лістоў і подпісаў меншая, чым адзін працэнт ад агульнай колькасьці сабраных подпісаў.

Менавіта гэтую прыблізную лічбу трэба браць пры ацэнцы агульнай сытуацыі. А не ствараць уражаньне, што ўсе подпісы сабраны, як тут казалася, злодзеямі (ці я ня так зразумеў, магчыма). Парушэньні парушэньням розьніца, і гэтага нельга не ўлічваць, калі быць добрасумленным і аб'ектыўным...

Паважаны наш асноўны дакладчык! (Дзьмітры Булахаў — С.Н.) Калі ўжо Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету даручыў вам падрыхтаваць пытаньне амаль паўгода назад, дык падпісныя лісты (я адказваю і на запыт некаторых народных дэпутатаў) ужо амаль паўгода як перададзеныя ў Вярхоўны Савет. А за гэты час можна было б ня толькі гэтыя 2 тысячы на почырказнаўчую экспэртызу накіраваць, а яшчэ тысяч пяць праверыць... (Шум у залі).

Адносна складу Цэнтральнай камісіі і што тычыцца непасрэдна мяне. Я падзяляю ўсю адказнасьць, якую нясе Цэнтральная камісія за прынятае рашэньне, і нягледзячы на тое, што, магчыма, некаторыя пункты гэтага заключэньня пададуцца спрэчнымі, тым ня менш я лічу, што члены Цэнтральнай камісіі, якія шмат кім тут на папярэднім пасяджэньні абзываліся партакратамі і гэтак далей, добрасумленна выканалі свой абавязак, глыбока ўнікклі ў зьмест законаў.

Я мяркую так: мы добрасумленна выканалі свой абавязак, які вынікае з патрабаваньняў закону, і як бы там ні было, у нас сумленьне застаецца перад вамі чыстым, паважаныя народныя дэпутаты. А рашэньне за вамі».

На гэтым паседжаньне сэсіі 27 кастрычніка скончылася, на другі дзень разгляд пытаньня пра рэфэрэндум пачаўся з адказаў старшыні ЦВК на пытаньні дэпутатаў.

## «ЦВК прыняла прававое рашэньне»

Іван Герасюк: «Ці можаце вы ад імя камісіі заявіць з усёй адказнасьцю перад беларускім народам, што 350 тысяч і адзін подпіс, неабходныя для прызначэньня рэфэрэндуму, сабраныя бездакорна і ў поўнай адпаведнасьці з нашым заканадаўствам?»

Аляксандар Абрамовіч: «Паколькі гэтае пытаньне будзе задавацца і іншымі дэпутатамі, я магу вам адказаць на яго наступным чынам: каля 380 тысяч подпісаў, дакладней 383 тысячы подпісаў, сабраныя з усімі неабходнымі патрабаваньнямі, якія прад'яўляе ўвесь дух і ўвесь сэнс Закону аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме). І мы таму прынялі такое рашэньне, зыходзячы менавіта з гэтага і менавіта з адказнасьцю перад беларускім народам».

Лявон Баршчэўскі (Апазыцыя БНФ): «Ці тыя заўвагі, якія адносіліся да недакладнага выкананьня закону, адносяцца да подпісаў звыш гэтых 384 тысяч ці да гэтых 384 тысяч?»

Аляксандар Абрамовіч: «Адказваю вам адназначна і каратка. Яны перавышаюць лічбу 383 тысячы. І менавіта кваліфікуюцца як сапраўды недакладнасьці».

Міхаіл Качан (дэпутат ад вэтэранскай арганізацыі): «Скажыце, калі ласка, якое рашэньне прыняла Цэнтральная выбарчая камісія: прававое ці палітычнае?»

Аляксандар Абрамовіч: «Камісія прыняла толькі і толькі прававое рашэньне, зыходзячы з сучаснага разуменьня права, якое зьяўляецца і выразам агульнай волі. А, скажам, не палітычнае».

Алег Трусаў: «Ці лічыце вы грубым парушэньнем закону або проста парушэньнем закону той ціск, які на вас пэрсанальна і на камісію вашу рабіў дэпутат Булахаў як старшыня камісіі, дэпутат Леўчык, Вярхоўны Савет і тыя выказваньні нашага паважанага старшыні, што гэтая камісія нікчэмная, што там партапаратчыкі, што яе трэба разагнаць? Як вы лічыце, парушэньне гэта закону з боку гэтых асоб ці не?»

Аляксандар Абрамовіч: «Паважаны народны дэпутат Трусаў! Я не лічу гэта парушэньнем патрабаваньняў закону, скажам так. Але я гэта лічу, як кажуць, амаль такім непрымальным з пункту гледжаньня нармальнай чалавечай этыкі, і мне незразумелыя такія паводзіны, якія грунтуюцца на нейкіх банапартысцкіх, даруйце, замашках».

Тацяна Анісенка: «Ці лічыце вы як юрыст, як старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі, парушаны вамі закон або не? Толькі я прашу не даваць вялікіх камэнтароў. Адкажыце, парушаны закон або не?»

Аляксандар Абрамовіч: «Адказваю вам з усёй шчырасьцю на гэтае пытаньне. Я лічу, што Цэнтральная камісія выканала патрабаваньні, якія вынікаюць з духу закону і закон не парушыла».

Барыс Гец (дэпутат ад вэтэранскай арганізацыі, генэрал-маёр, герой Савецкага Саюзу): «Ці можаце вы як старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі адказаць, што ўсе 380 тысяч подпісаў, якія вы назвалі... адпавядаюць рэчаіснасьці, няма тых самых парушэньняў, якія вы зафіксавалі ў сваім дакумэнце? Толькі коратка: так або не?»

Аляксандар Абрамовіч: «Коратка адказаць не магу. Я адкажу, што патрабаваньні прад'яўленыя ў адпаведнасьці з законам, усе гэтыя подпісы адпавядаюць рэчаіснасьці, што і ўстанавіла камісія на сваім пасяджэньні».

Герард Сівіцкі: «Тыя падпісныя лісты, якія вы прызналі сапраўднымі, дзе 380 тысяч подпісаў, завераныя і падпісаныя старшынём Ініцыятыўнай групы або стаіць там такое самае факсыміле, як і тут?»

Аляксандар Абрамовіч: «На падпісных лістах стаіць факсыміле подпісу старшыні Ініцыятыўнай групы, ёсьць узор ягонага асабістага подпісу, які сьведчыць, што ідэнтычны подпіс на ўсіх астатніх лістах».

Віктар Какоўка (Апазыцыя БНФ): «Улічваючы тое, што ў праверцы ўсіх дакумэнтаў удзельнічалі работнікі ня толькі выбарчай камісіі, але і Саўміну і Вярхоўнага Савету, гэта значыць, была вельмі старанная праверка, і зацікаўленая, можна сказаць, у мяне канкрэтнае пытаньне: распачы-

налася ці хоць адна канкрэтная крымінальная справа па падробцы подпісаў (я маю на ўвазе тыя, якія проста не ўлічылі, звыш 380 тысяч) або не?»

Аляксандар Абрамовіч: «Толькі па адным факце ў Крычаўскую раённую пракуратуру была накіравана справа… Учора ў дакладзе папярэдняга прамоўцы (Булахава — С.Н.) прагучала слова "падробка". Але вы паглядзіце, што ў шэрагу лістоў два і больш подпісаў пастаўленыя адной асобай. Я ведаю, гэта таксама многім не спадабаецца. Але я абавязаны сказаць з усёй шчырасьцю, падабаецца ці не падабаецца гэта нам, што ў нас склалася такая палітычная культура, калі муж падпісвае за жонку, а жонка падпісвае за мужа. Праверкай высьветлена. Да прыкладу, гаварылася: "Гэты подпіс ня мой». — "Але вы не пярэчыце, што муж падпісаў?" — "Не". Таму якое рашэньне тут? Ня трэба сьмяяцца і ня трэба судзіць. На гэты конт ёсьць норма закону, якая выразна кажа, што рабіць у такім выпадку. У такім выпадку прымаецца рашэньне не аб забароне рэфэрэндуму, а аб тым, што лісты, у якіх утрымліваюцца подпісы такога кшталту (усе лісты і ўсе іншыя подпісы, у тым ліку і сапраўдныя), прызнаюцца несапраўднымі. І такім чынам камісія паступіла, выключыла іх на падставе патрабаваньня закону… Тут можна правесьці аналёгію. Прабачце мне за крыху неафіцыйны ўзровень, але ён часам таксама неабходны. Да прыкладу, стаіць машына ня там, дзе трэба. Парушаныя правілы руху. Значыць, магчымыя дзьве высновы. Паводле лёгікі, скажам, першага

дакладу (Булахава — С.Н.), трэба забраць правы, забраць машыну і не вяртаць яе. А паводле лёгікі закону — пакараць чалавека толькі за дадзенае парушэньне».

Такім чынам, і з дакладу, і з адказаў на пытаньні старшыні ЦВК вынікала, што, за выключэньнем падпісных лістоў, па якіх узьніклі пытаньні, неабходная для правядзеньня рэфэрэндуму колькасьць подпісаў сабраная.

«Той, хто заклікае вас прыняць сёньня, прама скажам, не зусім прававое рашэньне, ён робіць вам мядзьведжую паслугу. Я прашу вас падумаць пра гэта», — сказаў у канцы Абрамовіч.

Пазыцыя Абрамовіча раззлавала старшыню Камісіі па дзяржаўным будаўніцтве Ўладзімера Леўчыка, які заявіў, што «тое тлумачэньне, якое даў найвышэйшаму органу дзяржаўнай улады юрыст з такой адукацыяй», дае падставу «разгледзець пытаньне аб рэфэрэндуме ў кантэксьце аб даверы старшыні Цэнтральнай выбарчай камісіі» і «даручыць старшыні Вярхоўнага Савету скарыстацца сваім канстытуцыйным правам і прапанаваць новую кандыдатуру на гэтую пасаду».

Шушкевіч зрэагаваў адразу: «Не, ужо тут вы мне прабачце, шаноўны Уладзімер Канстанцінавіч. Я гэтага не зраблю. І карыстайцеся вы вашым канстытуцыйным правам як старшыня камісіі. Бо я лічу так, што юрыст ён ня горшы за вас, прабачце. (Апладысмэнты). І ня трэба тут судзілішча ладзіць».

Ніякім юрыстам Леўчык, канешне, ня быў — скончыў наргас і Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС, працаваў першым сакратаром райкаму, затым першым намесьнікам Гомельскага аблвыканкаму. Увогуле, да вядзеньня Шушкевічам пасяджэньня, на якім разглядалася пытаньне аб рэфэрэндуме, прэтэнзіяў не было: вёў ён яе дэмакратычна і ў адпаведнасьці з рэглямэнтам. Усё, што можна было зрабіць супраць рэфэрэндуму, Станіслаў Станіслававіч зрабіў да сэсіі.

Ізноў прагучала прапанова даць слова старшыні Ініцыятыўнай групы — і зноў яна не набрала належнай колькасьці галасоў («за» выказалася толькі 127 дэпутатаў пры 173 неабходных).

Далей пачаліся выступы з трыбуны.

Лявон Баршчэўскі (Апазыцыя БНФ): «Рашэньне Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуме ад 12 траўня зафіксавала, што больш як 350 тысячамі грамадзянаў Беларусі, якія маюць права голасу, без парушэньня Закону аб народным галасаваньні, у адпаведнасьці з артыкулам 5 дзеючай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь праяўлена ініцыятыва правядзеньня рэспубліканскага абавязковага рэфэрэндуму зь вядомай вам фармулёўкай. Гэтае рашэньне далося Цэнтральнай выбарчай камісіі, удзел у фармаваньні якой вы прымалі, нялёгка. На працягу месяца, як гэта вызначана Законам, камісія штодня займалася праверкай падпісных лістоў, пададзеных ва ўстаноўленым парадку і аформленых у вызначаны тэрмін. 49 супрацоўнікаў апарату Вярхоўнага Савету і Саўміну, што, на наш погляд, не адпавядае За-



Выступае Лявон Баршчэўскі.

кону, перабіралі і трымалі ў руках кожны ліст. Тыя зь лістоў, якія маглі выклікаць хоць нейкае падазрэньне з боку правяральнікаў, адкладаліся ў бок. Усяго такіх лістоў з 125 931 набралася 2 372. Недакладнасьці былі ўстаноўленыя далёка не ва ўсіх гэтых лістах, а толькі ў 1598. Паўтараю, недакладнасьці, а ня грубыя парушэньні, бо, наколькі мне вядома, ад сваіх подпісаў практычна ніхто з правераных не адмовіўся… Калі й былі якія парушэньні закону, дык толькі з боку Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуме. Напрыклад, накіроўваць чые б там ні было подпісы на графалягічную экспэртызу без завядзеньня ва ўстаноўленым парадку справы законам забаронена… Факт ёсьць факт. Група грамадзянаў у колькасьці больш за вызначаныя законам 350 тысяч выказала сваю волю на правядзеньне ўсерэспубліканскага рэфэрэндуму з фармулёўкай, пад якой гэтыя гра-

мадзяне сьвядома расьпісаліся. Калі Вярхоўны Савет праігнаруе гэтую волю людзей, сярод якіх нямала выбаршчыкаў кожнага з вас (маіх, напрыклад, больш за паўтары тысячы), ён такім чынам груба парушыць артыкулы 2 і 5 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, асноўныя правы чалавека на свабоднае выяўленьне і прыняты ім самім жа Закон аб народным галасаваньні — рэфэрэндуме. Гэта будзе азначаць, што Вярхоўны Савет утрымлівае ўладу далей незаконным чынам. Удзельнічаць у працы сэсіі і пасяджэньнях органаў такога Вярхоўнага Савету, які дзейнічае незаконным чынам, асабіста я не зьбіраюся і да складаньня свайго мандату народнага дэпутата пакіну за сабой права давесьці да канца выкананьне просьбаў, наказаў сваіх выбаршчыкаў, пры неабходнасьці ўдзельнічаючы ў слуханьні разьдзелу “Рознае”. Большасьць з вас тут спадзяецца, напэўна, на новы ціхі або гучны нэакамуністычны путч. Ну, што ж, другі раз, спадары перафарбаваныя, палінялыя камуністы і купленыя вамі падпявалы, давядзецца вам атрымаць па зубах. Так, як гэта было ў незабыўным леташнім жніўні (Шум у залі)… Бо вас гісторыя, якой вы ўвесь час пагарджаеце, так нічому і не навучыла. Дзякуй за ўвагу».

Шушкевіч: «Леанід Пятровіч! Я мушу вам зрабіць заўвагу за неэтычныя паводзіны на трыбуне. Я вас папярэджваю».

## Лукашэнка: «Мы зьнішчылі дзяржаву, хай імпэрыю»

Наступную прамову давядзецца даць амаль цалкам — занадта ўжо значную ролю адыграе аратар у лёсе Беларусі. Тым больш, што выступ тычыўся ня толькі рэфэрэндуму, але і ўтрымліваў праграмныя палажэньні, якімі ўлада будзе кіравацца цягам дзесяцігодзьдзяў.

Аляксандар Лукашэнка: «Можа быць, камусьці не падабаюцца мае выступы, можа быць, сапраўды, папахвае правінцыялізмам, можа быць. Але мушу вам у сувязі з гэтым сказаць адназначна наступнае, што правінцыя хутка пра сябе заявіць у добрым сэнсе слова. Яна ня будзе ні карміць, ні цярпець мудрагелістых палітыкаў, нават калі яны сталічныя... Давайце зазірнем тэлеграфным спосабам у мінулае. Што ж мы зрабілі? Першае. Сілавым шляхам мы стварылі той урад, які сёньня б’ем зьлева і справа. Успомніце, як гэта было. Сілавым мэтадам мы адціснулі тых, хто сёньня знаходзіцца ў апазыцыі (меліся на ўвазе камуністы — С.Н.). Няўжо трэба шмат розуму, каб сёньня зразумець, што мы дапусьцілі вельмі грубую памылку. Другое. 80 працэнтаў прыкладна камуністаў у Вярхоўным Савеце. Гэтыя 80 працэнтаў загубілі ўласную партыю. Тую, якая прывяла многіх да ўлады. І загубілі тыя, што былі доўгі час ля яе “кармушкі”. Я не кажу пра тое, дрэнная яна ці добрая. Але факт застаецца фактам. Трэцяе. Мы зьнішчылі дзяржаву, хай імпэрыю. А незалежнай і сувэрэннай дзяржавы

мы не стварылі. І нават не пайшлі да таго, каб яе ствараць… Нас можа суцяшаць, як кажа Леанід Сініцын, што “лякаматывам” тут была Расея, Украіна, што мы былі “вагонамі”, што ня мы ў “топку” кідалі гэты “вугаль”. Але калі гэта нас суцяшае — калі ласка».

Пазыцыя, як бачым, выказаная адназначна: распад СССР («імпэрыі») — зло.

Далей Лукашэнка канкрэтызаваў, у чым гэтае зло палягае: «Мы развалілі эканоміку, парушыўшы ўсякія міждзяржаўныя сувязі паміж прадпрыемствамі і рэспублікамі. Мы на кавалкі парэзалі войска, мы вайскоўцаў зрабілі жабракамі. А цяпер кажам ім “давай прысягу”. Пытаньне, каму прысягаць і за што?»

Фармулюючы тэму гэткім чынам (не «каму» даваць прысягу, а «за што?» — маўляў, за якія даброты), Лукашэнка салідарызаваўся з тымі праімпэрскімі вайскоўцамі, якія адмаўляліся прысягаць на вернасьць Беларусі.

«Праблема Чарнобылю для многіх з нас зьявілася “казырнай картай” у палітычных амбіцыях, — працягваў Лукашэнка. — Гэта таксама факт, і факт дзейнасьці нашага Вярхоўнага Савету і гэтак далей, і таму падобнае. Мы абсалютна правільна вызначылі стратэгію руху нашага грамадзтва, але мы спрэс і беспардонна ігнаравалі тактыку. Мы забыліся пра тое, што “лякаматывам” як раз у руху да стратэгіі павінен быць народ, наш выбаршчык перш за ўсё. Мы пра яго забыліся. Я калісьці, выступаючы тут, казаў аб стратэгіі, што герб, сьцяг — гэта добра,

але патрэбныя хлеб і малако, бязь іх мы нічога ня зробім. Многія народныя дэпутаты, і вы іх ведаеце, мяне потым "зьбівалі" і вельмі моцна. Выявілася, сапраўды, хлеб і малако адыгралі сваю ролю. І ўжо сёньня пад чырвонымі, на жаль, для кагосьці, сьцягамі зьбіраецца больш людзей, чым пад дзяржаўнымі сьцягамі...»

У гэтым пасажы паказальна, што ў самога Лукашэнкі не выклікала занепакоенасьці гуртаваньне пад чырвонымі сьцягамі (гэта для «кагосьці» было «на жаль»), а па-другое, ён сказаў няпраўду: у 1992 годзе колькасьць камуністаў, якія выходзілі пад сьцягамі СССР і БССР , была значна меншая, чым колькасьць актывістаў БНФ, ня кажучы ўжо пра тое, што бел-чырвона-белы сьцяг быў дзяржаўным.

Далей у выступе Лукашэнкі прагучала слова, якое ў наступным годзе зробіцца лейтматывам ягонай дзейнасьці — «мафія».

«Што мы маем у выніку дзейнасьці цяперашняга Вярхоўнага Савету? Некіраванае грамадзтва. Камусьці, мабыць, гэта выгадна. Другое. Карупцыю ўлады зьверху данізу. І як вынік — безуладзьдзе, мафія. Кажуць многія дэпутаты, трэба пацярпець, пакуль гэтая мафія сама сябе, "як тоўсты кот, ня зьесьць", але ўся бяда ў тым, што мафія сама сябе не "зьядае". Прабачце, як у народзе яшчэ кажуць, — мафія несьмяротная, але змагацца зь ёй трэба. Спроба падзяліць тое, што не належыць толькі нам, мы яшчэ падыдзем да гэтага, і мы гэта абазвалі "прыватызацыяй", не параіўшыся з народам. Забыцьцё ўсялякіх

мікраэканамічных праблем, усе ў нас тэарэтыкі і “выкладчыкі”... мы народ распранулі, мы яго разулі, мы яго паставілі перад фактам дзікіх цэнаў. Мы практычна зьнялі перад ім усялякую абарону, якая хоць і была невялікая ў тыя партакратычныя часы... Мы ня можам называць сябе найвышэйшым заканадаўчым органам, таму што мы ператварыліся ў прыдатак бесталкова працуючага ўраду».

У апошнім Лукашэнка меў рацыю — урад цалкам кантраляваў парлямэнцкую большасьць.

«Я быў праціўнікам збору подпісаў за рэфэрэндум. Асабліва тымі, хто ня ў меншай меры вінаваты ў тым, што мы сёньня маем...» — тут, трэба думаць, Лукашэнка меў на ўвазе намаганьні БНФ у справе дасягненьня незалежнасьці Беларусі.

А далей Лукашэнка прадэманстраваў характэрную для ягоных дэпутацкіх выступаў уласьцівасьць: супярэчлівасьць уласных заяваў: «Я лічу абсалютна абсурдным прапанову Ініцыятыўнай групы і іх пытаньне. Я яшчэ раз кажу, я не ўваходжу ў юрыдычнае вызначэньне гэтага. Я за рэфэрэндум. За рэфэрэндум, які прызначыць Вярхоўны Савет. Хай рэфэрэндум у пляне зь іншымі пытаньнямі па Канстытуцыі, за які народ павінен сказаць “так” або “не»».

Такім чынам, і супраць рэфэрэндуму — і за яго. Кожны можа зразумець, як хоча. Але з улікам згадкі пра Канстытуцыю і будучых падзеяў даводзіцца меркаваць, што пад рэфэрэндумам, за які ён выступае, Лукашэнка меў на ўвазе рэфэрэндум па ўвядзеньні прэзыдэнцтва і двухмоўі.

Толькі казаць пра свае прэзыдэнцкія амбіцыі ён палічыў заўчасным.

## «Давайце грошы на рэфэрэндум накіруем хворым»

Адразу пасьля Лукашэнкі давялося выступаць мне.

Сяргей Навумчык: «…Нагадаю, што ідэя праведзеньня рэфэрэндуму высьпела пасьля таго, як стала відавочна, што цяперашні Вярхоўны Савет ня ў поўным сэнсе адпавядае той сытуацыі, якая склалася ў нашым грамадзтве. А таксама яшчэ і пасьля таго, як Вярхоўны Савет адхіліў прапанову апазыцыі стварыць прафэсійны рабочы орган Вярхоўнага Савету з заканадаўчымі функцыямі… Шаноўныя калегі, мы з вамі дарэмна спрачаемся. Рашэньне аб рэфэрэндуме прынята самім фактам наяўнасьці волевыяўленьня больш як 350 тысяч грамадзян Беларусі. Скажу болей. Нават калі б Ініцыятыўная група зь нейкіх прычынаў адмовілася ад рэфэрэндуму і пажадала даць “задні ход”, гэта ўжо ніякім чынам не зьмяніла б хаду падзеяў, паколькі не БНФ, не апазыцыя, а менавіта 383 тысячы грамадзянаў выступаюць суб’ектам ініцыятывы… Я хацеў бы спыніцца і на палітычных наступствах рэфэрэндуму. Нас пужаюць гэтымі вынікамі, заяўляючы, што яны прывядуць да ахлякратыі. Якраз не. Тыя больш як 400 тысяч людзей, якія паставілі свае подпісы, абралі якраз шлях закону, шлях выкананьня Канстытуцыі. Наш народ, шаноўныя калегі, куды



Шаноўны Старшыня,
паважаныя дэпутаты.

Мне вельмі шкада, што большасць дэпутатаў не пажадала даць слова Старшыні ініцыятыўнай групы.

Нагадаю, што ~~прапанова~~ ідэя правядзення рэферэндума ўзнікла пасля таго, як стала відавочна, што цяперашні Вярхоўны Савет не ў ~~стане адэкватна~~ поўнай меры адлюстроўвае тую сітуацыю, якая склалася ў грамадстве.

Нагадаю таксама, што ў час збору подпісаў ініцыятыўная група сутыкнулася з супрацьдзеяннем як цэнтральных, так і мясцовых органаў улады.

Шкада, што ні Прэзідыум Вярхоўнага Савета, ні Старшыня Камісіі па заканадаўству не выступілі ў той час гарантамі беззаганнага выканання Закона аб рэферэндуме.

Тым не менш, 446.601 т. подпісаў былі сабраныя, перададзеныя ў ЦВК, і ўжо пачынаючы з 11 мая, калі Пастанова

ЦВК была перададзена ў ВС, ~~парламент~~ у парламента было амаль паўгода, каб прыняць рашэнне. Але Верх. Савет гэтага не зрабіў.

Шаноўныя дэпутаты,

Тэкст выступу Сяргея Навумчыка на сэсіі 28 кастрычніка 1992 г.

больш разумны, чым многім з нас уяўляецца. І ён здольны сфармаваць зноў прафэсійны парлямэнт. Давайце ня будзем думаць, што калі большасьць з нас ня будзе абраная, то новы парлямэнт будзе горшы. Не, ён будзе ня горшы ўжо хаця б таму, што ў ім будуць працаваць на прафэсійнай ас-

нове прадстаўнікі дэмакратычных партый, прадстаўнікі ўвогуле партый і грамадзка-палітычных рухаў… Апазыцыя прапануе Вярхоўнаму Савету ў адпаведнасьці з артыкулам 14 Закону аб рэфэрэндуме прызначыць рэспубліканскі рэфэрэндум на нядзелю 6 сьнежня гэтага году з той фармулёўкай пытаньня, за якую выказалася амаль паўмільёна грамадзянаў».

Гэта была кансалідаваная прапанова апазыцыі — каб на рэфэрэндуме народ выказаўся «за» або «супраць» датэрміновых выбараў менавіта паводле распрацаванага дэпутатамі БНФ закону. Канешне, словы пра выбары «ўвосень 1992 году» ўжо давялося б выкрасьліць, і Вярхоўны Савет меў поўнае права гэта зрабіць.

Валянцін Сарокін (дэпутат ад вэтэранскай арганізацыі, былы вайсковец): «Уся гэтая валтузьня з рэфэрэндумам зьяўляецца вялікай авантурай, мэта якой — узбудзіць народ, стварыць нэрвовасьць у нашай дзяржаве на карысьць купкі людзей, якія дзейнічалі з калябарацыяніскімі мэтамі. Паўтараюся, я за рэфэрэндум сапраўды лёсавызначальны для Рэспублікі Беларусь. Такіх пытаньняў у нас шмат — і пра лёс Канстытуцыі, і аб прэзыдэнце, і аб зямлі, і пра мову, і пра дзяржаўны гімн і пра дзяржаўную сымболіку. Бо сьцяг прафашысцкай марыянэткавай дзяржавы не ўпрыгожвае твар сувэрэннай Беларусі. (Шум у залі). І тым больш...»

Старшыня: «Я папрашу з трыбуны паважаць Дзяржаўны сьцяг... (Шум у залі). Прашу цішыні ў залі. Я папрашу вас прынесьці прабачэньне Вяр-

хоўнаму Савету за абразу Дзяржаўнага сьцяга... Прашу выключыць мікрафон».

Валянцін Сарокін: «Прашу выбачыць. А пра герб я магу сказаць?»

Старшыня: «З пахвалой — калі ласка. (Сьмех у залі). З павагай».

Валянцін Сарокін: «Выбачайце, панове сэнатары...»

Дэпутат-вэтэран агучыў з трыбуны сэсіі тыя абразы на адрас дзяржаўных сьцяга і герба, якія няспынна зьяўляліся на старонках пракамуністычнай прэсы і не сустракалі ніякай прававой ацэнкі (калі не лічыць нашых пратэстаў).

Віктар Кудравец: «…Закон аб выбарах народных дэпутатаў, праект якога ўнесены апазыцыяй. Заўважце, праект. Ну як па законапраекце праводзіць выбары? І хто гэты законапраект глыбока чытаў? Наколькі я ведаю, ён толькі адзін раз быў апублікаваны ў “Народнай газэце”, і тут мы яго не абмяркоўвалі дэталёва... Так, будзе пэўная дэстабілізацыя, калі мы адхілім правядзеньне рэфэрэндуму з фармулёўкай аб роспуску Вярхоўнага Савету, але будзе яшчэ большая дэстабілізацыя, хаос, калі мы ўцягнемся ў гэты рэфэрэндум».

Васіль Трафіменка: «…У адным з тэхнікумаў мэдыкі правялі дасьледаваньне крыві студэнтаў на яе паўнавартаснасьць… Высьветлілася, што ад нястачы харчаваньня ў ёй не дастае масы элемэнтаў, неабходных для нармальнай жыцьцядзейнасьці. Зачыняюцца дашкольныя ўстановы. У школах дзеці ня ўсюды атрымліваюць харчаваньне. Маці просяць аказаць дапамогу для

правядзеньня апэрацый… Давайце мы накіруем гэтыя паўтара мільярда дзіцячым дашкольным установам, хворым, якія пакутуюць, а не для таго, каб ажыцьцяўляць палітычныя гульні.

Ігар Пырх (Апазыцыя БНФ): «Ці маюць народныя дэпутаты дакумэнты, якія сьведчаць пра тое, што члены Ініцыятыўнай групы падраблялі подпісы? Такіх дакумэнтаў няма… Вярхоўны Савет можа прыняць любое рашэньне, у тым ліку і не ўлічыць меркаваньне больш 400 тысяч выбаршчыкаў. Гэта яго права. Але гэта будзе шлях, пра які казаў Дзьмітры Пятровіч, — шлях беззаконьня, шлях да ахлякратыі і фашызму».

Алег Трусаў: « …Давайце ўспомнім Закон аб выбарах. Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту неаднаразова гэты закон выносіла ў парадак дня, і не аднойчы яго выкідалі, хаця ў гэты час ужо было ясна, што той стары закон, па якім нас выбіралі, вельмі кепскі. Мы патрацілі велізарную колькасьць грошай, можа быць, больш, чым на гэты меркаваны рэфэрэндум, на ўсе гэтыя выбары, толькі ў горадзе Менску. І выбары не адбываюцца, таму што дрэнны закон. І мы даўно казалі: давайце памяняем, але вы, большасьць, гэтага не захацелі. Калі не захацелі, мы вымушаны былі вынесьці яго на рэфэрэндум. На прапанову старшыні камісіі спадара Каратчэні ў Законе аб рэфэрэндуме было напісана, што можна законы прымаць рэфэрэндумам, хоць апазыцыя выступала супраць. Даводжу да вашага ведама, што 14 студзеня 1992 году зьвярнулася Ініцыятыўная група з просьбай надрукаваць гэты за-

кон у “Народнай газэце”. Цэлы месяц “Народная газэта” не друкавала, на рэдактара Сярэдзіча быў ціск, каб не друкаваць, але ўсё ж гэты закон быў надрукаваны. І ня наша віна, што ён там ляжаў».

## Пазьняк — Булахаву: Вы сказалі няпраўду

Старшыні Апазыцыі БНФ давялося ў сваім выступе сумясьціць палітычныя і юрыдычныя ацэнкі (апошнія мусіў бы агучыць старшыня Ініцыятыўнай групы, але яму не далі слова).

Зянон Пазьняк: «Паважаныя спадары дэпутаты! Як сябра Ініцыятыўнай групы рэфэрэндуму, мушу сказаць, што праца па зборы подпісаў праходзіла пры моцным і часта незаконным процідзеяньні ўладаў — як мясцовых, так і непасрэдна структураў Савету Міністраў і камісіяў Вярхоўнага Савету. Мы пастаянна сутыкаліся з процідзеяньнем асобных членаў Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуме. І тлумачым гэта ня толькі пэўным стаўленьнем некаторых членаў Прэзыдыюму да працы і функцыяў Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуме. Тым ня менш, не зважаючы ні на што, мы строга прытрымліваліся правіла безумоўна выконваць патрабаваньні і літару закону, які б ён ні быў. У гэтым была наша сіла ў змаганьні з беззаконьнем, процідзеяньнем і бюракратычным сабатажам… Аднак, паважаныя члены Прэзыдыюму, пашкадуйце вашу Цэнтральную камісію. Менавіта пры вашай зацікаўленасьці, менавіта пры зацікаўленасьці Савета Міністраў быў груба парушаны Закон і для праверкі падпі-



Зянон Пазьняк на сэсіі Вярхоўнага Савету

сных лістоў па рэфэрэндуме (што павінна рабіць толькі Цэнтральная камісія па рэфэрэндуме) былі мабілізаваныя 49 супрацоўнікаў Сакратарыяту Вярхоўнага Савету і Савету Міністраў на ўзроўні рэфэрэнтаў і старэйшых рэфэрэнтаў. Для чаго гэта было зроблена, шаноўныя члены Прэзыдыюму? Закон такога не дазваляе. А рэфэрэндум, як вядома, — пра роспуск гэтых структураў. Мы апратэставалі такое беззаконьне і зьвярнуліся ў Пракуратуру. Пракурор выехаў на месца і прыпыніў працу супрацоўнікаў Вярхоўнага Савету і Саўміну. Праўда, толькі на паўдня. Потым машына зноў запрацавала, а Пракуратура адышла ўбок, самаўхілілася… За месяц апарат Вярхоўнага Савету, ваш апарат, і апарат Саўміну разам з Цэнтральнай камісіяй па рэфэрэндуме

прагледзелі ўнікліва кожны падпісны ліст са 126 тысячаў, кожную коску, даты, прозьвішчы, ініцыялы, адрасы, пашпартныя дадзеныя, пячаткі і гэтак далей. І што ж яны выявілі? А яны выявілі каля 17 тысяч лістоў, якія зьмяшчаюць 58 тысяч 254 подпісы (цытую заключэньне Камісіі), “сабраныя ці аформленыя з рознымі адступленьнямі ад патрабаваньняў Закону аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме)”. Канец цытаты. У іншым месцы сказана, цытую: “Дапушчаны таксама шэраг парушэньняў і недакладнасьцяў пры выкананьні патрабаваньняў Закону». Канец цытаты. І далей дадзены па пунктах пералік, якія былі недакладнасьці пры выкананьні Закону. Гэта калі адна асоба ставіла подпіс за іншую асобу, напрыклад, жонка за мужа ці бацька за сына, прытым, як высьветлілася, з агульнай згоды членаў сям’і. Гэта калі замест імя і імя па бацьку былі пастаўленыя толькі ініцыялы, калі ня ўказаны адрас, ня ўказаны ўзрост і гэтак далей. Нідзе, ні ў водным выпадку ня выяўлены парушэньні закону Ініцыятыўнай групай… Са 126 тысяч лістоў камісія выявіла 2372 лісты з подпісамі, як яна лічыла, адной асобы за іншых асобаў. Зь іх на 1598 лістах почырказнаўчая экспэртыза пацьвердзіла подпісы адных асобаў за іншых: мужа за жонку і гэтак далей. Гэтыя лісты не залічаны. Ніякай адказнасьці за такія недакладнасьці Ініцыятыўная група не нясе, бо закон ёю ня быў парушаны. Пра ўсё сказанае мной выразна і канкрэтна напісана ў Законе аб рэфэрэндуме і ў заключэньні Цэнтральнай камісіі па рэфэрэндуме…

Ня трэба быць юрыстам, каб гэта прачытаць. Тым ня менш мы ўчора сталі сьведкамі чарговага фокусу з дымавой завесай… дзе было сказана, што быццам бы Цэнтральная камісія па рэфэрэндуме канстатавала (цытую стэнаграму) «надзвычай грубае парушэньне заканадаўства, што выявілася і ў падробках і гэтак далей, было выключана з агульнай сукупнасьці 62 283 подпісы. Прычым з агульнай колькасьці падпісных лістоў выбарачна (я падкрэсьлю слова “выбарачна”) 2372 лісты былі падвергнуты элемэнтарнай почырказнаўчай экспэртызе… Нават у гэтак нязначным масіве відавочная падробка подпісаў дакумэнтальна выяўленая ў 1598 лістах. Задумайцеся: 67,37 працэнты і падробленых подпісаў». Што ж вы кажаце, шаноўны дэпутат? Якія падробленыя подпісы? Паважаны Дзьмітры Пятровіч, вы ўчора былі на эмацыйным уздыме і, магчыма, не зусім аддавалі сабе... у сваіх словах. Таму мушу заўважыць, што вы сказалі сьвядомую няпраўду, якая выглядае паклёпам на Ініцыятыўную групу рэфэрэндуму. Гэтага дастаткова, каб падаць у суд. І калі вы сапраўды лічыце сябе такім высакародным чалавекам, як пра сябе гаворыце, я вам параіў бы папрасіць прабачэньня. І нарэшце пра факсыміле. Старшыня Ініцыятыўнай групы нідзе не парушыў патрабаваньняў закону, бо ў законе сказана, што кожны падпісны ліст павінен быць завераны старшынём Ініцыятыўнай групы, і не сказана, якім чынам. Таму завяраць трэба любым спосабам, які паддаецца ідэнтыфікацыі. Дарэчы, 38 сьляпых грамадзянаў паставілі на падпісных

лістах свае факсыміле, і камісія залічыла іх, бо іншым спосабам гэтыя людзі засьведчыць сябе ня ў стане. Паважаныя дэпутаты! За выняткам недакладна аформленых лістоў Цэнтральная камісія па рэфэрэндуме прызнала сапраўднымі і адпаведнымі ўсім патрабаваньням закону 384 тысячы 318 подпісаў грамадзянаў, пастаўленых за правядзеньне рэфэрэндуму. Закон поўнасьцю выкананы Ініцыятыўнай групай рэфэрэндуму. Цяпер слова толькі за Вярхоўным Саветам, які згодна з законам мае прызначыць дату рэфэрэндуму альбо сам прыняць тое рашэньне, якое прапануецца на рэфэрэндум. Шкада, вядома, што апошнім часам Вярхоўны Савет нічога ня хоча прымаць: ні па ратаваньні эканомікі, ні па рыначных рэформах, ні па падатках, ні па зямлі, ні па барацьбе са злачыннасьцю. Вось і цяпер праект Канстытуцыі, пра якую так шмат гаварылі, таксама адклалі надоўга. Аднак калі з праектам Канстытуцыі Вярхоўны Савет вольны рабіць усяляк, то з рэфэрэндумам справа іншая. Парлямэнт ня можа дапусьціць сябе да такога стану, каб не выконваць уласны закон, каб ігнараваць законную волю сотняў тысяч грамадзянаў».

Галіна Сямдзянава: «Выйсьце, каб “ня траціць народныя грошы”, — прыняць рашэньне аб самароспуску. Прызначыць на бліжэйшы час дату новых выбараў паводле выбарчага закону, распрацаванага Апазыцыяй БНФ. Прымаць рашэньне Вярхоўнаму Савету. Але прашу ўлічваць, што за гэтую прапанову ўжо выказаліся 442 тысячы чалавек (446 тысяч — С.Н.). А нас у залі ў лепшыя

дні толькі 310 чалавек. І ўвогуле, як сказаў паэт быццам пра наш Вярхоўны Савет: “Все, что мог, он уже совершил, создал песню, подобную стону, и духовно навеки почил”».

## «З Богам вы разабраліся ў 1917-м, а вось з часам — слабо»

Вечаровае пасяджэньне 28 кастрычніка пачалося з удару «цяжкой артылерыі». На трыбуну выйшаў былы першы сакратар Магілёўскага абкаму, старшыня мандатнай Камісіі Вярхоўнага Савету Васіль Лявонаў. Ён апэляваў да «гарбачоўскага» рэфэрэндуму ў сакавіку 1991 года аб захаваньні СССР.

Васіль Лявонаў: «Досьвед, як грэбаваць усенародным волевыяўленьнем, у нас ужо ёсьць. Бо абсалютная большасьць дэпутатаў, галасуючы за ратыфікацыю Белавескіх пагадненьняў, ня думалі пра тое, што тэзіс аб празрыстых межах — толькі хітры выкрутас. Але ж гвалтоўны разрыў шматвяковых гаспадарчых, культурных сувязяў па сваіх адмоўных наступствах (думаю, мы ў гэтым ужо ўсе пераканаліся) для нашай эканомікі можа перасягнуць наступствы Чарнобылю. Рэфэрэндум аб недаверы Вярхоўнаму Савету, напэўна, ня будзе мець такой разбуральнай сілы, але падрыхтоўка да яго, правядзеньне і непазьбежны наступны як мінімум год эківокаў на былых «партакратаў», «намэнклятурнікаў», на «дрэнны» Вярхоўны Савет прыкладна на два гады пакінуць рэспубліку без выканаўчай улады,

а гэта можа быць нашмат даражэй, чым тыя выдаткі, якія будуць зьвязаныя непасрэдна з самой арганізацыяй, тэхнікай і правядзеньнем рэфэрэндуму, бо нават дрэнная ўлада — гэта заўсёды лепш, чым яе поўная адсутнасьць... Вяртаючыся да пытаньня аб ратыфікацыі Белавескіх пагадненьняў, улічваючы тую акалічнасьць, што галасавалі дэпутаты не за мытні, не за ўсталяваньне межаў, не за гвалтоўны разрыў адзінага эканамічнага арганізму, не за войны і галечу, думаю, што дэпутаты могуць лічыць сябе падманутымі. І калі мы ў выніку аказаліся такімі, што нас падманулі палітыкі, дык маем права хаця б заявіць, зрабіць палітычную ацэнку і заяву па гэтым пытаньні (можа, нават і на гэтай сэсіі)».

«Нас падманулі палітыкі» — у гэтай фразе выразна выяўленая мэнтальнасьць тых, хто ўвасабляў сабой дэпутацкую большасьць у Вярхоўным Савеце XII скліканьня. Былы член ЦК КПСС і ЦК КПБ, былы кіраўнік вобласьці, дзейны член парлямэнту, старшыня парлямэнцкай камісіі — ня лічыць сябе палітыкам. Успрымае сябе (і такіх, як ён), простымі выканаўцамі чужой волі. І ў незалежнасьці, якой дамаглася Беларусь — бачыць толькі «хітры выкрутас».

Палітыкам Васілю Лявонаву зрабіцца ўсё ж давядзецца — пасьля таго, як яго, прызначанага Лукашэнкам міністрам сельскай гаспадаркі, на загад таго самага Лукашэнкі арыштуюць у міністэрскім кабінэце пад тэлекамэрамі, як, асуджаны фактычна ні за што, правядзе тры гады за кратамі. Пасьля вызваленьня з турмы Лявонаў

пачне жорсткае супрацьстаяньне з Лукашэнкам, у кнізе «Праца над памылкамі» напіша, што «абсалютны памер стратаў ад гітлераўскай навалы роўны стратам ад праўленьня Лукашэнкі». На прэзыдэнцкіх выбарах у 2001 годзе будзе «архітэктарам» вылучэньня «адзінага кандыдата» ад ужо новай апазыцыі — якая пагодзіцца на прадстаўніка колішняй намэнклятуры. Што, зрэшты, ужо не дапаможа. Лявонаў будзе працаваць у Маскве і ў 2013 годзе ў інтэрвію Віталю Цыганкову заявіць тое, пра што дэпутаты Апазыцыі БНФ казалі за дзясятак гадоў да яго — што «улада ў Беларусі — гэта праект Крамля».

Але рэалізацыя гэтага праекту была магчымай, не ў апошнюю чаргу, у выніку рашэньня, прынятага ў Авальнай залі ў поўнай адпаведнасьці з заклікам Лявонава не праводзіць рэфэрэндум.

Сяргей Антончык (Апазыцыя БНФ): «Калі рэфэрэндум закончыцца станоўча, дык у адстаўку пойдуць усе дэпутаты, у тым ліку і мы, дэпутаты — члены Ініцыятыўнай групы. І таму ўсе размовы, што, падтрымліваючы рэфэрэндум, мы рвемся да ўлады, ня больш як дэмагогія. Парушаючы Закон аб рэфэрэндуме, не праводзячы яго, Вярхоўны Савет заганяе ў кут свой народ, таму што ў яго, у гэтага народа, ня будзе прававых магчымасьцяў узьдзейнічаць на ўладу мірным і законным шляхам. Больш таго, пазбаўляючы асноўных правоў грамадзян Беларусі, Вярхоўны Савет, хоча таго або не, ператварае народ у ахлякратыю, чаго сам жа Вярхоўны Савет так моцна баіцца. Што можа быць вышэйшае за любую

ўладу? Сам народ, Бог або час? Народ вы можаце праігнараваць, пакуль што гэта вам удаецца. З Богам вы ўжо разабраліся даўно, у 1917 годзе. А вось з часам, як кажуць, слабо».

Ігар Гермянчук (Апазыцыя БНФ): «А што далей? Вы задавалі сабе пытаньне: а што далей? Давайце прагназаваць сытуацыю, як будуць разгортвацца падзеі. Задумайцеся, што будзе, калі вы большасьцю галасоў адмовіце амаль паўмільёну грамадзянаў у правядзеньні рэфэрэндуму? Што будзе? Спадар Шушкевіч у адным з інтэрвію сказаў, што “...будзе вельмі спакойная рэакцыя”. Я думаю, шаноўныя дэпутаты, вы памыляецеся. Палітычныя працэсы ініцыююцца ў грамадзтве палітычнымі сіламі… Я думаю, што ў апазыцыйных сіл зьяўляюцца ўсе падставы, каб у выпадку, калі Вярхоўны Савет адмовіць у ініцыятыве амаль паўмільёну грамадзянаў, паставіцца да гэтага Вярхоўнага Савету як да незаконнага органу, як да групы людзей, якія імкнуцца ўтрымаць уладу незаконным шляхам. Вы што, хочаце такога разгортваньня падзеяў у грамадзтве?... Мне адзін заходні журналіст кажа: “Не разумею, чаму ў вас тут так нэрвова ўспрымаецца дэпутатамі праблема рэфэрэндуму? Калі ласка, прызначце дату, правядзіце рэфэрэндум. Гэта ж вельмі проста”.

Лявонцій Зданевіч (Апазыцыя БНФ): «…Многа разоў казалі: “На пераправе коней не мяняюць”. Казалі з гэтай трыбуны, казалі тыя самыя людзі, якія ўчора і сёньня прапануюць зьмяніць законы, зьмяніць камісію. Прычым гэтыя прапановы нам

даюцца ва ўмовах, калі працэс ідзе (я кажу пра працэс рэфэрэндуму). Гэта ж проста сьмешна, паважаныя дэпутаты».

Далей Зданевіч зьвярнуўся да прыкладаў сумнеўных камэрцыйных апэрацый з удзелам дзяржаўных структураў:

«…Напрыклад, Міністэрства сельгасхарчу і яго адна структура толькі да верасьня месяца 252 тоны дызэльнага паліва прадалі за мяжу. Вось чаму я за рэфэрэндум. Падставаў за рэфэрэндум у мяне так шмат, што я мог бы на гэтую тэму разважаць гадзіну. Галоўнае тут, што ведаюць усе грамадзяне Беларусі, — Вярхоўны Савет фактычна стварыў умовы для жудаснага расkраданьня дзяржаўнай маёмасьці, камэрцыйнай дзейнасьці дзяржаўных структур. Паважаныя дэпутаты, у якім яшчэ грамадзтве міністар ураду адначасова можа быць старшынём камэрцыйнага банку? Вось чаму я за рэфэрэндум».

Старшыня: «Шаноўны Лявонцій Ульянавіч! Вы сказалі, што міністар у Рэспубліцы Беларусь узначальвае камэрцыйны банк. Я хачу да вас зрабіць дэпутацкі запыт: назавіце прозьвішча, калі ласка».

Лявонцій Зданевіч: «Банк “Беларусь”, Батура, калі ласка».

Барыс Батура ў той час быў міністрам жыльлёва-камунальнай гаспадаркі. Пры Лукашэнку будзе віцэ-прэм’ерам, старшынём Магілёўскага і Менскага аблвыканкамаў, а таксама старшынём «сэнату» — Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу.

## Шушкевіч: «Мы нядрэнна папрацавалі»

Супраць рэфэрэндуму выступіў дэпутат Уладзімер Грыбанаў, які раней падпісваў заявы Апазыцыі БНФ, а цяпер заявіў, што «ёсьць вельмі вялікая небясьпека ў тым, што да ўлады могуць прыйсьці артадаксальныя камуністы. Гэта другая небясьпека, якую я называю, першая — Народны фронт».

Не падтрымаў правядзеньне рэфэрэндуму і Віктар Ганчар, заявіўшы, што пастаноўка пытаньня аб датэрміновым роспуску заканадаўчага органу — неканстытуцыйная. Адначасна, ён прапанаваў, «ідучы насустрач пажаданьням асобнай часткі насельніцтва», абвясьціць датэрміновыя выбары: «Не таму, што наш Вярхоўны Савет дрэнны. Я з вышыні таксама ўжо свайго досьведу скажу, што ён іншым быць ня мог. Мы вычарпалі свой гістарычны рэсурс і далей пры такіх структурах і арганізацыі працаваць проста ня здолеем».

Леанід Тарасенка: «…Што да (заявы — С.Н.) дэпутата Ганчара, што пастаноўка пытаньня аб роспуску парлямэнту антыканстытуцыйная. Дазвольце, гэта вельмі звычайная практыка ва ўсіх краінах. Новыя выбары. Калі ўзьнікае канфлікт паміж урадам і парлямэнтам, то ў залежнасьці ад формы кіраваньня абʼяўляюцца новыя выбары, датэрміновыя».

Пётра Пракаповіч: «Я цалкам падтрымліваю праект пастановы, унесены Прэзыдыюмам Вярхоўнага Савету аб тым, што рэфэрэндум, які

прапануецца праводзіць на ініцыятыву БНФ, праводзіць нельга. Я асабіста супраць гэтага закону. Гэта закон, які можа дазволіць малалікім партыям, якія не падтрымлівае насельніцтва, мець вельмі шмат месцаў у парлямэнце».

У момант свайго выступу Пракаповіч быў ня вельмі прыкметным дэпутатам — вядомасьць ён набудзе ўжо пры Лукашэнку на пасадзе старшыні Нацыянальнага банку. А вось былы камандзір Віцебскай дэсантнай дывізіі генэрал Бачароў зь лютага займаў пасаду камандуючага памежнымі войскамі Беларусі.

Яўген Бачароў: «А каму патрэбны у дадзенай сытуацыі рэфэрэндум? Каму патрэбная палітычная нестабільнасьць грамадзтва? Каму патрэбныя новыя эканамічныя і сацыяльныя катаклізмы?»

Герард Сівіцкі (генэрал міліцыі): «Лічу, што ўцягваць рэспубліку ў шматмільённыя выдаткі, ствараць хаос і безуладзьдзе недапушчальна».

Міхаіл Сасноўскі: (дэпутат ад вэтэранскай арганізацыі): «Я лічу неэтычным з боку лідэра апазыцыі таварыша Пазьняка як дэпутата выступ па шэрагу пытаньняў па тэлебачаньні, калі ён бяздоказна папросту заклікаў, калі хочаце, да адстаўкі ўраду, Вярхоўнага Савету. На якой падставе дэпутат Пазьняк мог дазваляць сабе такія рэчы?...

Вашы прыхільнікі стаяць на плошчы, і вісіць лёзунг “Булахаў — здраднік, камуністы — здраднікі!”…Гэта што такое? Гэта дэмакратычна? На якой падставе такія лёзунгі?»

Сяргей Папкоў (Апазыцыя БНФ): «Калі Вярхоўны Савет кажа, што ён увесь здольны, давайце зробім такую справу: прыпынім разгляд гэтага пытаньня, адкладзем на два тыдні і дакажам, што мы дзеяздольныя. Давайце прымем пастанову аб правядзеньні інвэнтарызацыі, пераразьліку распрададзеных дзяржаўных сродкаў і маёмасьці ўсіх відаў і вызначым тэрмін вяртаньня ў дзяржбюджэт адпаведных сродкаў і дакладна пракантралюем гэтае выкананьне. Другое. Прымем заканадаўчы акт аб парадку набыцьця грамадзянамі Рэспублікі Беларусь зямлі ў прыватную ўласнасьць. Я падкрэсьліваю, грамадзянамі Рэспублікі Беларусь. Прымем новы Закон аб выбарах, прымем пастанову аб выбарах старшыняў выканаўчай мясцовай улады насельніцтвам і вызначым тэрмін іх правядзеньня з адпаведнымі зьменамі ў Законе аб мясцовым самакіраваньні. Давайце гэта зробім. Але я вам скажу, што гэтага Вярхоўны Савет проста ня можа выканаць. Быў час выканаць гэта — два гады з паловай. Але пытаньні ня вырашаныя. Таму правільна робяць грамадзяне Беларусі, калі ставяць пытаньне аб зьмене, аб эвалюцыйным шляху рэформаў».

Былы сакратар Гомельскага абкаму камуністычнай партыі Міхаіл Мачуленка выказаў арыгінальную прапанову: «дэпутатам, чые выбаршчыкі выказаліся за рэфэрэндум, самім падаць у адстаўку». Гэтыя словы выклікалі ухвальныя рэплікі ягоных аднадумцаў. Такі варыянт для намэнклятуры быў бы ідэальны: ператварыць Вярхоўны Савет, прычым нашымі ж рукамі, у

цяпер ужо цалкам маналітную і цалкам падкантрольную Саўміну структуру.

На другі дзень, 29 кастрычніка, Дзьмітры Булахаў, Уладзімер Леўчык і Аляксандар Абрамовіч выступілі з заключным словам. Яны свае ранейшыя пазыцыі не зьмянілі...

Булахаў ізноў сьцьвярджаў, што Ініцыятыўная група парушыла закон: «Рыса паміж правам і палітыкай… па маім глыбокім перакананьні, можа, але не павінна быць пяройдзена самім заканадаўцам… А нас актыўна штурхаюць да гэтай рысы і Аляксандар Міхайлавіч Абрамовіч, паважаны народны дэпутат Зянон Станіслававіч Пазьняк, і ўсе астатнія дэпутаты, якія прытрымліваюцца пункту гледжаньня, выкладзенага гэтымі людзьмі». І яшчэ: «На нашых плячах вялікая адказнасьць, бо трэба будзе, як я ўжо казаў, прымаць рашэньне, якое вызначае лёс дзяржавы, фактычна не на год, а на дзесяцігодзьдзі наперад, дай Бог, каб і на стагодзьдзе, нават незалежна ад таго, ці будуць сёньняшнія дэпутаты абраныя заўтра».

Як паказаў час, наконт дзесяцігодзьдзяў Булахаў не памыліўся. Адносна стагодзьдзя, спадзяюся, прагноз ня спраўдзіцца.

Леўчык прапанаваў прыняць Заяву Вярхоўнага Савету «аб неабходнасьці паскарэньня канстытуцыйных пераўтварэньняў», прыняцьця Канстытуцыі не пазьней за 1993 год і правядзеньня ў сакавіку 1994-га датэрміновых выбараў у найвышэйшы заканадаўчы орган. Ён таксама выказаў недавер старшыні ЦВК Абрамовічу.

Сам Абрамовіч у сваім выступе выказаў спадзяваньне, «якое рашэньне ні было б прынята, пераможа палітычная разважлівасьць і мудрасьць з пункту гледжаньня ўзважанага падыходу, а ня заклікі, якія абвяшчаў цяпер паважаны мной Уладзімер Канстанцінавіч Леўчык. Вы кажаце: не ісьці на саступкі, а мы прытрымліваемся іншага пункту гледжаньня: на саступкі. Толькі саступкі, кансэнсус дае магчымасьць знайсьці прымальныя для ўсіх рашэньні».

Былы першы сакратар Чашніцкага райкаму партыі, а цяпер старшыня Чашніцкага райсавету Міхаіл Васілевіч заклікаў Шушкевіча «заканчваць»: «Ёсьць прапанова — будзем галасаваць».

Пачалі галасаваць.

За рэфэрэндум — 35 дэпутатаў. Апазыцыя БНФ і яшчэ некалькі прыхільнікаў.

Супраць рэфэрэндуму — 213.

Большасьць прагаласавала за «паскарэньне канстытуцыйных пераўтварэньняў»: Канстытуцыя — у 1993-м, парлямэнцкія выбары — у 1994-м. Канстытуцыю прымуць толькі ў 1994 годзе — з прэзыдэнцтвам, тады ж і правядуць выбары, зь вядомым вынікам.

«Ёсьць прапанова сёньня зрабіць большы перапынак. Мне здаецца, мы нядрэнна папрацавалі», — завяршыў паседжаньне Шушкевіч.

# «ЗАСТАЕМСЯ ЛЕГІТЫМНАЙ ЧАСТКАЙ ПАРЛЯМЭНТУ»

Забарону рэфэрэндуму мы прагназавалі, але гэта была падзея з шэрагу тых, у якія ня хочацца верыць. Намаганьні амаль усяго году былі растаптаныя.

Атмасфэру, якая панавала ў нашым замацаваным за апазыцыяй 363-м пакоі адразу пасьля забароны рэфэрэндуму, Зянон Пазьняк перадае дакладна:

«Мы моўчкі прыйшлі пасьля сэсіі ў нашае памяшканьне на трэцім паверсе Дому ўраду, і тут, раптам, выбух абурэньня — усіх прарвала. Амаль усе дэпутаты-франтаўцы (прычым большая частка) пачалі крычаць, што кідаюць мандаты дэпутатаў і ня хочуць больш быць у гэтым камуністычным гадзючніку здрады і брыдоты. Ніхто нікога ня слухаў. Кожны хацеў выгаварыцца».

Словы пра магчымасьць складаньня дэпутацкіх паўнамоцтваў у выпадку забароны рэфэрэндуму гучалі і раней — такі варыянт намі абмяркоўваўся, а Лявон Баршчэўскі нават заявіў пра яго з трыбуны сэсіі. Але гэта былі толькі развагі ці прагнозы. Цяпер жа забарона рэфэрэндуму зрабілася рэальнасьцю, і мы адчувалі, што рэальнасьць гэтая патрабуе ад нас нейкага дзеяньня.

Ну і настрой у першыя хвіліны пасьля заканчэньня паседжаньня быў далёкі ад лагоднага.

Напэўна, такі настрой называецца блізкім да стану афэкту. Такім ён быў ва ўсялякім разе ў мяне (дый ня толькі ў мяне аднаго) — вельмі ўзбуджаны, нэрвовы. І цалкам натуральны ў той сытуацыі.

«Я нікога на той момант ня мог пераканаць, — прыгадвае Пазьняк. — Людзі далі волю пачуцьцям, не абдумаўшы, што такі зыход азначаў бы ў тых умовах поўны палітычны крах Фронту пад улюлюканьне ворагаў Беларусі. Зь вялікімі цяжкасьцямі мне ўдалося крыху суцішыць сяброў і ўгаварыць іх не сьпяшацца зь дзеяньнямі, якія мы паступова абмяркуем разам… Паступова мне ўдалося, на шчасьце, усё супакоіць, пагаварыць амаль з кожным, і нарэшце людзі вярнуліся да здаровага сэнсу, пачалі аналізаваць і стрэс скончыўся» (архіў аўтара).

Сапраўды — сыход зь Вярхоўнага Савету быў бы катастрафічнай памылкай, мы былі б імгненна пазбаўленыя ўсіх тых палітычных магчымасьцяў, якія давала знаходжаньне ў парлямэнце. Шмат што добрага нам удалося зрабіць за наступныя некалькі гадоў працы Вярхоўнага Савету — і шмат чаго кепскага, небясьпечнага для беларускай дзяржаўнасьці удалося прадухіліць.

Забарона рэфэрэндуму не выклікала масавага пратэсту — але быў пратэст актыўнай часткі грамадзтва. З асуджэньнем рашэньня Вярхоўнага Савету выступілі практычна ўсе дэмакратычныя партыі Беларусі, а Ініцыятыўная група заявіла, што пытаньне рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах застаецца актуальным.




Карыкатура ў спэцвыпуску газэты “Навіны БНФ”, 1992 г.

З асуджэньнем рашэньня Вярхоўнага Савету і заклікам вярнуцца да пытаньня аб прызначэньні даты рэфэрэндуму выступілі семдзесят прадстаўнікоў творчай і навуковай інтэлігенцыі — у тым ліку Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Сяргей Грахоўскі, Вольга Іпатава, Уладзімер Арлоў, акадэмік Радзім Гарэцкі, Валянціна Вяргей, Людміла Дучыц, Генадзь Каханоўскі, Аляксей Марачкін, Ленанід Лыч, Міхась Чарняўскі, Язэп Юхо.

Былі і пратэсты індывідуальныя, крокі, якія для нас былі важнай маральнай падтрымкай. Так, у Берасьці выкладчыца беларускай мовы Марыя

Лукашук, пачуўшы рэпартаж з сэсіі, запісалася ў Народны Фронт — да гэтага толькі падтрымлівала.

Увогуле, шмат перад кім зь вядомых асобаў у тыя дні паўстаў маральны выбар. Дэпутат Апазыцыі БНФ Мікола Маркевіч на канец кастрычніка прайшоў усе стадыі прызначэньня на пасаду генэральнага консула — заставаўся подпіс Кебіча. Міколу запрасілі на гутарку і параілі ўстрымацца ад падпісаньня заявы з асуджэньнем рашэньня Вярхоўнага Савету. Выступаць з падтрымкай забароны, канешне, не прасілі, разумелі, што бессэнсоўна — але параілі не падпісваць, дзясятак спосабаў існуе, каб часова зьехаць зь Менску, урэшце, ён жыве ў Горадні, можна паехаць туды, да сям'і або ў выбарчую акругу і зрабіць так, каб не дазваніліся. Аднак Маркевіч падпісаў — разам зь іншымі дэпутатамі Апазыцыі БНФ. Генэральным консулам быў прызначаны іншы.

У гэтай заяве мы пацьвердзілі, што застаемся ў жорсткай парлямэнцкай апазыцыі, застаемся «паўнамоцнымі прыхільнікамі нашых выбаршчыкаў, але ня лічым для сябе абавязковым прымаць удзел у галасаваньні ў гэтым Вярхоўным Савеце… Мы застаемся легітымнай часткай гэтага Вярхоўнага Савету, каб не дазволіць яго кіруючай большасьці бесьперашкодна парушаць правы чалавека, зьневажаць духоўныя і матэрыяльныя інтарэсы народу, дыскрэдытаваць беларускую дзяржаву, каб дамагчыся датэрміновага спыненьня яго паўнамоцтваў на аснове Закону». Мы таксама заявілі, што будзем дамагацца ад-

мены забароны рэфэрэндуму даступнымі канстытуцыйнымі сродкамі.

Заяву падпісалі Зянон Пазьняк, Валянцін Голубеў, Галіна Сямдзянава, Сяргей Навумчык, Лявонцій Зданевіч, Генадзь Грушавы, Сяргей Антончык, Уладзімер Заблоцкі, Юрась Беленькі, Леанід Тарасенка, Сяргей Папкоў, Яўген Новікаў, Ігар Гермянчук, Лявон Баршчэўскі, Лявон Дзейка, Павал Холад, Алесь Шут, Віктар Какоўка, Мікалай Аксаміт, Яўген Глушкевіч, Мікалай Крыжаноўскі, Станіслаў Бабачонак, Мікола Маркевіч, Аляксандар Паруль, Ігар Пырх, Віталь Малашка, Віктар Аляміеў, Міхаіл Мацюшонак, Сяргей Слабчанка.

З гэтага пераліку дырэктар саўгасу «Дабраволец» Міхаіл Мацюшонак не ўваходзіў у Апазыцыю БНФ, але палічыў патрэбным паставіць подпіс.

А вось дэпутаты Дэмклюбу, якія часам падтрымлівалі нас у нейкіх ініцыятывах — не далучыліся.

«Што найбольш уразіла — гэта здрада Дэмклюбу і так званых дэмакратаў, — прыгадвае Пазьняк. — Усе яны пад дыктоўку камуністаў прагаласавалі супраць рэфэрэндуму. На табло высьвецілася толькі 35 галасоў «за» (гэта значыць — уся Апазыцыя БНФ). «Дэмакраты» сядзелі з каменнымі тварамі, адводзілі вочы ўбок. Зрэшты, нічога дзіўнага. Ва ўсіх фармацыях дэмакраты без нацыянальнай ідэі — гэта хісткія людзі» (архіў аўтара).

**3 лістапада.** Старшыня «Грамады» Міхась Ткачоў пахаваны на Ўсходніх могілках.

**6 лістапада.** Нацыянальны банк вырашыў увесьці грашовыя разьлікі на тэрыторыі Беларусі толькі ў беларускіх рублях.

**8 лістапада.** Прэзыдыюм Цэнтральнай рады БСДГ асудзіў забарону рэфэрэндуму.

**10 лістапада.** Вярхоўны Савет Таджыкістану прыняў рашэньне пра самароспуск.

**10 лістапада.** Вярхоўны Савет Беларусі прыняў закон «Аб усеагульным вайсковым абавязку» і вырашыў прывесьці да прысягі ўсіх вайскоўцаў да 31 сьнежня 1992 г.

**15 сьнежня.** Сялянская партыя правяла на плошчы Незалежнасьці свой першы мітынг, асноўным патрабаваньнем было ўвядзеньне права прыватнай уласнасьці на зямлю.

**16 лістапада.** Украіна адмовілася ад расейскага рубля на сваёй тэрыторыі. Прэзыдэнт РФ Ельцын заявіў, што краінам, якія выйдуць з рублёвай зоны, давядзецца набываць расейскія энэргарэсурсы за цьвёрдую валюту па сусьветных коштах.

**18 лістапада.** Адбыўся візыт у Беларусь прэм’ер-міністра Польшчы Ганны Сухоцкай, пасьля якога яна выказала занепакоенасьць зьбліжэньнем Беларусі і Расеі.

**25 лістапада.** Фэдэральны сход Чэхаславаччыны прагаласаваў за падзел на Чэхію ў Славаччыну.

## ПЕРШАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ АДСТАЎКА Ў НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ

Пазьняку ўдалося адгаварыць тых дэпутатаў Апазыцыі БНФ, якія пасьля забароны рэфэрэндуму зьбіраліся пакласьці дэпутацкія мандаты і сысьці зь Вярхоўнага Савету.

І ўсё ж адна адстаўка — праўда, не з дэпутацтва, а з пасады кіраўніка парлямэнцкай камісіі — адбылася.

Чалавекам, які сышоў, быў я.

На «прафэсійнай аснове» ў Вярхоўным Савеце на пасадзе кіраўнікоў камісіяў — старшыняў, намесьнікаў старшыняў і сакратароў — працавала каля 60 дэпутатаў.

Два дзясяткі старшыняў разам са старшынём Вярхоўнага Савету і ягонымі намесьнікамі ўваходзілі, паводле Канстытуцыі, у склад Прэзыдыюму, які быў надзелены некаторымі функцыямі «калектыўнага прэзыдэнта» (напрыклад, зацьвярджаў амбасадараў, прысвойваў ганаровыя званьні, разглядаў прашэньні аб памілаваньні і г. д.).

Наша камісія, паводле сваёй назвы, займалася ня толькі праблемамі СМІ, але і правоў чалавека.

Ледзь не штодня да нас ішлі лісты з турмаў і калёніяў — людзі прасілі перагледзець несправядлівыя, як яны лічылі, прысуды. Я падпісваў запыты ў Вярхоўны суд ці ў Генэральную пракуратуру, большасьць адказаў былі: «Падставаў для перагляду прысуду ня знойдзена». І ўсё ж, некалькі чалавек, справамі якіх давялося займацца ўшчыльную, мне ўдалося вызваліць з-за кратаў. У тым самым 1992 годзе я наведаў калёнію пад Воршай — разам з палкоўнікамі-кіраўнікамі Ўпраўленьня выкананьня пакараньняў Міністэрства ўнутраных справаў. Паглядзеў камэры, сталоўку, а потым папрасіў начальства правесьці агульную сустрэчу. Перад зьняволенымі мне выступаць яшчэ не даводзілася — але палітычную сытуацыю абмаляваў ім, думаю, даходліва. Потым дзьве гадзіны прымаў асабістыя скаргі. Пазьней даведаўся, што ўмовы ў калёніі пасьля гэтага візыту палепшыліся.

Канешне, наіўным было б спадзявацца на істотны посьпех у ачалавечваньні сфармаванай дзесяцігодзьдзямі сыстэмы, але, спадзяюся, нешта добрае зрабіць для зьняволеных мне ўдалося.

А вось што тычыцца сродкаў масавай інфармацыі — у гэтай сфэры, якая была мне блізкай прафэсійна, было значна цяжэй. Пра адсутнасьць якой бы там ні было падтрымкі з боку Шушкевіча ды поўнае ігнараваньне ініцыятываў парлямэнцкай камісіі апаратам Саўміну я ўжо пісаў раней. Да восені 1992-га ў мяне склалася абсалютна яснае перакананьне, што праца мая на пасадзе сакратара парлямэнцкай камісіі безвыніковая.

У лістападзе прынесьлі вялізны аркуш шчыльнай паперы, у якім у некалькі слупкоў былі надрукаваныя пара сотняў прозьвішчаў — абноўлены сьпіс тых, каму павінны былі ўсталяваць так званую «тройку», апарат урадавай сувязі. «Чацьвёркі» былі шмат у каго, пачынаючы з кіраўнікоў райвыканкамаў і супрацоўнікаў апарату Саўміну, тэлефоны ВЧ (высокачастотнай сувязі) — толькі ў найвышэйшых кіраўнікоў. А «тройка» была ва ўладальнікаў ВЧ і асобаў на ранг-два ніжэйшых — да ўзроўню міністраў і некаторых намесьнікаў міністраў (МУС, МЗС, КДБ, Мінабароны). У сьпісе былі і кіраўнікі парлямэнцкіх камісіяў. Знайшоў я там і сваё прозьвішча (дарэчы, пасады ў сьпісе не пазначаліся — былі толькі прозьвішча, імя і імя па бацьку, лічылася, што ў гэтым вузкім коле ўсе адны адных ведаюць).

Праз паўгода, летам 1993-га, новаабраны старшыня «антыкарупцыйнай» камісіі дэпутат Лукашэнка будзе патрабаваць, акрамя службовай машыны, і гэтую самую «тройку».

А мне скарыстацца такім сымбалем высокага службовага становішча не давялося — у сярэдзіне лістапада я прыняў рашэньне сысьці з пасады сакратара камісіі.

Пра адчуваньне безвыніковасьці сваёй працы (пры міністэрскай зарплаце) я ўжо казаў, а падштурхнула да такога рашэньня адмова ў правядзеньні рэфэрэндуму.

З аднаго боку — на мітынгу перад разглядам пытаньня аб рэфэрэндуме, які мне давялося весьці разам з Галінай Вашчанка, была прыня-

тая рэзалюцыя аб спыненьні працы ў структурах Вярхоўнага Савету ў выпадку, калі парлямэнт адмовіцца прызначаць дату рэфэрэндуму. І каму, як не вядоўцу мітынгу, трэба было выконваць гэтую рэзалюцыю.

Па-другое, мы заявілі, што Вярхоўны Савет страціў легітымнасьць — тады ці маральна было атрымліваць там зарплату?

Нарэшце, права на выбар улады — адно з базавых правоў чалавека. Пасьля таго, як яно было парушана, мусіў адбыцца нейкі акт пратэсту хаця б ад аднаго з членаў камісіі, якая займалася правамі чалавека. І адстаўка — самы лепшы для гэтага спосаб.

Пра тое, што зьбіраюся падаць у адстаўку, я паведаміў Пазьняку. Ён не ўхваліў майго рашэньня, сказаў, што ня варта гэтага рабіць. Але й не ўгаворваў. Мяркую, ён ужо стаміўся ад адгаворваньняў калег па апазыцыі, якія прапаноўвалі «здаць мандаты», да таго ж, я не зьбіраўся сыходзіць з Вярхоўнага Савету — толькі з пасады сакратара камісіі. Магчыма, ён бачыў маю рашучасьць і памятаў, што ў ліпені я не прыслухаўся да ягонай парады прыняць прапанову заняць пасаду дырэктара «Белінфарму».

Канешне, я раіўся з жонкай. Галіна не пярэчыла, хаця ўсьведамляла ў тым ліку і матэрыяльныя страты, непазьбежныя ў выніку майго сыходу (яны сапраўды аказаліся вельмі сур’ёзнымі). Праз гады яна прызналася, што насамрэч без усялякай радасьці ўспрыняла маё рашэньне, «але ты быў

так пераканана і рашуча настроены, што адгаворваць было бессэнсоўна».

Я запісаўся на выступ у разьдзеле «Рознае» і раніцай 24 лістапада атрымаў слова. Далей цытую стэнаграму; вёў паседжаньне Станіслаў Шушкевіч.

«Навумчык С. І. (Віцебская-Чыгуначная выбарчая акруга N 181). Маё выступленьне будзе кароткім. Два гады назад, калі была абрана і створана Камісія Вярхоўнага Савету ў пытаньнях галоснасьці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, то я як абраны вамі на пасаду сакратара гэтай камісіі бачыў сваю мэту ў тым, каб стварыць заканадаўчыя гарантыі для ажыцьцяўленьня прынцыпаў свабоды слова, свабоды інфармацыі, але відавочна, што гэтыя прынцыпы і ідэі былі варожыя для большасьці з вас. Вось ужо некалькі сэсій запар ні Прэзыдыюм, ні Вярхоўны Савет не ўключаюць...

Старшыня. Сяргей Іосіфавіч, я вам зраблю заўвагу. Варожымі ня могуць быць тыя прынцыпы, якія зацьверджаны ў Канстытуцыі. Я прашу вас не рабіць такіх заяў.

Навумчык С. І. Ва ўсякім разе гэтыя прынцыпы і ідэі былі супярэчлівыя з прынцыпамі большасьці дэпутатаў. Вось ужо некалькі сэсій запар ні Прэзыдыюм, ні Вярхоўны Савет не ўключаюць у парадак дня сэсіі праект Закону аб свабодзе інфармацыі. Пагадзіўшыся з магчымасьцю манапалізацыі амаль што ўсяго пэрыядычнага друку Саветам Міністраў, Вярхоўны Савет адмаўляецца прыняць адпаведныя заканадаўчыя

акты і пастановы. Акрамя таго, адмаўляючы мільёнам грамадзян у правядзеньні рэфэрэндуму, Вярхоўны Савет парушыў іх правы на палітычнае волевыяўленьне, удзел у кіраваньні дзяржавай. І пайшоў пры гэтым далей. Нягледзячы на мае выступленьні як сакратара камісіі па галоснасьці і выступленьні дэпутатаў апазыцыі, ён прыняў шэраг законаў, якія фактычна легалізуюць умяшаньне ў асабістае жыцьцё грамадзян.

З самага пачатку існаваньня Беларускага Народнага Фронту БНФ заяўляў, што ўлада сама па сабе не зьяўляецца для нас самамэтай, а толькі інструмэнтам для паляпшэньня жыцьця народу і правядзеньня дэмакратычных працэсаў. З самага пачатку свайго ўтварэньня Беларускі Народны Фронт заяўляў таксама, што палітыка ніколі ня будзе на карысьць народу, калі яна не абапіраецца на мараль. Пасьля таго, як Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь адхіліў правядзеньне рэфэрэндуму, асабіста для мяне як члена апазыцыі стала немагчымай прафэсійная праца ў гэтым Вярхоўным Савеце, таму я прашу вызваліць мяне ад абавязкаў сакратара Камісіі Вярхоўнага Савету ў пытаньнях галоснасьці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека. Я хачу сканцэнтраваць сваю далейшую дзейнасьць на працы з выбаршчыкамі і ў апазыцыі».

Тут Авальная заля грымнула аплядысмэнтамі — пляскалі ў ладкі нашыя палітычныя апанэнты, некаторыя крычалі — «Маладзец!»

Звычайна Шушкевіч, дый ягоныя намесьнікі, калі вялі сэсію, вельмі неахвотна ставілі нейкае

пытаньне на галасаваньне, калі яго не было ў парадку дня. Але ў гэтым выпадку традыцыя была парушаная.

«Старшыня. Сяргей Іосіфавіч, паставіць на галасаваньне праект пастановы? Я прашу народных дэпутатаў, ведаеце, будзем так, як у … арміі (у стэнаграме стаіць шматкроп’е, насамрэч Шушкевіч сказаў — «у прускай арміі» — С.Н.). У нас па “Рознаму” галасаваньне не праводзіцца. Але пасьля “Рознага” мы адразу абавязкова разгледзім кадравае пытаньне ў сувязі з паступіўшай пастановай».

І — пасьля выступу іншых дэпутатаў:

«Старшыня. Яшчэ я абяцаў прагаласаваць па пытаньні народнага дэпутата Навумчыка. Хто за тое, каб прыняць пастанову аб задавальненьні просьбы народнага дэпутата Навумчыка Сяргея Іосіфавіча аб тым, каб яго выключыць з пастаяннай работы ў камісіі і ў Вярхоўным Савеце з пастаяннай пасады, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся? Вынікі галасаваньня: кворум для галасаваньня 230. Кворум для прыняцьця рашэньня 173. Зарэгістравана 277. Прагаласавала “за” 197. Прагаласавала “супраць” 9. Устрымалася 9. Усяго прагаласавала 215. Не галасавала 62. Рашэньне прынята. Пастанова прымаецца».

Выглядае, тыя восемдзесят дэпутатаў, якія галасавалі супраць, устрымаліся альбо ўвогуле адмовіліся галасаваць — былі члены Апазыцыі БНФ і Дэмклюбу (які ў 1992 годзе фактычна ўжо не існаваў).

Але ніякага эфэкту адстаўка ня мела. Акрамя рутынных выпускаў справаздачы з сэсіі па тэлебачаньні і радыё, толькі тыднёвік «Літаратура і мастацтва» пра яе паведаміў, а «Чырвоная зьмена» дала стэнаграму майго выступу. Ва ўсякім разе, больш ніякай рэакцыі ў друку я ня бачыў.

Ніхто з маіх добрых знаёмых і сяброў, ніхто з тых асобаў, якія былі для мяне маральнымі аўтарытэтамі — не ухваліў гэты мой крок. Васіль Уладзімеравіч Быкаў часам прыязна рэагаваў на нейкія мае, як ён лічыў, удалыя выступы ці публікацыі ў друку, Рыгор Іванавіч Барадулін звычайна экспрэсіўна, часта з салёным словам, падтрымліваў у нейкіх маіх дзеяньнях. Гэтым разам — нічога. Што праўда, і не крытыкавалі.

Пра гэтую адстаўку ўжо праз пару дзён забыліся, яе ніколі ня ўзгадвалі нават тыя публіцысты, якія тады і пазьней даказвалі, што пасьля забароны рэфэрэндуму дэпутаты апазыцыі мусілі скласьці мандаты і сысьці зь Вярхоўнага Савету.

І вось у адсутнасьці колькі-небудзь прыкметнай рэакцыі на маю адстаўку і была яе карысьць, бо гэта (хай і ў значна меншым маштабе) паказала, чым магла б скончыцца адмова дэпутатаў Апазыцыі БНФ ад мандатаў: нічым, акрамя імклівага зьнікненьня палітычнага ўплыву.

На маё месца ў камісіі хутка быў абраны дэпутат-прадстаўнік намэнклятуры. Той хай сабе і зусім невялікі ўплыў на кіраўнікоў СМІ, які яна мела, Апазыцыя БНФ страціла.

У выпадку сыходу нарадафронтаўцаў зь Вярхоўнага Савету хіба што толькі размовы пра

гэты крок былі б даўжэйшыя. Але мы імгненна страцілі б практычна ўсё, што з такой цяжкасьцю набылі: і магчымасьці парлямэнцкай дзейнасьці, і магчымасьці сустрэчаў з людзьмі, і доступ да сродкаў масавай інфармацыі. Зрэшты, пра ўсё гэта ўжо казалася.

«Вы зрабілі тое, што мусілі зрабіць, д'Артаньян, але, быць можа, вы зрабілі памылку», – сказаў Атос галоўнаму герою «Трох мушкецёраў», калі той адмовіўся ад прапановы ўступіць у гвардыю кардынала.

Увогуле, гэта вельмі няпросты выбар для палітыка — ісьці ва ўладу, якая па сваёй сутнасьці супярэчыць тваім ідэйным перакананьням, і скарыстаць, можа быць, і мізэрныя магчымасьці для прасоўваньня сваіх ідэалаў — альбо не ісьці і застацца «чыстым». У 1992-м я двойчы рабіў гэты выбар: адмовіўшыся ад пасады дырэктара «Белінфарму» і сышоўшы ў адстаўку з пасады сакратара парлямэнцкай камісіі.

Ці зрабіў бы я такі выбар сёньня? Для палітыка важна захаваць сваё рэнамэ чыстым ад супрацоўніцтва з сумнеўнай уладай. Але часам варта ахвяраваць іміджам у інтарэсах справы. Тым больш у тым выпадку, калі гаворка ідзе пра парлямэнт — выбарны орган, дзе чым болей у палітычнай арганізацыі пазыцый, тым лепей. Таму лічу, што адмова ад кіраўніцтва БЕЛТА была збольшага слушнай, а вось адстаўка з пасады сакратара парлямэнцкай камісіі — хутчэй, памылковай.

Але ўсё гэта я ўсьвядоміў пазьней. У наступныя гады, нягледзячы ў тым ліку і на тое, што матэрыяльнае становішча сям'і істотна пагоршылася, я не шкадаваў пра сваё рашэньне.

І калі сёньня бачу, што той мой крок меў пэўныя палітычныя заганы, дык суцяшаюся тым, што тады, у 1992-ім, я зрабіў яго паводле ўласнага сумленьня. Жонка мае рацыю — інакш зрабіць я ня мог.

Што ж, прыемна хоць бы ў гэтым быць падобным да галоўнага героя любімай кнігі дзяцінства.

**2 сьнежня.** У Вялікабрытаніі адасланае першае ў сьвеце sms-паведамленьне.

**5 сьнежня.** Памёр Генэральны пракурор Беларусі Мікалай Ігнатовіч.

**9 сьнежня.** Учыненыя акты вандалізму ў Курапатах.

**11 сьнежня.** ТБМ імя Скарыны прыняло зварот супраць спробаў парлямэнцкай большасьці замацаваць у Канстытуцыі за расейскай мовай статус дзяржаўнай, называючы гэта крокам да скасаваньня дзяржаўнай незалежнасьці.

**11 сьнежня.** У Доме літаратара адбылася прэзэнтацыя Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту.

**15 сьнежня.** На закрытым пасяджэньні Вярхоўны Савет разгледзеў вайсковую дактрыну Беларусі.

**19 сьнежня.** У Доме літаратара прайшоў Першы сход беларусаў блізкага замежжа.

**20 сьнежня.** У памяшканьні школы № 73 адбыліся першыя заняткі ва ўкраінскай нядзельнай школцы.

**21 сьнежня.** Вячаслаў Кебіч у Міры сустрэўся з прадстаўнікамі творчых саюзаў.

**30 сьнежня.** Усталяваныя дыпляматычныя адносіны зь Літвой.

**Канец сьнежня** — афіцэры, якія служаць у падпарадкаваным Міністэрству абароны войску, прыведзеныя да прысягі.

## ЧАС ЗЬМЯНІЎСЯ

У сьнежні мы былі вымушаныя працягваць працу ў Вярхоўным Савеце, тым больш што парлямэнт нарэшце прыступіў да абмеркаваньня вайсковых пытаньняў.

Але гэта быў і час асэнсаваньня — што ж прычынілася да таго, што рэфэрэндум не адбыўся.

Ініцыятыўная група спрацавала і ў арганізацыйным, і ў прававым сэнсе бездакорна, дэпутаты Апазыцыі БНФ прыклалі ўсе намаганьні — і на сустрэчах з грамадзянамі, і ў прэсе, і ў Авальнай залі — каб рэфэрэндум адбыўся. Ясна, што ня толькі даклад Булахава.

Фатальнай для лёсу рэфэрэндуму, на маю думку, была пазыцыя старшыні Вярхоўнага Савету, які, па-першае, мог уласным рашэньнем ініцыяваць рэфэрэндум, па-другое, пасьля збору патрэбнай колькасьці подпісаў мог (і мусіў) не спыняць сэсію, якая павінна была б ужо ў траўні прызначыць рэфэрэндум, па-трэцяе, не цягнуць з прызначэньнем сэсіі да кастрычніка. Ня кажучы ўжо пра тое, што ўсе дзесяць месяцаў 1992-га Станіслаў Шушкевіч актыўна выступаў супраць ідэі рэфэрэндуму і датэрміновых выбараў.

Ці маглі мы прагназаваць такія паводзіны Шушкевіча? У нас не было ілюзіяў наконт ягоных паводзінаў (хапала досьведу красавіцкіх страйкаў 1991-га, дзе ён стаў на бок камуністычнай намэнклятуры), але тое, што ён будзе ігнараваць меркаваньне як мінімум 350 тысяч грамадзян — прызнаюся, гэтага спрагназаваць мы не маглі.

Памыліліся.

У мэмуарах Шушкевіча «Маё жыцьцё, крах і ўваскрошаньне СССР» пра гісторыю з рэфэрэндумам — ні слова

Ёсьць і яшчэ адна прычына, зусім ня другасная — актыўнасьць грамадзтва ў канцы 1992-га была значна меншай, чым у пачатку году.

«Грамадзтва на тым этапе разьвіцьця пасьля савецкага экспэрымэнту яшчэ ня ў стане было шырока выступаць супраць беззаконьня ў падтрымку рэфэрэндуму у адкрытым дзеяньні. Лягчэй было проста паставіць подпіс «за», але не змагацца, не рызыкаваць нічым», — лічыць Зянон Пазьняк.

Магчыма, калі б на плошчы перад Домам ураду было ня некалькі тысяч чалавек, а хаця б 30–50 тысяч — рашэньне Вярхоўнага Савету было б іншым.

У значнай ступені адказнасьць за тое, што адбылося, ляжыць і на грамадзтве, якое ў крытычныя часы ўсё ж павінна выяўляць палітычную актыўнасьць. Гэтая актыўнасьць была намі правільна ацэненая ў канцы 1991-га — пачатку 1992-га, калі яна была высокая. Але Шушкевіч зацягнуў з прызначэньнем сэсіі, а праз дзесяць

месяцаў людзі былі стомленыя эканамічнымі цяжкасьцямі, клопатам аб выжываньні, і мы ўжо папросту не маглі сабраць на плошчы тую колькасьць, якую зьбіралі год перад тым.

Як прыгадвае Зянон Пазьняк, «адзінай нашай зброяй стала вуліца. На гэта разьлічвалі. Вуліца нас і падвяла. Час зьмяніўся. Пасьля ўпадку камунізму людзі супакоіліся, вырашылі, што справа ўжо зробленая. Актыўнасьць пратэстаў зьменшылася. Адчуваліся стомленасьць і заспакоенасьць, бо фармальна зьнік з далягляду вораг нумар адзін — КПСС (хаця ўлада засталася ў камуністаў). Ня стала вострага адчуваньня небясьпекі. 29 кастрычніка, калі разглядалася пытаньне пра рэфэрэндум, у сіверны марозны дзень на плошчу да Вярхоўнага Савету прыйшло пры ўсіх нашых стараньнях ня больш за пяць тысячаў людзей. Тое самае адбылося і пасьля 29 кастрычніка. Грамадзкага пратэстнага энтузіязму, які быў у 1990-91, ужо не існавала. Паўтаруся, шмат людзей не разумелі, што камуністычны Вярхоўны Савет не зьмяніўся. Ну, як жа так — там жа Пазьняк, Шушкевіч, БНФ. Кругом была дэмакратычная фразэалёгія, віселі бел-чырвона-белыя сьцягі. Якія пратэсты? Усё ж добра. Намэнклятура скарыстала грамадзкую ілюзію для мімікрыі і ашуканства людзей» (архіў аўтара).

У той сытуацыі нам, дэпутатам Апазыцыі БНФ, заставалася адно — працягваючы парлямэнцкую барацьбу, больш актыўна ісьці ў народ. «Мы пачалі езьдзіць па Беларусі, спатыкацца з тысячамі людзей, тлумачыць ім становішча ў

палітыцы, распаўсюджваць ідэі і каштоўнасьці Незалежнасьці, волі і дэмакратыі. Дэпутацкія мандаты нам вельмі ў гэтым дапамаглі», — прыгадвае Зянон Пазьняк.

…У апошнія дні 1992-га афіцэры ў вайсковых частках нарэшце былі прыведзеныя да прысягі на вернасьць Беларусі.

Ды толькі спакайней ад гэтага не зрабілася.

«Трэба арыентавацца ў эканамічным жыцьці на Расею, таму што нам выгодна супрацоўнічаць з Расеяй», — заявіў Станіслаў Шушкевіч на прэсавай канфэрэнцыі 29 сьнежня.

У наступным, 1993 годзе сэсія Вярхоўнага Савету пачнецца са словаў сьпікера пра праект Канстытуцыі (ужо з прэзыдэнцтвам) і абмеркаваньня «цеснага саюзу з Расеяй».

# Паказьнік асобаў

**А**

Абламейка Сяргей *11*
Абрамава Вольга *190-196*
Абрамовіч Аляксандар *144*, *155*, *159*, *182*, *183*, *293*, *300*, *303*, *307-311*, *337*, *338*
Агінскі Міхал Клеафас *279*
Аксаміт Мікалай *235*, *343*
Аляміеў Віктар *185*, *343*
Алексій патрыярх *122*
Аліеў Гейдар *282*, *283*, *284*
Амбарцумаў Яўген *121*
Анісенка Тацяна *308*
Антончык Сяргей *161*, *185*, *331*, *343*
Анцулевіч Уладзімер *29*, *90*, *95*, *96*, *108*, *110*, *111*, *141*, *142*, *219*, *220*, *292*
Арлоў Уладзімер *11*, *134*, *231*, *233*, *250*, *341*
Арсеньнева Натальля *227*, *231*
Асіпенка Вячаслаў *168*
Асташынскі Валянцін *48*
Астраўцоў Сяргей *84*
Астроскі Канстанцін *276*

**Б**

Бабачонак Станіслаў *185*, *343*
Багданкевіч Станіслаў *62*, *103*
Багдановіч Максім *227*
Балвановіч Леанід *277*
Банкевіч Генадзь *278*
Бань Уладзімер *162*, *180*, *182*
Барадач Уладзімер *277*
Барадулін Рыгор *250*, *341*, *353*
Баршчэўскі Лявон *30*, *126*, *185*, *193*, *235*, *264*, *278*, *307*, *312-314*, *339*, *343*
Батура Барыс *333*
Бачароў Яўген *121*, *335*
Белакоз Алесь *247*
Беленькі Юрась *161*, *145*, *152*, *185*, *193*, *343*
Бірукоў Мікалай *277*
Бобыр Аляксандар *277*

Брэжнеў Леанід *53*, *106*
Булахаў Дзьмітры *62*, *222*, *225*, *292-299*, *304*, *306*, *308*, *310*, *311*, *323*, *324*, *327*, *335*, *337*, *358*
Бураўкін Генадзь *247*, *251*
Бутэвіч Анатоль *118*, *249*, *250*, *256*, *257*, *265*, *267-269*, *273*
Бушлякоў Юрась *232*
Быкаў Васіль *22*, *23*, *24*, *25*, *50*, *96*, *138*, *203*, *232*, *233*, *250*, *272*, *273*, *277*, *278*, *341*, *353*
Бэрыя Лаўрэнці *108*
Бяляцкі Алесь *161*

**В**

Вайтовіч Яўген *249*, *250*
Варанец Міхаіл *277*
Васілевіч Міхаіл *338*
Вашчанка Галіна *161*, *288*, *348*
Вераб'ёў Васіль *259*
Вольскі Артур *277*, *278*
Вяргей Валянціна *341*
Вярцінскі Анатоль *256*
Вячорка Вінцук *48*, *233*

**Г**

Габрусеў Сяргей *15*
Гайдар Ягор *17*, *26*, *147*, *151*
Гайдукевіч Сяргей *243*, *287*
Галаўня маёр *44*, *45*, *46*
Галубовіч Вольга *277*, *278*
Ганчар Віктар *62*, *72*, *169*, *170*, *173*, *177*, *179*, *182*, *183*, *225*, *265*, *334*
Ганчароў Андрэй *222*, *223*
Ганчарык Уладзімер *121*, *188*
Гарбачоў Міхаіл *13*, *15*, *16*, *18*
Гарбачоў Руслан *277*
Гаркун Уладзімер *133*
Гарэцкі Радзім *341*
Гаўрылюк Васіль *146*
Геніюш Ларыса *231*
Геншэр Ганс-Дытрых *103*
Герасюк Іван *307*
Гермянчук Ігар *185*, *212*, *214-217*, *221*, *222*, *224*, *256*, *266*, *278*, *332*, *343*
Гец Барыс *309*
Гілевіч Ніл *233*, *234*, *235*, *236*
Гітлер Адольф *53*

Глушкевіч Яўген *185*, *343*
Голубеў Валянцін *48*, *134*, *157*, *160*, *166*, *177*, *185*, *193*, *343*
Грахоўскі Сяргей *341*
Грушавы Генадзь *185*, *343*
Грушэўскі Міхайла *250*
Грыб Мечыслаў *21*, *121*
Грыбанаў Уладзімер *185-187*, *334*
Грынёў Мікалай *164*, *165*, *169*, *183*
Грыцкевіч Анатоль *277*, *278*
Грыцук Іван *263*
Гурневіч Юлія *74*
Гурыновіч Анатоль *29*
Гурыновіч афіцэр *281*
Гус Ян *170*
Гюнтэр Барыс *175*

**Д**

Дабравольскі Аляксандар *15*, *93*
Данілаў Генадзь *259*
Даўгалёў Васіль *185*
Джалілаў Афіядзін *282*
Дзейка Лявон *126*, *185*, *235*, *278*, *343*
Дзюма Ралян *27*
Дзямчук Міхаіл *113*, *118*, *249*, *250*, *256*
Драбышэўская Інэса *158*, *175*, *176*
Драгавец Валеры *259*
Дубейка Васіль *248*
Дучыц Людміла *341*

**Е**

Ельцын Барыс *13*, *17*, *18*, *27*, *41*, *42*, *44*, *46*, *65*, *112*, *204*, *223*, *264*, *345*

**Ж**

Жданко Валянцін *124*, *127*, *238*, *239*

**З**

Заблоцкі Ўладзімер *96*, *124*, *145*, *152*, *170*, *181*, *182*, *185*, *288*, *295*, *297*, *343*
Законьнікаў Сяргей *233*, *247*
Зданевіч Лявонцій *152*, *176*, *185*, *235*, *296*, *332*, *333*, *343*
Зьвераў Леанід *185*

### І

Івашкевіч Віктар *222*, *233*, *234*
Ігнатовіч Мікалай *357*
Іпатава Вольга *341*

### К

Кавалёнак Уладзімер *88*, *175*
Кавалёў Альберт *186*
Казлоўскі Павел *139*, *185*, *279*
Какоўка Віктар *185*, *278*, *309*, *343*
Калінкіна Сьвятлана *58*
Каліноўскі Кастусь *228*
Караткевіч Уладзімер *228*
Каратчэня Іван *222*, *323*
Кармілкін Уладзімер *278*
Карпенка Генадзь *64*, *72*, *93*
Карпюк Аляксей *227*
Карэнда Іван *266*
Кастусёў Рыгор *57*, *58*
Кастэнка Анатоль *13*, *43*
Касьцень Алесь *248*
Касьцюшка Яўген *245*, *246*
Каханоўскі Генадзь *341*
Качан Міхаіл *308*
Кебіч Вячаслаў *18*, *20*, *57*, *61-64*, *69*, *72*, *73*, *112*, *113*, *116-122*, *125*, *131*, *145*, *156-158*, *205*, *206*, *223*, *240*, *248*, *250*, *256*, *258-260*, *263*, *282*, *342*, *357*
Класкоўскі Аляксандар *206-208*
Клімуць Яраслаў *249*
Клінтан Біл *106*
Кляшторная Мая *193*
Койвіста Маўна *189*
Костка Валер *277*
Краўцоў Макар *227*
Краўчанка Пятро *118*, *250*, *281*
Краўчук Леанід *26*, *44*, *47*, *65*, *204*, *253*, *282*
Крыжаноўскі Мікалай *48*, *178*, *185*, *343*
Кудравец Віктар *322*
Кузьняцоў Вячаслаў *157*, *158*, *169*, *176*, *179-183*, *208*
Кукабака Міхась *234*
Кулеш Аляксандар *277*
Кулік Яўген *48*
Кучынскі Віктар *281*, *282*

**Л**


Лагір Міхаіл *155*, *159*
Ландсбергіс Вітаўтас *264*
Ластоўскі Вацлаў *232*
Ленін Уладзімір *262*
Лепяшчынская *200*
Леўчык Уладзімер *158-162*, *166*, *167*, *169*, *170*, *174*, *182*, *295*, *308*, *311*, *312*, *337*, *338*
Ліхач Іван *168*
Лукашук Аляксандар *11*, *233*
Лукашук Марыя *341*, *342*
Лукашэнка Аляксандар *8*, *9*, *31*, *52-75*, *84*, *85*, *88*, *90*, *117*, *122*, *165*, *173*, *176-178*, *192*, *193*, *195*, *225*, *229*, *240*, *284*, *290*, *298*, *315-319*, *330*, *331*, *333*, *335*, *348*
Лыч Ленанід *341*
Лявонаў Васіль *329-331*


**М**


Малафееў Анатоль *53*
Малашка Віталь *174*, *175*, *185*, *343*
Мальдзіс Адам *239*, *242*
Марачкін Аляксей *341*
Маркевіч Мікола *185*, *342*, *343*
Маркс Карл *262*
Махавікоў Сямён *168*
Мацур Генадзь *11*
Мацюшонак Міхаіл *343*
Мачуленка Міхаіл *163*, *336*
Машэраў Пятро *53*, *283*
Мікалай мітрапаліт *231*
Мінін Віктар *162*, *180*
Міткавец Алесь *248*
Міхасевіч Генадзь *143*
Мясьніковіч Міхаіл *84*


**Н**


Навумчык Галіна *349*
Назарбаеў Нурсултан *41*, *42*
Новік Уладзімер *156*, *157*, *179*, *180*, *185*
Новікаў Яўген *126, 343*

## П

Паваляеў Сяргей *259*
Пазьняк Зянон *9*, *13*, *17*, *21*, *24*, *28*, *29*, *49*, *59*, *64*, *72*, *82*, *108*, *110-117*, *120*, *122*, *134*, *140-142*, *149-151*, *165*, *177*, *185*, *187*, *193*, *205*, *206*, *219*, *223*, *228*, *234*, *254*, *257*, *265-268*, *277*, *278*, *299*, *324*, *325*, *335*, *337*, *339*, *340*, *343*, *349*, *359-361*
Панада Ўладзімер *95*
Папковіч В. *198*
Папкоў Сяргей *152*, *185*, *278*, *336*, *343*
Паруль Аляксандар *185*, *343*
Патупа Аляксандар *239*
Паўлоўскі Ігар *41*
Паўсьцюк Валер *240*
Петракоў Мікалай *191*
Плаўюк Мікола *253*
Пракаповіч Пётра *334*, *335*
Пушкін Алесь *134*
Пырх Ігар *278*, *323*, *343*
Пятровіч Барыс *10*

## Р

Радзько Б. *198*
Раманчанка Канстанцін *168*
Роднікаў Анатоль *168*
Рылькоў Аляксандар *22*

## С

Савянок Уладзімер *277*
Садоўскі Пятро *174*
Сарокін Валянцін *321*, *322*
Сасноўскі Міхаіл *335*
Сатоліна Марына *82*, *84*, *85*, *88*, *94*
Сівіцкі Герард *309*, *335*
Сідарэвіч Анатоль *15*, *18*, *234*
Сініцын Леанід *316*
Скарына Францішак *137*, *262*, *287*
Слабашэвіч Расьціслаў *282*, *284*
Слабчанка Сяргей *343*
Сталін Іосіф *53*, *108*
Сталяроў Аляксандар *263*, *267*, *268*
Станкевіч Алесь *277*
Станкевіч Уладзімер *127*, *128*, *185*

Старыкевіч Аляксандар *10*
Статкевіч Мікола *49*, *113*, *114*, *278*
Сукала Валянцін *162*, *180*
Сурвіла Івонка *232*
Сухнат Людміла *249*
Сухоцкая Ганна *345*
Сушкевіч Баляслаў *266*
Сўорц Дэйвід *106*, *275*
Сьмірноў Юры *199*
Сьпіглазаў Аляксандар *93*
Сьцепаненка Паліна *11*
Сяднёў Масей *231*
Сямдзянава Галіна *82*, *160*, *168*, *171*, *180*, *185*, *277*, *279*, *286*, *328*, *343*
Сяргееў Сяргей *11*
Сярэдзіч Іосіф *324*

**Т**

Тарасенка Леанід *334*, *343*
Ткачоў Міхась *93*, *234*, *277*, *345*
Трафіменка Васіль *322*
Трусаў Алег *95*, *134*, *185*, *234-236*, *295*, *308*, *323*

**У**

Уліцёнак Уладзімер *233*
Урбан Паўло *11*

**Ф**

Фарфель Міхаіл *175*
Філарэт мітрапаліт *79*, *88*, *121*, *122*, *231*

**Х**

Хадыка Юры *28*, *49*, *90*, *234*
Харахноў Жорж *277*
Харэўскі Сяргей *39*
Холад Павал *343*

**Ц**

Цімафеевіч Канстанцін *162*, *181*, *182*
Ціхіня Валер *8*, *55*, *56*
Цумараў Яўген *182*, *185*,*2 35*
Цыганкоў Віталь *149*, *224*, *331*

**Ч**

Чавус Пётра *26*, *43*, *138*
Чайка Ніна *272*
Чарняк *198*
Чарняўскі Міхась *341*
Чуйко Вера *49*, *141*
Чыж Тамара *199*
Чэрчыль Ўінстан *53*

**Ш**

Шаладонаў Васіль *21*, *186*, *187*, *282*
Шапашнікаў Яўген *26*, *40*, *46*
Шарамет Павел *58*
Шарэцкі Сямён *8*
Шаталін Станіслаў *191*
Шаўчук Павел *267*, *268*
Шупа Сяргей *11*
Шут Аляксандар *185*, *343*
Шушкевіч Станіслаў *9*, *15*, *16*, *18*, *21*, *26*, *44*, *45*, *47*, *48*, *51*, *56*, *57*, *64*, *65*, *72*, *77*, *100*, *114-120*, *126*, *127*, *129*, *130*, *135*, *138*, *149*, *155*, *203-225*, *227*, *230*, *237*, *240*, *248*, *259-265*, *275*, *276*, *281*, *282*, *290*, *311*, *312*, *314*, *321*, *322*, *332*, *333*, *334*, *338*, *347*, *350-352*, *358-361*
Шчарбак Аляксандар *57*, *58*, *68*
Шыманец Кастусь *277*
Шыркоўскі Эдуард *13*, *113*, *116*, *118*, *120*, *122*, *259*

**Э**

Эльчыбэй Абульфаз *203*, *283*

**Ю**

Юхнавец Янка *231*
Юхо Язэп *341*

**Я**

Ягораў Уладзімер *13*, *140*, *259*
Ягораў *200*
Якабсон Аляксандар *298*, *299*
Янчэўскі Ўсевалад *244*, *246*
Ярмошына Лідзія *155*, *156*, *158*, *162*, *163*, *181*, *182*
Яўлінскі Грыгоры *191*

# Пра аўтара



Сяргей Навумчык нарадзіўся ў 1961 годзе ў Паставах. У 1964 годзе з бацькамі пераехаў у Віцебск. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ, служыў у войску, працаваў у віцебскай абласной газэце. Публікаваў артыкулы ў абарону архітэктурнай спадчыны Віцебску. У 1988 годзе быў ініцыятарам грамадзкай кампаніі супраць будаўніцтва Віцебскай АЭС, удзельнічаў ва ўстаноўчым сходзе таварыства «Мартыралёг» і Беларускага Народнага Фронту 19 кастрычніка 1988 г.

З сакавіка 1990 па студзень 1996 — дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі 12-га скліканьня, быў каардынатарам парлямэнцкай апазыцыі БНФ. Удзельнічаў у распрацоўцы і прыняцьці Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі, падрыхтоўцы законапраектаў да нечарговай сэсіі ВС 24–25 жніўня 1991 г., на якой была адноўленая Незалежнасьці Беларусі. Аўтар шэрагу законапраектаў. Удзельнічаў у галадоўцы дэпутатаў Апазыцыі БНФ 11—12 красавіка 1995 г. супраць ініцыяванага Лукашэнкам так званага рэфэрэндуму аб ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, ліквідацыі статусу дзяржаўных сымбаляў гэрба «Пагоня» і бел-чырвона-белага сьцяга, эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і праве прэзыдэнта распускаць парлямэнт.

У жніўні 1996 г. атрымаў палітычны прытулак у ЗША. З 1999 — супрацоўнік Радыё Свабода. Сябра Беларускага ПЭН-цэнтру, ляўрэат літаратурнай прэміі імя Алеся Адамовіча.

# Summary

In 1992, the newly sovereign country of Belarus stood before a pivotal choice regarding its future: to take the path of democracy of retain the stability that was its legacy as a former Soviet state. The choice was one for the country's people and parliament to make.

This is a chronicle of the dramatic struggle for a referendum on a new election. Half a million citizens — far more than the law required — signed a petition in support of dramatic change for the nation. The sitting parliament, elected while the country was still a Soviet republic, was resistant. Its communist majority not only ignored the will of the people but, in so doing, also violated the country's constitution.

Author Siarhiej Navumchyk, then a parliamentary deputy, provides a first-hand account of how his cohorts in the minority opposition fought for the democratic alternative. He also recalls the role the country's current authoritarian ruler Alexander Lukashenka played in this struggle. Navumchyk concludes that the foundation for Belarus's dictatorial future was laid in those tumultuous days and months over two decades ago.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.* **Імёны Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.* **Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.* **Мой шыбалет.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.** Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.*
**Птушкі пералётныя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.**
Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Сто адрасоў Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.**
Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка.**
**Сто песень.**
**2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.










*Сяргей Абламейка.*
**Мой Картаген.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 316 с.: іл.

*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста пяты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 324 с.: іл.

**Сьвятлана Алексіевіч на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 722 с.: іл.










*Вінцук Вячорка.*
**Па-беларуску зь Вінцуком Вячоркам.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 364 с.: іл.

*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
2-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 544 с.: іл.

**Светлана Алексиевич на Свабодзе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 744 с.: іл.




*Зьміцер Бартосік.*
**Быў у пана верабейка гаварушчы...**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2016. — 326 с.: іл.




**100 словаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 346 с.: іл.




*Вінцук Вячорка.*
**Не сьмяшыце мае прыназоўнікі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2017. — 316 с.: іл.